Той, што ў радасную і горкую хвіліну заўсёды побач. Зінаідзе.

*Аўтар*

# I

Над начной вёскай грымела навальніца. Моцны ўсходні вецер гнаў чорна-сінія хмары на Чмялі. Вось на паўнеба жыхнула маланка. Нібы нехта шырока ўзмахнуў цяжкой чырвонай сякерай. Галіністае вогненнае дрэва з грукатам і бляскам упала на зямлю, на хаты, на мокрыя саламяныя стрэхі. Зялёнае святло на колькі імгненняў затапіла вузкую, брудную чмялёўскую вуліцу, ярка ўспыхнула ў вялікіх і маленькіх лужынах, у шыбах сонных хат. Асвяцілася, дасюль непрыкметная, кожная саломінка на стрэхах хат і хлявоў. І зноў усё праглынула глыбокая магільная цемра, што была запоўнена дзікім свістам ветру, усхліпваннем і прыцмокваннем дажджу. Халодны вецер, як раз'юшаны ганчак, панёсся па вясковай вуліцы, грукнуў незачыненымі весніцамі, парожнім вядром у калодзежы, шкуматнуў за зялёныя мокрыя чупрыны кляны і ліпы, галасна заенчыў, напароўшыся на вострыя сасновыя штыкеціны, якімі Прахор Радзімовіч на пачатку вясны абгарадзіў свой двор.

У хаце Радзімовічаў спалі. Прахор цяжка варочаўся на чарэні. Аўдоля з Дзінай ляжалі на ложку, накрыўшыся старымі світкамі. Зноў у акно глянула маланка, быццам нехта, залатавокі і грозны, пацікавіўся: а ці спяць тут? Сцяна насупраць акна запалымнела, зажаўцелася. Вянок сухой цыбулі, што з мінулай восені вісеў на сцяне, успыхнуў чырвоным агнём.

Ціхенька, каб не разбудзіць маці з бацькам, Дзіна ўзнялася з ложка, навобмацак абулася, накінула на плечы світку. Некалькі хвілін, не дыхаючы, пастаяла каля дзвярэй. Здавалася, зараз маці прачнецца, закашляецца, спытаецца: «Куды ты, Дзінка?» Але толькі глухі шум дажджу парушаў цішыню. І яна выйшла з хаты.

Вецер ускудлаціў ёй валасы, ліпучым холадам пацёк па каленях. Яна шчыльней абцягнула на ногі спадніцу, прысланіўшыся спіной да мокрай сцяны, стала пад страхою. Няўтульна і страшна было наўкола. Неба, цяжкое, хмарнае, грымлівае, нізка-нізка віхурылася над зямлёй. Здавалася, яно, пагойдваючыся, ляжыць на верхавінах ліп і кляноў. Пад страхой было зацішна, але дажджавыя кроплі заляталі і сюды, і твар у Дзіны быў мокры.

Побач, у халоднай цемры, трывожна гуў клён. Калі ўспыхвала маланка, ягонае лісце свяцілася над зямлёй, як дрыготкія растапыраныя дзіцячыя далонькі. Клён нада-

ваў Дзіне смеласці, здаваўся ёй жывой істотай, сябрам. Ды і не магло быць іначай. Яна, як помніць сябе, заўсёды бачыла яго каля хаты, заўсёды чула ягоны шум, то вясёлы, то маркотны. Вясной ён паіў яе кляновікам, увосень сваімі прыгожымі залатымі лістамі высцілаў увесь двор. Аж вачам было балюча. А хіба забудзеш, як разам з Кузьмой і Антонам сінімі вясновымі надвячоркамі лавіла яна на клёне майскіх жукоў-хрушчоў?

Дзіна ўздыхнула, глыбей схавала рукі ў рукавы світкі. Клён ёсць, шуміць побач, а братоў няма. Дзе цяпер Кузьма? Дзе Антон? Можа ўжо даўно мёртвыя. А можа жывыя. Глядзяць зараз недзе на навальнічнае неба, на маланкі і ўспамінаюць родную хату, бацькоў, яе. Як хацелася ёй, каб яны былі жывыя — параненыя, хворыя, у палоне, пад дажджом і громам у чыстым полі, але толькі жывыя.

Ёй не хапала братоў. Асабліва востра яна адчувала гэта сёння, зараз, бо ведала — мінецца ноч, а раніцою прыйдуць сваты ад Васіля Гаранка. Васіль учора сам сказаў ёй пра гэта. Перапыніў каля калодзежа і сказаў.

Не хочацца Дзіне ісці замуж за нялюбага. Лепей на ўсё жыццё застацца векавухай, лепей разам са старцамі прасіць акраец хлеба пад вясковымі вокнамі. Былі б Кузьма з Антонам... Усё зразумелі б, і не плакала б яна сёння. А то бацька глянуў спадылба, апёк гнеўным вокам, сказаў:

— Пойдзеш! Як міленькая пойдзеш. А не — дык на лейцах завяду да Гаранкоў. Як цялушку на базар. Чым дрэнны хлопец? Не кульгавы, не гарбаты, на грошах спіць. І бацька ў начальніках ходзіць. Не тое, што твае дурнібраты — прусакоў у кішэнях гадуюць, калі ўжо не затоўк хто дзе-небудзь.

Злы стаў бацька. Як прыйшлі ў павет кайзераўскія салдаты, вадзілі яго ў маёнтак, білі дубцамі, усё дапытваліся — дзе сыны хаваюцца. Сіняя спіна была ў бацькі. Тры дні ляжаў на печы, стагнаў:

— Дзе сыны? А скулле іх ведае... Адзін чырвоны, а другі на з'ездзе ў Мінску праўду шукае. Цьфу на вашу праўду! У бацькі спіна смыліць, а не ў вас...

Глуха шумела ноч. Маланкі скрыжоўваліся ў небе, асвятлялі наваколле. Холадна было зямлі і сэрцу ад гэтага святла. Дзіна шчыльней прыціскалася да сцяны. «Што ж рабіць? — думала яна.— Бацька як звер зрабіўся. Усё аддасць, каб парадніцца з Гаранкамі. А маці маўчыць. Паўздыхае, паплача, а маўчыць. Ды і маці, відаць, рада займець багатых сваякоў. Сказала ж учора: «Эх, дачушка, Любі тое, што блізка, усё роўна клопат будзе адзін — печ ды калыска...»

Не, не так гэта. Ведае Дзіна: не ў печы і не ў калысцы шчасце бабскае. Спрадвеку так было, але цяпер, казаў Бацюта, не будзе так. Бальшавікі не дадуць бабу ў крыўду. Ды толькі адагнаў германец бальшавікоў некуды аж пад Дняпро, і невядома, калі яны вернуцца. Што ж рабіць?

Дождж між тым аціхаў, слабеў. Кроплі, зрываючыся са страхі, звонка лупцавалі па чыгуне і па гладышах, якія маці вечарам забылася зняць з плота. Двор густа зацягнулі лужыны. Холадна і трывожна ззялі яны ў змроку. Старая вішня, што расла каля варот, аж нахілілася, бо кожны лісцік, кожная галінка набрыняла вадою.

Дзіна ўжо збіралася ісці ў хату, як раптам нязвыклае відовішча прымусіла яе знерухомець, затаіць дыханне. Проста над чмялёўскай вуліцай, над зямлёй, павольна плыў у світальным мораку нейкі сляпучы жоўта-белы клубок. Быў ён велічынёй з кулак дарослага мужчыны, плыў над вуліцай, злёгку пагойдваючыся, як бы ныраючы, ціхенька і пагрозліва шыпеў, трашчаў. Так сквірчыць на гарачай патэльні свежае сала.

Дзіна як прыліпла да сцяны, не ведаючы, што і падумаць. Ніколі яна не бачыла такога і не чула. А жоўта-белы клубок праплыў непадалёку ад іхняй хаты, каля старой вішні. Мокрае вецце раптам нібы спалохалася — затрымцела, закалацілася. Нейкая невядомая сіла штурхнула клубок убок. Ён на імгненне спыніўся, заскакаў на адным месцы. Дзіна, схаваўшыся пад страхою, бачыла, як рассыпае ён вакол сябе іскры. Вось супакоіўся і паплыў наўскасяк вуліцы, да хаты Кандрата Гаранка. Здавалася, ён быў відушчы і сам сабе выбіраў дарогу. Пры яго набліжэнні дрэвы пачыналі калаціцца, з іх аблятала срэбная дажджавая вада. А ён ужо не спыняўся. Між мокрых цёмных ліп нырнуў ён у Гаранкоў двор, рэзка ўзвіўся над страхою і з аглушальным трэскам стукнуўся, ляснуўся аб комін.

Дзіна заплюшчыла вочы, прысела ад нечаканасці. Калі ж ачомалася, убачыла — паверх страхі Гаранковай хаты завязваецца полымя. Пунсовыя струменьчыкі агню пабеглі ўніз па страсе. Агонь прагна еў мокрую злежаную салому. Спачатку ўсё гэта адбывалася ў мёртвай цішыні, але полымя з кожным імгненнем дужэла, набірала моцы, шырылася. І вось ужо тонкія струменьчыкі спляліся ў адно цэлае, вось хваля агню ўздыбілася на ўвесь рост, як чырвонае крыло, затрапятала над соннай хатай і раптам рухнула, затапіла ўсю страху. І адразу ж, курчачыся, затрашчала салома, агонь загуў, зароў, адчуўшы сваю сілу.

Дзіне сляпіла вочы. Яна, адступаючы спіной да дзвярэй сваёй хаты, неадрыўна глядзела туды, дзе над кіпеннем агню адзінока і бездапаможна хісталася на высокай тонкай жэрдцы шпакоўня. Жэрдка са шпакоўняй была прымацавана да вільчыка, і касмылі полымя пакуль што не даляталі да яе. Шпакі выпырхнулі са сваёй хаткі і каменем упалі ў агонь. І адразу ж пераламалася жэрдка. Шпакоўня, абвітая яркім полымем, скацілася са страхі, плёхнулася ў лужыну.

Гэта быццам разбудзіла Дзіну.

— Пажар! — немым голасам закрычала яна, кулакамі ўдарыла ў цяжкія дзверы сенцаў сваёй хаты, адчыніла іх.

Здавалася, полымя даганяе яе. Здавалася, яшчэ імгненне, і пякучыя іскры ўвап'юцца ў валасы.— Пажар! — ускочыла Дзіна ў хату і, знямоажаная, села на ўслон каля печы. Шыбы ў вокнах чырванелі, як налітыя крывёю.

Прахор, у адным споднім, шалеючы ад страху, ледзь не зваліўся з печы. З перапуду ён пацэліў не ў дзверы, а ў качарэжнік, спатыкнуўся там, і вілкі хвастанулі яго па спіне. Ён выбег на двор, засланіў ад гарачыні і чырвані твар рукамі. Трохі палягчэла на душы. Гарэў не ён. Пакуль што гарэў сусед. Прахор, як звер, кінуўся назад у хату, мацюкнуўшыся, крыкнуў на жонку:

— Чаго чакаеш? Жджэш, пакуль пяткі падсмажа? А ну барзджэй уставай!

Разам з Аўдоляй і Дзінай ён цягнуў на двор усё, што трапляла пад рукі: посцілкі, старыя світкі, дзяругі, трубкі палатна. Усё гэта ён кідаў у лужыну, змочваў у брудной цёплай вадзе і потым, задыхаючыся, адчуваючы, як горача спіне пад кашуляй, расцягваў на саламянай страсе сваёй хаты.

— Толькі б ветру бог не даў,— ліхаманкава шаптаў ён, прыціскаючы мокрае рыззё камянямі і цаглінамі да страхі.— Хутчэй шавяліцеся! Заб'ю! — крычаў ён на жонку і на дачку.— Пагарэльцамі хочаце здохнуць?

Рэзкі металічны звон паплыў над вёскай — у маёнтку Незабітоўскага ўдарылі ў рэйку. Народ збягаўся з усіх бакоў. Тым часам Гаранок з сынамі выламаў у вокнах рамы, выкідваў з хаты далей ад агню дабро. У гразь ляцелі падушкі, посуд, клункі з адзеннем. Васіль Гаранок з Цімохам Белазорам, абліваючыся гарачым потам, валаклі на вуліцу вялізны, абабіты меднымі палосамі куфар. Але куфар нечакана як бы заўпарціўся — ушчаміўся ў дзвярах, не праходзіў ні ўперад, ні назад. Тады Васіль схапіў сякеру, пачаў секчы вушак.

Мала хто дапамагаў Гаранку. Большасць стаялі зводдаль, жмурачыся ад гарачыні, глядзелі, як вогненны віхор робіць сваю страшную справу. Не любілі чмялёўцы Кандрата Гаранка. З прыходам немцаў ён адразу зрабіўся начальствам, стаў старастам, аддана служыў новым гаспадарам і пахваляўся: «Сам кайзер Вільгельм мяне ведае». Можна было не сумнявацца, што шмат хто з вяскоўцаў, гледзячы зараз на пажар, помсліва думаў: «Калі Вільгельм такі вялікі твой сябра, то хай і хату ён памагае табе тушыць». Гаранок усё гэта добра ведаў і таму, чорны ад сажы, потны, цягаў на вуліцу дабро і крычаў натоўпу:

— Падпалілі! Галавешку пад страху падсунулі! Сволачы! Пачакайце ж, падмёткі бальшавіцкія!

Тут раптам ён заўважыў свайго бацьку. Дзевяностагадовы Марка Гаранок, босы, у белых споднікак, накінуўшы на сухія плечы кажушок, ціхенька, як мыш, сядзеў на суседскай лавачцы, трымаючы ў руках адзінае, што вынес з хаты,— святыя абразы. Водбліскі полымя зырка трапяталі на пазалоце абразоў.

— Чаго рассеўся, стары пень?! — уз'юшыўся Кандрат.— Жэрці, як малады, умееш? А ну кідай свае цацкі, бяжы памагай!

Але стары нават не зварухнуўся. Слязлівымі вачамі глядзеў ён, як гарыць хата, і нешта сам сабе шаптаў, пэўна, малітву. І абразы ўздрыгвалі ў ягоных руках.

У гэты час натоўп расступіўся, разбегся ў бакі — на пажар прымчалася конная пажарная каманда з маёнтка. Сам граф Баляслаў Канстанцінавіч Незабітоўскі, жвавенькі, пульхненькі, з сівымі прыгожымі вусікамі, кіраваў пярэдняй фурманкай. Ён з'явіўся ў сваім маёнтку неўзабаве пасля прыходу немцаў, і чмялёўцы здзівіліся — такі быў ён памаладзелы, шчаслівы. Зараз ён, кінуўшы лейцы, лёгка скочыў з фурманкі, закрычаў:

— Дзе тут ёсць калодзеж?

З графам прыехала пяцёра нямецкіх салдат на чале з шуцманам Функам. Немцы хутка ўкінулі ў калодзеж рукаў ручной помпы, запрацавалі рычагамі. Незабітоўскі надзеў на галаву бліскучую пажарную каску, на рукі — тоўстыя брызентавыя рукаўкі і, нібы ўсё жыццё быў не графам, а пажарнікам, накіраваў струмень вады з брандспойта на страху Гаранковай хаты. Шыпуча заклубілася белая пара. Але гэта толькі раздражніла агонь. Ён шугануў яшчэ вышэй. Роем паляцелі іскры.

— Свінні! — тупаючы нагамі, закрычаў на чмялёўцаў шуцман Функ.— А ну марш дапамагаць чэснаму гаспадару! Марш!

Людзі, не вельмі спяшаючыся, пачалі браць з другой падводы вёдры, рыдлёўкі, бусакі. Усе ведалі, што агонь ужо нельга перамагчы. Функ раптам заўважыў Прахора Радзімовіча, які, лежачы на мокрым рыззі, раскінуўшы рукі, бараніў страху сваёй хаты ад іскраў. Ніжняя сківаца ў шуцмана нервова затрапятала. Ён выхапіў у салдата з рук вінтоўку, навёў яе на Прахора, крыкнуў:

— Злазь адтуль, ідыёт!

Прахор кулём скаціўся са страхі. Падцягваючы споднікі, ірвануўся да Гаранковай хаты. У руках нічога не было, і ён, доўга не раздумваючы, шкрабянуў па бруднай зямлі рукамі, прыгаршчы гразі шыбнуў у полымя. Аж пазногаць зламаў.

Падточаныя агнём, рухнулі кроквы. Пырснула ў бакі чырвонае вуголле. Страха, як вялізная вогненная шапка, цяжка спаўзла на зямлю. Сцены яшчэ стаялі, але ўжо гарэлі.

Незабітоўскі кінуў пад ногі брандспойт. Дастаў з нагруднай кішэні камізэлькі шаўковую снежна-белую насовачку, акуратна прамакнуў пот на скронях. Убачыўшы Кандрата Гаранка, пазваў яго да сябе рухам рукі. Гаранок падбег. Твар змучаны, злы, на бровах запёкся пот, рукі і шчокі запэцканы тлустай сажай. Незабітоўскі зняў з галавы каску, памахаў над спатнелымі валасамі насовачкай, сказаў:

— Ад мяне і ад графіні Леакадзіі Аўгустаўны прымі, Кандрат, спачуванне. Добра ведаем цябе. Ты селянін працавіты, сумленны. Бог і ўлады пра такіх не забываюць. Дам тваёй сям'і месца ў флігелі. Хоць сёння займай большую палову.

— У сваёй хаце і качарга — маці,— не надта ўзрадаваўшыся, сказаў Гаранок і зірнуў цераз плячо туды, дзе з трэскам і жаласным стогнам абваліліся сцены.

— І лесу дам. І коньмі, і парабкамі дапамагу. Да восені новую хату справіш.

— Баляслаў Канстанцінавіч... Ваша правасхадзіцельства,— папярхнуўся ад удзячнасці Гаранок. Ён сарваў з галавы шапку, нізка пакланіўшыся, пацалаваў графу руку. У вачах ягоных заззялі радасныя слёзы, і, падсадзіўшы Незабітоўскага на падводу, ён крыкнуў сыну цвёрдым голасам:

— Васіль! Пільнуй, каб мякіннікі не спёрлі што-небудзь. Я вам! — пагразіў натоўпу кулаком.

Увесь гэты час, калі бушаваў пажар, калі крычалі і мітусіліся людзі, Дзіна адчувала звонкую цішыню ў душы. Прайшоў першы страх. Разам з маці, узяўшы ў рукі посцілку, яна сачыла, каб іскры не ўпалі на страху іхняй хаты. Смылела скура на шчоках і на лбе. Дзіна выцірала з твару пот, глядзела на неба. Яно было бурае ад дыму, але высока над зямлёй, там, дзе гуляў вецер, дым рассейваўся і залатымі цвічкамі праклёўваліся нясмелыя ранішнія зоркі. Столькі было ў гэтых зорках чысціні, спакою, што міжволі раўней білася сэрца. І Дзіна раптам падумала, што сам бог паслаў гэты начны пажар. Не да яе будзе зараз Васілю Гаранку, калі замест хаты чырванеецца ў ранішнім мораку гарачае вуголле.

А праз колькі часу, ледзь сонца ўзнялося крыху вышэй чмялёўскіх ліп, забегалі па вёсцы нямецкія салдаты і стражнікі Шмарлоўскага з маёнтка. Сам Шмарлоўскі, дзябёлы чарнавусы мужчына гадоў сарака, з меланхалічным доўгім тварам, ездзіў верхам на кані па вуліцы, стукаў рукаяткай бізуна ў вокны, крычаў:

— Усім сабрацца каля валаснай управы! Пан капітан Рэхлінг загадвае! Усім сабрацца!

У сядле Шмарлоўскі сядзеў няўклюдна, як сноп. Сеў, відно было, для таго, каб нечым вылучацца сярод сваіх пешых стражнікаў. Ніхто яго ў Чмялях дагэтуль не ведаў. Прыбыў ён, казалі, з Мінска, з беларускага народнага камісарыята, каб дапамагаць немцам наводзіць парадак у воласці.

Каля колішняй валаснай управы, дзе пры Саветах быў рэўком, калыхаўся натоўп. Зараз у будынку гаспадарыў капітан Рэхлінг, начальнік германскай павятовай прадуктовай камісіі. У капітана была адна задача: як мага болей даць нямецкім салдатам ежы, адабраўшы яе папярэдне ў мясцовых сялян. Рабіў ён гэта пакуль што даволі паспяхова, і начальнік ягоны, камандуючы 10-й арміі генерал

Эрых Фалькенгейм, што са сваім штабам сядзеў у Мінску, быў задаволены Рэхлінгам.

Капітан Рэхлінг разам з графам Незабітоўскім толькі што скончыў сняданак. Пакуль дзяншчык прыбіраў са стала талеркі, бутэлькі, відэльцы, капітан, заплюшчыўшы вочы, курыў. Быў ён з выгляду маладзейшы за свае сорак чатыры гады. Даволі высокі, з ледзь прыкметнай сутуласцю ў плячах. Шыя і кісці рук танклявыя, як бы жаночыя. Нос доўгі і трохі седлаваты. Валасы светла-русыя, у якіх з першага разу цяжка ўбачыць іскрынкі сівізны. Але сівізна была, і не на скронях, а за вушамі. Скура на твары, як гэта часта сустракаецца ў бландзінаў, была малачнавата-ружовая. Пра такую кажуць: кроў з малаком. Асабліва ж вылучаліся на ягоным твары вусны — тонкія, цвёрда акрэсленыя, па-дзіцячы пунсовыя, нібы толькі што еў чалавек суніцы.

Пастукаўшыся, у пакой увайшоў шуцман Функ і далажыў, што сяляне сабраны. Рэхлінг кінуў у попельніцу, якую трымаў дзяншчык, недакураную папяросу, надзеў фуражку, узняўся. За ім, прамакаючы снежна-белай насовачкай узмакрэлыя скроні, узняўся Незабітоўскі.

Пры з'яўленні начальства натоўп сціх, як мову адняло. Але шапкі скінулі не ўсе, толькі старэйшыя. Рэхлінг заўважыў гэта, слаба ўсміхнуўся і нешта сказаў па-нямецку Функу. Адразу ж у натоўп урэзаліся салдаты, шапкі паляцелі ў гразь, чупрыны зашавяліліся пад ветрам, лысіны заблішчалі. «Хутка ж камісары адвучылі гэты народ ад пачцівасці да начальства»,— падумаў Рэхлінг і, стоячы на высокім ганку, паказаў рукою ў шэрай пальчатцы некуды за спіны натоўпу:

— Бачыце?

Усе, падпарадкоўваючыся руху капітанавай рукі, азірнуліся. На выгане, насупраць валасной управы, салдаты грукалі сякерамі, з сасновых жэрдак майстравалі нешта, падобнае на вялізны азярод. Гэтую штуковіну чмялёўцы заўважылі ўжо раней, але кожны падумаў: «Мала што будуць рабіць немцы? У іх сваё наўме».

— Ведаеце, што гэта? — спытаўся ў сялян Рэхлінг і сам адказаў на сваё пытанне: — Шыбеніца.

Усе маўчалі. Рэхлінг адшукаў вачамі ў натоўпе Кандрата Гаранка, паманіў яго да сябе пальцам. І, калі той узышоў на ганак, сказаў:

— Гэта ваш стараста, прызначаны германскімі ўладамі. Ваша начальства. А вы не шануеце яго. Сёння ноччу згарэла хата гэтага паважанага, сумленнага гаспадара. Я не буду пытацца ў вас, хто яе спаліў...

— Мы не палілі,— выкрыкнуў з натоўпу Сямён-артылерыст. Ён стаяў, цяжка абапіраючыся на мыліцы, спадылба глядзеў на немцаў, на Незабітоўскага і Гаранка.

Капітан Рэхлінг быццам не пачуў. Казаў халодным голасам:

— Я хачу спытацца ў вас пра іншае. Чаму вы не да-

памагалі тушыць? Ён ваш аднавясковец, ваш сусед, ён не прыйшоў, як мы, з Германіі...

Натоўп маўчаў. Недзе раптам прарэзліва завішчала парасё, і гэты гук, такі звычны раней, такі свой, вясковы, як шыла, кальнуў сэрцы. Сэрцы ў людзей абліліся халадком. На страсе валаснай управы ярасна завалтузіліся, закрычалі вераб'і, пэўна, не падзялілі якую-небудзь саломіну. Але ніхто не ўзняў галаву ўгору, не глянуў.

— Уладай, дадзенай мне кайзерам Вільгельмам і вышэйшым германскім камандаваннем, я накладаю на ўсю вёску Чмялі кантрыбуцыю,— глянуў на Функа і на Шмарлоўскага Рэхлінг.— Кожны двор у карысць германскай арміі павінен сёння да васемнаццаці гадзін вечара здаць дзве курыцы, дваццаць яек, пуд збожжа.

Рэхлінг зняў фуражку, памахаў ёю перад тварам. Рабілася горача. Сонца ўзнімалася і разганяла раніпнюю золь. Над рэчкай Гразёўкай, якая віднелася адсюль праз рэдкае частаколле сядзібы Яўхіма Сцепанюгі, поўз жоўты балотны туман. Ён затапіў увесь надрэчны луг, але сонца прыціскала яго да самай зямлі сваімі гарачымі промнямі, і з кожнай хвілінай ён радзеў, святлеў, танчэў, каб неўзабаве зусім знікнуць.

Дзіна стаяла ў натоўпе разам з Франяй Перуноўскай. Наўкола ўсхліпвалі, божкаліся жанчыны.

— Дзе ж я вазьму ім тыя яйкі? — уздыхала баба Сойка, прыгладжваючы скукарэчанымі пальцамі сівыя валасы пад хусткай.— Усіх курэй іхнія салдаты перадушылі.

Мужчыны стаялі моўчкі. Толькі мацней, чым звычайна, сціскалі шапкі ў руках. А Дзіна быццам не заўважыла ўсяго гэтага. Можа адна з усяго вялікага натоўпу бачыла яна, які сонечны разгараецца дзень, якія прыгожыя воблакі плывуць над вёскай, маленькія, жоўтыя, круглыя, падобныя на салодкія каравайчыкі. Яна бачыла, як ціха трапечацца, уздрыгвае мокрае пасля начнога дажджу лісце ліп, як павольна, нібы светлы дым ад цяпельца, плыве па́ра над шэрымі стрэхамі. Яна нават бачыла, як са шпакоўні, што была на старой ліпе, хуценька выглянуў рудавата-чорненькі шпачок, бліснуў вочкамі і зноў схаваўся. Зваліўся з сэрца цяжар, што не даваў ёй жыць апошнія дні. Усё-такі пачуў бог яе малітвы. Не да Дзіны, не да вяселля зараз Гаранкам. Так думала яна, так радавалася патаемна ад усіх, а капітан Рэхлінг тым часам надзеў на галаву фуражку — ён з дзяцінства баяўся прастуды — і зноў пачаў гаварыць:

— Мы прыйшлі сюды, у гэты край, каб выратаваць вас ад камунізма. Ваш народ павінен далучыцца да цывілізаванага свету, да заходняй культуры. Той, хто паважае закон, уладу,— наш сябра. Той, хто аказвае нам супраціўленне, будзе знішчаны. Выведзіцеляснога бандыта,— загадаў ён шуцману. Функ адамкнуў халодную, што была побач з валаснай управай. Салдаты рынуліся туды і выцягнулі на вуліцу скрываўленага, звязанага вяроўкамі ча-

лавека. Страшна было глянуць на яго. Твар чорны ад сінякоў, левае вока запухла, вопратка парваная, вісіць лахманамі. Здаровае вока чалавека зажмурылася ад яркага сонца, ён на імгненне спыніўся, але салдаты прыкладамі штурхнулі яго ўперад. І ён пайшоў, кульгаючы. Непадалёку ад ганка валаснОй управы чалавеку загадалі спыніцца.

— Гэта ж Пятро Чыжэвіч з Запольцаў,— прашумела ў натоўпе.

Капітан Рэхлінг на адну прыступку спусціўся ніжэй з ганка.

— Вось гэтага бандыта,— глянуўшы на Чыжэвіча, павольна, з прыдыханнем сказаў ён,— злавілі сёння ноччу каля маёнтка. Ён спрабаваў узламаць замок на стайні і вывесці адтуль коней. Між іншым, злавілі яго вашы людзі,— Рэхлінг глянуў на Шмарлоўскага і ягоных стражнікаў.— Палюбуйцеся на бальшавіка! Яны хаваюцца ў лясах і балотах і толькі ноччу вылазяць адтуль, каб чым-небудзь нашкодзіць імператарскай арміі. І мы будзем знішчаць іх. Літасці ім няма і не будзе. Ты паліў хату? — рэзка, ва ўпор глянуў ён на Чыжэвіча.

— Я паліў. Я юду спаліў,— усім целам пахіснуўся на Рэхлінга Пятро Чыжэвіч.

Капітан адразу ж ступіў на прыступку вышэй. І тут Кандрат Гаранок, пацямнеўшы ад злосці, з кулакамі кінуўся на Чыжэвіча:

— Гад! Усе помняць, як ты з чырвоным сцягам бегаў. Хату маю спаліў, а сам здохнеш! Павесяць цябе. Я сам вяроўку закручу на тваёй шыі. Палюбуйся, гад, на сонца ў апошні раз. Мы будзем жыць, а ты згніеш, згніеш у гразі.

— Я ўстану з магілы, прыйду ноччу і зноў цябе падпалю,— ціха сказаў Чыжэвіч.

— Ах ты, сволач! — Гаранок размахнуўся і стукнуў Чыжэвіча па твары.

Той матнуў галавою, скрывіўся ад болю і крывёю плюнуў Гаранку ў вочы.

«Не ён жа хату паліў. Я ведаю,— адчуваючы, як часта б'ецца сэрца, думала Дзіна.— Чаго ж на сябе віну бярэ?» Яна глядзела, як нямецкія салдаты з Гаранком цягнулі Чыжэвіча да шыбеніцы. Чыжэвіч адбіваўся нагамі, галавой, спрабаваў крычаць, але яму заціскалі рот.

— Чаго стаім, хлопцы? — раптам узмахнуў мыліцай Сямён-артылерыст.— Ратаваць чалавека трэба!

Ён ірвануўся быў да Чыжэвіча, але стражнікі павалілі яго на зямлю, селі верхам, пачалі звязваць рукі. Натоўп хваляваўся, гудзеў, здавалася, людзі вось-вось кінуцца на немцаў, і нішто іх ужо не спыніць. Але людзі стаялі на месцы, капітан Рэхлінг, зняўшы фуражку, астуджваў валасы, цела Чыжэвіча цяжка гойдалася на шыбеніцы, а над Чмялямі плыло яркае вясновае сонца. Тым часам да Рэхлінга падвялі Сямёна-артылерыста.

— Ого! І ты хацеў з намі ваяваць? — здзівіўся Рэхлінг.— Салдат? Харошы салдат,— ён паляпаў Сямёна па

плячы рукою,— цябе трэба было таксама павесіць. Але я не буду гэтага рабіць. І ўсё-ткі ты будзеш пакараны. Шуцман! Знайдзіце цвік і малаток. Прыбіць гэтага героя вухам да шыбеніцы! І няхай так стаіць усю ноч, шэпчацца з вісельнікам.

Функ выканаў загад, як заўсёды, хутка і дакладна. У натоўпе галасілі жанчыны, а Сямён-артылерыст, збялелы, стаяў ля шыбеніцы, моршчыўся ад болю і крычаў:

— Ублюдкі! Кайзеры праклятыя! Мурашак вам у штаны! Нічога — я пацярплю! Глядзі, народ! Я пацярплю!

— Харошы салдат,— засмяяўся Рэхлінг.— Пакрычы, пакрычы... А вы,— звярнуўся ён да натоўпу,— можаце ісці спакойна працаваць.

Дзіна разам з Янінай Міхейчык пайшла дадому. Ішлі моўчкі. Не хацелася гаварыць. Яшчэ стаяў уваччу страшны мёртвы твар Чыжэвіча. І толькі каля самай сваёй хаты Яніна спыталася:

— Можа пра Антона вашага што чуваць?

— Нічога не чуваць,— ціха сказала Дзіна і, не глянуўшы на сяброўку, пайшла далей. А тая трохі пастаяла, села на лавачку і застыла, знерухомела.

У хаце таксама ніхто не хацеў размаўляць. Мухі густым чорным роем кружыліся над сталом. Але стол быў пусты, і яны з галодным звонам біліся ў шыбы вокнаў, нібы хацелі вылецець на вуліцу.

— Ат, каб на вас воўк, тлумэча,— не вытрываў нарэшце Прахор, расчыніў дзверы, схапіў з прыпечка анучу і пачаў ёю махаць — выганяць мух з хаты. Але яны ўзвіліся пад столь, шуганулі на палаці.— Цьфу! — зміры́ўся Прахор і павярнуўся да жонкі з дачкою: — Вось што... Бярыце сахары пад паветкай, будзем гной на палосу вывозіць з хлява.

— Каб можа зямля шчэ трохі падсохла,— няўпэўнена сказала Аўдоля.

— Каб ды кабы — у роце выраслі б грыбы. Збірайцеся!

Гной быў злежаны, цвёрды, выдзіраўся вялікімі пластамі. Забалелі рукі і спіна. З калясьмі было не заехаць у хлеў, і Прахор дастаў у сцяне акенца. Кідалі на калёсы праз акенца. Часам вілы сутыкаліся, і тады чулася халоднае вострае шчоўканне, ад якога калола ў зубах. Праз дзірку ў страсе ў цёмны хлеў залятаў праменьчык сонца, круглым залатым пятачком падаў Дзіне пад ногі. Яна глядзела на гэты пятачок, ён здаваўся ёй жывым.

— Былі б хлопцы, Антон з Кузьмой, хуценька б управіліся,— уздыхнула Аўдоля.

— Управіліся,— перадражніў яе, цяжка дыхаючы Прахор.— Швэндаюцца недзе па свеце. Дома ім не сядзелася. Булак з маслам недзе шукаюць.

— Хто ведае... А можа і трэба так.

— Як — так? — Прахор узадраў здаравенны пласт гною, аж пахіснуўся, але выкінуў яго ў акенца.

— Ім сваё трэба шукаць, маладое...

— Што ты чаўпеш?! — Прахор плюнуў са злосцю.— Моташна слухаць. Ды што й казаць... Якія маткі, такія і дзіцяткі.

Аўдоля раптам усхліпнула, уткнулася тварам у сцяну, заплакала. Гэта было нечаканасцю для Прахора. Ён з недаверам паглядзеў на жонку, пачухаў патыліцу, з сілай увагнаў сахор у гной. Ён звыкся з тым, што жонка ягоная ціхмяная, памяркоўная. Пабурчыць, бывае, паўшчувае, але неўзабаве як і не было спрэчкі — адыходлівае сэрца ў кабеты. І вось на табе — слёзы. Гэта ўжо нешта новае. Можа хітрыкі якія-небудзь бабскія?

— Ну не румзай,— прымірэнча сказаў Прахор. І каб яшчэ болей згладзіць сваю разгубленасць, нялоўкасць, паставіў да сцяны сахор.— Давайце перадыхнем трохі.

Выйшлі на свежае паветра, селі на бярвенне каля плота. Вясёлы разгараўся дзень.

— Чаго ты расплакалася, мамка? — Дзіна прытулілася да маці, пачала гладзіць ёй плечы.

— Вочы ў мяне на мокрым месцы, Дзінка,— усміхнулася скрозь слёзы Аўдоля.

Працавалі ледзь не да самага вечара. Нарэшце скончылі. Дзіна зняла з галавы хустку, адчуваючы, якім цяжкім і марудным робіцца ўсё цела, пайшла з вёдрамі да калодзежа. Трэба ж усім змыць пот. Яна доўга мыла халоднай вадой рукі, твар, шыю. На левай далоні выскачыў крывавы мазоль. Дзіна прыклала да яго лісце трыпутніку. Было балюча і прыемна. Яна збіралася яшчэ раз схадзіць па ваду, як раптам убачыла, што па вуліцы, кіруючыся да іхняй хаты, едзе багатая фурманка, а ў ёй сядзяць Кандрат Гаранок з Аксеняй Белазорыхай. Гаранок у чорным суконным фрэнчы, у белай кашулі з гальштукам. Сядзіць прама, коньмі кіруе паважна, растапырыўшы ў бакі локці і злёгку адкінуўшы тулава назад. Белазорыха таксама апранута не па-будняму, у руках трымае нешта белае.

«Сваты»,— адразу ж здагадалася Дзіна, знямožана прыхілілася да сцяны сенцаў. Вёдры пакаціліся па пяску. Усё-такі едуць. Едуць так, што ўся вёска бачыць. Ніщто ім не перашкода — ні пажар, ні гром нябесны. Усё павінна быць па-іхняму, як яны наважылі. Яны — гаспадары.

Злосць успыхнула ў ёй. Аж сэрца забалела. Яна яшчэ не ведала, што будзе рабіць, але адно ведала, у адным была ўпэўнена — не будзе Васілёвай жонкай. Яна нібы на імгненне ўбачыла сваіх братоў, і, падалося ёй, браты згодна кіўнулі галовамі.

Дзіна хуценька падабрала з пяску вёдры, павесіла іх на плот, а сама схавалася ў камору ў сенцах. Тут быў паўзмрок. Уздоўж сцен стаялі скрыні, кубел з салам, амаль пусты. Яна ўскочыла на кубел, прыпала вухам да сцяны. У гэтым месцы ў спарахнелым бервяне была трэшчына, і можна было пачуць гамонку ў хаце.

Прагрукацелі ў сенцах цяжкія ўпэўненыя крокі, рыпнулі дзверы хаты. Дзіна перастала дыхаць.

— Дзень добры добрым людзям,— выгукнула Белазорыха.

— Добры дзень, сусед з суседкаю,— не спяшаючыся, з расстаноўкаю сказаў Гаранок.

Прахор з Аўдоляю адказалі, і на нейкі час наступіла цішыня. Пэўна, госці хрысціліся на абразы.

— Чаго ж завіталі да нас, госцейкі? — нарэшце хрыпучым голасам спытаўся Прахор.

Яму ў адказ затараторыла Белазорыха:

— Мы — купцы. Едзем з далёкага краю,
З-за сіняга мора, з-за рэчкі Дунаю.
Золата маем, велькія грошы.
Чулі — тавар у вас ёсць харошы.

Маці нешта адказала, потым пачалі гаварыць усе разам. Кроў шумела ў вушах і не давала Дзіне слухаць. Але яна прымусіла сябе супакоіцца.

— Не з торбай вугалля прыйшлі мы да вас, хоць і пагарэльцы,— казаў Гаранок.— Што добрым людзям трэба, усё маем. І родзіцца ў нас, і плодзіцца. І рохкае ў нас, і мыкае. Ёсць і пчала, і мёд з воскам.

— Маладая надта ж яшчэ дзеўка,— з сумам у голасе сказала маці.

Зноў загаманілі, адышліся далей у кут, да стала. Зазвінела шкло. «Гэта ўжо бацька з гарэлкай спяшаецца»,— здагадалася Дзіна.

— Нечага і думаць,— даляцеў да каморы голас Белазорыхі.— Кажуць жа людзі:

Сваю Марынку
Паводзіш па рынку,
А я за Кузьму
Усюды вазьму.

— Вялікі гонар для цябе, Аўдолька, і для цябе, Прахор, кроў сваю парадніць з такой крывёю.

Дзіна заплюшчыла вочы. Няўжо гэта яе прадаюць зараз за лішні кавалак хлеба, за сала, за гарэлку? Няўжо і ў яе будзе такое ж жыццё, як у маці, як у бабкі Насты было — работа з рання да вечара, сварлівы мужык, хваробы? А, здаецца ж, яшчэ ўчора дзяўчынкай была. Вясной па жоўтую лотаць на луг бегала. У лес ранічкай у грыбы хадзіла. Трава на лясных палянах аж белая, сцюдзёнай расой залітая, і, калі ідзеш па ёй, босыя ногі мярцвеюць ад холаду, а ззаду, там, дзе прайшла, шырокі цёмны след кладзецца, як баразна. І ўжо з самага маленства крыўды, вялікія і маленькія, за сэрца чапляліся, як дзяды-калючкі за сукенку. Помніцца, бацька, як быў п'яны, вясёлы, пры суседзях казаў:

— Станцуй, Дзінка, капеечку дам...

І, цяпер сорамна ўспомніць, танцавала, спявала: «Я цыганка-сербіянка...»

Дзіна рэзка выпрасталася. Убачыла: у сцяне насупраць тырчыць серп, лязо зялёнае — маці ўчора свінням траву

жала. Доўга глядзела на вострае зялёнае лязо. Варта зрабіць усяго некалькі крокаў, узяць у рукі серп, крыху нахіліць набок галаву і...

Не! Яна будзе жыць. Яна хоча жыць! Усё ў яе яшчэ будзе. І вяселле, і муж, і дзеці. Але гэта будзе потым, а зараз трэба ратавацца, трэба бегчы ад гэтых галасоў, ад гэтых крокаў, што ўжо набліжаюцца да дзвярэй.

Дзіна схапіла са скрыні світку, не накідваючы яе на плечы, выбегла з каморы ў сенцы, адтуль на двор і на вуліцу. Гаранкова брычка, запрэжаная ў два кані, стаяла каля варот. Дзіна адвязала вожкі ад плота, ускочыла на брычку. Коні панесліся па вуліцы. Яна не садзілася, стаяла на поўны рост, па-мужчынску. І на калдобінах, калі брычку падкідвала, ледзь не падала. Яна яшчэ не ведала, куды кіраваць. Адна толькі думка — падалей ад бацькавай хаты, ад тых, што зараз вядуць за яе гандаль,— была ў галаве. Брычка, пудзячы курэй і гусей, прамчалася каля валаснай управы. Тут не было ні душы. І раптам нечы голас паклікаў Дзіну, паклікаў з надзеяй і болем:

— Прахораўна! Дзіна!

Яна азірнулася, прытрымала коней. Сямён-артылерыст стаяў ля шыбеніцы, белы, знясілены, са звязанымі рукамі.

— Куды ты, дзеўка? — толькі і спытаўся ён.

— Не ведаю. Куды вочы вядуць.

Ён зразумеў, шчокі ягоныя пачалі налівацца ружовасцю:

— Вярні коней сюды. Дапамажы мне рукі развязаць.

Дзіна пад'ехала да яго, саскочыла з брычкі. Кожную хвіліну на іх маглі глянуць з акна валаснай управы, а яна, не хаваючыся, развязвала Сямёну-артылерысту рукі. Ён кусаў губы, гаварыў:

— Нага зацякла. Ледзь стаю. Хутчэй, Дзіначка...— Потым шчасліва выдыхнуў: — Дзякуй табе.

— А што ж вы, дзядзька Сямён, зараз будзеце рабіць? — Дзіна вачамі паказала на ягонае вуха, прыбітае да шыбеніцы.

— Глядзі,— Сямён заплюшчыў вочы, рэзка матнуў галавою. Пырснула кроў, і праз імгненне ён, прыціснуўшы руку да вуха, ужо сядзеў на зямлі, казаў: — Ух! Трохі перадыхну... А ты, дзяўчына, падай мне мыліцы. Яны вунь дзе стаяць. Акуратны народ немчукі. Чалавеку, як скаціне якой, вушы прапорваюць, скуру лупяць з чалавека, а бач ты — мыліцы не кранулі. Цэленькія стаяць, чакаюць.

У Дзіны пачыналі калаціцца рукі. Яна баялася глянуць на Сямёна-артылерыста, у якога па карычневай няголенай шчацэ пабеглі яркія струменьчыкі крыві.

— Перавяжам. Будзем жыць,— усміхнуўся ёй Сямён.

— Куды ж дзецца нам, дзядзька?

— У лес трэба падавацца. На Валуевічаву Буду. Там нашы хлопцы атабарыліся. Што, і табе гадаўё гэтае жыццё скруціла?

Дзіна не адказала. Яны, спяшаючыся, селі ў брычку.

Сямён узяў у рукі вожкі, глянуў на Чыжэвіча, што гойдаўся ў пятлі:

— Бывай, браток. Нагаманіліся мы з табою за дзень, наглядзеліся адзін на аднаго.

Нехта выглянуў з акна валасной управы, потым выбег на вуліцу, закрычаў. Сямён з усяе сілы разануў вожкамі па круглых конскіх сцёгнах. Коні рванулі з месца, брычка падскочыла, і Дзіна, каб не вываліцца, ухапілася Сямёну за плечы. Ззаду крычалі, стралялі, беглі, але ўсё дарэмна. Яны прамчаліся па чмялёўскай вуліцы, прагрукацелі па грэблі, узнесліся на жоўты пясчаны бугор, і толькі пранізлівы цёплы вецер паляцеў насустрач, ударыўся ў твары. Добрыя коні былі ў Гаранка.

## II

— Ты падвучыла яе! Ты! — забегаў па хаце Прахор, як толькі Гаранок з Белазорыхай, налаяўшыся і напляваўшыся, груknулі дзвярыма. Было ад чаго кіпець і валасы рваць. Адзіная дачка збегла сярод белага дня, ды добра, каб толькі збегла, а то ж і коней сагнала, на якіх сваты прыехалі. Сёння ж па вушы будзеш у людскіх плётках. А Гаранок прыгразіў: калі да вечара не знойдзецца брычка, паскардзіцца самому капітану Рэхлінгу. Вось чаму Прахор, ледзь не натыкаючыся на сцены, бегаў па сваёй хаце, бяссільна сціскаў кулакі.

Аўдоля сядзела каля парога, нізка звесіўшы рукі, апусціўшы галаву. Хустка з'ехала на плечы, і ў паўзмроку пасабліва вылучалася сівізна на рэдкіх русых валасах. Пасля цяжкой работы нылі ўсе косці, а тут яшчэ пачынала балець галава. Нібы хто сціскаў скроні моцнымі кулакамі.

— Ты з ёй шапталася? Гавары! — падскочыў Прахор, стаў ледзь не над самай яе галавой, часта дыхаў. Аўдоля паглядзела знізу на яго. Твар жоўта-буры, непрыгожы, ноздры раздзімаюцца, і ў іх усярэдзіне, яна ўпершыню заўважыла, кусточкамі растуць кароткія сівыя валасы.

— Нічога я з ёй не шапталася,— спакойна сказала яна і ўстала.— Слава богу, васемнаццаць гадоў дзеўцы. Сама ўжо можа выбіраць.

— І каго ж яна выбрала? — нахіліў набок галаву Прахор, прыжмурыў вочы.

— Казала, Мішка Сырамалот добры хлопец...

— Гы-ых! — раптам з усяго пляча ўдарыў жонку кулаком па галаве Прахор. Яна войкнула, асела на падлогу. Закрылася рукамі, але маўчала. Гэта ўразіла Прахора. Ён чакаў крыку, ляманту, слёз, толькі не цішыні, якая бянтэжыла і палохала. Ён выцер рукавом з ілба пот, прагна выпіў кубак вады, зноў падступіў да жонкі:

— Маўчыш? Зараз ты ў мяне заспяваеш.

Але Аўдоля нечакана, як ваўчыца, ускочыла з падлогі, схапіла ў качарэжніку вілкі, нацэліла іх яму ў твар.

— Толькі пальцам крані, вочы выкалю,— прашаптала яна, і пагляд быў цвёрды, свяціўся.

Ён вырваў у яе з рук вілкі — трах! — зламаў іх аб калена, шпурнуў у кут. Але чапаць жонку не стаў. Абмяклы, згорблены, выйшаў з хаты.

Аўдоля села на ложак, абшчапіла галаву рукамі. Смылелі плечы. Цішыня была ў хаце. Аўдоля павольна ўзнялася з ложка, пайшла на вуліцу. «Даўно ён мяне не біў... Зверам робіцца...»

Сонца садзілася за лесам. Вішнёвы агонь палаў на краі блакітнага неба. Змрок ахутваў цёмную вясновую зямлю. Недзе булькатаў, смяяўся ручаёк, і яго чысты голас калоў, сціскаў сэрца даўно страчанай пяшчотай, вяртаў, хоць на імгненне, у тыя дні, калі было вышэйшым неба, маладзейшым цела, калі можна было бегаць басанож, верыць зоркам і ветру, траве і дрэвам, калі жыццё, такое нязнанае і зманлівае, толькі пачыналася.

«Дзеткі мае, дзе ж вы? — думала Аўдоля, гледзячы ў змрок веснавога вечара.— Ці ж я вам дрэннай маткай была? Раз'ехаліся, разбегліся, адну мяне пакінулі. Некаму слоўца сказаць».

Прахор вярнуўся позна ноччу. П'яны, але ціхі. Толькі нешта мармытаў пра Гаранка, пра Агапку Шамаль «Няўжо ён да Агапкі хадзіў?» — устрывожылася ў думках Аўдоля. І здзівілася сама сабе: ёсць яшчэ, аказваецца, у сэрцы рэўнасць. Нават пасля кухталёў.

Прайшоў вялікдзень, але не надта запомніўся. Раней, калі былі дома Дзіна і Антон з Кузьмой, Аўдоля рыхтавала цэлае рэшата чырвоных яек. Яйкі фарбавала ў адвары з шалупіння цыбулі. Накрывала стол. «Хрыстосаваліся», і пачыналася свята, шумнае, вясёлае, з багатай, пасля посту, закуссю, з гарэлкай. Потым гулялі ў «біткі». Хто-небудзь неўпрыкметку залівалў сваё яйка смалою, яно рабілася цвёрдае, як камень. Радасны пераможца хадзіў з поўнаю шапкаю чужых разбітых яек. На двары, на зялёнай траве пад клёнам, качалі яйкі на латаку. Кожны стараўся, каб ягонае яйка закацілася як мага далей.

Сёлета ж нічога гэтага не было. Прахор з раніцы напіўся, падаслаўшы кажух, лёг проста на падлозе і хроп на ўсю хату. Праехаў, праўда, па вёсцы сам Незабітоўскі, заходзіў у кожны двор, са святам віншаваў гаспадароў. Але яму мала хто ўзрадаваўся. «Бач ты,— гаварылі чмялёўцы між сабою,— ягоны ж вялікдзень, польскі, прайшоў ужо. Папіў ён сваю панскую гарэлку. Чаго ж да нас лезе, як сляпіца ў вочы? Нябось, як прыйшлі немцы, усё дабро сваё спагнаў. На сваіх гарбах адцягнулі яму ў маёнтак усё, што там пры бальшавіках, пры Бацюту ўзялі».

Надвячоркам забег у хатуВаладкевічаў Веня, каб узяць у Аўдолі, у хроснай маткі, свянцонае яйка. Аўдоля дала яму тры яйкі, ладны кавалак салодкага каравая. Ён трохі памуляўся ля парога, трымаючы яйкі ў шапцы, глытаючы каравай, потым асцярожліва глянуў на соннага

Прахора, падышоў да Аўдолі, шапнуў ледзь не ў самае вуха:

— Цётачка, ваша Дзіна ў лесе... Не бойцеся — добра ёй... Там шмат нашых... І Бацюта, і Мішка Сырамалот... Толькі вы, бронь бог, нікому не кажыце, цётачка...

Аўдоля аж затрымцела ўся. Гледзячы ў вочы хлапчуку, пачала распытваць:

— Як жа яна там? Ці хутка дома будзе? Хто табе гэта сказаў, Венька?

Веня строга звёў бровы.

— Не ведаю я нічога. І вы нікому, цётка, не кажыце. Я ў пікара пабег гуляць.

Ён выскачыў з хаты, а Аўдоля, аглушаная радаснай навіной, сядзела за сталом, слухала, як храпе п'яны Прахор, і ўсміхалася сама сабе. Падала́ голас яе дачушка, не забылася пра маці. Як жа ёй там? На чым спіць, што есць? Што ў халадэчу апранае? Гэта ж і Чыжэвіч, якога павесілі, быў адтуль, з лесу. Ой, Дзінка, Дзінка. Беражы цябе бог.

Адразу пасля вялікадня, у першых чыслах мая, управіліся з бульбаю. Пасадзілі сваю, дапамаглі Прахаравай сястры Аўдоцці. Пакрысе забываўся начны пажар. Гаранок, як і абяцаў яму Незабітоўскі, перабраўся з сям'ёй у флігель. Хадзіў па Чмялях злы, стараўся меней гаварыць з вяскоўцамі, а ўсё круціўся каля немцаў і каля Шмарлоўскага. Немцы спраўна прыбіралі да рук усё, што можна было ўзяць у разбураным вайной, галодным краі. Але апошні загад Рэхлінга здзівіў усіх. Капітан загадаў, каб кожны гаспадар адрэзаў у сваіх коней хвасты і грывы і здаў валасы ў камендатуру. Што было рабіць? Пляваліся чмялёўцы, праклінаді Рэхлінга і ягонага ненажэрнага кайзера, але давялося адразаць конскія хвасты і грывы.

— Заядуць у спякоту авадні,— казаў Прахор, гледзячы на Чумака, які піў з карыта ваду і шавяліў кароценькім хвосцікам-абрубкам.

Лаўрэн Лапыцька, што прыйшоў пазычыць солі і сядзеў у цяньку на прызбе, засмяяўся:

— І навошта ім тая валасня? Хіба можа ў кайзера на галаве валосоў не хапае, дык яму конскіх падсадзяць...

— Ласно табе смяяцца,— буркнуў Прахор.— Ты свайму каню хваста не рэзаў.

— Няма ў мяне каня,— ахвотна згадзіўся Лаўрэн.— Я сам сабе конь і певень. А ці чуў ты, Прахор, што нямецкі абоз каля Запольцаў на бабруйскай дарозе абстралялі? Матацыклетку, кажуць, спалілі.

— Не чуў. І чуць не хачу. Не нашая гэта справа. Крэпка немец сеў, не зваліш.

— А-я-яй,— пацмокаў сінімі губамі Лаўрэн.— Не думаў я, Прахор, што ты такі дурны. Дурны, як той грак.

— Ну, ты! — падскочыў да яго Прахор, махнуў дубовым пугаўём.— Марш з двара, боўдзіла старое!

Лаўрэн плюнуў, узняўся з прызбы і пайшоў.

— Дзядзька, вазьміце ж солі! — крыкнула наўздагон Аўдоля.

— Смалы яму, а не солі,— сказаў, як адрэзаў, Прахор.

Цёплыя сонечныя дні плылі над Чмялямі. Убіралася ў сілу маладая свежая лістота, буяла ў лузе трава, дзе-нідзе, асабліва каля дарог, на цёплых узлобінах, закалыхаліся белыя калматыя галоўкі дзьмухаўцоў. Неба было бела-блакітнае, чыстае, увечары на ім пачыналі трапятаць буйныя яркія зоркі. Чумацкі шлях ліўся па небе, як шырокая сярэбраная рака. Ноччу заціхала вёска, заціхалі сады. Толькі кажаны насіліся над агародамі, над ціхімі цёмнымі вуліцамі, над хатамі і, здавалася, падслухоўвалі, аб чым гамоняць людзі. Ліпы, бярозы і клёны драмалі абапал чмялёўскай вуліцы. Пуставалі лавачкі, на якіх яшчэ зусім нядаўна так горача шапталіся, так салодка цалаваліся. Большасць хлопцаў пайшла на ўсход разам з Бацютам і Кузьмой Радзімовічам, астатнія хаваліся ад нямецкага вока дзе хто мог і як хто мог. У вёсцы ўжо забыліся пра вечарынкі. Толькі аднойчы п'яны Васіль Гаранок, які так і не парадніўся з Радзімовічамі, выйшаў на вуліцу з гармонікам, заспяваў:

Рускі, немец і паляк
Танцавалі кракавяк...

Але выбег з флігеля ягоны бацька, даў хлопцу ў каршэнь:

— Я табе пакажу песні! Марш дадому!

Чаго многа было на чмялёўскіх вуліцах, дык гэта старцоў. Хадзілі цэлымі сем'ямі, з галоднымі дзецьмі на руках, з ціхай жальбой і пакорай у выцвілых вачах, спявалі пад вокнамі «Лазара». Шмат было калек. Сляпыя, бязногія, бязрукія, гарбатыя...

Аднойчы хадзілі з торбамі па вёсцы аднавокі стары і хлопчык гадоў дзесяці. У хлопчыка былі кучаравыя льняныя валасы, брудная доўгая торба біла па нагах. Стары быў асаністы, пэўна, служыў калісьці ў войску, глядзеў прама перад сабой, не міргаючы. У самую спёку прыцягнуліся яны на двор Радзімовічаў. Прахор якраз кляпаў касу пад паветкай. Пачуўшы журботную, панылую песню, паклаў касу, выйшаў да жабракоў. Яны пакланіліся яму ў пояс, як якому-небудзь вяльможнаму пану. Аўдоля тым часам вынесла з хаты акраец хлеба, тры сырыя яйкі. Прахор узяў у яе з рук адно яйка, паклаў сабе ў шапку:

— Замнога будзе...

Стары зморшчыўся, нібы яго чым укалолі, сумна сказаў:

— Яшчэ б, гаспадынька, што-небудзь...

— Бач ты,— строга глянуў на яго Прахор.— У цябе, брат, кішка на паўтара мяшка. Самі галадаем. Рабіць, брат, трэба, не ленавацца. А то вы, ледзь што якое, адразу і торбы на шыю. Радзімовічы ніколі пад вокнамі не клянчылі.

Стары нічога не сказаў у адказ, толькі згорбіўся, ямчэй падцягнуў торбы на плячо, пакіраваўся з двара. Хлопчык таксама моўчкі рушыў за ім. Прахор ужо быў пайшоў пад паветку, як раптам стары прыпыніўся, сказаў, не азіраючыся, сухім слабым голасам:

— Як, кажаш, хвамілія твая?

— Навошта табе?

— Як хвамілія, пытаю?

— Ну, Радзімовіч... Прахор Ігнатаў...

Стары азірнуўся, павольна пайшоў назад, да Прахора. Падышоў, маршчыністай тонкай рукою доўга корпаўся ў сябе за пазухай, нешта там развязваў, шукаў. Нарэшце выцягнуў паперыну, складзеную ў салдацкі трохкутнік.

— Што гэта ты даеш мне? — здзівіўся Прахор.

Аўдоля падышла бліжэй.

— Цыдулька табе, калі ты Прахор Радзімовіч, гаспадар чмялёўскі...

— Ну і ну...— недаверліва хітануў галавою Прахор, але ўзяў паперыну. Усё яшчэ з недаверам ён пачаў яе круціць так і сяк і раптам паблякнеў, прыжмурыўшы вочы, пачаў чытаць. Чытаў ён доўга, марудліва, ледзь не варушачы ад напружання вушамі. І ўвесь гэты час усе стаялі моўчкі, чакалі ягоных слоў. Як быццам лёс іхні выраашалі тыя словы, што былі напісаны ў цыдульцы.

— Што там? — не вытрымала Аўдоля.

— Ды быццам Антон наш піша. Паранены ён ляжыць. Просіць, каб прыехаў па яго хто-небудзь,— Прахор разгублена зірнуў спачатку на жонку, потым на старога жабрака. Усё яшчэ з нейкім недаверам глядзеў ён на паперыну, якую камечыў у цёмных цяжкіх пальцах.

— Жывы Антонка?! — аж засвяцілася Аўдоля.— Дзякуй табе, царыца нябесная! Дзе ж ён? Куды яго раніла?

— Куды раніла, не магу сказаць. А ляжыць ён зараз у Вераб'ёўшчыне. Вёска такая ёсць сярод лесу, над самай Бярозай стаіць. Там і ляжыць ён у адной хаце, у гаспадара. Стогне. Мы там са Змітрыкам хадзілі. Ну ён і ўведаў, што на Ігуменшчыну пойдзем, перадаў цыдульку. Так што — атрымайце.

Голас у старога акрэп, пазванчэў. Ён бачыў, што навіна ягоная ўзрушыла людзей, узрадавала, і радаваўся сам. Малы таксама трохі пасмялеў, не хаваўся ўжо за дзеда.

— Я вас зараз пачастую, дзядзька,— Аўдоля борздзенька збегала ў хату, вынесла адтуль шклянку гарэлкі, кавалак хлеба з цыбулінай.— Выпіце за сына нашага, Антона. Яшчэ ад вялікадня каліва засталося.

— Во-во... Глыні...— лагодней глянуў на жабрака і Прахор.

Стары не спяшаючыся ўзяў шклянку ў левую руку, адтапырыў мезенец, перахрысціўся правай рукою, сказаў:

— Піце, жылы, пакуль жывы.

Потым, зноў-такі не спяшаючыся, узяў шклянку ў правую руку, заплюшчыў вока, выпіў адным глытком, зада-

волена крэкнуў. Усе глядзелі на яго, як на нейкага чараўніка, які ведае тайну, недаступную і незразумелую іншым. Ён жа перакочваў у бяззубым роце мякіш, казаў:

— Ехаць туды так трэба... Спачатку на Асіповічы трымай, а адтуль рачным берагам едзь, насустрач цячэнню. Вёрст праз трыццаць і будзе тая самая Вераб'ёўшчына. Сярод лесу стаіць.

Жабракі нарэшце пайшлі сваёй дарогай. А Прахор з Аўдоляю ўсё яшчэ стаялі пасярод двара, глядзелі на паперыну. Іхні сын, іхні малодшы сын, прасіў дапамогі. Недзе за бясконцымі лясамі, за непраходнымі балотамі ляжаў ён у чужой хаце, сярод чужых людзей. Хто перавязвае яму рану? Хто корміць, поіць? Адзін бог гэта ведае. Аўдоля, каб магла, зараз жа паляцела б у гэтую далёкую незнаёмую Вераб'ёўшчыну. За апошнія дні, пасля таго, як і дачка пайшла з хаты, так збалелася яе сэрца, сон ноччу не браў. Думала: дзе дзеці, што з імі? І вось — вестка ад Антона.

— Ну чаго ты стаіш, Прахор? — глянула яна на мужа. У гэты час яна забылася на тое, як ён яе біў, як зневажаў. Ён быў бацькам яе дзяцей, і ён павінен быў ёй дапамагчы, павінен быў, як мужчына, нешта зрабіць, нешта прыдумаць.— Чаго ты стаіш, Прахор?

Але Прахор не адказваў. Ён паклаў цыдульку ў шапку. Ён звычайна розную дробязь — паперу на закурку, трут з крэсівам — клаў у шапку і насіў з сабою на галаве.

Думаў Прахор, што нейкія няўдалыя выраслі ў яго дзеці. Не — каб сядзець дома на гаспадарцы, рабіць на зямлі, дык пайшлі ў белы свет і, пэўна ж, прападуць там. Кузьма — той ужо начальнік у бальшавікоў, з Бацютам Андрэем знюхаўся. І жаніўся не так, як добрыя людзі,— бабу з дзіцем узяў. Прыязджала з Мінска ягоная жоначка, сына забрала. Таксама нейкай начальніцай на фабрыцы ў горадзе была, аж пакуль германец не прыйшоў. Пра Дзіну Прахор наогул стараўся дужа не ўспамінаць. Гэта ж дадумацца — ад сватоў уцякла, вечную ганьбу на бацькоў навяла. Дрэнна, відаць, вучыў яе, як малой была. Трэба было лазовай кашы паболей даваць.

Апошняй надзеяй заставаўся Антон. Хлопец памяркоўны, ціхі. Апёкся, відаць, на з'ездзе ў Мінску, нехта ў дадатак падстрэліў, параніў, вось і ўспомнілася бацькава хата, дапамогі просіць. З гэтага яшчэ можа чалавек быць. «Прывязу дадому,— думаў Прахор,— вылечу, адкармлю, і разам будзем гаспадарку ладзіць. Нікому не аддам. Мой сын. Як людзі кажуць: адзін сын для бога, другі для цара, а трэці сабе падпорка. Антон на старасць падпоркай будзе».

З такімі думкамі ён глянуў на Аўдолю, сказаў:

— Трэба ехаць.

Назаўтра раніцай Прахор, захапіўшы з сабой кавалак сала і графін самагонкі, пайшоў у валасную ўправу прасіць у немцаў пропуск на дазвол выехаць з вёскі. Свой

пачастунак ён нёс у кошыку, каб лішне не кідацца людзям у вочы. Зверху паклаў свежай травы.

Шуцман Функ нават не стаў яго слухаць, адразу накіраваў у маёнтак да Шмарлоўскага. Сала ж узяў. Гарэлку панюхаў, грэбліва зморшчыўся і аддаў назад.

Давялося валачыся ў маёнтак. Адтуль парабкі Незабітоўскага гналі на пашу вялікі статак свіней. Чорныя беркшыры і белыя іяркшыры, сыта рохкаючы, узнялі жоўтае воблака пылу. Яно накрыла Прахора з галавой.

— Каб на вас воўк,— пляваўся Прахор і нагой, абутай у лапаць, біў графскіх свіней па мяккіх тлустых баках. Ён падышоў нарэшце да маёнтка і ўвесь час азіраўся — не дай бог Гаранок убачыць, узніме лямант з-за брычкі. Але Гаранок, на шчасце, не натрапіўся яму, а Шмарлоўскага ён знайшоў каля стайні — разам з адным са сваіх стражнікаў той надзяваў на кола фурманкі жалезную шыну.

— Што табе? — незадаволена буркнуў Шмарлоўскі.

— Трэба сына прывезці... Хворы ляжыць за Асіповічамі, каля Бярозы. Пропуск трэба.

— Дык ты б да Рэхлінга ці да Функа пайшоў. Яны ж — улада...

— Хадзіў я. Але гэты Функ сказаў, каб спачатку ў вас папрасіў. Вы, сказаў, як прадстаўнік Беларускай народнай рэспублікі, павінны добра ведаць усіх тутэйшых людзей і павінны падказваць германскай уладзе — каго можна пусціць, а каго не.

— Прадстаўнік,— сярдзіта хмыкнуў Шмарлоўскі.

Са стайні, спрачаючыся, выйшлі тры стражнікі. Яны вялі коней за аброці і, нібы нікога не заўважалі, апроч сябе, узбуджана гаварылі:

— Трэцяя статутная грамата — страшная памылка. Аддзяліць беларускі народ ад Расіі, ад рускіх... я нават не ведаю, што й сказаць. Гэта — здрада, подласць.

— Варонка * з сябрамі перастараўся. Народ плюне нам у вочы.

— І ўсё-ткі ёсць Беларуская народная рэспубліка.

— Фікцыя! Нам да народа далёка, як да Месяца.

— Ціха вы! — гаркнуў Шмарлоўскі.

Ён вырваў з блакнота аркуш паперы, напісаў на ёй, сказаў Прахору:

— Гэта аддасі шуцману Функу. Са свайго боку, я не пярэчу, каб ты з'ездзіў па сына. Але, як рашыць Функ ці Рэхлінг, так і будзе.

У валасной управе, забраўшы графін з самагонкай, Прахору далі пропуск на права выезду з Чмялёў. Яго адпускалі на пяць дзён. Там жа, ва ўправе, ён убачыў Яніну Міхейчык, якая выкладала з кошыка на стол Функа яйкі і каўбасу.

---

* Я. Варонка — адзін з лідэраў беларускіх буржуазных нацыяналістаў.

— А ты куды, дзеўка, збіраешся? — адразу ўсё зразумеў Прахор.

— Да цёткі, у Асіповічы. Дзядзечка, вазьміце мяне з сабою.

— Якая ж у цябе там цётка жыве? Нешта не прыпомню.

— Вулляна. Што за кульгавым Ахрэмам. Бацькава дваюрадная сястра.

— Дваюрадная, кажаш,— уважліва глянуў на Яніну Прахор.— Ну тады збірайся. Сёння ж і паедзем.

Яны выехалі апоўдні. Прахор добра змазаў колы, узяў новыя вожкі, новую супонь, напхаў у калёсы свежай мяккай травы. Яшчэ ён узяў коўдру, падушку, каб Антону, як будзе ехаць дадому, было на чым прылегчы.

Дзень быў хмарны, невясёлы. Трохі папырскаў дождж, прыбіў да дарогі пыл. Дзьмуў халаднаваты вецер. Ён прыносіў пах мокрай лугавой травы. Калі па грэблі пераязджалі Гразёўку, востра і п'янліва пахла тванню. Лаза ўздоўж дарогі расла кволая, рэдкая, скручаная ветрам. Трохі весялей зрабілася, калі ўехалі ў лес. Тут быў чуцен ціхі роўны гул. Елкі і бярозы стаялі шчыльнай сцяною, а высока ўверсе, над іхнімі зялёнымі галовамі, гуляў вецер. Пахла смалой, маладой квеценню суніц, вільготным чарнічнікам. Часам белы ці сіні лясны матылёк, як агеньчык, успыхваў у прагалах між дрэвамі і ляцеў у гушчар. Маладыя птушкі-падлёткі снавалі ў цяністайлясной траве.

Прахор, зручна ўладкаваўшыся ў фурманцы, зрэдку нязлосна махаў вожкамі, і тады Чумак, косячы на яго цёмным вялікім вокам, бег спарней, і кароценькі хвосцік-абрубак смешна матляўся. Яніна сядзела ззаду, з белай у сінія кветкі хусткай на галаве, у новай карычневай жакетцы. У руках яна трымала ладнаваты клунак. Маўчалі. Толькі глуха стукаліся колы аб карані дрэў ды чвякала вільготная зямля пад нагамі Чумака.

Прахор кіраваў канём і думаў пра Яніну: «Бач ты яе... Жыгаўка... Сядзіць, як у маці за сталом. З мужыком ехаць не пабаялася. А што, калі завярну каня ў лес ды залуплю спадніцу?»

Праз колькі часу ягоная думка пачынала рабіць шырэйшыя кругі, ён пачынаў думаць пра ўсіх маладых: «Дужа прыткія, смелыя... Нішто ім не ўказ. Ні бацькава папруга, ні нямецкая нагайка. І адкуль яны такія? Усё ведаюць. Усё чулі. А каня, бэйбус які-небудзь, добра запрэгчы не ўмее».

Раз-пораз крадком Прахор пазіраў на Яніну і быў упэўнены, што яна, хоць едуць яны па адным і тым жа лесе, бачыць зараз зусім іншы лес. І яму было крыўдна. Вялікая несправядлівасць была ў тым, што ён, мужыцкі сын, які век звекаваў за сахой у баразне, так, відаць, і не ўбачыць прасвету ў жыцці, а яны, зялепухі, будуць жыць спраўней, працаваць лягчэй, есці смачней.

Невясёлыя ягоныя думкі былі раптам спынены. На па-

варотцы, дзе дарога вузела і крута брала ўправа, з гушчару выйшаў чалавек. Падалося нават, што чалавек гэты загадзя быў тут, чакаў фурманку.

— Дзядзька, дай што-небудзь паесці,— нягучна сказаў чалавек і, ломячы кусты, лёгка скочыў на дарогу. Быў ён худы, абарваны, у руках трымаў вінтоўку.

— Ці не Сырамалот Мішка гэта? — адагнаўшы першы страх, пільна паглядзеў на яго Прахор.

— Сырамалот. Здароў, дзядзька Прахор. Здароў, Яніна,— Мішка падышоў зусім блізка. Чорная калючая барада, у якую ўблыталася ігліца. Твар цёмны, загарэлы, як жолуд. Вочы глядзяць насцярожана, з халоднай цвёрдасцю.

— Дай што-небудзь на зуб кінуць, дзядзька. Абясхлебіліся мы тут.

— Не дам,— ціха выдыхнуў Прахор.— Не дам... У мяне лішняга няма. І хто ты такі?

— Я? Бальшавік. За народ ваюю. За цябе, дзядзька.

— Ваюеш? — Прахор адчуў, як кроў цяжка падступае да вачэй і да вушэй. Голас перасекся, і ён сіпла сказаў: — Ідзі ў Чмялі і там у немцаў вазьмі хлеб. На ўсіх вашых хопіць там хлеба. А я не дам.

Па Мішкавым твары пайшлі плямы, бровы рэзка ўздрыгнулі, шчокі перасмыкнуліся. Ён мацней сціснуў вінтоўку з пабітай, падрапанай ложай, нахіліўся да Прахора — вочы ў вочы:

— Ты што, сваім не даеш? З кайзераўцамі знюхаўся? Ведаеш, хто ў лесе з голаду пухне разам з усімі? Дачка твая.

— Яна ўжо не дачка мне. Скажы, што пракляў я яе. І нагі яе не будзе ў маёй хаце.

— Няўжо так карцела з Гаранкамі-жываглотамі парадніцца?

— Маўчы, сысунок. Звёў дзеўку, затлуміў галаву. Разбіў жыццё дзеўцы дурной. А што ты ёй дасі? На мох пакладзеш спаць? Галадранцы вы ўсе. Рабіць не хочаце, па лясах туляецеся.

— Дзядзька! — Яніна, якая ўвесь гэты час сядзела моўчкі, кінулася між імі.— Не трэба! Свае ж людзі. Мішка, пачакай, я зараз дам табе што-небудзь... Вось хлеб... Сала... Цыбуля... І яшчэ будзем прыносіць вам у лес,— яна хуценька развязала свой клунак.

— Дзякуй, Яніна. Вазьму... У нас параненыя ёсць. А ты, гаранкоўскі папіхач,— сказаў Мішка Прахору,— запомні. Не сёння, заўтра паляціць германец з нашай зямлі да чортавай матары. Што тады рабіць будзеш? Як у вочы народу і Саветам глянеш?

Ён ускінуў на плячо рэмень вінтоўкі, прыціснуўшы да грудзей клунак, скочыў з дарогі ў лес, усміхнуўся адтуль Яніне. Зялёныя кусты сышліся за ім, шчыльна спляліся, і нібы не было Мішкі Сырамалота. Толькі вялікі след ад ягонага бота пакрысе заліваўся, заплываў рудаватай ляс-

ной вадой. Прахор паглядзеў на гэты след, на маўклівыя кусты, злосна сцебануў Чумака вожкамі.

Моўчкі яны даехалі ледзь не да самых Асіповічаў. Прахор сядзеў згорбіўшыся, панура глядзеў перад сабой. Сонца садзілася за лес. У нізінах пачынаў плаваць туман. Змаўкалі птушкі. Толькі драч усё часцей падаваў свой рэзкі скрыпучы голас, радаваўся, што хутка наступіць ноч.

На ўскраіне Асіповічаў іх спыніў нямецкі патруль. Немцы, усе доўгія, белатварыя, пакорпаліся ў траве, што ляжала ў фурманцы, з вясёлым смехам глянулі на Яніну. Потым адзін з іх пачаў выпрагаць Чумака. Прахора як ветрам змяло з фурманкі. Ён падбег да немца, схапіў яго за руку, залямантаваў:

— Пан, пан, што ты робіш?

Той адмахнуўся ад яго, як ад надакучлівай мухі. Лоўка зняў з Чумака хамут, паляпаў каня па цёмнай шыі, якая часта нервова ўздрыгвала.

— Ды што ж гэта такое? — слёзы бліснулі на Прахоравых вачах. Ён павярнуўся да астатніх немцаў: — Паны! Мой жа конь. Мой. Я ж прападу без яго.

Яму, смеючыся, растлумачылі, што конь ягоны рэквізаваны, паступае ў распараджэнне германскай арміі. Такі закон ваеннага часу. Усе павінны ўнесці свой уклад у перамогу над бальшавізмам. Але германская армія добра разумее душу земляроба, баўэра, і таму яму дадуць іншага каня, праўда, крыху старэйшага. Конь гэты з перамагаоснай арміяй кайзера Вільгельма прайшоў баявы шлях аж ад Варшавы.

Яму і сапраўды прывялі каня, жоўтага, вялікага, караткахвостага. У каня слязіліся вочы, ён ледзь ішоў, унурыўшы цяжкую галаву. Так-сяк ён яшчэ цягнуў ногі, але было такое адчуванне — як толькі спыніцца, адразу ўпадзе.

Прахор, хліпаючы носам, з нянавісцю паглядзеў на новага каня, на немцаў, якія за аброць павялі Чумака па вуліцы. Такі адчай быў на душы, што яму на імгненне аж пераняло дыханне. Палову жыцця забралі ў яго разам з канём, палову сэрца. Марудна, вельмі марудна ўзняў Прахор руку з пугай, быццам рука была нежывая, шлёгнуў па жоўтым азадку:

— Но, Вільгельм...

Адразу імя каню прыдумаў.

У Асіповічах спыніліся ў хаце Ёсіпа Шырокакапытага. Разам з Прахорам Ёсіп калісьці ў Свіслачы вучыўся на краўца ў Хаіма Ашаровіча. Але не вытрымаў галоднага сумнага жыцця і збег, так, як збег і Прахор. Зараз ён працаваў грузчыкам на чыгунцы, жыў у невялікай, але даволі яшчэ моцнай хатцы на самым беразе Бярозы. Шырокакапыты ветліва, нават, здавалася, з радасцю сустрэў гасцей. Быў ён у шэрай рабочай спяцоўцы, запыленай мукой, соллю, пяском, словам, усім тым, што на цягніках немцы везлі праз Асіповічы.

— Зараз усё на захад едзе, братка. У Нямеччыну,— сказаў ён Прахору, калі яны ўжо трохі выпілі і сядзелі за сталом. Яніна перад гэтым, развітаўшыся, пайшла шукаць сваю цётку.

— Назад я сама буду як-небудзь дабірацца,— сказала яна Прахору.

— Усё цягне немец. Як барсук у сваю нару,— гаварыў Есіп, і шчокі ягоныя чырванелі ад выпітага, а нос, наадварот, сінеў.— У цябе каня, кажаш, забралі. Добра, што галаву пакінулі на плячах. Ці ты адзін такі? Усё валакуць. Дровы, вугаль, лён, нават ручкі ад дзвярэй... Чыста падмятаюць. Скора мухам і тым не будзе што есці. Грабяць наш край...

— Што мне край! У мяне аднаго каня царскія ўзялі, а гэтага вось немцы,— сказаў, уталопіўшыся паглядам у стол, Прахор.

Але Есіп не пачуў. Ен, калі пачынаў гаварыць, слухаў толькі сябе.

— Учора, братка, пайшоў на станцыю. Думаў, работа мо якая перападзе. Скулу ў бок. Іхнія салдаты ўсё грузяць. Іду па таварнай, бачу — платформы стаяць. І што, ты думаеш, на платформах тых? Зямля. Чарназём з Украіны. Нават зямлю нашу сабе вязуць. Ратавацца трэба, брат.

— Як жа ратавацца? — глянуў на яго Прахор.

— Трэба сілай на сілу ісці. Даваць германца трэба.

— Іч ты, герой,— Прахор, гаворачы, успамінаў свайго Чумака, і душу апякаў смутак.— У іх гарматы, стрэльбы. Усё. А што ў цябе? Язык? Дык доўгі язык хутка могуць падкараціць. Я думаю ціха сядзець. Само, дасць бог, павінна ўсё ўладкавацца. Мінулым летам у нас у Чмялях мор нейкі на яблыні напаў. Чарвячок такі зялёны, вусаценькі. І лісце, і голле еў. Аж сады калаціліся. Поўз па дрэвах саранча саранчою. Што ні рабілі — не дапамагала. А сёлета, дзякаваць богу, ніводнага нават на расплод няма. Сам згінуў.

— О-ё-ёй! Чакай Пятра — з'ясі сыру. Ды ты што — сляпы? Не бачыш, куды дзела йдзе? Народ узнімаецца на германца, як супроць таго Напалеона.

— Ведаеш што,— сказаў Шырокакапытаму Прахор,— не вучы вучонага. Я сям'ю сваю хачу сабраць. Пажыць хачу, як людзі.

Ен пераспаў у Шырокакапытага, раніцой, ледзь развіднела, выбраўся ў дарогу. Развітаўся з гаспадаром суха. Думалася: «І гэты вучыць. Усе грамацеямі парабіліся». Але Шырокакапыты быццам не заўважыў нічога. Даў яму на дарогу пляшку гарэлкі.

Як толькі Вільгельм выехаў на вузкую травяністую вуліцу, Прахор убачыў таго, каго сёння не спадзяваўся ўбачыць,— Яніну Міхейчык. Яна, стараючыся надта не глядзець у вочы, падышла да фурманкі:

— Дзядзечка, вазьміце і мяне з сабою.

Прахор аж шапку ссунуў на патыліцу:

— А як жа цётка твая? Была ты ў яе?

Яніна зачырванелася, як мак, апусціла галаву.

— Няма ў мяне тут цёткі. Я Антона хачу пабачыць вашага.

— Ну і дзялы. Ну і свет. Дзе ж ты начавала?

— Я тут блізка хадзіла, дзядзька. Зірну — конь ваш яшчэ стаіць — і зноў хаджу.

Прахор глядзеў на яе, і розныя думкі віхурыліся ў галаве. І шкода рабілася яму дзеўку, і падабалася нешта ў ёй. Гэта ж цэлую ноч блукаць па вуліцы. Ён на імгненне нібы ўбачыў, якая студзёная была ноч, якая халодная белая раса блішчала на платах, на лавачках, на траве.

— А немцы ноччу не хадзілі? — хітра прыжмурваючы вочы, спытаўся Прахор.

— Хадзілі. Чацвёра. Я, як убачыла, у гэты вось двор захінулася.

— Ну і свет,— нацягнуў вожкі Прахор.— Што ж — сядай. Паедзем да гэтай самай Вераб'ёўшчыны.

Ён махнуў вожкамі, але на Вільгельма гэта мала падзейнічала. Конь, як сонны, паплёўся па вуліцы і адразу ж зайшоў у глыбачэзную лужыну, аж вада забурліла ледзь не пад самымі нагамі ў седакоў. Яніна падкурчыла ногі, абцягнула на каленях спадніцу, моўчкі глядзела перад сабой. У гэты час яна была падобная на бабульку. Цёмная вопратка, вузялок у руках, твар нерухомы, бледны і строгі.

Выехалі за Асіповічы. Сонца ўставала з-за лесу, і ўсё наўкола святлела, ажывала. На лузе, на мокрых кветках, на нізкіх зблытаных ветрам ракітах блішчала раса. Над жоўтай пясчанай дарогаю нібы віўся дымок. Гэта сонца высушвала начную вільгаць. Жаўранак затрапятаўся над дарогай. Людзі бачылі яшчэ толькі кавалачак сонца, толькі ярка-чырвоную, вішнёвую палоску, а ён адтуль, зверху, бачыў ужо гарачы малінавы шар і вітаў яго і дзяліўся сваёй радасцю з людзьмі.

Ехалі па заліўных лугах. Вясною тут бушавала Бяроза. Абапал дарогі сохла рознае ламачча, што прыцягнула сюды паводка: выдзертыя з коранем кусты, чорнае сатлелае бярвенне, трэскі, гурбачкі гнілой травы. Журботнасцю веяла ад усяго гэтага.

— Бач, вунь бусліны кірмаш збіраецца,— рукою з пугаўём паказаў Прахор.

Яніна глянула ў той бок і ўбачыла мноства буслоў — штук пяцьдзесят, што нетаропка, паважна хадзілі ў балоце. Яшчэ яна каля самай дарогі ўбачыла вужа, бліскучага, карычнева-жоўтага. Пэўна, грэўся на сонцы, задрамаў, а тут побач затупаў конь. Вуж, звіваючыся ўсім сваім моцным целам, крутнуўся ў траве — трава закалыхалася — і папоўз у травяны вільготны гушчар.

— Дык, значыцца, маёй нявесткай хочаш стаць? — спытаўся раптам Прахор.

Яніна ўздрыгнула. Гэтае пытанне, нечаканае, рэзкае,

як шчаўчок пугі, застала яе знянацку. Яна адчула, як адразу наліліся гарачай чырванню шчокі і вушы. Ёй здалося нават, што ўся яна пачырванела, ад ног да галавы. А Прахор, смаркануўшы, выцер рукавом вусы, паглядзеў на яе строга, з халоднай цікаўнасцю.

Уехалі ў бярозавы гаёк. Шмат пнёў, чорных, высокіх, з вострымі доўгімі языкамі зломаў па краях, тырчала наўкола. Відно было, што seклі дрэвы спяшаючыся, абы-як. На гонкай, з рэдкім голлем бярэзіне ўбачыла Яніна гняздо нейкай птушкі — жоўта-белы лёгкі шарык з пер'я і саломы. Гняздо, ушчэмленае між бярозавых сукоў, калыхалася ў сінім небе над самай дарогай.

«Які сярдзіты, які непрыгожы Антонаў бацька»,— думала яна, крайком вока пазіраючы на Прахора. Яна бачыла шырокую, нейкую расплюшчаную спіну ў шэрай бруднай світцы. З гэтай світкі нібы вырастала шыя, тонкая, жоўтая, уся ў глыбокіх разорах-маршчынах, быццам ручайкі па ёй беглі. Галава была вялікая — пра такую людзі кажуць «як цэбар»,— а шыя тонкая. Каўнер світкі і канчыкі валасоў на патыліцы былі засыпаны самяшынай.

«У майго Антона і такі бацька...» Яніна заплюшчыла вочы, адразу ўбачыла Антона. Ён выплыў з чырванаватага блакіту, усміхнуўся ёй, бледны, худы, сінявокі. Колькі ж яна не бачыла яго? Аж з той пары, як на каленях стаялі яны на заснежанай лясной паляне, кляліся адно аднаму, а побач трашчала, паміралa на снезе цяпельца. Які зараз Антон? Можа забыўся пра тую паляну, пра тыя словы? Можа зірне на яе і адвернецца? А яна ж кожны дзень, кожную ноч думае толькі пра яго, успамінае ягоную ўсмешку, рукі, твар, паходку. Як прыйшлі ў Чмялі старцы, як сказалі, дзе Антон і што з ім, адразу наважыла сама сабе — жывая не буду, а ўбачу свайго Антона. Пешшу пайду ў тую Вераб'ёўшчыну.

— Гарачыня,— шумна ўздыхнуў Прахор і зняў шапку. Яніна нібы прачнулася, нібы вынырнула з мяккай блакітнай вады — азірнулася наўкола. Сапраўды, дзень разгараўся спякотны. Трава была ўжо сухая, без расы; кветкі ніжэй згіналі свае галоўкі; стракозы лёталі блакітнымі іскрамі; конікі, як шалёныя, заскакалі ў лузе, радуючыся гарачыні і сонцу. Удалечыні, над рэчкай, закалыхалася, заструменілася фіялетава-дымнае мроіва.

Прахор пад'ехаў да рэчкі. Пад вялізным альховым кустом, ад якога яшчэ клаўся невялічкі астравок ценю, распрог Вільгельма, спутаў яго. Сказаў Яніне:

— Аддышку зробім. Халодненькай вадой апаласнуцца трэба.

Ён скінуў цяжкія запыленыя боты, размотаў анучы і павесіў на куст. Пакратаў самлелымі пальцамі ног, трохі счакаў і зняў верхнюю і споднюю кашулі. Пасля пайшоў да вады, на мяльчак. Рака абхапіла босыя ногі, сціснула іх калючым холадам — ён аж заплюшчыў вочы. Потым, калі цела прывыкла да холаду, узяў поўныя прыгаршчы

вады, шумна плёхнуў сабе на твар. Печкуры тыцкаліся яму ў ногі мяккімі галоўкамі, спалохана разбягаліся ў бакі. Дно было пясчанае, роўнае. Ён убачыў, што з жоўтага пяску тырчыць шмат ракавін-прудавікоў, нахіліўся, выцягнуў адну ракавіну, разламаў. Унутры варушылася нешта вадзяніста-чырвонае, слізкае.

Рака тачыла пясчаны бераг, усхліпвала ў асацэ. Часам набягаў ветрык, і паверхня вады збіралася ў зморшчыны. Рака нібы старэла, нібы пакрывалася гусінай скурай.

Прахор азірнуўся: дзе ж Яніна? Яе не было відаць, пэўна, адышлася куды ўбок. Потым ужо, калі Прахор вылез з вады і размінаў у руках скручаныя спёкай анучы, ён убачыў яе. Захінуўшыся ў затоку, абкружаную густымі разлапістымі кустамі і высокай, па пояс, травой, яна плавала і потым, калі выйшла на бераг, ён убачыў: у яе пругкае і смуглае цела.

Калі паехалі далей, над зямлёй пачала ляніва ўздымацца, выпаўзаць на ўсю шыр спякотнага неба вялізная сіняя хмара. У хмары быў тупы доўгі рог. Здавалася, гэтым рогам, як плугам, арэ яна неба. Змаўкалі птушкі, цішэй скакалі конікі ў траве. Наваколле трывожна заціхала. Вось першая маланка пакуль што нясмела палыхнула над зямлёй. Нават марудлівы Вільгельм адчуў, што неўзабаве павінна нешта змяніцца ў прыродзе. Ён пабег трушком, шумна нюхаючы паветра, палахліва азіраючыся па баках.

Наляцеў вецер, ужо не гарачы, а халодны. Ён пах лёдам.

— Няўжо град нагоніць? — зірнуў на неба, перахрысціўся Прахор. Яніне зрабілася страшна. Калі ёй было гадоў дзесяць, таксама ўдарыў з неба град. Плакалі жанчыны, звінелі разбітыя шыбы, а іхні певень, чорны, з доўгімі касцянымі шпорамі на нагах, ляжаў пасярод двара мёртвы. Яго забіла градзінай.

Раптам усё заціхла, як бы знямела, потым уверсе, у небе, пачуўся густы шум, гул. Нешта цяжкое і няўмольнае падала адтуль на зямлю. Яніна заплюшчыла вочы, сцялася ў камяк, сашчапіла рукі.

Нарэшце дабраліся да лесу. Град скончыўся, глуха шумеў дождж у вершалінах дрэў. Прахор загнаў фурманку пад старую тоўстую елку. Ніжнія сукі елкі ўжо адмерлі, былі сухія.

Назбіралі сухога ламачча, і Прахор расклаў цяпельца. Потым падсунуўся бліжэй да цяпельца, развязаў торбу, дастаў з яе бутэльку, што даў на дарогу Есіп Шыракапыты.

— Вып'ем, дзеўка, сагрэемся,— глянуў на Яніну.

— Піце, дзядзька. Я не буду,— Яніна адшчыкнула сабе кавалачак хлеба, падкурчыўшы ногі, села на фурманку, на сена. Шклянкі не было, і Прахор пачаў піць з рыльца. Піў, адкінуўшы галаву, задраўшы ўверх рэдкую бараду.

Яніна, захінуўшыся ў сена, глядзела ў цемрадзь лесу.

Глуха было і страшна. Лес, без сонца, без птушыных галасоў, зрабіўся нейкі чужы, зацяты. Быў ён стары: елкі абраслі доўгім зялёным мохам, бярозы стаялі крывабокія, з чорна-белай патрэсканай карою. Непадалёку Яніна ўбачыла вялікі мурашнік. Ён быццам вымер, але яна падумала, што пад мокрай жоўтай ігліцай, за дзірачкамі-хадамі, што зачынены на час дажджу, кіпіць зараз мурашынае незразумелае жыццё. А можа ў іх, мурашак, болей парадку, чым у людзей? У іх жа ўсе робяць, няма гультаёў, няма злыдняў. Яна зноў успомніла Антона. Хутчэй бы сустрэцца з ім, глянуць у вочы. Яна ведае: ён лепшы за ўсіх, ён адзін яе зразумее, ён будзе ўдзячны ёй за гэту доўгую цяжкую дарогу, за гэты град і дождж, за цёмны страшны лес, за ўсё, што яна сцерпіць дзеля іхняй сустрэчы.

Яна сядзела ў нейкім салодкім утрапенні. Лес шумеў, галіны варушыліся над галавою, як жывыя, цяпельца расякала змрок вострым чырвоным крылом.

І раптам Прахор паклаў ёй руку на плячо. Яна ўздрыгнула, убачыла бліскучыя п'яныя вочы, рэзка адхіснулася. Але ён усім целам памкнуўся за ёю, зашаптаў:

— Лес кругом... Ніхто не ўбача... Нявесткай будзеш...

Яніна, нібы лінулі на цела кіпетнем, саскочыла з фурманкі, схапіла пугу:

— Вы што, дзядзька? Што вы надумаліся? Грэх вам! Ды адчапіся, пёс стары!

І шлёгнула пугай па чырвоным твары, што ўсё набліжаўся, наплываў на яе. Прахор схапіўся рукою за шчаку, скрывіўся і раптам скокнуў уперад, наваліўся на яе, цяжкі, маўклівы.

## III

За некалькі месяцаў 1917 і 1918 гадоў у цэнтральных раёнах Беларусі шмат разоў мянялася ўлада. Усё пачалося з Мікалая II, Мікалая Крывавага, які хоць і адсвяткаваў 300-годдзе сваёй дынастыі, але не змог утрымацца на троне. Потым быў Часовы ўрад, князь Львоў з адвакатам Керанскім. Бальшавікі ўскалыхнулі ўсё, працерабілі дарогу ў цемры. Але і ў іх напачатку не хапіла сіл. Загарцаваў па беларускіх вёсках Доўбар-Мусніцкі са сваімі легіянерамі, вучыў сялян пакорнасці штыком і нагайкай. І вось прыйшлі немцы.

Гэтыя збіраліся асесці тут навечна. Парушыўшы брэстлітоўскае перамір'е, германскія войскі захапілі амаль усю Беларусь, выйшлі на лінію Расоны — Полацк — Орша — Жлобін.

У Мінску захацеў «арганізавацца і быць, як сам пажадае» Народны сакратарыят Беларусі. І хоць у яго было ўлады, як лёду летам, ён абвясціў аб стварэнні Беларускай народнай рэспублікі і праз Кіеўскую радыёстанцыю звярнуўся да ўсіх урадаў Еўропы з просьбай аб дыпламатычным прызнанні. Але Еўропа не спяшалася прызнаць новы

урад, які быў без дзяржавы, без народа і ўмеў толькі адно: у струнку стаяць перад нямецкімі генераламі.

Вось што адбывалася ў той час на Беларусі. Але мы звузім поле свайго зроку. Зойдзем у тую самую вёсачку, па якой Кузьма Радзімовіч нёс на руках свайго параненага брата Антона. Кроў капала ў Кузьмы між пальцаў, а ён крычаў:

— Санітары! Дзе санітары?

З чорнага смуродлівага дыму вынырнула санітарная фурманка. Гэта былі звычайныя сялянскія калёсы, над якімі быў нацягнуты палатняны будан, падобны на той, у якіх вандруюць цыганы. На палатне быў намаляваны вялізны чырвоны крыж. Кіраваў фурманкай пажылы сухі чалавечак у акулярах, побач сядзела маладая чорнавалосая санітарка з папяросай у зубах.

— Артур Арцёмавіч, спыніцеся! — закрычала санітарка.— Яшчэ аднаго нясуць.

Яна лоўка саскочыла с саломы, узяла Антона пад пахі, разам з Кузьмой паклала яго на фурманку. Там ужо ляжаў паранены матрос, мацюкаўся ад болю.

— Гэта мой брат,— задыхаючыся, сказаў Кузьма і ўмольна паглядзеў на чалавека ў акулярах і на санітарку.— Вылечыце яго, таварышы... Адзін у мяне ўсяго брат.

— Мы не лечым, мы возім да доктара,— Артур Арцёмавіч спалохана пазіраў, як каля спаленай хаты гарэла ліпа.— У лазарэт павязём твайго брацікa. Куды яго стукнула? У жывот! Цяжкая рана. Піць не даваў яму? Не? Правільна. Паехалі хутчэй, Шура.

Фурманка пабегла, закалацілася па вуліцы. Матрос замацюкаўся мацней.

— Ну ты, мора. Хіба не можна без лаянкі? — строга сказала Шура.

— Як вылаюся, здаецца, лягчэй робіцца,— цераз сілу ўсміхнуўся матрос.

На пабялелым ілбе густа выступіў пот.

— Усе вы героі да першай раны, а ледзь зачэпіць вас — маму ўспамінаеце.

Шура нахілілася над Антонам, уважліва паглядзела яму ў твар:

— Прыгожы хлопчык. Сохне па ім недзе нейкая. Я б такога пакахала.

— А ты мяне пакахай,— лэпнуў яе рукой па плячы матрос.

— За што цябе кахаць, мора? Лаяцца прыгожа ўмееш, і ўсё. Глядзі, прывязём цябе ў лазарэт, а доктар усё каханне табе і адрэжа.

— Шурачка,— дакорліва паглядзеў на санітарку Артур Арцёмавіч.— Вы такая слаўная, добрая. Але вашы жарты...

— Эх, Артур Арцёмавіч. І што вы разумееце? — уздыхнула Шура.— Як жа мне загадаеце гаварыць? Вершыкі чытаць? Кроў вакол, смерць...

Санітарная фурманка пад'ехала да вялікага гумна, у якім размяшчаўся лятучы лазарэт. Проста на саломе ляжала тут некалькі дзесяткаў параненых. Густа пахла ёдам. Доктар, высокі, чырванатвары, у брудным белым халаце з закасанымі рукавамі, хадзіў па саломе, нахіляўся над параненымі, часам нешта гаварыў санітарам, і тыя насілі параненых у палатку, што была нацягнута пасярод гумна. Там быў аперацыйны стол, адтуль чуліся стогны і крыкі. Антона адразу панеслі ў палатку, і апошняе, што ён запомніў, былі вочы доктара — вялікія, зялёныя, з жоўтымі крапінкамі вакол зрэнкаў.

Апрытомнеў ён ад адчування вострай небяспекі. Гарэла гумно. Зверху, са страхі, ліліся, падалі струмені агню. Агонь быў белы, мяккі, здавалася, бяскрыўдны, як сонечны зайчык. Стогн пайшоў па гумне. Хто як мог, скачучы на адной назе, паўзучы, куляючыся, усе рынуліся на выхад. Цяжкапараненыя не маглі рухацца, у роспачы клікалі санітараў, сяброў, а полымя тым часам з усіх бакоў падпаўзала да іх.

Антон таксама хацеў ускочыць на ногі, адштурхнуўся ад зямлі рукамі, але нажом паласнулі па жываце.

— Шура! — крыкнуў ён. Адзінае імя прыйшло яму на вусны ў гэты час. Слабы голас згубіўся сярод крыкаў, стогнаў, праклёнаў, шуму полымя. У гумно ўвабег доктар, узняў руку:

— Таварышы, без панікі! У першую чаргу выносім цяжкапараненых!

Санітары замітусіліся з насілкамі.

— Шура! — зноў крыкнуў Антон. Закашляўся ад дыму і заплакаў. Над галавой, абвітая полымем, гарэла кроква.

Шура знайшла яго, калі ён ужо заходзіўся ад дыму. Не было побач ні санітараў, ні насілак, і яна, закусіўшы губу, ухапіла Антона за ногі, пацягнула з гумна.

— Цярпі, цярпі родненькі,— прасіла яна.— Хіба ж можна гарэць жывому? Цярпі...

Ад болю ў Антона слёзы цяклі па шчоках. Ён стукаўся галавою аб зямлю, калючая салома ўпівалася ў шыю.

— Цярпі,— абліваючыся потам, гаварыла Шура і цягнула яго за ногі.

На вуліцы Антон поўным ротам удыхнуў, як адкусіў, свежага паветра і страціў прытомнасць.

Ён прыйшоў у сябе і ўбачыў над галавой начное зорнае неба. Яно рухалася, плыло, і Антон спачатку здзівіўся. Але хутка зразумеў: гэта не неба плыве, гэта яго, Антона, некуды на нечым вязуць. Ён памацаў вакол сябе рукою і наткнуўся ў цемры на чалавека, што ляжаў побач.

— Ачухаўся,— весела сказаў чалавек,— а мы ўжо думалі, капец табе будзе. Сем дзён ляжыш, як мярцвяк. Толькі што дыхаеш. Шура! — паклікаў чалавек,— бяжы сюды — твой хрэснік прачнуўся.

Шура прыбегла аднекуль з цемры, ціха засмяялася,

нахіліўшыся, паклала халодную далонь Антону на лоб. Ён бачыў толькі яе вочы. Яму зрабілася раптам так хораша, так добра, нібы ў родную хату вярнуўся.

— Як цябе завуць, хрэснічак? — спыталася Шура.

— Антон я.

— А я Шура Аўлукова. З Віцебска, з Маркаўшчыны. І Артур Арцёмавіч віцебскі. Жолуд яго прозвішча.

— Маё прозвішча Радзімовіч,— сказаў Антон.

Яму было прыемна слухаць Шурын трошкі хрыплаваты голас. Ён успомніў, як яна выцягвала яго з агню, як пасмы чорных валасоў выбіваліся з-пад сіняй хусткі. Нікога і нічога не хацелася ўспамінаць — ні Гайкевіча, ні Скальскага, ні бясконцага зімовага шляху да Бабруйска, а гэта ўспаміналася — гумно, траскучае полымя, прыгожы дзявочы твар.

— Да цябе брат прыбягаў,— Шура ішла побач з фурманкай, не ўбіраючы далонь з Антонавага лба.— Пагаварыць хацеў. Баяўся, што ты памрэш. А мы і праўду думалі, што ты памрэш. Зжаўцеў увесь быў, як воск.

— А дзе цяпер Кузьма? — спытаўся Антон.

— Які Кузьма?

— Мой брат, што прыбягаў.

— А-а... Не ведаю. Размінуліся, відаць мы. Наш лазарэт адстаў.

— Куды ж мы едзем?

— Адступаем. На ўсход едзем. На Оршу, на Смаленск.

— Германец прэ, з усіх бакоў абыходзіць, вось і чэшам на ўсход,— загаварыў з цемры параненны, што ляжаў побач, і Антону раптам падалося, што ён ужо чуў недзе гэты голас.

— Ты матрос? — крануў ён рукою суседа.

— Матрос,— весела азваўся той,— Максім Ярчак з Віленскай губерні. Духоніна мы ў Магілёве стукнулі. Быў я там з атрадам Крыленкі, ды падстрэлілі мяне. Вось і адбіўся ад сваіх. А ты з чырвонагвардзейцаў?

Сваім пытаннем ён збянтэжыў Антона. Як адказаць? Расказаць, як было ўсё на самай справе, расказаць пра легіянераў, пра Гайкевіча? Але ж тады, можа здарыцца, ён зробіцца ворагам і матросу, і Шуры Аўлуковай, і Артуру Арцёмавічу. А быць іхнім ворагам яму не хацелася.

— Ты, пытаю, з чырвонагвардзейцаў? — зноў паўтарыў пытанне Ярчак.

— З чырвонагвардзейцаў, з каго ж,— за Антона адказала Шура.

І такім упэўненым быў яе голас, што матрос замоўк.

...Другі месяц кружыліся яны па лясных дарогах у тыле германскіх войск. Санітарны абоз марудна цягнуўся праз глухую цёмную ноч, і не было канца дарозе. Шура то бегла некуды ўперад калоны, то вярталася назад, і Антон сярод натужнага рыпення колаў, сярод стуку конскіх капытоў распазнаваў яе лёгкія крокі. Па паху ветру Антон адгадваў, дзе яны зараз едуць — лесам ці ў полі. Часам

церусіўся дожджык, і хоць яны з Ярчаком ляжалі пад палатняным полагам, халодныя кроплі падалі на твар. Значыць, ужо вясна, а ў яго, Антона, Скальскі стрэліў зімою.

Ён адчуваў, як уваскрашаецца ўся ягоная істота, наліваецца сілай. Цела крэпла, рабілася паслухмяным, пругкім. Сум прыходзіў радзей і нядоўга грыз сэрца. «Жыву,— думаў Антон.— Яшчэ доўга буду жыць...»

Праз колькі дзён спыніліся на начлег у вёсачцы, што прытулілася да самага лесу. Распрэглі коней, параненых перанеслі ў хаты. Антон, абапіраючыся на Шуру, сышоў з фурманкі. Плячо ў Шуры было мяккае і гарачае.

— Асцярожна... Во сюды, сюды ступай,— ціха даносіўся яе голас і столькі было ў ім клопату і ласкі, што Антон, як малы хлапчук, якога вядуць за руку, падпарадкоўваўся кожнаму слову.

Усіх параненых, каго толькі можна было, доктар пагнаў у лазню. Лазня стаяла на самым беразе вялікай сажалкі, і некаторыя лёгкапараненыя, памыўшыся, пахвастаўшы цела венікамі, плюхаліся ў чыстую халодную ваду.

Антон мыўся з Ярчаком, з Артурам Арцёмавічам і яшчэ з двума байцамі з аховы. Кружылася галава, густая пякучая пара абпальвала губы і ноздры, а з палка, з белага гарачага туману, чуўся крэкт, свіст распараных венікаў, даносіліся хрыпучыя вясёлыя словы:

— Хто там бліжэй да дзежкі з вадою? Вазьмі, братка, кубак, плясні яшчэ трохі вады на каменне... Духу малавата.

Антон браў гарачы кубак, чэрпаў з дзежкі ваду, і — шы-ы-ых!— ляцеў светлы струмень на чырвонае каменне. Адразу пругкая вогненная хваля ўдарала ў грудзі, у твар.

— У-ух! Добра-а! — весела кракталі ўверсе, на палку. І там пачыналі дружна працаваць венікамі.

Апалоскваліся ў сажалцы. Антон стаяў на беразе, чэрпаў ваду далонямі, ліў на галаву. Непадалёку быццам сом хвастом плюхнуў — вынырнуў з вады Максім Ярчак. Ён адгарнуў мокры чуб з ілба загарэлай далонню. Цела было цёмна-жоўтае ад загару, прыгожае.

— Што гэта ў цябе на грудзях, матрос? — пацікавіўся Антон.

— Гэта? — Ярчак весела стукнуў кулаком сабе ў грудзі.— Чытаць умееш? Чытай.

Ён, разграбаючы ваду рукамі, падышоў да Антона. На ягоных грудзях вялікімі сінімі літарамі была выкалата татуіроўка, тры словы — «Уся ўлада Саветам!».

— Ну і матросік,— падышлі да Ярчака ўсе, хто абмываўся ў сажалцы.— Дадумаўся ж...

— Увесь наш флоцкі экіпаж зрабіў такое,— горда казаў Ярчак.— Клятву далі матросы: пакуль не ачысцім усю зямлю ад контры, не супакоімся.

Ён стаяў пасярэдзіне голага натоўпу, у вадзе, якую ружовіла вечаровае сонца, высокі, зграбны, прыгожы, і да яго падыходзілі, ляпалі яго па плячы: — Герой-матрос...

Адразу пасля лазні, на беразе сажалкі, пры святле вогнішчаў доктар сабраў усіх і сказаў, што распускае абоз, што далей няма ніякай магчымасці хавацца ад германскіх войск, што няма болей ні медыкаментаў, ні прадуктаў, і ён здымае з сябе абавязкі начальніка. У доктара быў шэры змучаны твар. Ён бяссільна махнуў рукою, сеў на фурманку, апусціўшы галаву.

— Вы што: захацелі нас усіх немцу аддаць? — парывіста падышла да яго Шура.— Столькі ісці, столькі намучыцца... Барыс Аляксеевіч, я вас не разумею.

— Што разумець? Вы ж бачыце, Шурачка, якая абстаноўка. Нам лепш будзе разысціся хто куды.

— А параненыя? Тыя, што не могуць ісці...

— Іх мы пакінем у вёсках. Падлечацца, перачакаюць. Зразумейце, у нас няма іншага выйсця.

— Ды ён германцам прадаўся,— тонкім пранізлівым голасам закрычаў раптам маладзенькі салдат, што з перавязанай галавою ляжаў непадалёку ў фурманцы.

Доктар уздрыгнуў, узняў галаву. Сашчэпленыя на каленях рукі калаціліся.

— За колькі цябе купілі?!

— Германскіх рабоў з нас хочаш зрабіць?!

— Біце яго, хлопцы!

Параненыя, усе, хто мог стаяць на нагах, абкружылі доктара, пагрозліва ўзнялі ўгору кулакі і мыліцы.

— Расстраляйце мяне, але я не магу,— ціха сказаў доктар.— Я не магу болей, таварышы...

Ён раптам істэрычна ўсхліпнуў, ірвануў на грудзях белы халат. І Антону стала шкада доктара. Успомніўся хлеў, у якім гуло полымя, доктаравы рукі, вялікія, як бы сялянскія, з чырвонай абсiверанай скурай, з шырокімі пазногцямі на моцных тоўстых пальцах. Дзе ж удзячнасць ва ўсіх гэтых людзей? Доктар жа іх, можна сказаць, з таго свету выцягнуў.

— Не чапайце доктара,— стаў побач з ім Антон.

Адразу зрабілася горача, як і заўсёды, калі небяспека была побач. Ён гаварыў, гледзячы на ўзбуджаны рашучы натоўп.

— За дабро дабром плаціць трэба. А вы забыліся... Нам цяжка, а доктару яшчэ цяжэй. Ён адзін, а нас шмат. Не трэба крыўдзіць доктара. Успомніце, як ён лячыў нас.

Убачыў здзіўлена-радасныя вочы Шуры, убачыў, як, расштурхоўваючы людзей, ідзе да яго Ярчак.

— Што гэта за новы поп аб'явіўся? — аж прыўзняўся з фурманкі той самы салдацік з забінтаванай галавой.

Натоўп яшчэ шчыльней абступіў доктара з Антонам.

— Правакатар ён, хлопцы,— упэўнена абвясціў высокі васпаваты салдат.— Як піць даць, правакатар. Чаму ён не ў шынялі? Цывільнае на сябе нацягнуў... Хаваецца... Ад каго хаваешся? — упіўся ён сваімі жалезнымі пальцамі Антону ў плячук.

Доктар глянуў на Антона, сказаў:

— Дзякую, малады чалавек. Але вам не варта з-за мяне падстаўляць сваю галаву. Я сам...

У гэты час падышоў Ярчак, злосна глянуў на доктара, перавёў пагляд на Антона, потым павярнуўся да натоўпу:

— Таварышы! Цішэй, таварышы. Няма чаго доўга думаць — адна ў нас дарога. На Оршу. Да сваіх. Мы — чырвоныя салдаты, і калі якая-небудзь буржуйская душа,— ён чорнымі вачамі ўпіўся ў збялелы доктараў твар,— думае стаць нам на дарозе, перагарадзіць нам гэтую дарогу, мы выкінем буржуйскую душу за борт нашага чырвонага карабля. Як сваіх афіцэраў кідалі ў семнаццатым. Заяўляю вам гэта як баявы член слаўнай Расійскай партыі бальшавікоў.

— Я застаюся,— ціха сказаў доктар і, не гледзячы ні на кога, борздзенька пайшоў да сваёй фурманкі.

— А ты жаласлівы,— улучыўшы хвіліну, сказала Антону Шура і глянула на яго ласкава і прасветлена.— Душа ў цябе мяккая. Гэта добра, але не заўсёды. Сёння людзям строгасць патрэбна. Толькі строгасцю людзей можна выратаваць.

Яны зноў ехалі пад начным небам, зноў марудліва паўзла насустрач бясконцая, суровая, як праклён, дарога. Неўзабаве, па словах сустрэчных мясцовых сялян, павінна была паказацца рака Бяроза, і ўсе ўглядаліся ў цемру. Шура з Антонам ехалі ў адной фурманцы. Антон, абапёршыся на локці, напаўлежачы, глядзеў Шуры ў твар і думаў, што яна прыгожая, маладая і гэтыя яе словы пра строгасць, гэтая яе папяроса, якой яна нават зараз пыхкае, псуюць яе. Не такая яна, якой сябе паказаць хоча.

— Ты строгая, Шура? — спытаўся Антон.

— А як ты думаеш? Строгая, вядома. Паміж вас, мужыкоў, жывучы, трэба сукенку з жалеза шыць. І ўсё роўна рукамі сукенку гэтую пралапаеце, дзірак у ёй наробіце.

— Не ўсе ж такія мужыкі.

— Можаш паверыць мне, што ўсе. І ты такі самы. Не злуйся, не злуйся. Ты ціхі, а сваё, бачу, таксама не праваронiш. Так ужо жыццё задумана і замешана. Якую дзяўчыну ты клікаў, калі без памяці ляжаў?

— Яніну. Суседку сваю з вёскі...

— Суседак так не клічуць. Па голасе я чула, што кахаеш ты яе. Праўда?

Антон нічога не сказаў. Гэтая прыгожая санітарка бянтэжыла яго. Яна здавалася нашмат старэйшай за свае дваццаць ці дваццаць два гады, яна павучала яго, амаль свайго равесніка, і ён адчуваў, што яна мае права павучаць, што ёсць у ёй нейкая сіла, моц душы, якія дазваляюць ёй рабіць гэта. Зараз яна яму як маці або старэйшая сястра, а праз хвіліну — успыхнуць загадкавым святлом вочы, зменіцца голас, пацішэе, паласкавее — і яна ўжо

як тая знаёмая з дзяцінства дзяўчынка, ад якой няма ніякіх тайнаў, якой можна казаць наіўныя смешныя словы, узяўшыся за рукі, бегчы ў луг, і душа будзе, нібы веснавое воблака, лёгкая і светлая.

— Праўда? — дапытвалася Шура са смяшынкамі ў вачах.

— Не ведаю,— адказаў Антон. І адчуў, што не схлусіў, не пакрывіў душою. Ён і сапраўды не ведаў зараз, ці кахае Яніну.— А чаго ты, Шура, курыш, як мужык? — перавёў гаворку ў іншую каляіну Антон.

— Хочацца мне, дык і куру,— адказала Шура.— А чаго ты так расчагокаўся? — і яна, смеючыся, ускудлаціла Антону валасы.

З цемры выплыла вялікая, ціхая, як мёртвая, вёска. Такіх вёсак нямала пабачылі яны на сваёй дарозе. Нідзе — ні агеньчыка. Толькі сабака гаўкане, звонка, адчайна, як бы кідаючы выклік глухой ночы, і прыціхне, спуджана зашыецца ў будку альбо пад ганак. На ўскраіне вёскі, на перакрыжаванні ўсіх вятроў — крыж, як адзінокі чалавек, што знясілена растапырыў у бакі рукі, здранцвеў. А далей, у вёсцы — сляпое цемрыва ночы, толькі затоена шумяць над хатамі вялізныя цёмныя гурбы ліп.

Абоз прытармазіў. Невядома, што чакае наперадзе, чым сустрэне насцярожаная цішыня. З пярэдняй фурманкі ціха выгукнулі:

— Гэй... Хто там? Таварыш... Таварыш...

Антон напружыў зрок і за некалькі дзесяткаў крокаў ад сябе ўбачыў высокую нязграбную постаць. Яна была стаілася, замерла, хацела растварыцца ў цемры, але паклікалі больш гучна, уладна, некалькі чалавек падбеглі да яе, і неўзабаве да абозу нясмела, бокам-бокам, ступіў худы высокі мужык гадоў сарака пяці, з хмурасцю на твары. Быў ён абуты ў лапці, на плячах — лапленая світка, у левай руцэ — серп, у правай — клунак са свежай травою. Відаць было, што не чакаў ён сустрэчы. Стаяў разгублены, спалоханы, часта лыпаў вачамі і быў падобны на начную саву, якой знянацку яркім святлом асляпілі вочы. Да яго падышоў Ярчак, перад самым ягоным тварам запаліў запалку, спытаўся:

— Таварыш селянін, што гэта за вёска будзе?

Чалавек засланіўся ад святла далонню, маўчаў. Быццам не чуў пытання.

— Ды не бойся, таварыш. Мы — свае. Чырвоныя. Скажы — немцы ці палякі ў вас былі?

Чалавек маўчаў, і гэта пачынала злаваць Ярчака. Ён мацюкнуўся. Запалка ўжо дагарала, і ён махнуў рукою, каб выкінуць запалку, але яна прыліпла да пальца, апякла скуру. Гэта канчаткова даканала Ярчака.

— Ды чаго ты стаіш, як пень? Гаварыць развучыўся? А ну адказвай! — Ярчак схапіў чалавека загрудкі.

— Цішэй, матрос,— падышла да іх Шура.— Дзядзечка, мы вязём параненых. Мы — чырвоны крыж,— мякка да-

кранулася яна рукою да пляча селяніна.— Мы вам нічога кепскага не зробім. Скажыце толькі — ці можна ў вашай вёсцы спыніцца, людзей пакарміць?

Цяпер ужо ўсе прыціхлі, чакалі, што адкажа селянін. А ён, з нейкаю мукай у вачах, паглядзеў на Шуру, потым наўкол, потым зноў на Шуру. Узброеныя людзі з перабінтаванымі галовамі, рукамі, нагамі абкружылі яго, коні нецярпліва грызлі цуглі, вецер раздзімаў на фурманках палатняныя буданы з вялікімі чырвонымі крыжамі. Твар у селяніна пакутліва завастрыўся, выцягнуўся, у грудзях нешта захрыпела, забулькала, ён ступіў крок назад. І тут з цемры выбегла дзяўчынка гадоў дзесяці, задыханая, босая, з белымі коскамі. Яна прытулілася да гэтага дзікаватага маўклівага чалавека, абшчапіла яго рукамі, як бы баронячы.

— Не чапайце дзядзьку Васіля,— заплакала дзяўчынка.— Ён — добры. Ён нямы. Глухі і нямы.

Вочы ў селяніна бліснулі, вялікай абсіверанай далонню ён пачаў хуценька гладзіць дзяўчынцы валасы, прыгарнуў яе да сябе. Ва ўсёй яговай паставе адразу з'явілася нейкая нервовая ўзбуджанасць, рукі задрыжалі, плечы прыўзняліся. Не дзяўчынка яго, а ён ужо абараняў дзяўчынку ад усіх гэтых незнаёмых суровых людзей. Ён хаваў яе пад крыссе сваёй зашмальцаванай світкі. Так квактуха хавае кураня пад крыло ў час небяспекі.

— Эге-ге...— толькі і сказаў Ярчак.— Вунь яно як павярнулася. Ну, гавары ты, красуня, што за вёска ваша будзе?

— Вераб'ёўшчына,— хуценька выдыхнула дзяўчынка.

— Былі чужыя ў вас?

— Не было... Не, былі, былі. Пазаўчора нейкі вялікі атрад прайшоў.

— Германцы, ці хто, былі?

— З нашых. Па-нашаму гаварылі.

— А пра германцаў што чуваць у вас?

— Казаў Цімох Ляксееў, што ўжо за Бярозай іхняе войска.

— За Бярозай? — Ярчак нахмурыўся. Навіна непрыемна ўразіла ўсіх. Колькі ўжо дзён спяшаюцца яны да сваіх, начуюць дзе прыйдзецца, ядуць што бог пашле, а вораг, аказваецца, даўно ўжо наперадзе, чакае іх. Адразу ўсе адчулі страшную стомленасць, спустошанасць, якая пакрысе напластоўвалася ў сэрцах і вось сёння, пасля сустрэчы з гэтай дзяўчынкай і яе нямым дзядзькам, уладна напомніла аб сабе.

— Што я гаварыў? — вынырнуў з цемры доктар. У яговым голасе ўсе пачулі жвавасць і нават нейкую ўрачыстасць.

— А што вы маглі сказаць, доктар? — павольна, наліваючыся гневам, павярнуўся да яго Максім Ярчак.— І хто вы наогул такі? Якая ў вас душа? Вы лячылі нашы рукі, ногі, жываты, усё вы лячылі, і дзякуй вам. Але вы хочаце

забіць самае галоўнае — веру нашу. Не трэба мне, бальшавіку-матросу, такія лекі! — Ярчак рэзка трасянуў над галавой спятымі ў кулакі рукамі, быццам бінты з сябе зрываў.— Ды адрэжце мне нагу, я ўсё роўна на аднойназе пайду да чырвоных, да сваіх. Не пэцкайце толькі маю душу сваёй гнілой душой.

— Я рускі інтэлігент,— ціха сказаў доктар, і белы ягоны твар калаціўся.— Мяне вучылі гуманізму, чалавекалюбству. Перш за ўсё — чалавек, грамадзянін матрос, а потым ужо — усё астатняе. Вы сказалі наконт маёй душы... Гнілой душы... Дзякуй вам за шчырасць. Што я магу сказаць у сваю абарону? Я цвёрда перакананы, што душэўныя якасці чалавека вымяраюцца яго адносінамі да слабейшых. Так, да слабейшых. Да хворых, да жанчын, да птушак і звяроў. Але не час філасофстваваць. Камандуйце, і я першы выканаю ваш загад.

Ён знік у цемры, пайшоў да сваёй фурманкі.

— Доктар! Доктар! — пабегла за ім Шура Аўлукова.

Нейкі час усе маўчалі. Ярчак закурыў, злосна пыхкаў цыгаркай. Дзяўчынка рукамі паказвала нямому нейкія знакі, відаць, супакойвала таго.

Рашылі на начлег спыніцца ў Вераб'ёўшчыне. Антон сядзеў у фурманцы, скурчыўшыся, увабраўшы рукі ў рукавы шыняля, які перад гэтым прынесла яму Шура. «Як прыгожа называецца вёска,— думаў ён,— Вераб'ёўшчына...» І яму ўяўлялася, як ■ ранішняга поля, з лесу зляталюцца ў гэтую вёску цэлыя хмары вераб'ёў, аж сонца з-за іх не відно, як крычаць яны, як валтузяцца ў ліпах, на дварах, на дрывотнях. Ад іхняга крыку, пэўна, звіняць у вокнах шыбы.

Разам ■ Ярчаком і Артурам Арцёмавічам Антон спыніўся ў хаце, што стаяла на самай ускраіне вёскі. Жыла тут вельмі вялікая сям'я: дзед Пiлiп, баба Наста, іхнія тры сыны з жонкамі і шматлікімі дзецьмі. Але ў хаце было ціха, таму што, як адразу заўважыў Антон, усе баяліся бабы Насты, худой, тонкай, нібы свечка, з сярдзітымі выцвілымі вачамі. «Дрэнна, калі баба бярэ верх»,— падумаў Антон. Дзед жа Піліп быў на дзіва ціхі, спакойны, але ўвесь час без упынку смаркаўся, чыхаў, кашляў. Трымаўся дзед пераважна ў запечку і адтуль цікаваў за неспадзяванымі гасцямі. Рэй вяла баба Наста. Нявесткі і сыны, ужо не кажучы пра ўнукаў, падпарадкоўваліся ёй з першага слова. Праўда, зноў-такі заўважыў Антон, нявесткі, асабліва малодшая, чарнявая, прыгожая, рабілі ўсё гэта не з дужа вялікай ахвотай, хмурачыся. Але, відно было па ўсім, яшчэ моцна трымалася ў хаце самаўладства грознай старой.

Ярчак выйшаў на вуліцу, з паўгадзіны правяраў вартавых, потым вярнуўся і з парога весела сказаў:

— Ну што, людзі добрыя, вячэраць будзем?

Ніхто нічога не адказаў. Толькі ўнукі з прытоенай надзеяй глянулі на пусты стол.

— Эге-ге, нешта не тое,— шумна сеў за стол Ярчак.— Няўжо ў гэтай вёсцы ўсе нямыя? Ну-тка, пакажы, ці ёсць у цябе язык? — узяў ён за плячук хлапчука гадоў шасці, чарнавокага, з запухлай шчакою. Той паслухмяна высалапіў доўгі чырвоны язык.

— Ты глядзі, ёсць,— здзівіўся Ярчак.— А чаго ў цябе адна шчака такая тлустая?

— Пчала ўкусіла,— адказаў хлапчук і раптам засмяяўся.

Гэты смех на нейкі момант парушыў мёртвую цішыню ў хаце. Але падышла баба Наста, доўгімі чэпкімі пальцамі ўзяла малога за вуха — ён толькі скрывіўся, заплакаць пабаяўся — і павяла яго ад стала, прыгаворваючы:

— Марш на печ! Чаго чужым людзям у рот глядзіш?

— Пачакай, малы,— не вытрымаў Антон.— На табе драбок цукру — заваляўся ў кішэні...

Гэты цукар прынесла яму неяк Шура, і ён не з'еў яго, хаваў, хацеў прывезці ў Чмялі і пачаставаць суседскіх дзяцей. Але глянуў на малога, на старую, што цягнула яго ў запечча, і так шчымліва стала на сэрцы, захацелася, каб хоць маленькая радасць засвяцілася ў беднай хаце. Старая дазволіла малому ўзяць цукар, ды толькі за полагам, што завешваў палаткі з печчу, адабрала. Пачуўся тонкі дзіцячы ўсхліп, сярдзіты шэпт, і раптам звонкі жаночы голас прарэзаў цішыню:

— Аддайце дзіцяцева! Дзіцяці далі, а не вам! Усё хапаеце! Усё вам мала!

З-за полага, расчырванелая, хутка выйшла чарнавалосая прыгожая маладзіца з хлопчыкам на руках. «Сын яе»,— здагадаўся Антон. Маладзіца села на ўслон каля стала, смела паглядзела ў вочы Антону і Ярчаку.

— Правільна...— сказаў ёй Антон.

За полагам бубнела старая:

— Во якая яна ў цябе. Паглядзі, палюбуйся краляй сваёй. Пры чужых людзях ганьбу на маці тваю старую наводзіць. Ці ж я не шкадавала цябе, ці не даглядала? Во як ты, сыночак, адплаціў.

Усё на імгненне сціхла, потым з-за полага пачуўся разгублены мужчынскі голас:

— Марыля, ідзі сюды.

— І не падумаю,— адказала маладзіца.— Хай яна ўдавіцца тым цукрам. Ты лепей выйдзі сюды, Язэп. Чаго ад людзей хаваешся? Не дасць яна нам жыцця, не дасць. Я табе не раз казала. Ды ты не мужык — хвост матчын.

— Вазьмі вожкі — павучы,— чуўся ў цішыні шэпт старой Насты.— На вожкі, Язэпка...

Ярчак не вытрымаў, рэзка ўстаў з-за стала, падышоў, шмаргануў полаг. Дзед Пiліп аж зажмурыў вочы, увабраў у плечы маленькую сівую галаву і моцна закашляў. Антон убачыў старую і побач з ёю разгубленага шыракаплечага дзецюка з ільнянымі кучаравымі валасамі. Дзяцюк няўпэўнена сціскаў у правай руцэ вожкі, густа чырванеў.

— Ну, ідзі, бі сваю жонку, маці тваіх дзяцей,— сказаў яму Ярчак.

— А што вы за ўказчыкі такія? — накінулася на яго старая.— Сваю жонку і павучыць трэба. А вы прыйшлі ў чужую хату і камандуеце. Грэх вам так рабіць. Вы — ваюйце. Там ваша дзела,— яна тыцнула сухой рукой сабе за плячо, у бок дзвярэй.

— З вамі вадзіцца, як у крапіву садзіцца,— амаль з нянавісцю глянула на свякруху нявестка.

— Ты яшчэ паспяваеш, птушачка. Пачакай... Паспяваеш...

— Ну вось што: будзем вячэраць,— Ярчак сеў за стол, дастаў з рэчмяшка хлеб, цукар. Артур Арцёмавіч прынёс кацялок з кіпетнем. Антон ножыкам-складанчыкам парэзаў хлеб. Усё гэта рабілася ў цішыні, бо баба Наста з Язэпам зноў схаваліся за полаг, а стары Пілip нават кашляць перастаў. Прыгожая маладуха адмовілася ад ежы, якую прапанаваў Артур Арцёмавіч, сядзела, здранцвелая, з дзіцем на руках.

— Несалодка табе будзе,— сёрбаючы гарбату, сказаў Антон.

Чужое неўладкаванае жыццё, чужая бяда развярэдзілі душу. Людзі, аказваецца, такія падобныя ў няшчасці. Вось гэта — яшчэ ж зусім маладая, а ўжо на яе плячах і дзеці, і цяжкая работа, і штодзённыя папрокі злой свякрухі, і нялюбы муж, у якога замест ласкавага слова — кулак, вожкі. Дакуль будзе такое на свеце? Ужо ж і рэвалюцыю зрабілі, і паноў прагналі. Германец, праўда, наваліўся, але і ён, усе ўпэўнены, і Ярчак кожны дзень кажа, хутка ногі паломіць, галаву складзе на нашай зямлі. Адкуль жа бярэцца ўся гэтая злыбеда? Пэўна, з саміх людзей. Адзін нясмелы, другі прагны, трэці хоча стаць вышэй за ўсіх.

— Яна ж нам, паверыце, есці не дае,— казала між тым маладуха. Хлопчык ужо спаў у яе на руках, скруціўшыся абаранкам, расслаблена звесіўшы загарэлую ручку.— Мужыкам, сваім сынам — мяса ў абед дасць. А мы ідзём у поле жыта жаць, дык цішком у гародзе морквы ці бручкі нарвём. Ды і тут яна ўсачыла. Прыбягае: «Хто бручку рваў? Учора было тры яміны на градзе, а сёння чатыры».

— Ёсць у цябе бацькі, Марыля? — спытаўся Антон.

— Бацька ёсць. Мамы ўжо шосты год нямашака. Каб была мама, толькі б яны мяне і бачылі тут. А то раз Язэп набіў, прыходжу да бацькі, а ён кажа: ідзі назад, цярпі, дачушка. Бацька ў мяне калека. На руме бервяном нагу прыціснула...

— Хочаш, забяром цябе ў свой абоз? Кашаваркай будзеш,— сказаў Ярчак.

— Ды што вы? А дзяцей куды я кіну? Трое ў мяне дзетак. Гэты во — меншанькі...— яна ласкава пагладзіла малога па галаве, прытуліла да грудзей.— Як жа я без дзе-

так сваіх буду? Адна... Галавешка ў полі і тая адна не гарыць... Ды і вы бог ведае калі вернецеся. Ды ці вернецеся?

— Вернемся,— упэўнена сказаў Ярчак.— Савецкая ўлада вернецца... Гэта я табе кажу, матрос-бальшавік. Запомні, Марыля.

— Дай бог,— уздыхнула Марыля.— Пры Саветах і мой Язэп палюднеў быў. Зямлі нам далі, дзеткам чаравічкі даў камітэт беднаты. Язэп, бывала, на мяне і руку не ўзніме. Сорамна было біць жонку пры Саветах. А цяперака — зноў пачнецца... Старая ўжо шэпча яму...

— Чаму ж такая злая свякруха ў цябе? — пацікавіўся Антон.

— Не хацела, каб мяне браў. Нешта не панаравілася я ёй. Ну, вядома ж, яны — багацейшыя. У іх тры кані пры Мікалаю было, шмат авечак. Мяса праз дзень елі. А мы — пагарэльцы. У бацькі майго — пяць дачок...

— І ўсе такія прыгожыя, як ты?

— Такія. Але прыгожым таксама трэба замуж выходзіць, сям'ю сваю ладкаваць.

Ужо канчалі піць гарбату, ужо Марыля пайшла класці малога спаць, як з-за полага нясмела вытыркнуўся дзед Піліп. Пакруціў налева-направа маленькай галоўкай, відаць, цікаваў, ці ёсць паблізу жонка, ціхенька падышоў да стала, сеў на ўслон. Уся ягоная бясшумная істота, мяккасць рухаў, жэстаў ніяк не стасаваліся з тым хрыпучым кашлем, што вырываўся з сухіх грудзей. Ён сядзеў, заціснуўшы рот рукою. Разумна і журботна глядзелі светлыя, са слязой, вочы. Антону ён нагадаў святога старцапустэльніка, якія бываюць на абразах.

Дзед Піліп колькі імгненняў сядзеў моўчкі, потым палез бяскроўнай жоўтай рукою пад крысо світкі, выцягнуў адтуль цёмную бутэльку, закаркаваную жмутом пакулля. Ён выскуб пакулле зубамі з рыльца, азірнуўся, сказаў, звяртаючыся да Ярчака:

— Пакаштуйце, таварышы, першачку...

— Э не! У нас у жыватах ужо ад гарбаты бурчыць,— засмяяўся Ярчак.— Дзе ж ты раней быў са сваёй бутэлькай?

— Пакаштуйце, таварышы,— быццам не пачуў ягоных слоў дзед Піліп.

І ўсе зразумелі, што нельга адмовіцца ад гэтага пачастунку, што стары цярпліва чакаў, пакуль адлучыцца грозная жонка і можна будзе перакінуцца слоўцам-другім з пастаяльцамі, адвесці хоць крышачку душу.

— Давай, дзед,— падставіў свой кубак Антон.

Выпілі. Сам жа стары не стаў піць, пад здзіўленымі позіркамі ўсяго застолля выліў гарэлку сабе ў жменю, пачаў націраць ёю лысіну. Рабіў ён сваю справу на дзіва сур'ёзна і старанна.

— Навошта, дзед, дабро псуеш? — аж рот разявіў Антон.

— Ад хваробы. Хвароба ўва мне сядзіць. Толькі так яе можна выгнаць. Трэба, каб гарэлка не праз рот у нутро ўвайшла, а праз скуру. А на лысіне, там, дзе ўжо волас апаў, скура ў чалавека самая танчэйшая, далікатная.

— І хто ж вас гэтаму навучыў, шаноўны? — пацікавіўся Артур Арцёмавіч, што дагэтуль сядзеў моўчкі, але, як чалавек, знаёмы з медыцынай,— усё-ткі пяць гадоў служыў фурманам у палявым лазарэце! — не сцярпеў такога невуцтва.

— Ніхто. Ад дзеда свайго Анціпа пераняў. Той, царства яму нябеснае, як перабярэ гарэлкі на радзінах альбо хаўтурах, заўсёды так лячыўся. Сто тры гады пражыў Анціп. А памёр таму, што на ржавы цвік наступіў босай нагою.

Лысіна ў дзеда Піліпа блішчала, як намазаная здорам. Нават кашаль аціх, і ў грудзях не булькатала. Антон з цікаўнасцю глядзеў на старога. Падабаліся яму такія людзі, што ў нечым не падобныя на іншых, нечым вылучаюцца. Вось пра гэтага дзеда Піліпа ў Чмялях абавязкова б сказалі: «Здзяцінеў чалавек». А ў дзеда розуму, як мёду ў багатай пчалінай калодзе. Бач, вочы якія — глыбокія, вострыя.

— З якіх жа вы самі будзеце? — асцярожна спытаўся стары.— З сацыялістых альбо з камуністых?

— З камуністаў мы,— перастаў усміхацца Ярчак.— Я — камуніст. Таварышы — спачуваючыя. А вось ты адкажы, бацька, чаму ў хаце тваёй нявестак тыраняць? Чаму жыцця ім не даюць? Старым рэжымам у хаце тваёй пахне. Дрэнна, бацька.

Стары зачырванеўся, у ягоных грудзях адразу прачнуўся кашаль. Ад кашлю слёзы набеглі на вочы, як туманам засланілі. Стары хліпнуў:

— Няма тут маёй волі... Жонка ў мяне — багатырка, а я, лічы, парабак пры ёй. Я з самай маладосці ў лесе працую, з лесу жыву. Ідзеш па лесе, па сцежачцы — глядзіш пад ногі: не наступіць бы на мурашку, на божую кароўку. Па жывому не хадзі, дай яму жыць — такі ў мяне ў лесе лясны закон. А тут...— ён бяссільна махнуў рукою.— Баба мая як піла. Любы дуб перагрызе.

— У тваёй, дзед, хаце па жывому ходзяць,— сказаў Антон.

— Ходзяць,— згадзіўся дзед Піліп.— Але не мая тут віна. Святы крыж — не мая!

Ён перахрысціўся, з тугою глянуў на ўсіх. І была ў ягоным паглядзе журба аб беззваротна страчанай маладосці, была пакута ад думкі, што не так, як хацелася, жыў і жыве і скончыць свой зямны век.

Ужо калі пачалі ўладкоўвацца на начлег — Ярчак з Артурам Арцёмавічам на падлозе ў хаце, Антон на сене ў хляве,— дзед Піліп падышоў да іх на двары, сказаў:

— Душу вы мне перавярнулі... Баліць душа, як успомню вашыя словы... Я памру скора... Зямля цягне... Сыны

мае з вамі не пойдуць — маці з маленства прывязала да сваёй спадніцы. І я не пайду — стары. Я ўнука за сябе аддам! Васіль! — гукнуў ён у цемру.

Ад чорнага, рагатага, з арэхавых кійкоў, плота аддзялілася танклявая фігура.

— Ты хто? — спытаўся Ярчук.

— Васіль Безручонак,— ціха адказаў хлопец і чамусьці зняў шапку.

— Мой унук,— дзед Піліп ляпнуў хлопца па плячы.— Да вас хоча ісці. Ён тут пры бальшавіцкай уладзе ў камітэце беднаты быў. Ленінскія дэкрэты чытаў. Нельга яму пад германцам заставацца. Прозвішча ягонае Безручонак, таму што прадзеду нашаму пан руку адсек за тое, што той старасту па мордзе з'ездзіў. Вазьміце хлопца, таварышы...

— Возьмем,— згадзіўся Ярчак.— А што ён умее рабіць?

Хвалюючыся, загаварыў сам Васіль:

— Магу з ружжа страляць і кнігі чытаць... Дровы пілаваць і секчы, коней даглядаць... Усё магу.

— Малайчына. А маці не заплача?

— Мая маці Марыля, з якой вы ў хаце бачыліся...

— У Марылі такі вялікі сын? — здзівіўся Антон.

— Яна з чатырнаццаці гадкоў у замужжы,— кашлянуў дзед Піліп.— Васіль у яе старэйшы. З дзевяцьсотага году.

— А я з дзевяноста дзевятага,— пахваліўся Антон.

— Вось і гуляйце разам, салажаты,— засмяяўшыся, лёгенька падпіхнуў яго Ярчак да Васіля.

Васіль павёў Антона на сенавал. Па драбінах, мокрых ад вячэрняй расы, яны ўзабраліся на хлеў. Сонца ўжо села, і з лугоў, што абкружалі Вераб'ёўшчыну, поўз ружовабелы цёплы туман. Ён затапляў ваколіцы, пуховай коўдрай заслаў вуліцу, толькі тырчалі з малочнай белі кляны і ліпы ды калодзежны журавель. Запознены бусел, шырока і мякка махаючы крыламі, прыляцеў з балота, сеў на старую драўляную барану. Дружна крыкнулі ў цёплых лужынах за вёскай жабы і сціхлі, нібы спалохаліся свайго крыку. І ўсё сціхла. Толькі камары сваім нязменным гудам, як тоненькімі іголачкамі, праціналі паветра.

Сена было пахучае, мяккае. Антон выцягнуўся на ўвесь рост, пальцамі ног дастаў круглае халаднаватае бервяно. Вельмі хутка асвойталіся адзін з адным, разгаварыліся, ды так, быццам з дзяцінства па адной і той жа вуліцы бегалі. Васіль аказаўся блізкай душой: быў кніжнік і ціхун, з ніводнай дзяўчынай яшчэ не цалаваўся. Нават, прызнаўся Антону, вершы пісаў.

— Я ў Вільню свой верш быў паслаў, у газету «Наша ніва»,— ціха казаў Васіль, гледзячы ўверх над сабой.— Там шмат беларускіх вершаў друкавалі. І мой абяцалі надрукаваць, ды вайна пачалася, і газета гэтая болей не выходзіць.

— Раскажы верш,— папрасіў Антон.

— Слухай... І толькі не смейся,— згадзіўся Васіль. Ён

прыўзняўся на локці, прыжмурыў вочы.— Верш называецца «Наша вёска Вераб'ёўшчына».

Наша вёска Вераб'ёўшчына
Над Бярозаю стаіць.
Дуб стары, казацкі ёсць у нас,
На ім Хмелеў меч вісіць.

— Гэты дуб на Цімоха Вароніча агародзе расце. Гадоў трыста яму будзе. Мы з табой удвух рукамі не абхопім. А ля самай макаўкі крук увабіты, і на гэты крук жалезны ланцуг начэплены. Гавораць, як казакі ў нас тут супроць Польшчы ваявалі, дык адзін казак, Хмель, шаблю сваю на ланцуг гэты павесіў.

— Для чаго ж ён павесіў?

— Каб памяць, значыць, аб казаках засталася. Потым нейкі пан з Варшавы прыехаў, сам узлез на дуб і шаблю з ланцуга зняў. А ланцуг і сёння на дубе — ніхто не можа яго з крука счапіць. Ды я верш не скончыў — слухай далей...

Мужыкі ў нас працавітыя,
Для людзей не робяць зла.

Васіль на імгненне змоўк, глянуў на Антона і выдыхнуў апошнія радкі:

Са сваёю царскай світаю
Кацярына тут была.

І зноў пачаў тлумачыць:

— Кацярына праз нашу вёску ехала, як Крым да яе царства далучылі. Крым захацела паглядзець. А я, ведаеш, як спачатку ў сваім вершы быў напісаў? ...Са сваёю царскай світкаю Кацярына тут была... І дзед Пілін казаў: правільна, яна ў залатой світцы ехала. Ды мне з рэдакцыі напісалі, што світа — гэта не світка, а слугі царскія, чэлядзь.

Васіль засмяяўся, і Антон разам з ім. Гэты хлопец усё болей падабаўся яму. З ім было лёгка душы, можна было гаварыць аб усім, нічога не ўтойваць. Антон расказаў і як у Мінск ездзіў, як паранілі яго і як апынуўся ён тут, у Вераб'ёўшчыне, разам з санітарным абозам.

— Во ты які,— уважліва паглядзеў на яго Васіль.— А матрос ваш казаў, што ўсе вы з камуністаў. А ты з легіянерамі хадзіў.

У ягоным голасе пачуліся Антону халадок і насцярожанасць.

— А што мне было рабіць? З кім парадзіцца? — пакрыўдзіўся Антон.

— І то праўда,— Васіль сеў, сашчапіўшы рукі на вострых каленях.— У нас дык тут шмат было бальшавікоў. З Данбаса, з шахтаў прыехалі. Усе нашы, тутэйшыя, а ў Данбас ездзілі на заробкі. Я каля іх увесь час цёрся, прыслухоўваўся. Адступілі яны разам з нашымі пад Оршу. І вот я думаю, каб як зноў з імі сысціся.

— А я думаю брата свайго Кузьму напаткаць. Ён у чырвонагвардзейскім атрадзе. Непадалёку павінен быць недзе іхні атрад. Разам з Кузьмой думаю назад у Чмялі вярнуцца.

— Там жа цяпер немцы.

— Не вечна ж яны там будуць.

— І то праўда,— зноў пагадзіўся Васіль.

Так, перашэптваючыся, і заснулі, накрыўшыся адной коўдраю. А жоўта-белы туман з балотаў, з сырых лугоў усё поўз і поўз у Вераб'ёўшчыну, нібы збіраўся таксама спыніцца ў вёсцы на начлег.

Прачнуўся Антон вельмі рана. Васіль Безручонак асцярожна, але настойліва тармасіў яго за плячук.

— Слухай... Уставай...

Учора ўвечары Антон не дужа добра разгледзеў Васілёў твар — перашкаджала цемра. Сёння ж, у святле рання, якое толькі што нараджалася, ён бачыў, які прыгожы і які маладзенькі яго новы сябра. Скура белая, з вішнёвасцю на круглых шчоках, вочы карыя, бліскучыя і вялікія.

— Слухай, братка... Прабач,— ціха гаварыў Васіль.— Давай з табой у рыбу на Бярозу збегаем. Таптуха ў мяне ёсць... Сам плёў. Давай збегаем. Дужа хочацца апошні разок рыбу палавіць...

Так хацелася яму, каб Антон не адмовіўся, такая просьба свяцілася ў вачах і на твары. Для яго гэтая ранішняя рыбалка была развітаннем з роднай хатай. Вялікая небяспечная дарога чакала яго, і ў апошні раз хацеў ён сустрэцца з ракой, якая з самага маленства была для яго нібы маці. Хіба мог Антон адмовіцца?

З таптухаю яны пашыбавалі ў бок ракі. Васіль ішоў наперадзе, Антон трымаў куль таптухі, у якім ляжалі клунак з сухой адзежаю, некалькі яблыкаў і агуркоў. Яшчэ на сенавале яны пераапрануліся ў старыя, лапленыя кашулі і штаны, на ногі абулі стаптаныя лапці і былі падобныя на жабракоў. Толькі твары ў іх былі вясёлыя, не жабрацкія.

На ўсходзе наклёўвалася сонечная чырвань. Жаўранак, нябачны ў густой сіняве ранішняга неба, вёў сваю адвечную песню.

Калі яны праскоквалі праз канаўку, якая аддзяляла вясковыя агароды ад лугу, пачуўся нямоцны і нястрогі крык:

— Стой? Хто такія?!

З-пад старой разлапістай вішні, што расла каля плота, выйшаў вартавы. Твар заспаны, вінтоўка матляецца на плячы прыкладам уверх. Губы і шчокі ярка-пунсовыя — усю ноч еў вішні.

— Хто такія будзеце? — падышоўшы бліжэй, перапытаў вартавы, але пазнаў Антона, спыніўся, лоўка кінуў у рот спелую ягаду.

— Куды бежыцё, хлопцы? — лагодна спытаўся вартавы.

— Рыбы на юшку налавіць,— адказаў Антон.

— Дык на рацэ ж золь, холадна... Спалі б яшчэ...

— А ў нас для сугрэву ёсць,— усміхнуўшыся, паказаў яму з кішэні рыльца бутэлькі Васіль.

Вартавы толькі крактануў.

Падышлі да старыцы, палезлі ў ціхую, яшчэ сонную ваду.

— Цішэй,— шапнуў Васіль. У яго на шыі вісела вялікая палатняная торба для рыбы. У торбу папярэдне ён напхаў свежай крапівы — «каб рыба не тухла».

— Заводзь пад куст,— сказаў ён, і вочы радасна заззялі.

«Заядлы рыбак»,— падумаў Антон.

Вада на глыбейшым месцы была халодная, празрыстая. Маленькія хвалі білі ў прыбярэжную асаку, і яна ціхенька ўздрыгвала, быццам курчылася ад халодных дотыкаў. Антон зачапіўся нагою за корч, шумна плёхнуў, здаецца, на ўсю раку.

— Цягні,— нецярпліва крыкнуў Васіль.

Яны выхапілі з вады таптуху — вада захліпіста, сярэбрана хлынула праз вочкі — і адразу рукамі, усім целам адчулі прыемны спружыністы цяжар, які ўскалыхнуў таптуху. У кулі трапятаўся вялізны зеленавата-сіні шчупак. Ён раптам скруціўся ў бліскучы абаранак, падскочыў і паляцеў з таптухі назад у раку, але, стукнуўшыся Антону ў грудзі, застаўся ў таптусе.

— На бераг выкідвай! — як не заенчыў Васіль. Разам з таптухаю яны гоцнуліся на дрыгвяністы нізкі бераг, тварамі ў шорсткую вострую асаку.

— Лаві! За шчэлепы, за шчэлепы хапай! — крычаў Васіль і з галавою рынуўся ў таптуху і завалтузіўся, закруціўся там. Яны сутыкаліся рукамі, перашкаджалі адзін аднаму, а шчупак тым часам плёхнуўся з таптухі ў траву, захадзіў па ёй кругамі. У Антона ў душы разгарэўся рыбацкі азарт. Нічога не бачыў ён зараз, акрамя шчупака. Вось рукі, здаецца, схапілі пруткую няўлоўную рыбіну, але моцнае слізкае цела рванулася між пальцаў, выпрасталася, як спружына,— шчупак мільгануў у паветры і з шумам урэзаўся ў каламутную ваду. Толькі яго бачылі!

Адчай захліснуў хлопцаў. Васіль ледзь не плакаў.

— Ты! Ты вінаваты,— пакрыўшыся чырвонымі плямамі, накінуўся ён на Антона.— Крычаў табе — хапай за шчэлепы. А ты... Эх ты!

— А сам чаго не хапаў? — абурыўся Антон.— Казаў: я — рачны чалавек, рыба мяне ведае... А рыбка твая — ф'юць, і няма.

Але сварыцца не выпадала. Занадта мала яны яшчэ ведалі адзін аднаго, дужа прыгожы разгараўся дзень, каб псаваць яго сваркай. Васіль хутка астыў.

— Хай жыве,— сказаў ён, паварочваючыся ў бок ракі, быццам шчупак, стаіўшыся недзе сярод светлых струменяў і зялёных водарасцяў, слухаў яго зараз.— Не адпу-

скае мяне Бяроза. Бач, як назад шчупака забрала... Хоча, каб я яшчэ яго палавіў,— Васіль гаварыў ціхім усхвалявапым голасам, і ў вачах свяціўся сум.— Але я ўсё роўна пайду з вамі, Антон.

Зноў залезлі ў раку і праз якую гадзіну налавілі ледзь не торбу вогненнапёрых плотак. Але шчупак, як ні дзіўна, не трапіўся болей ніводзін.

— Расказаў сваёй радні наш знаёмец, і ўсе пахаваліся,— смяяўся Антон.

Смяяўся і Васіль. Злавіўшы рыбіну, ён заціскаў яе ў жменю, падносіў да твару, пляваў на яе, прыгаворваючы: «Лавіся, рыбка», і акуратна клаў у торбу. Быў ён заляпаны зялёнай тванню, узбуджаны, шчаслівы.

Нарэшце вылезлі на бераг. Антон назбіраў сухіх альховых пруткоў, спарахнелых карчоў, запаліў цяпельца. Пераапрануліся ў чыстае і пачалі снедаць.

— Не магу я дома заставацца,— казаў Васіль, ачышчаючы таптуху ад рачной ціны, водарасцей і гразі.— Яшчэ раней пайшоў бы з чырвонымі, ды маці не пускала, плакала. А ўчора і яна гаворыць: «Ідзі з гэтымі,— з вамі, значыцца,— а то прападзеш». А я і праўда, калі застануся — прападу. Заб'юць мяне ці немцы, ці белыя гвардзейцы. Мы ім тут пры Саветах добра далі прыкурыць. Запомняць нас. Буду прасіцца ў чырвоныя разведчыкі. Вінтоўку б мне толькі далі,— ён летуценна прыжмурыў вочы.

— А мне б знайсці брата і дамоў вярнуцца,— шчыра прызнаўся Антон.— Ведаю, чакаюць мяне там...

— Чаго ж ты тады з чырвонымі едзеш?

— Паранены я. Везлі мяне ў санітарным абозе, а трохі ачухаўся, акрэп, бачу: трэба паварочваць аглоблі.

— Ваяваць баішся? — строга, нават, падалося, трохі зняважліва спытаўся Васіль.

— Твая скура яшчэ цэлая, а мая палапленая ўжо. Не баюся я, але трэба мне бліжэй да сваіх аселіц трымацца.

На гэтым яны скончылі гаворку, бо адчувалі — яшчэ слова-другое, і ўспыхне спрэчка. Васіль намачыў у рацэ торбу з рыбай, Антон затаптаў цяпельца, яны ўзяліся былі за таптуху і адразу ж апусцілі яе на зямлю, прыслухаліся. З боку вёскі данеслася страляніна. Затахкаў абозны кулямёт «льюіс», грымнулі выбухі ручных бомбаў.

— Што там можа быць? — спалохана глянуў Васіль на Антона.

— Бой пачаўся. Відаць, немцы падышлі...

Хлопцы, адчуваючы, як трывожна б'юцца сэрцы, колькі імгненняў стаялі, не ведаючы, што рабіць. Здаецца, і рака пазмрачнела, і ветрык, які так ласкава і мякка шумеў у чаратах, пахаладнеў. Асабліва занепакоіўся Васіль. Сэрцам, усёй істотай ён зразумеў, што з гэтай страляніны, з гэтага бою пачынаецца новае, суровае і небяспечнае жыццё для яго і для ягонай вёскі. Сум засвяціўся ў Васілёвых вачах.

— Давай, братка, таптуху ў кустах дзе-небудзь схаваем. Нязручна нам з ёю ісці будзе,— ціха сказаў ён Антону.

Яны ўвапхнулі яшчэ мокрую таптуху ў гушчэзны малиннік — Антон абпёк руку крапівою — і пашыбавалі ў бок вёскі. Неба, такое светлае і яснае з раніцы, зацягвалася дробнымі хмаркамі.

Пад вішняю вартавога ўжо не было. Толькі ўся трава была густа засыпана вішнёвымі костачкамі.

Прыгнуўшыся, хлопцы пабеглі прыгуменнямі да Васілёвага двара. Антон раптам спатыкнуўся, упаў тварам у траву, на імгненне адчуўшы нясцерпную сцюдзёнасць расы, якую яшчэ не выпіла сонца. Калі ён паспешліва ўзнімаўся з зямлі, іх спыніў нямоцны, нават, падалося, міралюбівы голас:

— Хто ідзе?! Стой! Стой, кажу! А ну, шчанюкі, ідзіце сюды!

## IV

На самым золку Вераб'ёўшчыну атакавала баявая дружына левых эсэраў, якой кіраваў Гаўрыла Ахахонін. Сам Гаўрыла, дваццацідвухгадовы кучаравы прыгажун, размахваючы шабляй, імчаўся на рыжым жарабку па бруднай вясковай вуліцы і крычаў «ура!». Пяцьдзесят дружыннікаў, спешаныя, узброеныя вінтоўкамі, ручнымі бомбамі і кінжаламі, беглі за сваім камандзірам, бязладна страляючы і мацюкаючыся. Праціўнік, мяркуючы па ўсім, быў атакаваны знянацку. Гаўрылу Ахахоніна распірала незвычайная радасць — ён стрэліў са свайго парабелума і ўдарыў жарабка шпорамі.

Быў ён сынам багатага тамбоўскага памешчыка і экаономкі. Такая доля каштавала яму многіх душэўных пакут, як толькі ён падрос. Аказалася, што вялікія бацькавы грошы яшчэ не галоўнае. І ў гімназіі, і ва універсітэце ён адчуваў вакол сябе іронію, насмешкі, знявагі. І ва ўсім была вінавата плебейская кроў маці. Гэта канчаткова вызначыла ягоны жыццёвы шлях. Гаўрыла прымкнуў да эсэраўбаявікоў. У той час па ўсёй Расіі грымелі выбухі самаробных бомбаў, не гітару, а кінжал насілі «пад палою» бледнатварыя смелыя юнакі. Ад імёнаў, якія часта паўтараліся, кружылася галава, і Гаўрыла, са сваёй неўтаймаванай плебейскай крывёю, якая патрабавала адплаты за крыўды дзяцінства і юнацтва, адчуў сябе новым Брутам. Ён верыў, што кінжал ці рэвальвер у бясстрашных адчайных руках акажуцца мацнейшымі за ўсю дынастыю Раманавых з іх трохсотгадовай крывавай гісторыяй.

У самым цэнтры Тамбова ён зрабіў замах на паліцмайстра, але няўдала. Кінжал, схаваны ў рукаве кажуха, толькі слізгануў па залатой табакерцы, з якой дабрадушны, флегматычны паліцмайстар любіў нюхаць табаку і якую

заўсёды насіў з сабой. Гаўрылу ўдалося ўцячы. Тры тыдні хаваўся ён у лесе за ракой Цной і нарэшце, не вытрымаўшы голаду і холаду, ноччу прыйшоў на бацькаву дачу, дзе чакала засада. Аказалася, што сам бацька арганізаваў гэтую засаду са згоды тамбоўскіх паліцэйскіх улад. Звязаны Гаўрыла плюнуў бацьку-арыстакрату ў твар і, нейкім цудам пазбегшы шыбеніцы, апынуўся ў Сібіры. Там ён зрабіўся сацыялістам-рэвалюцыянерам, пачаў казаць усім, што толькі сялянства нясе ў сабе выбуховы сацыяльны зарад, толькі яно адно можа выратаваць Расію. Яго заўважылі. Маладосць, красамоўства, «хрышчэнне» сібірскай катаргай дапамаглі яму вылучыцца з шумнага асяродку сваіх аднагодкаў, якія, як ім здавалася, адчувалі сябе ў палітыцы, нібы рыба ў вадзе. Гаўрылу Ахахоніна ўзялі на заметку эсэраўскія лідэры Спірыдонава, Камкоў і Карэлін. Ужо тады ў іхняй партыі намячаўся раскол на левае і правае крыло, і Гаўрыла са сваёй кіпучасцю, вядома ж, адразу прымкнуў да **«левых»**.

Потым быў люты семнаццатага, які скрышыў векавыя льды манархізму. А потым быў Кастрычнік. Гаўрыла лічыў, што бальшавікам проста пашанцавала — маўляў, цёмны, змучаны народ паверыў іхнім прыгожым лозунгам, пайшоў за імі, але вось-вось развеецца туман, і ўсе, і ў першую чаргу сялянства, убачаць, што галоўны народны заступнік — партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Але туман чамусьці не развейваўся. Народ ішоў за бальшавікамі.

Левыя эсэры між тым яшчэ падтрымлівалі знешні саюз з бальшавікамі, і таму Гаўрылу, як дужа гарачага, нецярплівага, яго ж начальнікі спіхнулі з Масквы — накіравалі на чале невялікага атрада ў войскі Заходняга ўчастка заслоны пад Смаленск. Тут ён, як чаўнок, снаваў па прасёлках, па лясных дарогах, па старадаўніх шляхах, сачыў за перамяшчэннямі германскіх войск, але ў сутычкі з імі пакуль што не ўступаў — чакаў вестак з Масквы. Масква дала вестку выбухам бомбы Блюмкіна, якая падкасіла нямецкага пасла графа Мірбаха. На Усходнім фронце ўзбунтаваўся галоўнакамандуючы Мураўёў. Гаўрыла быў на сёмым небе — немцы, па яго меркаваннях, павінны былі адпомсціць за кроў Мірбаха, рушыць усімі сваімі дывізіямі на Маскву, і тады — канец бальшавікам, і сцяг левых эсэраў залунае над Расіяй. Але немцы чамусьці чакалі. Тады Ахахонін рашыў іх падварушыць, падагнаць: са сваім атрадам — ён горда назваў яго «Жалезная дружына левых эсэраў» — сам пайшоў на германскія пазіцыі, уклініўся ў нямецкія баявыя парадкі. Падстрэлілі некалькі матацыклістаў, сувязных, узялі ў палон капітана. Гаўрыла адчуваў сябе генералам Платавым ці Дзянісам Давыдавым. Ён настолькі асмялеў, што адышоўся ад дэмаркацыйнай лініі вёрст семдзесят на захад. Немцы, мяркуючы па словах мясцовых жыхароў, усё-ткі пачалі праяўляць актыўнасць пасля забойства Мірбаха. У раён Полацка і Жлобіна яны

падвялі 24-ю, 94-ю і 11-ю ландверныя дывізіі, лейб-гусарскую брыгаду. «Вось-вось пачнецца наступленне»,— меркаваў Гаўрыла Ахахонін і «шчыпаў», падзуджваў немцаў з тылу. Але яму адразу ж не пашанцавала. Пры нападзе на нямецкую радыёстанцыю куля трапіла яму ў правае сцягно. Рана была негеройская, бяскрыўдная, але некалькі дзён немагчыма было сядзець у сядле. Гаўрыла пацярпеў, паскрыпеў зубамі, а потым плюнуў і пайшоў пешкі, ведучы каня на повадзе. Ён ішоў і са злосцю думаў пра зменлівасць чалавечага лёсу, пра германскіх генералаў-ідыётаў, якія баяцца ці не хочуць распачынаць наступленне.

Немцы між тым рашылі адным махам пакончыць з яго-най дружынай. Для іх яна была стрэмкай, ад якой, вядома ж, не памрэш, але якую неабходна выцягнуць з цела, бо адчуваецца ўсё-ткі непрыемны сверб. Ахахоніна абклалі з усіх бакоў. Ён тыцнуўся туды-сюды і, зразумеўшы, што на шляхах і вялікіх дарогах толькі марна складзеш галаву, павёў дружыну лясамі і балотамі. Ішоў ён ужо назад, на ўсход, спяшаўся выслізнуць з пасткі, якая магла зачыніцца кожнае імгненне. Людзі ягоныя, стомленыя, злыя, абдзёртыя і галодныя, пачалі бурчаць, ва ўсіх грахах вінаваціць свайго камандзіра. Аднойчы на кароткім лясным прывале, калі раптоўны дождж заліў усе кастры, калі на ўсю дружыну засталося два фунты слізкага падмочанага хлеба, пачаўся «бунт на караблі», як сам для сябе назваў гэтую падзею Гаўрыла. Яго абкружылі з усіх бакоў, прыпёрлі да сасны, ён адчуваў спіною цвёрдую шурпатасць дрэва, бачыў няўмольныя, разагрэтыя нянавісцю вочы сваіх нядаўніх сяброў, бачыў, як анархіст Сцяпан Галаванаў дастае з-за халявы бота фінку. Галаванаў крыва ўсміхаўся, і гэта была ўсмешка мясніка. Вось-вось душа Гаўрылы Ахахоніна павінна была адляцець у халоднае дажджлівае неба. Але ён не разгубіўся, не пачаў выгароджваць сябе альбо хныкаць. Ён выхапіў з мяшэчка, што быў прывязаны пад пахаю, браўнінг і стрэліў проста ў твар Галаванаву. А ўсе думалі, што ў яго ёсць толькі парабелум, і, вырваўшы перад гэтым парабелум з Гаўрылавых рук, абступалі яго, як абступаюць ваўкі бездапаможную авечку.

Анархісты адразу ж былі аб'яўлены чорнымі контрамі, ворагамі сусветнай рэвалюцыі, бальшавіцкімі агентамі і расстраляны ў тым жа лесе. З імі пайшло на той свет і трое левых эсэраў, Гаўрылавых сяброў па партыі. Так зноў апынуўся Гаўрыла Ахахонін на белым кані.

З гэтага часу ён пачаў дзейнічаць больш асцярожна і прадбачліва. Ён ужо стараўся не ўступаць ні ў якія сутычкі з немцамі, бо бачыў, што ваяўнічасць ягоных спадарожнікаў выветрылася, як раса цёплым летнім ранкам. Толькі на ўсход, толькі вырвацца з тэрыторыі, занятай немцамі, а там ён будзе патрэбны, там, па чутках, левыя эсэры ўжо ўзнялі сялянства супраць бальшавікоў.

Праз два ці тры дні пасля расправы над анархістамі разведчыкі даклалі Ахахоніну, што проста перад дружынай, таксама ва ўсходнім напрамку, рухаецца нейкі санітарны абоз. Яшчэ праз колькі часу ў гутарках з мясцовымі сялянамі высветлілася, што абоз бальшавіцкі, што за галоўнага ў ім матрос Максім Ярчак. Здавалася, само неба пасылала Ахахоніну гэткі падарунак. Ён адразу вырашыў: трэба захапіць абоз. Будзе ежа, будуць фурманкі і медыкаменты, бо ў дружыне ўжо маецца з дзесятак параненых. І, галоўнае, ужо зараз можна будзе паказаць бальшавікам, на што здатная «Жалезная дружына левых эсэраў».

З такімі думкамі, накульгваючы, вёў Гаўрыла Ахахонін свайго каня па глухой лясной сцяжынцы.

Рашылі атакаваць абоз, як прыпыніцца ён дзе-небудзь на начлег. У Ахахоніну разгарэўся азарт паляўнічага.

І вось на самым дасвецці дружына атакавала Вераб'ёўшчыну. Гаўрыла, не зважаючы на боль ад раны, ускочыў на жарабка і імчаўся па вясковай вуліцы, толькі вецер свістаў увушшу. На ўскраіне вёскі пад старой вішняй убачылі вартавога, які соладка спаў, абшчапіўшы рукамі вінтоўку і звесіўшы галаву. Дужа позна пачуў ён крыкі і стрэлы.

Супраціўлення амаль не было. Толькі Максім Ярчак у споднім бялізне выскачыў праз акно, дабег да фурманкі, у якой стаяў кулямёт. Доўгая залівістая чарга касянула па вуліцы. Некалькі дружыннікаў цяжка асунуліся на мураву, у Гаўрылы куляй сарвала шапку. Але заела патронную стужку ў кулямёце, і Ярчака таксама схапілі.

Адразу ж у цэнтр вёскі, да высокага пракаветнага дуба, сагналі палонных абознікаў і мясцовых сялян. Гаўрыла Ахахонін лёгка ўскочыў на фурманку.

— Вы чакалі ўбачыць перад сабой германцаў, супастатаў Вільгельма,— сказаў ён,— а перад вамі звычайныя рускія людзі. Такія, як і ўсе вы. Мы не хочам праліваць братнюю рускую кроў. Мы — прадстаўнікі партыі левых эсэраў, сялянскай партыі, вашай партыі. Бальшавікі ў цэнтральнай Расіі прадуктовым падаткам давялі сялянства да галечы, да голаду. Рускае сялянства паміраё. Мы, левыя эсэры, узнялі свой голас і сваю ўзброеную руку ў абарону шматпакутнага сялянства. Хто з намі — той за народ, за зямлю і волю. Ура, таварышы сяляне!

Ніхто, вядома ж, «ура» крычаць не стаў. Ды Гаўрыла і не чакаў гэтага. Ён аб'явіў, што з гэтай хвіліны ўвесь санітарны абоз, уся яго маёмасць канфіскуюцца на карысць партыі левых эсэраў. Абознікі і сяляне, хто жадае, могуць атрымаць зброю і ўступіць у дружыну. І яшчэ ён загадаў з абозных прыпасаў выдаць сялянам вёскі Вераб'ёўшчына два мяшкі гароху і два мяшкі мукі.

Перад адыходам Гаўрыла рашыў убачыць абознае бальшавіцкае начальства, якое пад вартай знаходзілася ў свірне былога царкоўнага старасты. Рыпуча расчыніліся цяж-

кія тоўстыя дзверы, і Гаўрыла асцярожна ўвайшоў у свіран. З ім было некалькі дружыннікаў і абозны фурман Артур Арцёмавіч Жолуд, які пасля ранішняга кароткага бою адразу пачаў круціцца каля Ахахоніна і ягоных людзей.

У свірне, на саломе каля сцяны, сядзелі Ярчак, доктар і Шура Аўлукова. Аб нечым гаварылі між сабою і нават не ўсталі, калі ўвайшоў Ахахонін. У доктара быў разгублены, прыгнечаны твар. Ярчак жа з Шураю выглядалі бадзёра і весела, нават задужа весела.

— Хачу прадставіцца,— спыніўся насупраць іх Ахахонін, і ўсе ягоныя людзі спыніліся.— Камандзір дружыны левых эсэраў. Гэта мы атакавалі вас і ўзялі ў палон. Хто будзеце вы?

Ён строга паглядзеў на Ярчака, на ўрача і Шуру. Ярчак пагардліва перасмыкнуў вуснамі, сказаў:

— Для нас што левыя эсэры, што бандыты — адно і тое ж. Неадкладна вызваліце нашых людзей, неадкладна. Ваш бандыцкі напад дорага абыдзецца вам і вашай партыі.

Ахахонін быццам не пачуў яго, рэзка трасянуў кучаравай галавой:

— Праз паўгадзіны мая дружына выступае. Прапаную ўсім, хто хоча, стаць у наш строй. Партыя левых эсэраў з адкрытай душой сустрэне кожнага, хто жадае біцца за працоўнае сялянства, за свабодную Расію. Ворагі ў нас сёння два: бальшавікі і немцы.

Ярчак устаў, спрытным рухам абцягнуў пад шырокай дзягай сіні матроскі бушлат, ва ўпор глянуў на Ахахоніна:

— Значыць, ты купец? Купляеш? У партыю сваю запрашаеш? — Ён злосна плюнуў сабе пад ногі, паказаў Ахахоніну кукіш: — А гэта нюхаў? Партыямі не гандлююць, шчанюк. Партыю ў сэрцы носяць. А вас, бандытаў, мы пад абцас возьмем.

Ярчак прытупнуў вялікім чорным чаравікам і зноў сеў на салому. У свірне зазвінела цішыня. Гаўрыла Ахахонін таксама плюнуў сабе пад ногі, холадна ўсміхаючыся, сказаў:

— А ты, значыцца, з прававерных? З чэсных? Маліся, камуніст, перад сваёй смерцю.

Артур Арцёмавіч Жолуд, што ціха стаяў за ягонай спіною, раптам вытыркнуўся наперад, уталопіў пранізлівыя вочы на Ярчака, сказаў, павярнуўшыся да Ахахоніна:

— А вы загадайце яму распрануцца... Гляньце, што ў яго на грудзях напісана. Ён у нас як плакат хадзячы быў.

Шура разгублена, нервова засмяялася:

— Ды што гэта з вамі, Артур Арцёмавіч? Як гэта вы так?

— А вось так,— гнеўна глянуў на яе Жолуд.— Ведаю, што раблю. І не табе вучыць мяне, шлюха. Ты ідзі ад дыму тытунёвага адмыйся спачатку. Доўга я вас усіх цярпеў. Лопнула цярпенне.

Артур Арцёмавіч быў незвычайна ўзбуджаны, вёрткі.

Уся яговая невялікая сухенькая фігура, усе ягоныя рухі, бляск вачэй гаварылі пра тое, што чалавек дачакаўся нарэшце свайго запаветнага дня. Нават акуляры, якія заўсёды з'язджалі нізка на нос, зараз узляцелі пад самыя бровы. І ўсе ўбачылі раптам зусім новага Жолуда. Вось якім бокам павярнуўся добранькі маўчун. Як той ліст, што ранняй восенню ўпаў на дарогу. Зверху бліскучы, гладкі, а падзьмуў вецер, і відно стала — пажоўклы ліст, зморшчаны.

— Не ведала, што вы такі хамелеон, Артур Арцёмавіч,— усміхаючыся, сказала Шура. Яна дастала з кішэні шыняля прыгожы вышываны капшук з тытунём, акуратна складзеную ў некалькі столак газеціну, лоўка змайстравала доўгую тонкую цыгарку, закурыла і, глыбока зацягнуўшыся, выдыхнула дым у твар Жолуду.— А гэта вам дымок ад мяне. Каб помнілі Шуру Аўлукову, зямлячку сваю,— сказала яна і павярнулася да Артура Арцёмавіча спіною.

— Камісарка! — замахнуўся на яе кулаком Жолуд, але стукнуць пабаяўся.

Між тым Ярчак скінуў з плячэй чорны бушлат, цяльняшку і стаяў голы па пояс, шыракагруды. У вачах свяціліся ўпартасць і сіла.

— Пачытаў? — спытаўся ён у Ахахоніна і нетаропка пачаў апранацца.— А калі так, дык не загароджвай флоту балтыйскаму дарогу. Хоць забі — словам гэтым, што на грудзях мне Лёшка Сіўкоў напісаў, не здраджу. А заб'еш мяне — грудзі разрэж і ў іх замест сэрца зорку чырвоную ўбачыш.

— Фанатык,— нервова ўсміхнуўся Ахахонін.— Саветы будуць. Так! Але Саветы будуць без камуністаў. І без цябе ў першую чаргу. На ваш тэрор мы адказваем тэрорам сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Рускі народ нас зразумее. На двор яго! Да сценкі! — не вытрымаўшы спакойнага тону, закрычаў ён і выбег са свірна.

Ярчака паставілі каля плота.

— Што вы робіце?! — кінуўся да Гаўрылы Ахахоніна доктар, і твар у яго быў дзіцяча-бездапаможны.— Што вы робіце? Гэта непаразуменне. Містыка. Свае людзі страляюць сваіх. Спыніце іх! — паказаў ён рукою на шарэнгу дружыннікаў, што ўжо ўзнялі да плячэй вінтоўкі.

Ахахонін не глянуў на яго, толькі сказаў:

— Гэта грамадзянская вайна... Не ўмешвайцеся не ў свае справы.

Ярчак, відно было па ўсім, зразумеў, што гэтая раніца апошняя для яго. Ён не змяніўся з твару, толькі чорныя калмыкаватыя вочы звузіліся, зabлішчалі. Быццам стараліся вочы паболей убачыць у гэтыя імгненні. І ён шмат што бачыў, стоячы каля плота. Ён бачыў, як ціха плача Шура Аўлукова. Правай рукой яна падпёрла шчаку, згорбілася і стала падобная на бабульку.

— Не плач, Шурка,— крыкнуў ёй Ярчак.

Ён бачыў, як мітусіцца за спінамі дружыннікаў Жолуд. Вось трушком падбег да Ахахоніна, нешта шапнуў на

вуха, потым хуценька расшпіліў верхні гузік кашулі, сухімі бяскроўнымі пальцамі пачаў часаць сабе кадык.

Ён бачыў, як у дружынніка, маладзенькага, кірпатага, нервова калоціцца шчака, і, каб супакоіцца, дружыннік прыціскаецца шчакою да прыклада, і руля вінтоўкі ходзіць у бакі, нібы п'яная. Першы раз, напэўна, даводзіцца страляць у жывога чалавека, што стаіць за дзесяць крокаў насупраць.

З завулка дружыннікі вывелі Антона Радзімовіча з Васілём Безручонкам. Хлопцы разгублена пазіралі наўкола, усё не маглі ўцяміць, што адбываецца. «У рыбу бегалі хлопцы»,— успомніў Ярчак, і шкадаванне, вострае шкадаванне, што яму ўжо ніколі не бачыць ранішняй ракі, не ісці басанож па цёплых дажджавых лужынах у лузе, на момант захліснула душу.

Ахахонін узняў угору руку. «Памірае чырвоны матрос Ярчак»,— падумалася Ярчаку, і спакой вярнуўся ў душу. Ён сустрэўся вачамі з Антонам Радзімовічам. Жах і любоў свяціліся ў Антонавых вачах.

— Жывіце, хлопцы! Жыві, Антон! — адчайна-весела, страсна крыкнуў Ярчак, ірвануўшы на грудзях цяльняшку.

— Агонь! — няўмольна, як нож гільяціны, апусцілася рука Ахахоніна.

Ярчак цяжка ступіў два крокі наперад, рукамі схапіўся за прабітыя кулямі грудзі, пахіснуўся — наваколле пайшло кругам у вачах — і не ўпаў, а ціха лёг на зямлю. А здалося яму, што з самай высокай карабельнай мачты, з самага верху, скокнуў ён у пеністае, бяздонна-свінцовае мора, і яно абступіла, абняло яго, расплюшчыла і кінула на свае жоўтыя ікластыя скалы.

Так загінуў Ярчак. Яшчэ не ўсе паверылі ў яго смерць, яшчэ Шура Аўлукова з доктарам і вясковымі маладзіцамі, нахіліўшыся над ім, тармасілі, гладзілі яго, як новая бяда абрушылася на ранішнюю Вераб'ёўшчыну. Раптам каля дуба, на самай плошчы, цяжка гухнуў снарад. Толькі што там у невялікай лужыне плавалі жоўценькія бухматыя качаняткі. І вось нібы з-пад зямлі вырас вялізны чорна-руды сноп выбуху. На дробныя кавалачкі пасыпаліся ў вокнах шыбы. Залямантавалі жанчыны, заплакалі дзеці.

На Вераб'ёўшчыну з усіх бакоў наступалі немцы. Ланцугі іхняй пяхоты ўжо беглі па лузе, па гародах. Гэта барысаўскі оберстляйтэр Шкоп усё-ткі дагнаў дружыну Гаўрылы Ахахоніна і рашыў знішчыць яе адным махам.

— Браты! — закрычаў Ахахонін, выхапіўшы з ножнаў шаблю.— Браты! Памрэм, але не адступім! Хай убачаць тэўтоны сілу народнай рэвалюцыі!

Ён павольна пайшоў да дуба, туды, дзе пасля выбуху тлела чорная зямля і валялася крывавае пер'е жоўценькіх качанятак. Куляй сарвала з ягонай галавы шапку, але ніводным мускулам не паказаў ён сваім дружыннікам ні страху, ні разгубленасці. З рымскай гісторыі ён успомніў,

як малады адважны рымлянін дзеля славы Рыма на баявым кані скокнуў у бяздонне і загінуў. Ён, сціснуўшы ў руцэ эфес шаблі, ішоў да дуба, быццам там было тое бяздонне, а ён быў мужным рымлянінам.

Раптам нейкая вясковая жанчына, худая, уся ў чорным, скокнула збоку, учапілася, як кошка, яму ў твар.

— Навошта чалавека забіў, ваўкалака? — закрычала жанчына, і ў яе голасе былі нянавісць і смяртэльная туга.

— Ён быў вашым ворагам... Ён прадаўся немцам,— загаварыў быў Ахахонін, але ўбачыў страшныя жаночыя вочы, што праціналі наскрозь, нібы распаленыя іголкі, і адпіхнуў жанчыну ад сябе. Рукою змахнуў са шчок кроў, сваю кроў, і крыва ўсміхнуўся: замест геройскіх салдацкіх ран лёс пасылае яму драпіны ад жаночых кіпцюроў.

Тады жанчына схапіла з зямлі камень і шыбнула ў Ахахоніна. Камень стукнуў у правае плячо, стукнуў небалюча, але шабля ледзь не вывалілася з рукі. Гнеў асляпіў Гаўрылу. Вось ён, народ, паказвае свой ідыёцкі нямыты твар. За гэты народ ішлі на эшафот, гнілі на катарзе, а ён б'е сваіх правадыроў каменнем так, як калісьці іудзеі білі Хрыста. Гаўрыла махнуў шабляй, стараючыся, аднак, не дужа знявечыць жанчыну. Яна схапілася за плячук і асела на пясок, што ўжо ружавеў, наліваўся яе крывёю. Ахахонін з чырвонай шабляю ў руцэ пераступіў цераз жанчыну і пахаладзеў — убачыў, як цэліцца ў яго з вінтоўкі малады яркавалосы абознік.

Антон выдраў вінтоўку з пахаладзелых рук забітага дружынніка, прыладзіў цвёрды прыклад да пляча і прыцэліўся ў таго, хто загадаў расстраляць Максіма Ярчака. Гэты чалавек павінен быў таксама памерці. Зараз жа. На вераб'ёўшчынскай вуліцы. Непадалёку ад таго месца, дзе, шырока абняўшы росны мурог, ляжаў Ярчак. Смерць гэтага чалавека была б вышэйшай справядлівасцю.

Ахахонін глядзеў, як нервова ходзіць руля вінтоўкі ў руках незнаёмага, апранутага па-вясковаму хлопца, і спіной, жыватом, плячамі, усім целам чакаў стрэлу. Раней, здавалася яму, ён не баяўся смерці. Перад замахам на тамбоўскага паліцмайстра цэлы тыдзень па сістэме ёгаў ён унушаў сам сабе, што смерць — гэта далучэнне да вечнасці, пераход з аднаго стану душы ў другі. Але тут, на бруднай вясковай вуліцы, пад выбухі нямецкіх снарадаў і дзікае галашэнне жанчын, страх смерці апаліў сэрца з такой сілай, што Ахахонін аж задыхнуўся. На сваім нядоўгім вяку ён бачыў шмат смерцяў. Паміралі цёмныя мужыкі і чуллівыя інтэлігенты. І ўсё было нармальна. Але тут павінен быў памерці ён, ён сам. Ён заўсёды лічыў народ порахам, а сябе іскрой. А калі так, то іскра не павінна патухнуць, не павінна, іскра больш патрэбная, і калі знікне яна — ніколі не загарыцца порах.

Антон стрэліў і плюнуў сабе пад ногі — убачыў, што прамахнуўся. Другі раз страляць не змог. Ахахонін рукавом чырвонай кашулі выцер з ілба халодны пот. І тут нібы

вогненны куст вырас перад ім. Захісталася пад нагамі зямля. Сваімі пранізліва-чырвонымі вострымі галінкамі куст сцебануў Ахахоніна па грудзях, адпіхнуў ад сябе. Гаўрыла адляцеў убок, упаў на спіну, убачыў над сабой дымнае чорна-сіняе неба і страціў прытомнасць.

Нямецкая пяхота ўжо была на прыгуменнях і каля крайніх хат Вераб'ёўшчыны. Уперадзе на матацыклетцы ехаў афіцэр, размахваў пісталетам і крычаў, аддаваў загады высокім тонкім голасам. Матацыклетка раптам звалілася ў канаўку, афіцэр паляцеў потырч носам, але адразу ж усхапіўся на ногі, сваім ходам пашпарыў проста на тое месца, дзе, уціснуўшыся насамі ў зямлю, у маладзенькім рэдкім садзіку, ляжалі Шура, Антон, Васіль Безручонак і яшчэ з паўтара дзесятка абознікаў і дружыннікаў.

У Антона, як заўсёды, калі хваляваўся, хутка-хутка на левым плячы каля шыі пачала пульсаваць кроў. Антон знайшоў гэтае месца пальцамі, моцна націснуў на яго. Біццё крыві спынілася, але, толькі адпусціў пальцы, пачалося зноў, з яшчэ большаю сілай.

Дарэмна ён не ўляпіў кулю ў таго кучаравага. Трэба ж было прамахнуцца з дваццаці крокаў! Але зладзюга не мінуў сваёй смерці — нямецкай шрапнеллю яго разанула, ляжыць пад дубам. Ярчак, Ярчак, і як яны змаглі руку на цябе падняць? Такога чалавека са свету звялі!

Антон суцішыў дыханне, прыцэліўся і стрэліў у афіцэра, што ўжо выскачыў з-за кустоў агрэсту і маліннiку. Афіцэр упаў, як праваліўся, назад у кусты; толькі ногі ў бліскучых высокіх ботах мільганулі. Побач страляла Шура, закусіўшы губу, сабраўшы лоб у маршчыны. У Васіля Безручонка не было вінтоўкі, ён ляжаў у баразне, лаяўся і крычаў Антону і Шуры:

— Вунь з-за хлява выглядае! Пеканіце ў яго!.. Па градах папоўз! Хаваецца! Умаж, Антон, яму!..

Але вось быццам раскалолася неба — з гарачым свістам прыляцеў снарад, узвіўся выбух. Антон убачыў, як з карэннем вырвала яблыньку — карэнне было снежна-белае,— шпурнула на страху хлява, які пачынаў ужо загарацца. Яблыкі пасыпаліся, як град. Шура выпусціла з рук вінтоўку, скурчылася ад болю, у вачах засвяціліся адчай і сум. На грудзях, праз вязаную кофту, павольна разлівалася шырокая чырвона-бурая пляма. Твар у Шуры адразу збялеў і завастрыўся.

— Шура! — кінуўся да яе Антон.

Яна слаба адвяла ягоныя рукі, сказала ледзь чутна:

— Паміраю я...

Антон з Васілём, аглушаныя, абсыпаныя чорнай гарачай зямлёй, узялі яе на рукі і, прыгінаючыся, трушком пабеглі з саду, у якім пад няўмольным свінцом паміралі людзі. Пахла паленым порахам і яблычным сокам, які густа цёк з яблыкаў, раструшчаных нагамі, скляваных кулямі.

— Панясём яе на наш двор,— задыхаючыся, сказаў Васіль, але Шура раптам закрычала ад болю, папрасіла-

ся, каб яе паклалі дзе-небудзь,— можа хоць трохі стане лягчэй цярпець боль. Яны паклалі яе на нейчым двары пад высокім торпам бярозавых дроў. Шура цяжка дыхала, ляжала, заплюшчыўшы вочы. Потым, як скрозь сон, паклікала:

— Антон... Антон...

І калі ён схіліўся над ёй, абвіла слабай рукой ягоную шыю, сказала:

— Паміраю я... Дзе ж ты начаваў гэтай ноччу? Я па вуліцы хадзіла... Да цёмнага хадзіла... Думала — убачу цябе... Паміраю я... Бывай.. Бывай... Ручаёк ты мой чысты... Пацалуй мяне перад смерцю...

Дыханне ў яе перарвалася, вочы на імгненне расплюшчыліся — яны былі мутныя ад болю і ад вялікага шкадавання. Антон пацалаваў яе ў шчаку, не вытрымаў, прыкусіў губу і заплакаў. Ён зразумеў — яна кахала яго. Гэтая прыгожая адчайная дзяўчына кахала яго і толькі ў апошнюю хвіліну, калі пачалі ўжо халадзець вусны, прызналася ў гэтым. Смерць стаяла над ёй, бяліла шчокі, замарожвала вусны, смерць забірала яе з сабою.

— Шура! — паклікаў Антон.— Шура! — Але яна ўжо не азвалася, ляжала з каменным тварам, спакойная і далёкая. Тады Антон, не саромеючыся Васіля Безручонка, што ціха стаяў збоку, сеў каля яе на траву, абшчапіў галаву рукамі і заплакаў. Вялікая несправядлівасць была наўкола. Паміралі харошыя, дарагія людзі, і немагчыма было перашкодзіць гэтаму.

Між тым бой, з якога іх на некалькі імгненняў вырвала раптоўная смерць Шуры, разгарэўся з яшчэ большай сілай. На двор — відно, за некім гнаўся — забег маладзенькі немец, задыханы, расчырванелы. Шапка звалілася ў яго з галавы, ці можа яе сарвала куляй, і ён з'явіўся перад Антонам і Васілём, светлавалосы, моцны, прыгожы. Ён нагадваў азартнага паляўнічага сабаку, які вось-вось дагоніць зайца, зубамі ўвап'ецца ў цёплую поўсць, і таму так радасна трымцела ягонае сэрца, так узбуджана блішчалі вочы. Ён заўважыў хлопцаў і, узняўшы штык-цясак, рынуўся ўперад, нібы яны былі травой, што прыпадае да зямлі ад аднаго ягонага дыхання. Васіль паблядаеў, адскочыўшы некалькі крокаў назад, стрэліў у немца. Куля пранізала грудзі, і немец, як хто даў яму падножку, з лёту ўрэзаўся ў торп дроў. Загрымелі, пакаціліся бярозавыя плашкі, з галавою накрылі мёртвага салдата.

— Пабеглі адсюль,— спалохана загаварыў Васіль, не зводзячы вачэй з гары дроў, пад якою знік немец.— У нашай лазні схаваемся...

— А Шура?

— Што — Шура? Яна ж мёртвая. Хай тут паляжыць. Як сціхне ўсё, вернемся сюды.

Антон зняў з галавы шапку, накрыў ёю твар Шуры і, азіраючыся, выціраючы кулаком вочы, падаўся следам за Васілём. Яны пералезлі плот, пабеглі па агародзе, блытаю-

чыся нагамі ў агурэчніку і гарбузоўніку. Страляніна не спынялася, нават рабілася спарнейшая.

— Гарыць наша лазня... Эх! — стукнуў сябе па калене Васіль.— Што ж рабіць будзем? Пабеглі на наш двор.

Але да Васілёвага двара яны не дабеглі. Каля старога дубовага крыжа, што стаяў на развілцы вуліц, частая нямецкая страляніна прымусіла іх уткнуцца насамі ў вулічную гразь. Антон раптам убачыў, як страшная дзікая сіла зламала крыж, нібы трэску, напалам, шпурнула абломкі ў розныя бакі. У тое ж імгненне быццам цяжкім гарачым малатком стукнула яго па левай назе вышэй калена. Ад нечалавечага болю паліліся з вачэй слёзы. «Зноў паранілa»,— са страхам і тужлівасцю падумаў ён і, каб не страціць прытомнасць, упіўся з усяе моцы пальцамі рук у мокры пясок, нібы хацеў зрабіць у зямлі нару і схавацца там. Аглушаны Васіль Безручонак спалохана глядзеў на яго, потым закрычаў:

— Ратуймася, Антон! Да каплічкі паўзі!

Каплічка, маленькая, складзеная з шэрага палявога камення, стаяла непадалёку ад таго месца, дзе толькі што быў крыж. Яны папаўзлі да каплічкі. Параненая нага была як чужая, не слухалася, валачылася па зямлі бервяном. У Антона ў вачах мутнела ад болю. Ён пераваліўся цераз парог каплічкі, знясілена лёг, знерухомеў на земляной падлозе. Усёй скурай адчуваў, што на лбе і між лапатак густа выступіў халодны пот.

— Ці жывы ты, братка? — нахіліўся над ім Васіль.

— Жывы... Не пашанцавала мне...— аднымі вуснамі выдыхнуў Антон.

— То пацярпі, паляжы... Я табе рану чыстым перакручу.

Васіль ірвануў з плячэй белую кашулю, разадраў яе на палосы і адно паўтараў:

— Цярпі, цярпі, братка... А то крывёю сплывеш...

Ад пякучага болю хацелася крычаць, але Антон, сцяўшы зубы, прыдушваў крык у грудзях, толькі часта-часта міргаў вачамі. Проста над ягоным тварам слаба віднелася на сцяне каплічкі драўлянае, патрэсканае распяцце Хрыста. Хрыстос вісеў на крыжы, падкурчыўшы ногі, у яго быў жоўты спакутаваны твар. Здавалася, ён прыслухоўваўся да стрэлаў і крыкаў...

— Ну вось і кроў спынілася,— цяжка дыхаючы, сказаў Васіль.— Перачакаем тут, а потым да нашай хаты дабярэмся.

У гэты час яны пачулі хрыпучы стогн, і чалавечая рука, слабая, брудная, ухапілася за каменны парог каплічкі. Так, як кажа народная мудрасць, калі топяцца — хапаюцца за брытву. Яшчэ адна жывая душа шукала паратунку ад куль і штыкоў за тонкімі, ненадзейнымі сценамі каплічкі. Яны яшчэ не бачылі чалавека, толькі ягоная рука нервова перабірала пальцамі па імшыстым каменні парога — чакала. Відаць, чалавек збіраўся з сілаю. Вось рука

страшна напружылася, аж пазногці пабялелі, і паранены Гаўрыла Ахахонін са стогнам пераваліўся цераз парог. У яго былі густа заліты крывёю грудзі. Ахахонін ляжаў пластом, потым павярнуўся, прыўзняў галаву, бруднай рукою адмахнуў ад вачэй кучаравую чупрыну і глянуў на Антона.

Іхнія позіркі сустрэліся.

## V

Пад навіссю густых цёмна-зялёных лапак елкі, як у будане, сядзелі двое. Дзяўчына, дакладней, маладая жанчына, прыгожая, русявая, з густа загарэлым тварам, які бывае ў тых, хто ўсё лета жыве і працуе на свежым паветры, схіліла галаву на плячо свайго спадарожніка, чорнавалосага каржакаватага дзецюка, пляла вянок з дзікіх лясных кветак.

Лес абмываўся светлай раніпняй расою. На невялікай палянцы, што была якраз насупраць старой елкі, пад якой сядзелі двое, дзумкалі пчолы, чмялі, снавалі матылькі, стракозы, божыя кароўкі. Сонца ўсё вышэй уставала над лесам, і маленькія насельнікі ўтульнай паляны лёталі, скакалі, поўзалі, купаліся ў расе і ў нектары. «Ідылія»,— сказаў бы сентыменталіст васемнаццатага стагоддзя і памыліўся б — вінтоўка ляжала на каленях у мужчыны, нервова ўзіраючыся руляй у лясны гушчар. Ды і ў самога гаспадара вінтоўкі для такой светлай раніцы быў занадта заклапочаны выраз твару, нешта гняло яго, хмурыла вочы. Так сядзелі яны пад лёгкім пошумам лесу, цалкам аддаўшыся сваім думкам.

— Навучы мяне страляць з вінтоўкі, Мішка,— сказала раптам Дзіна. Яна адзела на галаву вянок і прытрымлівала яго рукамі, нібы мог узляцець ён, быццам птушка.

— Навошта табе страляць? — глянуў на жонку Мішка.

— Усе страляюць, і я хачу.

— Усе пойдуць тапіцца, і ты пойдзеш? Мужчынскае гэта дзела, не бабскае,— Мішка левай рукою асцярожна прыгарнуў да сябе Дзіну; правая рука сціскала абшарпаную ложу вінтоўкі.

Колькі часу яны маўчалі, потым Дзіна, хітравата ўсміхаючыся, глянула на Мішку знізу ўгору, проста ў вочы, спыталася:

— Як у нас дзіцятка будзе, каго б ты хацеў: дзяўчынку ці хлопчыка?

— Хлопчыка, вядома. Сына,— твар у Мішкі пасвятлеў, у вачах загарэўся цёплы агеньчык.

— Яшчэ адзін Мішка Сырамалот будзе... Толькі маленькі...— Дзіна сказала гэта нібы сама сабе, нібы не верачы ў тое, што гаворыць. Потым зняла вянок, адзела яго Мішку на чорную чупрыну: — А што, калі ў нас не будзе дзяцей?

— Як гэта — не будзе? — Мішка нават адсунуўся трохі ад яе і скінуў з галавы вянок.

— Ну, не ведаю як... Усё ж можа быць...

— У нас з табой не можа такое быць, Дзіна. Хата без дзяцей, як лес без птушак.

Дзіна ад гэтых Мішкавых слоў засмяялася радасным ціхім смехам, пацалавала мужа ў шчаку:

— Эх ты, герой. Вожык ты мой калючы...

Яны зноў прыціхлі, сядзелі ў нейкім утрапенні, глядзелі на залітую сонцам паляну, слухалі шум дрэў над галавой, і хацелася сядзець вось так, не гаворачы, прыхінуўшыся адно да аднаго, аж да самага сіняга вечара, пакуль сонца не скоціцца за край зямлі. Рэдка выпадалі ім такія хвіліны. З таго дня, як прымчалася Дзіна на Гаранковых конях у атрад, столькі адбылося падзей, столькі крыві людской пралілося. Але да апошняга свайго дыхання не забудуць яны той дзень, калі жаніліся, калі Бацюта, усміхаючыся, прыгладжваючы вусы, даў ім два пярсцёнкі, выпілаваныя з гільзы ад нямецкага карабіна. Тады ішоў дождж, цёмнае трывожнае неба вісела над лесам, вецер налятаў з прагалаў між дрэў, прыціскаў да зямлі вогнішчы і тушыў іх; сіпелі вільготныя бярозавыя дровы ў жоўтым полымі, бяроста скручвалася на іх, лопалася, а ўсе, хто быў свабодны ад караулу, сабраліся ў штабным будане, і ўсім Яўхім Сцепанюга, атрадны кашавар, наліў па чарцы самагонкі. Толькі Дзіна з Мішкам пілі халодны кляновік з вялізных драўляных кубкаў. Потым быў вечар, была ноч, іхняя ноч; белыя чэрвеньскія зоркі зіхацелі ў небе, і ціхі дзявочы голас, як праменьчык месячнага святла, трапятаў над бязмежнасцю ночы. Дзіна і зараз помніць словы той песні...

Паехаў мой мілы, нідзе не відаці.
Выйду за вароты, два слядочкі знаці.
Ой, пайду ў лясочак, вырву там лісточак,
Буду прыкрываці мілага слядочак,
Каб па тым слядочку людзі не хадзілі,
Каб майго мілога іншы не любілі...

Здавалася, што гэта яна, Дзіна, праводзіць свайго Мішку, і там, куды ступіць яго вараны конь, кладзе кляновыя лісты, вялізныя і залатыя.

— Дзіна,— уварваўся ў яе ўспаміны Мішкаў голас,— ты ж глядзі — нічога цяжкога не паднімай, дровы і ваду не цягай. Сцепанюга з Сямёнам-артылерыстам не зломкі, зробяць. І бабы падсобяць. А табе сцерагчыся трэба.

— Ведаю, ведаю, Сырамалот,— засмяялася Дзіна.

Ёй падабалася, што ён клапоціцца пра яе, сваю жонку, клапоціцца, не хаваючыся старонніх вачэй, усюды, дзе толькі можа. «Добры мой Мішка»,— ужо каторы раз думала Дзіна і ўспамінала Чмялі — як там маці жыве? Ці не крыўдзіць яе бацька? Бацьку ўспамінаць не хацелася. Бацька, казалі людзі, пракляў дачку-ўцякачку, бачыць яе не хоча і крычаў, напіўшыся ў Белазора, што Дзіна адна

такая гуляшчая з усіх Радзімовічаў і што на вытаптанай дарозе трава не расце. Бач, куды верне. Гэта яна, Дзіна, вытаптаная дарога, яна, што і пацалавалася ўпершыню толькі з Мішкам Сырамалотам. Крыўдна рабілася ад таких, але няхай, няхай звягае неразумны бацька. У яе ёсць муж, у яе будзе дзіця, якое ўжо ўчора нясмела торкнула ножкай пад сэрцам.

Так думала яна, успамінаючы мінулае, сягаючы марай у заўтрашні дзень, як раптам Мішка лёгенька пацісвуў ёй рукою плячо:

— Глядзі, хто ідзе.

Па паляне, па густой траве, аб нечым размаўляючы, ішлі Бацюта, Кузьма, камандзір атрада Сцяпан Кладзькоў і незнаёмы мужчына, высокі, сутулы і вузкаплечы. Мішка глянуў на Дзіну, прыклаў палец да вуснаў:

— Ціха... Не дай бог убачаць нас тут...

Сцяпан Кладзькоў быў з асіповіцкіх чыгуначнікаў, калісьці ездзіў машыністам паравоза. Але восеньскай ноччу трапіў у аварыю і толькі выпадкова ацалеў, паламаўшы некалькі рэбраў і страціўшы левае вока. З таго часу насіў ён на левым воку круглы чорны шкураток. Быў Кладзькоў строгі з твару, маўклівы, у куточках вуснаў назаўсёды застыла халодная туга. Хадзіў ён неяк трохі бокам, ставіў нагу асцярожна, быццам ступаў на голы лёд і баяўся паслізнуцца. Але ў атрадзе яго паважалі, нават любілі. Ён, як і Бацюта, быў стары партыец, праўда, у турму і ссылку не трапляў.

— Дык ты, таварыш Сяргей, ездзіў, кажаш, у Смаленск? — перарваў маўчанне Кладзькоў і глянуў на незнаёмага мужчыну. Той, каго назвалі таварышам Сяргеем, згодна кіўнуў галавой.

— І што чуваць у Смаленску? — спытаўся Бацюта.

Андрэй Бацюта быў у партызанскім атрадзе камісарам, хадзіў у зялёна-карычневым плашчы, які ўзяў у палоннага кайзераўскага афіцэра, і ў высокіх, ледзь не па калена, ботах.

— Там была канферэнцыя падпольных камуністычных арганізацый Беларусі. З Мінска Адам Славінскі быў. Даклад рабіў Мяснікоў,— таварыш Сяргей гаварыў лаканічна, узважваючы кожнае слова і ў такт кожнаму слову ківаў галавой. «Так у спякоту конь ад аваднёў адмахваецца»,— чамусьці падумалася Кузьму. Ні на кропельку не хацелася яму абразіць таварыша Сяргея, проста такая нечаканая думка прыйшла раптам у галаву.

Кузьма быў у атрадзе камандзірам коннай разведкі. Праўда, коннай яна толькі называлася, бо на дзесяць разведчыкаў было ўсяго два кані — у Кузьмы і ў Мішкі Сырамалота. З таго часу, як пад агнём легіянерскіх гармат выбег Кузьма з бацькавай хаты ў снежнае поле, прайшло амаль сем месяцаў. Столькі давялося пабачыць за гэтыя дні! Баі з атрадамі Доўбар-Мусніцкага і з кайзераўцамі, адступленне аж да Оршы. Сустрэў параненага Антона,

нёс на руках і зноў згубіў у гэтай страшнай калатнечы. За Оршаю спыніліся, аддыхаліся, падлячылі раны. І тут прыйшоў загад: разам з 1-м чырвонаармейскім палком імя Віцебскага Савета грузіцца ў цяплушкі і ехаць на Усходні фронт супраць Калчака. Тут большасць чмялёўцаў і частка асіповіцкіх чыгуначнікаў стала на дыбкі: «Не паедзем ад дому! Свае хаты трэба бараніць! Вораг паліць нашы вёскі!»

Сабралі мітынг. Бацюта аж голас пасадзіў, крычаў, што ў імя рэвалюцыі трэба ехаць туды, куды загадваюць, што Усходні фронт зараз самы галоўны, самы важны. Не паслухаліся. Адвярнуліся ад Бацюты. І тады ён закрычаў:

— Дэзерціры! Анархісты! Ад бабскіх спадніц страшна адарвацца. Мне сорамна за вас! Я, Андрэй Бацюта, еду на Усходні фронт! Хто са мной — падыходзь да трыбуны!

Так здарылася, што не трапілі яны на Усходні фронт. У той дзень памітынгавалі і не селі ў цяплушкі, а назаўтра ўспыхнула леваэсэраўскае паўстанне ў Сенненскім павеце. Разам з іншымі часцямі Чырвонай Арміі яны ўступілі ў бой супраць мяцежнікаў, ачысцілі Сянно, а рэшткі леваэсэраўскіх атрадаў на чале з завадатарам Закрэўскім загналі за дэмаркацыйную лінію, на нямецкі бок. Захапіўшыся боем, самі перайшлі дэмаркацыйную лінію і трапілі ў акружэнне германскіх войск. Чатырохдзённымі баямі немцы адцяснілі іх на захад, адрэзалі ад чырвоных войск, і воляй-няволяй зноў яны зрабіліся партызанамі, рушылі ў напрамку родных мясцін.

Ідзе Кузьма побач з Бацютам, і сорамна яму робіцца, як успомніць той мітынг у Оршы. Чаму не падышоў тады да Андрэя? Чаго спалохаўся? Ваенны ж чалавек — сам добра ведае, што дысцыпліна галоўнае для салдата. У тым-то і справа, што галавой, розумам ведае, а сэрца сваё гаворыць і тады гаварыла: будзь бліжэй да дому, сваю зямлю барані. Ведае Кузьма, што няправільна гэта, сустракаў не раз салдат-інтэрнацыяналістаў: венграў, славакаў. У гэтых і наогул свая зямля за тысячы вёрст адсюль, а як ваююць, як кроў за Саветы праліваюць. «Вучыся, Кузьма,— гаворыць ён сам сабе,— вучыся ў Бацюты, у Кладзькова».

Пасля таго мітынгу дужа сярдзіты быў Бацюта — выгнаў з атрада Людвіка Перуноўскага з сынамі, як галоўных крыкуноў. Кажуць, падаліся Перуноўскія ў Беларускі конны полк, што расквартараваны ў Оршы. Кузьму ж нічога не сказаў. А можа не ўбачыў, як паводзіў тады сябе Кузьма?

Спыніліся на палянцы, селі на траву. Кладзькоў зняў з галавы скураную шапку, падставіў цёпламу ветру рэдкія, але яшчэ не сівыя валасы. Глуха шумеў лес. Дужа шмат было ў траве божых каровак. Здавалася, трава густа запырскана маленькімі кропелькамі крыві.

— І ў Мінску, кажаш, была партканферэнцыя? — зноў спытаўся Кладзькоў у таварыша Сяргея.

— Была. Паперад смаленскай. Таварыш Бампі і таварыш Новы выступалі.

— А мы, бачыш, нічога не ведаем,— Бацюта злавіў божую кароўку, глядзеў, як паўзе яна па шырокай далоні, сіліцца расправіць крылцы.

— Непарадак гэта,— згадзіўся Кладзькоў.— Сядзім у сваім лесе, як баба на печы. А побач — Ігумен, Мінск, Асіповічы... Партыйцы ў падполлі змагаюцца... Непарадак.

— Вось мяне і накіраваў сюды Мінскі падпольны партыйны камітэт, каб наладзіць сувязь з вамі,— строга паглядзеў таварыш Сяргей на Кладзькова, Бацюту і Кузьму.— Мы павінны збіраць сілы ў адзін кулак і ў горадзе, і тут, у правінцыі. Наспявае гаворка пра ўзброенае паўстанне ў Мінску. Так, таварышы, пра гэта казалі на канферэнцыі. Людзі ў нас ёсць, і яны рвуцца ў бой. Але мала зброі, прадуктаў, медыкаментаў. У Мінску голад. Кайзераўцы рабуюць усё, што трапіць пад руку. Адкрылі два канцлагеры, у якія кідаюць рабочых і ўсіх падазроных. Абстаноўка вельмі складаная, таварышы.

— Так, так...— згодна ківалі Кладзькоў з Бацютам галовамі.— Трэба нам з вамі моцную сувязь мець. Неадкладна трэба свайго чалавека ў Мінск паслаць па інструкцыі і літаратуру.

— А як у Белнацкома справы ў Маскве ідуць? — пацікавіўся Кладзькоў.

— Сустракаў я Жылуновіча з Чарнушэвічам і Чарвякова. Хочуць склікаць яны нараду, аб'яднаць беларускія бальшавіцкія секцыі.

Таварыш Сяргей зноў уважліва паглядзеў на ўсіх. Здавалася, ён яшчэ не зусім упэўнены — з тымі людзьмі гаворыць, з якімі трэба, ці не. Цёмныя вочы яго былі халодныя і напружаныя.

— Хутчэй бы яны склікалі! — успыхнуў Бацюта.

— Не гарачыся, Андрэй,— паклаў Кладзькоў руку на плячо Бацюты.— Усё ўладзіцца... Абы мы добра ваявалі.

У гэты час таварыш Сяргей рэзка азірнуўся, паблядпеў, торкнуў пальцам у напрамку лесу:

— Там... Там нехта хаваецца! І слухае ўсё, што мы гаворым!

— Такое не можа быць,— спакойна сказаў Кладзькоў.— Усюды расстаўлены нашы пікеты. У лес і верабей не праляціць. Вам, пэўна, здалося.

Але і Кузьма пачуў няяснае шамаценне яловых лапак, нават нейчы прыглушаны шэпт. Ён сарваў з пляча вінтоўку, падбег да старой елкі, што шырока распусціла па самай зямлі густыя калючыя касмылі, крыкнуў, зрываючы голас:

— Стой, а то пакладу на месцы! А ну вылазь адтуль!

Са сваёй схованкі вылезлі Мішка Сырамалот з Дзінаю. Ад разгубленасці і няёмкасці ў іх пабялелі твары. А Мішка, той ажно шапку скінуў з галавы, правай рукой нерво-

ва церабіў чупрыну, нібы хацеў ад сораму і адчаю вырваць на цемені ёмкі пук валасоў.

— Што я казаў? — паспешліва вышмаргнуў з кішэні рэвальвер таварыш Сяргей.— І тут кайзераўскія шпіёны. Рукі ўгору!

— Ды не,— зморшчыўся Бацюта.— Схавайце сваю шпокаўку. Гэта нашы людзі.

— Ну і ну,— пачухаў загарэлай рукою патыліцу Сцяпан Кладзькоў,— вось табе і... яўленне Хрыста народу. Што вы тут робіце, даражэнькія?

— Сцяпан Мартынавіч,— памкнулася была наперад Дзіна.— Мы...

Але Кузьма перапыніў яе. Ён, усё яшчэ трымаючы вінтоўку напагатове, злосны і рашучы, падышоў упрытык да Мішкі, вырваў у таго з рук вінтоўку, спытаўся:

— Чаму не на пасту, Сырамалот?

І не даў Мішку слова сказаць у апраўданне, рот раскрыць, загадаў:

— Марш у лагер, да Першакова! Скажы, што я даў табе двое сутак арышту! Так і скажы. Ясна?

Мішкаў твар пакрываўся плямамі, то белымі, то чырвонымі. Гледзячы сабе пад ногі, Мішка перарывіста дыхаў, і ў яго на скронях — усе бачылі — раптам заблішчаў пот, быццам трымаў чалавек на плячах пудоў колькі жалеза.

— Таварыш Кладзькоў,— зноў пачала Дзіна, з вялікім спачуваннем пазіраючы на свайго абяззброенага мужа,— мы толькі на хвілінку, на адну хвілінку адлучыліся... Зараз Мішка пойдзе на свой пост. Праўду ж я кажу, Мішка?

Столькі любові было ў яе словах, столькі непрыхаванай наіўнасці, дзіцячага даверу, што ўсім зрабілася неяк не па сабе. Усе адчулі, што, акрамя вайсковай дысцыпліны, суровых мужчынскіх законаў, ёсць яшчэ на гэтай зямлі і ласка, і спагада, і вернасць, якая, не задумваючыся, ахвяруе сабою. Але Кладзькоў сказаў суха:

— У яго ёсць камандзір. І камандзір аддаў абсалютна правільны загад.

Тады Дзіна павярнулася да Кузьмы:

— Братка, ён так болей не будзе рабіць... Вось крыж святы, не будзе...

Кузьма пачырванеў, закрычаў:

— Развялі тут шуры-муры. Мілуюцца, цалуюцца. Гнаць такіх трэба з атрада, гнаць, каб толькі пыл курэў!

І тут Дзіну нібы падмянілі — вочы заіскрыліся, агонь пабег па жылах. І гэты агонь выплеснуў на Кузьму столькі пагарды, столькі крыўды, што іх хапіла б на ўсіх чатырох: і на Кузьму, і на Кладзькова, і на Андрэя Бацюту з таварышам Сяргеем.

— А ты што за ўказчык такі? — тупнула Дзіна нагою.— Ты што — бацька яму ці мне? Вучыцель выкапаўся! Сябе навучы спачатку, як жыць трэба.

Кузьма на нейкі момант разгубіўся — не чакаў такой рашучай атакі. Але адразу ж авалодаў сабою, сказаў сястры:

— Сядзела б у маці на печы. Чаго ў лес прыбегла? Тут вайна, а ты са сваімі пацалункамі...

Нарэшце апамятаўся і Мішка Сырамалот. Усё яшчэ чырвоны, прыгнечаны, глянуў на Кузьму, быццам шылам укалоў:

— Пачытай Аўгуста Бебеля «Жанчына і сацыялізм». Тады і зразумееш, чаму яна ў лес прыйшла...

Сказаўшы гэтыя словы ціхім, вінаватым голасам, Мішка пакорна паплёўся ў лагер, каб з'явіцца перад грознымі вачамі Першакова і дакласці аб сваім арышце. Побач, трымаючыся за ягоную руку, хуценька ішла Дзіна, раз-пораз азіралася на Кузьму і ўсё нешта гаварыла-гаварыла.

Кладзькоў і Бацюта з таварышам Сяргеем глянулі адзін на аднаго і не вытрымалі, ціха засмяяліся. Толькі Кузьма, як певень пасля няўдалай бойкі, цяжка дыхаў, злосна пазіраў сабе пад ногі.

Нявесела апошнім часам было на душы ў Кузьмы. Тое здарэнне ў Оршы, калі не падтрымаў ён Андрэя Бацюту, гняло, не давала спакою. Не ведаў ён і што з сям'ёю. Казала, праўда, Дзіна, што прыязджала Праскоўя і павезла Сяргейку ў Мінск. Але ж у Мінску немцы, голад, хваробы. Ды і пра бацьку нядобрыя чуткі ходзяць. Саветы ганіць, немцы для яго культурныя гаспадары, якія адны толькі могуць давесці сённяшні свет да ладу. І з Антонам не пашанцавала — размінуліся ў час бою. А тут яшчэ Дзіна са сваім Сырамалотам.

Панура ішоў Кузьма ў свой будан. Кладзькоў, Бацюта і таварыш Сяргей засталіся на той палянцы, аб нечым гаварылі, раіліся, і ён, Кузьма, аказаўся непатрэбным, лішнім. «Начальства... У іх свае сакрэты...» — думалася яму, і сум яшчэ мацней сціскаў сэрца.

На высокай пясчанай выспе, што парасла густым саннікам, быў атрадны лагер. Выспу апаясваў глыбокі халодны ручай з балоцістымі берагамі. Лёгкія кладкі былі перакінуты цераз ручай, і на тым беразе, у дрыгвяністым альхоўніку, заўважыў Кузьма партызанскі пост — сплецены з галін буданчык, які, як шпакоўня, выторкваўся над сцяжынкай, што вілася ў бок лагера.

Кузьму пазналі. Малады русы хлопец, асіповіцкі чыгуначнік, ціха гукнуў:

— Землячок! Ці ёсць закурыць?

— Не куру,— буркнуў Кузьма. Яму ўспаміналіся словы Мішкі Сырамалота: «Пачытай Аўгуста Бебеля «Жанчына і сацыялізм», тады і зразумееш, чаму яна прыйшла...» Сорамна прызнацца Кузьме, але першы раз пачуў ён пра такую кнігу. Праўда, пра Бебеля даведаўся яшчэ ў войску, ад пісара Андрэя Кавалёнка. А Сырамалот, бач ты яго, ужо і кніжку пачытаў і хваліцца.

«Не так жыву,— спыніўся ў трывозе і роздуме, не дайшоўшы да лагера, Кузьма.— Не хапае мне нечага. Хутчэй трэба жыць і смялей. Так, так, хутчэй. На кані бацька да Мінска за сем сутак даязджаў, а сёння на цягніку ўсяго паўдня — і ты ўжо ў Мінску. Хуткі век пайшоў. Юшкова Івана няма побач — ён бы падказаў, што рабіць. Да Бацюты ж ісці няёмка, сорамна. Трэба з Кладзьковым паталкаваць».

Кузьма выцер рукавом сіняй сацінавай кашулі пот з твару і рушыў у лагер. З тры дзесяткі буданоў і зямлянак, змайстраваных на скорую руку, цясніліся на выспе, макаўка якой была бязлесная. Трохі зводдаль пад паветкай была канавязь — стаялі коні, пераважна разведчыкаў і атраднага начальства. У прасторнай неглыбокай яме была абсталявана паходная кухня. Ежу — кулеш, крупнік або бульбяны суп (ён называўся тут бульба з юшкай) — варылі ў двух вялізных саракалітровых чыгунах, якія Бацюта з Яўхімам Сцепанюгам ноччу вывезлі з флігеля Незабітоўскага. Праўда, ціха ім не ўдалося гэта зрабіць, хоць і парабкі дапамагалі. Сам Шмарлоўскі страляў па іх некалькі разоў і ўляпіў-такі адзін набой у чыгун, дзірку велічынёй з кулак прасвідраваў. Але Бацюта забіў дзірку свінцовай заклёпкай, і цяпер ад Сямёна-артылерыста, што быў на кухні дрывасекам і вадавозам, часта можна было пачуць у час абеду: «Усё, хлопцы. З'елі кулеш па заклёпку. Сушы лыжкі. Ніжэй заклёпкі — для разведкі і для паставых». За гэта жанчыны-кухаркі пачалі дражніць Сямёна — «Дзед Заклёпка».

У самым цэнтры лагера, на пляцоўцы, з якой рыдлёўкамі быў зрэзаны дзірван, стаяў самы высокі і самы прасторны будан. Тут быў штаб, тут жылі Кладзькоў, Бацюта і Першакоў. На вільчыку будана Бацюта павесіў чырвоны сцяг.

Было ў лагеры тры зямлянкі, дзе жылі жанчыны і дзеці. Браць іх у атрад Кладзькоў з Бацютам напачатку строга забаранілі, бо народ не вайсковы, шумлівы, дысцыпліны не ведаюць, могуць, як што, ударыцца ў паніку. Відаць, быў бы выкананы загад атраднага начальства, але ваякі кайзера Вільгельма павярнулі справу на свой капыл — там вёску спалілі, там сям'ю асірацілі, і давялося партызанам пацясніцца, даць месца ля сваіх кастроў беспрытульным і адзінокім. Неўзабаве адчулі ў атрадзе, што не толькі лішнія клопаты і турботы, але і карысць ёсць ад гэтых людзей. Па-першае, прынеслі яны з сабою сякі-такі харч, некаторыя прывялі кароў, коз, і калі здарылася нявыкрутка з ядою, дапамаглі партызанам. Нават кароў-карміцелек парэзалі. Жанчыны пачалі рабіць на кухні, мыць бялізну, даглядаць параненых. Дзецям таксама знайшоўся занятак. На чале з Сямёнам-артылерыстам нарыхтоўвалі яны дровы для кухні, збіралі ягады, грыбы, лавілі рыбу, падмяталі лагер.

Былі зроблены ўсе зямлянкі і буданы па-летняму, без

асаблівай прыглядкі на зімовыя маразы, бо амаль кожны верыў, што да зімы выметуцца кайзераўцы з Беларусі. Кладзькоў так і сказаў на мітынгу:

— Таварышы! Мы пераможам. Гэта несумненна. Савецкая Расія нам дапаможа скінуць прыгнёт германскага капіталу. Праз месяц-другі пачнецца рэвалюцыя ў самой Германіі. Ужо было паўстанне матросаў у Кілі. Калі ў Германіі возьмуць уладу пралетарыі, Брэст-Літоўскі мір, грабежніцкі мір, мы аб'явім незаконным, разарвём яго. Таварыш Ленін помніць пра нас і не забудзе нашу пралітую кроў і нашы пакуты. І тады мы пабудуем новую, Савецкую Беларусь.

Слухалі Сцяпана Кладзькова, верылі яму, спадзяваліся на лепшы заўтрашні дзень. І толькі Сямён-артылерыст крутнуўся на сваёй драўлянай назе, засумняваўся:

— Ой, каб не памыліцца, хлопцы. Дужа акуратны германец, каб рэвалюцыю ў сваёй хаце рабіць. Дзе рэвалюцыя, там шыбы б'юць, пер'е з падушак ляціць. А ён яблычак і той не сашчыкне з яблыні, што ля дарогі расце.

Кузьма, прыгнуўшыся, увайшоў у будан разведчыкаў, сеў на тоўстую дубовую калоду, якая служыла і сталом, і месцам для чысткі зброі. Уздоўж сцен стаялі нары, збітыя з яловых жэрдак і аплеценыя лазою. Земляная падлога была засыпана жоўтым пяском і заслана яловым лапнікам. У будане быў толькі Цімох Валадкевіч, малатабоец з-пад Асіповічаў, невысокі, шчуплы, але з на дзіва круглым сытым тварам. У вёсцы, дзе жыў раней Цімох, засталася пасля яго такая прымаўка-праклён: «Каб ты за гарачы ножык ухапіўся». Вось як гэта было. Працаваў Цімох малатабойцам у кузні, працаваў з асцярогаю, стараўся не дужа надрывацца, бо малаткоў шмат, а пуп у чалавека адзін. Ды справа зусім не ў гэтым. Было Цімоху тады васемнаццаць гадоў, кроў у ім так і кіпела, але дзяўчаты, вясковыя прыгажуні, абыходзілі яго — хапала хлопцаў больш гожых і больш спрытных. З кузні, што стаяла на ўскрайку вёскі, панура глядзеў Цімох, як, весела шчабечучы, бягуць увечары дзяўчаты на вечарынку ў Мацевічы ці ў Кабылянку. І ніхто нават і не гляне на яго, маленькага і мурзатага. Тады ж рашыў адпомсціць гэтым стракозам Цімох. Рабілі яны ножыкі-сцізорыкі па заказу асіповіцкага крамніка Гіршы Дынкіна. Узяў Цімох адзін ножык, малюсенькі, прыгожы, напёк яго ў агні да чырвані, трохі астудзіў і, як пачуліся галасы дзяўчат за крайняю хатаю, кінуў ножык на сцежку. Першая шчабятуха, дачка соцкага Антаніна, завіскатала ад радасці: «Ой, што я знайшла! Ой, дзяўчаткі, бацьку занясу!» — і схапіла ножык. Назаўтра бачыў Цімох, як ішла яна на вечарынку з перавязанай рукой. З таго часу і павялося ў вёсцы — ледзь хто засярдуе на каго, няўзлюбіць, крычыць: «Каб ты за гарачы ножык ухапіўся».

Кузьма глянуў на Цімоха, сказаў:

— Як здароўе,Валадкевіч? Не кашляеш? Жывот не баліць? Тады рыхтуйся — сёння ноччу ідзём на адно дзела.

«Ідзём на дзела» азначала, што сёння ноччу пойдуць яны ў разведку. ЦімохВаладкевіч абрадаваўся, як малы: твар ягоны засвяціўся, зніклі абыякавасць і сонная млявасць. Ён забегаў па будане, пачаў шукаць свае бялейшыя і сушэйшыя анучы, пачаў пераабувацца, а потым вастрыць на скураным пасаку шырокі нямецкі нож.

Між іншым, недарэмна спытаўся ў яго Кузьма пра жывот. Месяцы са два назад, у самым канцы вясны, пяць дзён, без крошкі ў роце, блукалі яны па лесе, абкружаныя з усіх бакоў нямецкімі лейб-гусарамі. Зрабіліся ўсе, як трэскі, у галаве быў нейкі шэры туман, і толькі на шосты ці сёмы дзень натрапілі на хутарок дзеда-смалакура. У дзеда з харчаваннем было таксама кепска — хоць зубы на паліцу кладзі. Але была ў яго каза. Націскаў ён малака гладышык, даў горла прамачыць. Першы хапануў таго малака Цімох Валадкевіч, хапануў прагна, захліпіста, і праз якую пару хвілін ужо качаўся па зямлі, схапіўшыся рукамі за жывот, енчыў:

— Ой, кішачкі мае! Ой, баліць, хлопцы!

— А ты з галадухі будзь як верабей, чалавеча,— строга сказаў дзед.— Дзеўбануў адну макулінку і перадыхні, пачакай... Паспяшаўся ты, пасквапнічаў, вось і палезла кішка на кішку...

Ледзь аддыхаўся тады Цімох.

У разведку хацеў Кузьма ўзяць сёння Мішку Сырамалота, ды сам жа даў яму двое сутак арышту. Тут, у будане, супакоіўшыся, усё добра ўзважыўшы, ён думаў: «Правільна даў». Але ў глыбіні душы ён ведаў, чаму баіцца даводзіць да канца гэтыя свае развагі. Ён думаў: «А каб раптам мая Праскоўя тут была? Няўжо б я да яе не падышоў?»

Як сцямнелася, верхам на конях выехалі з лагера. Кладзькоў пацісnуў ім рукі, нічога не сказаў, толькі ўчэпіста паглядзеў сваім адзіным вокам, нібы абмацаў іх. Коні ціха пайшлі ў цемру, пясчаная сцяжынка забялелася між сонных дрэў, немым голасам крыкнуў зводдаль начны птах. Спусціліся з выспы, пераехалі ручай, што тоненька булькатаў у каранях старых вольхаў. Насустрач, з балоцістага лесу, плыў пах звялай травы, мокрага карчэўніку. Там-сям ужо настойваліся астраўкі густога, едкага туману, быццам белыя вокны адчыняла зямля.

Кіраваліся яны ад Валуевічавай Буды за трыццаць з гакам кіламетраў на поўдзень лясной балоцістай стараной, туды, дзе, па чутках, немцы аднавілі разбураны ў час вайны вялікі бровар, падвялі да яго вузкакалейку. Кладзькоў з Бацютам рашылі знішчыць бровар, і трэба было на месцы разабрацца, як можна да яго падступіцца.

Між сабой ні словам не перакінуліся — такая завядзёнка ў разведчыкаў. Апрануты былі ва ўсё звычайнае, сялянскае; у Валадкевіча на нагах — лазовыя лапці, у Кузь-

мы — рускія салдацкія боты. Пілу мелі з сабой і дзве сякеры, бо Кузьма ў шапку ўклаў падробленую паперыну, якую нібыта выдаў ім барысаўскі оберстляйтэр Шкоп і ў якой пісалася, што па мабілізацыі былі яны ў працоўным атрадзе германскай арміі, нарыхтоўвалі дровы і вяртаюцца дахаты ў Чмялёўскую воласць. Са зброі былі ў абодвух нямецкія нажы, ды яшчэ ў Цімоха Валадкевіча вісела пад крысом світкі ручная бомба, а Кузьма засунуў за пазуху браўнінг.

Валадкевіч ехаў папераздзе. Конь у яго быў гнядой масці, зліваўся з наваколлем, і таму бачылася Кузьму толькі фігура Цімоха — здавалася, плыве Цімох над зямлёю на нейкіх крылах. Ён ехаў без сядла, кінуў на конскі круп звычайны лаплены мех. Ноч наступала з усіх бакоў, асабліва цёмная тут, у лесе, і было дзіўна — як гэта коні бачаць дарогу, як не саб'юцца з яе?

Кузьма ўспамінаў былога сябра Пчалаводава. Трохі болей за год прайшло з таго дня, як сканаў Ягор Іванавіч на балоцістым лузе каля вёскі Пагулянкі, а здаецца, быццам стагоддзі праляцелі над зямлёй, як гарачыя вогненныя коні. А жонка, Дар'я Цімафееўна, недзе ж чакае на сваім Урале.

Так ехалі гадзіны са тры. Ужо і сасоннік даўно кончыўся, пайшоў бярэзнік з вольхаю, нізкарослы, крывастволы, увесь у гнілых пнях і дрыгвяністых лужынах, з цэлымі зараснікамі высокай, густой, пякучай крапівы. Коні ўздрыгвалі, сціскаліся, спуджана храплі, калі даводзілася прабівацца праз такія зараснікі. Упершыню за ўсю дарогу з цёплай цемры ціха падаў голас Цімох Валадкевіч. Ён сказаў толькі адно:

— Казённае месца сцёр... Не кавалерыст я...

— Цярпі. Хутка прыедзем,— аднымі губамі выдыхнуў Кузьма.

Па яго падліках павінна была ўжо быць Перасопня, маленькая лясная вёсачка, дзе жыў і заўсёды чакаў партызанскіх разведчыкаў Сідар Ізох, пчаляр і грыбнік. Выходзячы ноччу з лесу, заўсёды на які час прыпыняліся ў Сідара, каб разнюхаць абстаноўку, перадыхнуць, прывесці сябе ў больш-менш цывільны выгляд — «атрэсці лясны мох», як жартавалі партызаны. Кузьма ж з Валадкевічам меркавалі пакінуць тут сваіх коней, каб ужо далей дабірацца пешшу.

Ледзь-ледзь пасвятлела ў лесе. «З гадзіну, не болей, да раніцы засталося»,— падумаў Кузьма і па тым, як наспружыніўся конь, як дыхнула ў твар цяплейшым, чым лясное, паветрам, зразумеў — прыехалі ў Перасопню.

Ціха саскочылі з коней, узялі іх за аброці і лугавінкаю пайшлі да хаты Сідара Ізоха — яна была другая з краю. На суседнім двары гаўкнула сабачанё і адразу зашылася ў будку ці пад ганак, бо ў вёсцы, абкружанай з усіх бакоў лесам, сабакі асцярожныя — ноччу ім не раз даводзілася сутыкацца з воўчай гайнёю.

Сідар Ізох, у споднім, высокі, хударлявы і русабароды, як толькі стукнулі ў шыбу, адразу адчыніў сенцы, упусціў у хату. Святла не запаліў, сказаў хрыпучым, яшчэ сонным голасам:

— Сядайце, хлопцы. Гэта ты, Кузьма? А што за таварышок з табой?

— Наш чалавек,— адказаў Кузьма, і Сідар задаволіўся адказам, не стаў распытваць.

У хаце густа, аж у носе заказытала, пахла грыбамі. Асабліва моцны пах цёк з печы.

— Ну і грыбоў сёлета, хлопцы,— пахваліўся гаспадар, асцярожна сядаючы на канапу побач з разведчыкамі.— Паверыце, выбегу ранічкай і яшчэ ногі расой не замачу, а ў кошыку ўжо баравікоў з верхам. Такія ж крамяныя, крэпкія, прыгожыя. Выйдзеш на палянку, зірк — а яны сядзяць, як тыя шляхцюкі ў карчме. Здаецца б, без солі еў.

— Шмат грыбоў — гэта на вайну,— раптам за самай Кузьмовай спіною загаварыла жанчына, і ён аж уздрыгнуў.

— Баба мая,— растлумачыў Сідар і чамусьці ўстаў.— Прывёў я сабе нядаўна бабу з Сакіняў. Аднаму ў лесе нязручна жыць, а дзяцей ад першай, што памерла, я не маю. Ды не сумнявайся, Кузьма,— Палагейка лішняга нікому нічога не скажа.

— Не ведаю я тутэйшых людзей,— уздыхнула, падышла і стала ля акна Палагейка. Была яна невысокая, кругленькая і, нават у паўзмроку хаты адчувалася, прыгожая.

«Новы чалавек у хаце. Трэба сказаць Кладзькову»,— падумаў Кузьма, а ўслых, каб не выдаць сваёй разгубленасці, сказаў:

— Кажаце, на вайну грыбы. Дык ідзе ж вайна. І мы — людзі ваенныя.

— Яшчэ болей сярдзітая вайна будзе,— ціха варухнула плячом сакіньская баба.

Распыталі ў Сідара Ізоха пра нямецкі бровар, завялі ў хлеў коней, паелі мёду з сухім хлебам, спаласнулі твары і рукі халоднай вадою і рушылі ў сваю дарогу. Сідар стаяў на ганку хаты, глядзеў ім услед і на кавалку цагліны вастрыў грыбны ножык.

На гэты раз усё абышлося ў іх у разведцы добра, без прыгод, без лішняга страху. Праўда, як і заўсёды, была нервовая напружанасць, чаканне, што вось-вось нейкім жэстам, рухам, словам адкрыеш сваё сапраўднае аблічча — і тады ўжо толькі трымайся. Але яны прывыклі да гэтага, як прывыкае чалавек да змены дня і ночы, да дажджу і снегу.

Талковы ўсё-такі аказаўся хлопец Цімох Валадкевіч. З выгляду маруда, няўклюдзіна, твар быццам заспаны, нецікавы, а трэба — і загарацца, успыхнуць агеньчыкі ў цёмных вачах, і ажыве адразу, лёгкі, спрытны зробіцца, у любой гаворцы вывернецца, з кім хочаш сталкуецца. Ролю дрывасека ён вёў так натхнёна, так праўдападобна, што

немцы з каравульнай каманды, якая ахоўвала бровар, запрасілі іх папілаваць дровы для сваёй салдацкай сталоўкі і заплацілі шнапсам і тытунём.

Назад вярталіся таксама без ніякіх прыгод, калі не лічыць, што Кузьма ў лесе запарушыў нечым вока, і яно слязілася, шчымела. Вось сапраўды не ведаеш, дзе бог падножку дасць. Пабывалі ў лапах у немцаў, зрабілі ўсё так, што камар носа не падточыць, а тут — гэтае вока...

Кузьма ішоў злы, то прыжмурваў вока, то рэзка яго расплюшчваў і меў выгляд пакутніка, якога вядуць на эшафот.

У Перасопні, не паказваючыся староннім людзям, зайшлі на двор Сідара Ізоха. Той сядзеў на ганку, босы, шчаслівы, і перабіраў грыбы, цэлая гара якіх узвышалася перад ім на рассцеленай світцы, у кошыку і проста на зямлі.

— Прабег па лесе,— задаволена растлумачыў Сідар.— Прэ грыб, толькі звон звініць. Ужо маслякі, як гузічкі, пайшлі. А рыжыкаў, аж чырвона ўсё...

У Сідара была завядзёнка ніколі не распытваць пра тое, што і як зрабілі разведчыкі. Па тварах бачыў, які ў іх настрой. Даведаўшыся пра канфуз з Кузьмовым вокам, ён сказаў:

— Пойдзем да суседкі маёй, Гарпіны. Яна ў нас — як той дохтар Пірагоў. Твой сучок з вока языком дастане. Доўгі язык у бабы.

Цімох Валадкевіч пайшоў у хлеў, каб рыхтаваць коней у дарогу, а Кузьма з Сідарам не вуліцай, а садам пашнуравалі да Гарпінінай хаты. Хата была вялікая, як стадола, крытая дранкай, якая пачарнела і патрэскалася ад дажджу і часу. Гарпіна, маленькая, жвавая, чарнавокая, з гусарскімі вусікамі пад носам-бульбінай, сустрэла іх весела і, нават падалося, радасна. Яна пасадзіла Кузьму на нізенькі зэдлік, загадала не варушыць галавою, сядзець смірна. З другой паловы хаты, большай і святлейшай, якая была аддзелена дашчанай перагародкай, далятаді галасы.

— Школка ў мяне. Сёння першы дзень,— ахвотна растлумачыла Гарпіна.— Весела мне будзе цяпер з дзеткамі...

Яна раптам зрабіла строгімі вочы, балюча націснула сухім вострым пальцам Кузьму на павека. Праз імгненне ўсё было зроблена, і Гарпіна, задаволеная сваім спрытам, рашыла пачаставаць гасцей абедам.

— У мяне гарбузовая каша ёсць,— як нейкую тайну, напаўшэптам паведаміла яна. Кузьму трэба было адмовіцца, бо чакаў Цімох з коньмі, але ж ён рашыў пакаштаваць хоць лыжачку кашы, каб не пакрыўдзіць старую.

— Добрая каша... З малаком і просам,— гаварыла Гарпіна і ўжо даставала з печы гаршчок, які дыхаў салодкай парай, такой густой, такой смачнай, аж у носе казытала.

— Значыцца, настаўнік прыехаў,— зацікаўлена сказаў між тым Сідар Ізох.— У нашу лазу-дзеразу не кожны палезе. Глянем, што за ён, глянем...

Сідар падышоў да перагародкі з жоўтых, неахайна агаб-

ляваных дошак і, нібы быў у сябе ў хаце і ведаў, як тут што стаіць і ляжыць, лёгенька націснуў рукою на адну дошку. Дошка ад'ехала ўбок, і Сідар з Кузьмой глянулі туды, адкуль чуліся галасы. Сямёра хлопчыкаў і дзве дзяўчынкі сядзелі на табурэтках і зэдліках і слухалі настаўніка. Настаўнік стаяў спіною да Кузьмы з Сідарам, і яны бачылі толькі ягоную спіну, вузкую, касцістую, і светла-русую патыліцу. Вось настаўнік, гаворачы, павярнуўся трохі бокам. У яго былі цёмныя бровы, прамы нос, рудаватыя вусы.

— Мы з вамі, дзеткі, будзем вывучаць розныя навукі,— сказаў настаўнік і кашлянуў.— Вам трэба ведаць чытанне і пісанне, бо што гэта за чалавек, які не можа прачытаць напісаную літарамі думку іншага чалавека. Дужа спатрэбіцца вам у жыцці арыфметыка, яе лічбы і дробы, і геаграфія, якая апавядае пра далёкія краіны і пра народы, зусім не падобныя да нас, беларусаў. Ахвота і цярплівасць павінны быць у вас, калі не хочаце быць такімі ж цёмнымі, як большасць вашых бацькоў. А зараз гляньце на сцяну. Там я павесіў выяву славутага чалавека. Хто скажа, што гэта за чалавек і чым ён знакаміты?

Дзеці, падпарадкоўваючыся настаўніцкай руцэ з указкай, дружна павярнулі галовы, светлыя і чарнявыя, улева. І Кузьма паглядзеў туды.

— Што гэта за чалавек? Ты скажы,— падышоў настаўнік да худзенькага хлапчука.

Той борздзенька ўзняўся з табурэткі, абцягнуў на сабе саматканую кашулю, спалохана сказаў:

— Гэта нейкі дзядзька.

Тады настаўнік падышоў да чарнакосай, з носікам у вяснушках дзяўчынкі. Яна пачырванела, ціха прашаптала:

— Дзядзька...— І дадала: — Дзядзька з вусамі.

— Не, дзеці,— усміхнуўся настаўнік.— Гэта кайзер Вільгельм другі, бацька і правадыр германскага народа. «Кайзер» па-нашаму азначае кароль альбо цар.

Настаўнік падышоў да стала, за якім сядзеў, узяў у рукі кніжку, сказаў дзецям:

— Скажыце мне, што такое рунь?

Дзеці дружна загаманілі:

— Гэта што ў полі расце...

— Хлеб з яе жнуць...

— Зялёная яна...

— Правільна, дзеці... І вось паслухайце, што я вам скажу,— настаўнік узняў угору ўказальны палец.— Рунь, кажаце вы. А па-нямецку «грун» — зялёны. Бачыце, якія падобныя нашы мовы?

Настаўнік сеў на табурэтку, шчоўкнуў сашчэпленымі пальцамі, і тут Кузьма, пакінуўшы Сідара, шмаргануў шырму, што адгароджвала, раздзяляла пакоі, і стаў перад настаўнікам. Той ад нечаканасці аж страпянуўся, хуценька ўстаў, спытаўся:

— Што вам трэба, шаноўны?

Кузьма, нічога не адказваючы, падышоў да сцяны, з трэскам садраў партрэт кайзера Вільгельма.

— Што вы робіце? — пачырванеў у твары настаўнік.

— Дзеткі, бяжыце дадому,— сказаў вучням Кузьма. Сам жа цяжка сеў на табурэтку, якая рыпнула пад ім.

— Што такое? — абурыўся настаўнік.— Хто вы такі?

— Я камандзір чырвонай партызанскай разведкі Кузьма Радзімовіч,— сказаў Кузьма.— А вы хто такі?

— Я — Язэп Сярэдзіч. Член Бабруйскай рады. Я настаўнік. Спадзяюся, што вы, як нацыянальна свядомы беларус, не будзеце перашкаджаць весці ўрок.

— Я забараняю і закрываю ўсе вашы ўрокі,— Кузьма глядзеў проста ў вочы настаўніку.— Навошта дзіцячую душу граззю корміш?

Настаўнік сумеўся, але адразу ж справіўся з сабою, закрычаў:

— Не маеце права! Я паклічу старасту.

Тады Кузьма дастаў з-за пазухі нож, ціха сказаў:

— Імем Саветаў забараняю весці ўрок. Калі хоць пікнеш, адрэжу язык.

Твар у яго быў такі рашучы, такі страшны, што настаўнік, каўтануўшы паветра, зноў сеў за стол, пальцамі пачаў нервова барабаніць па ім. Колькі імгненняў цягнулася маўчанне, потым настаўнік, бачачы, што зачыняе за сабою дзверы яго апошні вучань, сказаў, гнеўна бліснуўшы пасуравелымі вачамі:

— Сёння, пакуль галодныя вашы жываты, вы ідзяце за Саветамі. Але заўтра жываты наядуцца і галоднай будзе душа. І вы пойдзеце за намі.

— Скулу ў бок не хочаш? — паспакайнеў Кузьма.— Я мажа лепшы беларус, чым ты. Я бальшавік беларускі. Ты зло і нянавісць плодзіш. Лічыш, што ўсе дрэнныя, усе дурні, толькі ты — прарок. Ты хочаш, каб беларусы выракліся свайго кораню. Ды ці ведаеш ты, у чым сіла беларускага народа? Не ў тваёй ідыёцкай арыйскай расе і не ў прыгожых блакітных вачах, а ў тым, што паважае ён іншыя народы, нікога не пакрыўдзіць, хоць сам крыўджаны, нікому на глотку не наступіць. І прашу цябе па-добраму — ідзі адсюль. З гэтай хаты. З гэтай вёскі. Не дадзім мы вам разгону, падсячэм вашы паганыя крылы.

Язэп Сярэдзіч з нянавісцю глядзеў на Кузьму, правай рукою, што злёгку дрыжала, катаў вусы, быццам хацеў пераканацца, што яны яшчэ ёсць у яго пад носам. Аціхлі дзіцячыя крокі, галасы, і цішыня павісла ў хаце. Яны глядзелі адзін на аднаго, дзеці адной зямлі і самыя заклятыя ворагі.

— Ідзі. Не чакай,— сказаў Кузьма,— ніхто не вернецца...

Сярэдзіч зняў з цвіка свой шэры паліто, капялюш, сабраў са стала кнігі, пайшоў быў да дзвярэй, але вярнуўся, узяў указку і толькі тады выйшаў. Кузьма, трохі счакаў-

шы, падаўся следам. Яго сустрэлі на двары каля хаты Сідар Ізох і Гарпіна. Гарпіна была незадаволеная, трымаючы гаршчок з гарбузовай кашай у руках, сказала:

— Настаўніка выгнаў. От, якія вы ўсе скорыя, якія грозныя. Чалавек дзетак нашых з цямноты вывесці хацеў. Бачыць цябе не хачу. Ідзі адсюль.

— За вока табе дзякуй, цётка,— усміхнуўся Кузьма.— А настаўніка гэтага ты не шкадуй. Не шкадуй. Дай бог, каб да вашых дзяцей не прыходзілі болей такія настаўнікі.

— Ідзі,— строга глянула на яго Гарпіна.— Ты таксама не залаты. Не каштаваць табе маёй гарбузовай кашы.

Яна павярнулася, трымаючы аберуч гаршчок, пайшла ў хату. Кузьма разгублена пачухаў патыліцу, развёў рукамі, паглядзеў на Сідара. Той маўчаў. І яны пайшлі з Гарпінінага двара.

Назаўтра дабраліся да атрада. Апошнія кіламетры Цімох Валадкевіч ужо не мог сядзець на кані, ішоў, няўклюдна перастаўляючы ногі, моршчыўся ад болю. Ён сам дзівіўся сваёй слабасці, заўсёды ж усё ў яго было здаровае, мог, калі трэба, патрываць, пацярпець, зубамі паскрыпець, а тут неспадзявана «расклеіўся». Ён сумна і вінавата глядзеў на Кузьму і, калі дабраліся нарэшце да атрада, адразу паплёўся да фельчара Яўменава. Кузьма ж пакіраваў у штабны будан.

Там былі Кладзькоў, Бацюта і Першакоў, камандзір стралковага ўзвода асіповіцкіх чыгуначнікаў, камлюкаваты сівавалосы здаравяк. Свой узвод ён называў не стралковым, а чырвона-бранявым. Неяк вясною падбілі нямецкі легкавік. Першакоў адрамантаваў яго, прыгнаў у лагер, тут легкавік абшылі лістамі жалеза, паставілі на яго «максім» — і атрымаўся «бранявік», якім усе вельмі ганарыліся. Ваяка Першакоў быў нядрэнны, смелы — калі трэба, мог у пекла палезці, але Кузьма адносіўся да яго з халадком, насцярогаю, увесь час чакаючы ад Першакова неспадзяванага выбрыку. Справа ў тым, што сапраўднымі байцамі-партызанамі Першакоў прызнаваў толькі сваіх чыгуначнікаў, да сялян ставіўся з непрыхаванай іроніяй, лічыў, што ў рашучы момант сяляне могуць разбегчыся па сваіх хатах і палосах. З-за гэтага ў яго былі сутычкі з Кузьмой, з Мішкам Сырамалотам, а аднойчы Бацюта папракнуў яго, сказаў, каб не ўбіваў ён клін паміж рабочым класам і працоўным сялянствам.

Кузьма далажыў аб выніках разведкі, і ўсе ўзрадаваліся — чакалася сур'ёзная баявая справа. Сцяпан Кладзькоў зняў з галавы сваю скураную шапку, падышоў да Кузьмы, паляпаў па плячы. Ён наогул не любіў шмат гаварыць. Слова з ягоных вуснаў зрывалася рэдка, а калі зрывалася, было важкае і вострае. Сёння ўсё-такі ён парушыў сваю завядзёнку, сказаў Кузьме:

— Маладзец. І Валадкевіч нічога, кажаш, разведчык? Што ж, і ён маладзец. Затрымайся, Кузьма. Паталкаваць з табой трэба.

Першакоў выйшаў, хмыкнуўшы ў чорныя калючыя вусы. Засталіся Кладзькоў, Андрэй Бацюта і Кузьма. Кузьма маўчаў, чакаў, што скажуць старэйшыя. Ды тыя не спяшаліся. Бацюта скінуў з сябе кашулю, пачаў прышываць «гузік» — абструганую дубовую палачку. Плечы ў Бацюты былі апечаныя сонцам, загарэлыя. З панадворку ўбіўся ў будан авадзень, дзумкнуў і прыляпіўся да Бацютавай спіны. Бацюта зморшчыўся, варухнуў плячамі, папрасіў Кладзькова:

— Згані, Сцяпан...

Той хвастануў па спіне шапкай.

— Пасылаем цябе, Кузьма, яшчэ ў адну разведку,— Бацюта апрануў кашулю, рэзка ўстаў з табурэткі, глянуў пранізлівымі светлымі вачамі.— Гэта цяжэйшая будзе. Падумай.

— Што мне думаць, Андрэй. Я гатоў,— Кузьма ўспомніў мітынг у Оршы. Падалося яму, што ведае Бацюта пра тую ягоную слабасць, ведае і сумняваецца ў ім, не давярае.— Я гатоў,— паўтарыў Кузьма.

— Тады хай камандзір табе скажа,— Бацюта павярнуўся да Сцяпана Кладзькова, пачаў жаваць свой жоўты, выгаралы на сонцы вус.

Кладзькоў не спяшаўся гаварыць. Выцягнуў з кішэні зялёнага кавалерыйскага галіфэ піпачку, выразаную з вішнёвага кораня, дзьмухнуў у яе, нібы ў свісток, потым трыма пальцамі, як самую вялікую каштоўнасць, дастаў з капшука табакі, напхаў яе вялікім абкураным пальцам у піпачку. Запалку ён адшукаў у сваёй скуранай шапцы, шмаргануў запалкай па цвёрдай падэшве бота, закурыў. Курыў Кладзькоў са смакам, не спяшаючыся, дым выпускаў ашчадна, маленькімі кольцамі.

— У Мінск цябе, Кузьма, паслаць думаем. Не заблудзішся ў Мінску? — прыжмурыўшы вочы, сказаў нарэшце Кладзькоў.

— Мінск ведаю. Там сям'я мая.

— Не да сям'і цябе пасылаем,— спахмурнеў Кладзькоў і, патушыўшы піпачку, лёгка пастукаў ёю аб падэшву бота, выбіў попел.

Тады загаварыў Бацюта:

— Сувязным ад нас да падполля пойдзеш. Таварыша Сяргея ўбачыш. Літаратуру, лістоўкі і медыкаменты табе дадуць. Але сам ведаеш, няпростая гэта справа, небяспечная.

— Пайду,— сказаў Кузьма, адчуваючы, як ад хвалявання пачынаюць пацець далоні сціснутых у кулакі рук.

— Тады давай паталкуем,— падышоў, узяўся рукою за ягоную салдацкую дзягу Кладзькоў.

З гадзіну яны прагаварылі, абмеркавалі ўсе дробязі, усе дэталі. Кладзькоў паспеў дзве піпачкі табакі выкурыць і стаяў, абкружаны сінім рухлівым дымам. Вырашылі, што сёння Кузьма збярэцца, пераспіць ноч у лагеры, а заўтра раніцою рушыць у дарогу. Да Асіповічаў яго падкінуць

на фурманцы, а там ужо сам думаць будзе, як і што рабіць.

— Ну вось і дамовіліся, хлопцы,— сказаў Кладзькоў і ўсміхнуўся.

Твар у яго быў стомлены, шэры, таму ўсмешка атрымалася бляклая. Кузьма хацеў ужо ісці да сваіх разведчыкаў, але Кладзькоў спыніў яго:

— Пачакай. Яшчэ не ўсё.

Ён пахадзіў па будане, быццам збіраўся з думкамі, потым рэзка, ва ўпор, адзіным вокам глянуў на Кузьму, ціха спытаўся:

— Ты за што ваюеш, Радзімовіч?

Кузьма разгубіўся. Нечаканае і дзіўнае пытанне задаў яму камандзір. Такое нечаканае, што адразу і толку не возьмеш, што сказаць. Ён трохі падумаў, чамусьці пакратаў нож, які вісеў на поясе, сказаў:

— За Саветы ваюю, Сцяпан Мартынавіч. Як і вы.

— Добра,— памякчэў у твары Кладзькоў.— Мы во тут думалі з Андрэем, мазгавалі...— Ён на імгненне прыціх.— Мы думалі, Кузьма, а чаму табе не стаць партыйцам? Камуністам, як мы з Бацютам. Як Першакоў і яшчэ трое нашых хлопцаў.

Тут ужо Кузьма канчаткова разгубіўся. Зняў шапку, выцер рукавом з твару пот. Здавалася, быццам валоку зямлі сахою ўзараў.

— Ды ці возьмуць мяне ў партыйцы? — сказаў нарэшце.— Адукацыя ў мяне слабая і не пралетар я, а мужык.

Тады Андрэй Бацюта падышоў да Кузьмы, сваёй вялізнай рукою моцна сціснуў яму плячук:

— Я за цябе ручаюся, Радзімовіч. Перад партыяй і перад Сцяпанам.

Усё гэта ён сказаў строга і ціха, а Кузьму падалося, што словы прагрымелі, як гром.

— Таварышы мае дарагія... Сцяпан Мартынавіч, Андрэй,— сказаў, пачырванеўшы, Кузьма.— Ды калі вы мяне возьмеце ў сваю партыю, калі паручыцеся за мяне, я... Не ведаю, што я зраблю... Ваяваць буду, як сатана. Зямлю для вас перавярну.

— Возьмем,— сказаў адно толькі слова Кладзькоў.

— Возьмем,— сказаў Бацюта.

Са штабнога будана Кузьма выйшаў такі ўсхваляваны, што колькі крокаў не чуў пад сабою зямлі. Бацюта ішоў побач з ім, усміхаўся. Сонца вынырнула з-за цёмных пашкуматаных ветрам хмар — і памаладзела ўсё наўкола, павесялела. Лясная трава зрабілася ярка-зялёная, бярозы стаялі сляпуча белыя, нібы толькі што абмыў іх спюдзёны дождж. На вяроўках жанчыны з лазарэта развешвалі вымытую бялізну. Сямён-артылерыст з хлапчукамі шараваў рачным пяском на кухні чыгуны, і яны блішчалі. Усё было такое будзённае, звычнае, і разам з тым было ва ўсім адчуванне радасці.

— Слухай,— сказаў Андрэй Бацюта, калі яны спыніліся насупраць будана разведчыкаў,— хачу параіць табе... Будзеш у Мінску, не заходзь да сям'і. Не трэба. Сам можаш галаву пакласці, і сям'і непаздаровіцца. Ведаю, што цяжка. Сам Тэклю сваю ўспамінаю...

Ён памаўчаў, ва ўсмешцы варухнуў жоўтымі вусамі:

— Ну то бывай, землячок. Хай табе лёгка ідзецца.

Кузьма лёгка паціснуў яму руку, сказаў, узбуджана і хрыпуча:

— Дзякуй табе за ўсё, Андрэй. Харошы ты чалавек. Яшчэ ў нашых Чмялях пагуляем. Госцем маім будзеш...

Бацюта пайшоў, а Кузьме не хацелася ісці ў цёмны будан. Ён пашыбаваў па лагеры, быццам новымі вачамі ўзіраючыся ў людзей і ў наваколле. Заўтра ўсе яшчэ будуць спаць, а яго не будзе тут.

— Кузьма,— паклікаў Сямён.— Можа памагчы шукаць?

— Што шукаць? — не зразумеў Кузьма.

— Твае семнаццаць гадоў. Бач, які ты ціхенькі ды маркотненькі.

Сямён зарагатаў, разам з ім засмяяліся хлапчукі. І Кузьма таксама ўсміхнуўся. А насустрач яму ішла Дзіна, не бачачы яго. Яна несла вымытую белую мужчынскую кашулю. Пэўна, Мішкаву. Вецер узвіваў кашулю, і Дзіна мякка адводзіла яе рукамі ад твару, усміхалася сваім думкам. Вось яна спынілася, пачала вешаць кашулю на вяроўку. Вецер падняў ёй спадніцу, і яна, па-жаночы прыгожа і спрытна, трохі прыгнуўшыся, сціснула падол спадніцы каленьмі. Кузьма таксама спыніўся, нібы ўпершыню ўбачыў, якая прыгожая ў яго сястра. Хутка яна стане маці, яна чакае свайго запаветнага дня, і таму такі светлы ў яе твар.

Дзіна прыўзняла галаву, убачыла Кузьму. Ён думаў, што сястра заззлуецца, адвернецца, успомніўшы сярдзітую размову на лясной паляне. Але яна адмахнула ад вачэй цяжкую русую пасму валасоў, сказала, звонка і радасна:

— Ну што, братка, мірыцца прыйшоў?

# VI

З таго дня, як праводзілі Кузьму з Мінска ў Чмялі Праскоўя, Васька Шворан і Юшкоў, прайшло дзевяць месяцаў. І вось ён зноў вяртаўся ў Мінск. Сядзеў у дрогкім закураным вагоне, згорбіўшыся, прыкрыўшы рукою твар, усім сваім выглядам паказваючы, што ён страшэнна змораны чалавек і што ён спіць. Ды абвостранае адчуванне трывогі, небяспекі віравала ў ім, звінела, як напятая струна, і ў кожнае імгненне ён мог ускочыць, мог выхапіць з-пад старога салдацкага шыняля рэвальвер, каб, калі трэба будзе, як мага даражэй аддаць сваё жыццё. Але пакуль усё было спакойна. Грукаталі цягніковыя колы, плакалі

дзеці, тонкія, асветленыя вечаровым сонцам бярозкі праляталі ў вокнах вагона. Непадалёку кампанія п'яных брудных падшыванцаў гуляла ў карты, не на грошы, таму што грошай не было, а на пстрычкі. Хто прагульваў, пакорна, як баран, падстаўляў лоб, кампанія захліпіста, узбуджана смяялася, і звонкія шчаўчкі разносіліся па вагоне. Той, каго білі, моршчыўся, прыжмурваў вочы, чырванеў. Потым з-пад фантастычных лахманоў з'явілася зялёная бутэлька гарэлкі, пайшла па руках, ударыла хмелем у галовы і нарадзіла песню, крыклівую, непрыемна-п'яную:

І піць будзем,
І гуляць будзем.
А смерць прыйдзе —
Паміраць будзем.

Здавалася, тыя, што п'юць, ведаюць нейкую страшную, невядомую цвярозым, тайну. Здавалася, яны ведаюць, што вунь за тым паваротам, за тым ляском раптам уздыбіцца зямля, палыхне пякельны бязлітасны агонь, надыдзе канец усяму жываму, і таму трэба хутчэй піць, пакуль ты яшчэ глядзіш і дыхаеш, а твае пальцы сціскаюць чарку.

— Чалавек адзіная жывёла, якая п'е не ад смагі,— ціха, каб не пачулі п'яныя падшыванцы, сказаў суседу акуратна паголены, сыценькі, белавусы панок ў пенснэ.

Ягоны сусед, загарэлы худы меланхолік, згодна кіўнуў галавою і кашлянуў у кулак. Яны сядзелі насупраць Кузьмы, вельмі ціха размаўлялі між сабою, але ён пачуў усю іхнюю гаворку — не затыкаць жа вушы. Яны ехалі ў Мінск аднекуль з поўдня, «вырваліся з Саўдэпіі», як сказаў панок у пенснэ, і, відно, былі вельмі задаволеныя сабой і сваім лёсам. Загарэлы і худы, мяркуючы па ягоных словах, быў вучоны, вывучаў паўднёвыя моры. Ён расказваў пра какосавыя пальмы і штормы, пра далёкія гарыстыя астравы, населеныя чарнаскурымі людзьмі. Дзіўна было ў гэтым брудным вагоне, пад п'яную песню, паміж сціплых беларускіх палёў і лясоў, чуць такое. Ён гаварыў пра жахлівых электрычных скатаў, пра гіганцкіх кітоў і акул, а потым пачаў расказваць пра лятучых рыб.

— Лятучую рыбу стварыў страх,— шэптам разважаў ён, прыжмурыўшы чорныя калмыцкія вочы.— Страх і прага жыцця. Хоць на імгненне ўявіце сябе на месцы той першай рыбы, што палящела. Вось-вось сашчэпяцца на ёй жалезныя зубы акулы, і тады яна — сілай чаго? — мышцаў? плаўнікоў? — і тады яна сілай жыцця ўзмывае ў паветра, уразаецца ў іншы, чужы для яе асяродак. Яна павінна ўпасці назад у хвалі, у акіян, у ашчаперany драпежны рот. Па ўсіх законах фізікі, яна павінна ўпасці і імгненна загінуць. Але яна не хоча гінуць. І тады яна ляціць, яна робіцца птушкай.

— Брава, Ксенафонт Іванавіч. Вы — паэт,— сказаў сыценькі белавусы панок.— Вы не знаходзіце, што мы з вамі таксама, як тыя лятучыя рыбы? Страх і прага жыц-

ця і нас выратавалі. Памятаеце, як пад Новачаркаскам чырвоныя матросікі з кулямётаў лупілі па нашаму цягніку? Што да мяне, я ўжо не верыў, што застануся ў жывых і калі-небудзь вярнуся ў Мінск.

Кузьма слухаў іхнюю ціхую гамонку і задрамаў пад яе. І прысніліся яму лятучыя рыбы, цэлыя воблакі залатых прыгожых рыб, якія ляцяць над морам, асветленыя паўднёвым гарачым сонцам. Яны нават сонца засланілі сабою, і наперадзе іх ляцяць дзве рыбіны-важакі, адна ў пенснэ, з белымі вусамі, другая, доўгая, худая, з празлівымі чорнымі вачамі. Яны кіруюцца проста на Кузьму, усё бліжэй, бліжэй, і няма ад іх ніякага ратунку. Ён уздрыгнуў, ціха ўскрыкнуў і прачнуўся. Суседзі падазрона глянулі на яго, змоўклі.

Праехалі Рудзенск, набліжаўся Мінск. Кузьма прайшоўся па вагоне, бліжэй да выхаду. На плячах ён трымаў невялікі рэчмяшок, салдацкая бесказырка лоўка сядзела на галаве, наваксаваныя боты блішчалі. І калі б нямецкі патруль ці яшчэ хто пацікавіўся ягонай асобай, ён дастаў бы з унутранай кішэні шыняля пашпарт на імя слуцкага мешчаніна Адама Сушыцкага. А калі б запыталіся, куды і па якой справе ён едзе, адказаў бы, што кіруецца ў Мінск, каб паступіць у беларускую афіцэрскую школу, бо жадае бараніць бацькаўшчыну ад бальшавікоў і маскалёў.

Вось і Мінск. Прагна глядзеў Кузьма на перон, быццам хацеў убачыць на ім Праскоўю з Юшковым і Ваську Шворана. Але пляліся там два-тры насільшчыкі, вецер ганяў старыя газеты.

Цягнік спыніўся, і ўсе павалілі на выхад. Толькі п'яная кампанія ўсё яшчэ гуляла ў карты, адорваючы адзін аднаго пстрычкамі. Кузьма лёгка скочыў на перон, адышоўся трохі ўбок, спыніўся. Трэба было агледзецца, абдумаць, што рабіць далей. Адразу ж падбег загарэлы белавалосы хлапчук з вялізнай палатнянай торбаю на грудзях, закрычаў пранізліва:

— Папяросы «Зефір»! Каму папяросы «Зефір»?! Паштучна і карабком!

Здаецца, нічога падазронага на вакзале не было. Толькі ссутулены шыракаплечы тып прайшоў побач, цяжка глянуў з-пад капелюша, быццам кійком па галаве стукнуў. Кузьма ямчэй ускінуў на пляча рэчмяшок, рушыў у горад. Снавалі на сваіх коніках рамізнікі, напорыстыя, крыклівыя, і кліентура ў іх у пераважнай большасці была адна — нямецкія афіцэры і ярка размаляваныя маладухі, з ненатуральнымі ўсмешачкамі, з позіркамі драпежных начных птушак. У горадзе многа было бруду. На вуліцах валяліся старыя афішы, газеты, кавалкі бітай цэглы, шкла.

Кузьма прайшоў па Петраградскай вуліцы, звярнуў на Каломенскую плошчу. Убачыў баракі, у якіх стаяў іхні Першы рэвалюцыйны полк імя Мінскага Савета. Тут жыў

ён разам з Юшковым і Беланогавым. Адсюль хадзіў да Праскоўі на Багадзельную.

Кузьма, агорнуты ўспамінамі, павольна прайшоўся па плошчы, завярнуў на вуліцу Серпухаўскую. Вось і дом нумар дзевятнаццаць. Вялікая патрэсканая шыльда, на якой напісана: «Фатаграфія Мышкіна». Ніжэй шыльды намаляваны густавалосы чорнабароды мужчына, які трымае ў адной руцэ нажніцы, у другой — грабянец. У мужчыны вясёлы ружовы твар.

У гэтым доме, у фатаграфіі,— явачная кватэра мінскіх падпольшчыкаў. Так сказаў Кузьме Сцяпан Кладзькоў. Значыць, давядзецца Кузьме сёння сфатаграфавацца. Толькі трэба прайсціся спачатку па вуліцы, глянуць, ці не ідзе хто-небудзь следам. Здаецца, усё ў парадку — вуліца пустая.

Кузьма асцярожна адчыніў дзверы фатаграфіі і трапіў у паўцёмны калідорчык, дзе стаялі стол з канапаю. Чорная шырма адгароджвала пакой, у якім працаваў фатограф. Там якраз была кліентка, чуўся яе нізкі капрызны голас:

— У мяне не выходзіць на партрэтах нос. Зрабіце, калі ласка, каб у мяне быў грэчаскі нос. У профіль я здаюся больш эфектнай. Ці не праўда?

— Святая праўда, мадам. Крышку цярпення, і я ўвекавечу вашу непараўнаную прыгажосць,— адказваў фатограф.

Гэтае цярпенне цягнулася хвілін дзесяць. Кузьма паспеў ужо сесці на канапу, зняць шапку, шынель, прычасаць грабянцом валасы і паглядзецца ў круглае люстэрка, што вісела на сцяне насупраць. На жоўтай залачонай рамцы люстэрка прыгожымі гнутымі літарамі было напісана: «Падарунак ад Амура». Нарэшце з-за шырмы выйшла тая, што хацела мець грэчаскі нос. Гэта была даволі прыгожая кабета, гадоў пад сорак, яшчэ пругкая целам і з вострымі вачамі. Яна хуценька глянула на Кузьму, беленькімі незагарэлымі ручкамі надзела на пышную прычоску зялёны капялюшык. Пальчыкі-мезенцы былі какетліва адтапыраны.

Выйшаў фатограф, з жаўтлявым стомленым тварам, але з тою заўсёднай усмешкай, якая нібы прыклеена да вуснаў тых, хто вымушаны здабываць свой хлеб надзённы ліслівым прыслужваннем больш багатым людзям. Фатограф пачціва пакланіўся кліентцы, і яна, шамочучы доўгай блакітнай спадніцай, выплыла на вуліцу.

— Прашу, пане,— запрасіў Кузьму за шырму фатограф.

Там было шмат яркага святла, і Кузьма, сеўшы на круглы невысокі зэдлік, напачатку аж зажмурыў вочы. Фатограф падышоў да сваёй трыногі, нахіліўся над ёю, пачаў закручваць нейкія шкельцы.

— Я праз тыдзень жанюся і хачу заказаць у вас свой партрэт,— ціха сказаў Кузьма. Гэта быў пароль. На гэ-

тыя словы фатограф павінен быў запытацца: «Няўжо так дрэнна жыць халасцяком?»

Кузьма чакаў адказу, пазіраў на фатографа. Той крутнуў тонкую чорную штуковіну, узняў галаву, спытаўся:

— І чым, калі не сакрэт, займаецца ваша паважаная нявеста? Хто яе шаноўныя бацькі?

Кузьма разгубіўся, аж лоб спацеў. Ён павольна дастаў з кішэні насоўку, выцер пот, зноў, стараючыся гаварыць як мага выразна, сказаў:

— Я праз тыдзень жанюся і хачу заказаць у вас свой партрэт.

І паглядзеў на фатографа ледзь не з мальбою.

— Так, у наш час сям'я — самая надзейная крэпасць. Толькі ў ёй можна схавацца ад жыццёвых бур,— фатограф, відаць па ўсім, быў у душы паэтам меланхалічнага складу і прамовіў гэтыя словы з дрыготкасцю ў голасе. Затым ён падышоў да Кузьмы, далікатна ўзяў яго за падбародак, лёгенька павярнуў Кузьмову галаву набок:

— Як пан жадае сфатаграфавацца? У вас валявы выраз твару, і я раіў бы вам увекавечыць сваю фігуру на поўны рост. Левай рукою мы возьмемся ў бокі... Вось так, вось так... Вельмі добра. А правую руку раю пакласці на гэтую тумбачку...

Ён прынёс з-за шырмы высокую чорнага дрэва тумбачку, якая заканчвалася ўверсе львінай галавой.

— Правую руку сюды. І будзеце выглядаць сапраўдным героем, Самсонам, што раздзірае пашчу льву.

Фатограф накрыўся прасцінаю, згорбіўся над трыногай. А Кузьма не ведаў, што і рабіць. «Можа памыліўся? — думалася яму.— Ды не. Сказаў жа Кладзькоў: вуліца Серпухаўская, дом дзевятнаццаты, фатаграфія Мышкіна. Так усё і ёсць. А можа фатограф правакатар?» Заставалася адно: слупом пакорна стаяць перад фатографам, а калі што якое, дастаць з кішэні рэвальвер, пачаставаць нямецкага служку свінцовым бобам, і дай бог ногі...

Фатограф зрабіў сваю справу, паставіў тумбачку за шырму, сказаў:

— Упэўнены, што будзе шэдэўр. Такія вочы, такі горды нос! Ваша жонка, убачыўшы партрэт, пакахае вас у сто разоў мацней і пабаіцца, дальбог, пабаіцца нават падумаць пра іншага мужчыну. Дарэчы, як завуць вашу шаноўную нявесту?

— Мальвіна,— буркнуў Кузьма, расплочваючыся мікалаеўскімі.

— О, Мальвіна! Цудоўнае імя. Прыводзьце і яе сюды. І дзетак вашых, якія будуць. А па свой фатапартрэт зайдзіце, калі ласка, праз тыдзень.

Разгублены, ішоў Кузьма па вуліцы, праклінаючы балбатлівага фатографа, нядобра думаючы пра Сцяпана Кладзькова. У той жа час ён раз-пораз азіраўся, гледзячы, ці не сочыць хто-небудзь за ім. Потым крутануў у першы ж прахадны двор, прайшоў некалькі завулкаў, вуліц, паблу-

каў у лабірынце цагляных камяніц і драўляных хатак і апынуўся на беразе Свіслачы. Рака ляніва прыцмоквала ў зялёных берагах. Качкі гойдаліся на сярэдзіне, гергеталі, прымерваліся і раптоўна старчаком боўталіся ў цёплую сонную ваду, толькі лапкі чырванеліся на паверхні. Некалькі хвілін былі яны пад вадою, прагна хапалі там усё, што можна з'есці.

Кузьма разуўся, апусціў ногі ў ваду, сядзеў быццам бы бесклапотна і бяздумна. Так, ва ўсялякім выпадку, магло здацца староннямy воку. Але спакою не было ў яго ні на каліва. «Што ж рабіць? — думаў ён.— Ці я што наблытаў, ці мне сказалі няправільны адрас. Заданне я не выканаў і, бог ведае, ці змагу выканаць». Але адступаць было не ў ягоных намерах. Ён вырашыў заўтра зноў зайсці ў фатаграфію. Трэба ж разабрацца, што тут да чаго. Дзе пераначаваць? Ён пераначуе вось тут, над ракой, у чым-небудзь старым чоўне». З такімі думкамі Кузьма паціху пашыбаваў у горад, стараючыся лішне не кідацца ў вочы, трымаючыся далей ад цэнтральных вуліц.

Народу на вуліцах было не густа. Людзі хуценька ішлі кожны па сваіх справах, і на тварах ва ўсіх былі халодная напружанасць, трывожнае чаканне. Крамы, як заўважыў Кузьма, у большасці сваёй былі зачынены. Пераходзячы рэйкі конкі, ён успомніў, як калісьці з наглядчыкам Рашатняком ехаў з турмы на Саборную плошчу. Цяпер конка не працавала. Рамізнікаў, вядома, гэта радавала, у іх з'явілася дадатковая кліентура. Ва ўсялякім выпадку, іхнія галасы і твары выдавалі ў горадзе самымі вясёлымі.

Шмат было на вуліцах нямецкіх патрулёў. Ішлі купкамі, на ўсю шырыню тратуара, гучна размаўлялі, залівіста смяяліся. Здавалася, вяртаюцца маладыя дзябёлыя бюргераўскія сынкі з якой-небудзь піўніцы дадому.

У Кузьмы на вачах патруль спыніў пасярод вуліцы хлопца гадоў семнаццаці і, як той ні прасіўся, як ні даказваў, што працуе ён у чыгуначных майстэрнях, павёў з сабою. Хлопец ішоў паміж салдатаў і паўтараў адны і тыя ж словы:

— Што падумае мама? Што падумае мама?

У яго былі цёмныя вусікі на губе і дробныя вяснушкі на шчоках.

У некаторых месцах гандлявалі гарэлкай. Гэта здзівіла Кузьму, бо чуў ён, што немцы вельмі строга адносяцца да тых, хто любіць выпіць. Успомнілася, як расказваў дзед Ігнат пра бабруйскага карчмара Іцку. Той, прадаючы гарэлку сялянам, заўсёды разбаўляў яе вадой. Ведалі ўсе пра гэта, гразіліся, пляваліся. Ды што зробіш? І вось прыходзіць у карчму п'яненькі мужычок, сядае за стол, дастае з кішэняў дзве кварты і кажа:

— Слухай, Іцка, будзь чалавекам, ты ж усё роўна будзеш разбаўляць, дык налі мне адразу ў гэтую кварту вады, а ў гэтую гарэлкі. І разыдземся з мірам.

Так ішоў Кузьма, глядзеў наўкола, прыкмячаў усё і апынуўся на вуліцы Багадзельнай, каля барака нумар сем. Ногі самі вынеслі. Аж уздрыгнуў Кузьма, бо помніў параду Бацюты і сам не збіраўся сюды заходзіць, каб быць падалей ад бяды, якая магла надарыцца.

Барак мала змяніўся, толькі страха яшчэ болей згніла ды трава на ёй расла яшчэ вышэйшая. У знямозе сеў Кузьма на лавачку, не ведаючы, што рабіць. «Хутчэй ідзі адсюль,— казаў яму рашучы ўнутраны голас,— які ты разведчык? Кожную хвіліну цябе могуць пазнаць — і трапіш ты да немцаў у рукі, як певень у крупеню». Другі ж голас, таксама моцны, зусім іншае даказваў: «Што ты за мужчына, што за бацька, калі сям'ю сваю бокам абыходзіш, калі баішся нават глянуць на яе? Нічога страшнага не будзе. Ты ж Адам Сушыцкі, калі што якое. Смялей, а то можа быць позна».

Кузьма ўстаў, нацягнуў шапку на самыя вочы, увабраў галаву ў каўнер шыняля, падышоў да дзвярэй барака, рашуча расчыніў іх, і адразу ж горкае расчараванне чакала яго — на дзвярах Праскоўінага пакоя вісеў круглы, прыхоплены ржою замок. Вось і ўсё. Вось і не трэба табе, Кузьма, рызыкаваць, калаціцца. Ты вольны, ідзі куды хочаш, куды хочаш, толькі не за гэтыя дзверы. Як хутка мяняецца ўсё ў чалавечым жыцці: ад надзеі — да самай пякучай няўдачы, ад радасці — да чорнага смутку.

Ён ціха памкнуўся на выхад, але ў гэты час шчоўкнуў запор у дзвярах, што былі насупраць Праскоўінага пакоя, дзверы расчыніліся, выглянула жанчына, сказала:

— Я за вамі даўно сачу. Яшчэ як вы на лавачцы сядзелі. Думаю, нешта шукае чалавек. Твар у вас такі няшчасны быў. Ды не стойце — заходзьце да мяне.

Прыгнуўшы галаву, Кузьма ступіў у нізенькія дзверы, убачыў венскае гнутае крэсла, святога Юр'я на абразах, убачыў жанчыну, і аж пахаладзела ўнутры — такая падобная была яна на Анюту. Калі б не ведаў, што Анюта атруцілася ў сушыльнай печы на тытунёвай фабрыцы, падумаў бы, што гэта яна.

— Сядайце вось сюды,— падсунула жанчына венскае крэсла.— Вы Праскоўю шукаеце? Вы муж яе?

Яна села насупраць, на засланы квяцістай коўдрай ложак, падперла кулакамі падбародак, уважліва глядзела на Кузьму. Не, гэта была, канечне, не Анюта. Твар чысты і старэйшы, і ў валасах сняжок сівізны. Гэта магла быць Анюціна сястра.

— Дзе Праскоўя з Сяргейкам? — перамагаючы нясцерпнае хваляванне, спытаўся Кузьма.

— Не бойцеся. Яны жывыя. Тыдні са два назад пад Смалявічы пайшлі, да Праскоўінага брата. Голад тут у нас, нельга было трываць — яны і пайшлі. А вы — Кузьма?

— Кузьма.

— Успаміналі яны вас. Кожны дзень гаварылі. Пра-

скоўя плакала, думала, што вас забілі. А малы, Сяргейка, кажа: «Мой татка прыйдзе і мне поўную кішэню патронаў прынясе».

Жанчына ўсміхнулася, устала, падышла да шырмы, што адгароджвала яшчэ адзін ложак, паклікала:

— Вера, Вера, уставай. Да нас госць прыйшоў.

Праз колькі часу з-за шырмы выглянула прыгожая дзяўчына гадоў васемнаццаці, з бялявымі, сабранымі ў вузел на патыліцы косамі, з шэрымі вялікімі вачамі і ямачкамі на шчоках. Яна, відаць, толькі што прачнулася, бо яшчэ чырвоны, цёплы быў твар. Дзяўчына сарамліва павіталася з Кузьмой за руку.

— Зараз мы паесці збяром што-небудзь,— сказала жанчына, хоць Кузьма кляўся, што сыты і што нічога яму не трэба.

— Мяне завуць Вольга. Тут раней Анюта жыла. Ведалі Анюту? Дык я яе старэйшая сястра. Муж мой на электрастанцыі качагарам робіць. А Вера — наша пляменніца,— жанчына расказвала ўсё гэта і звінела талеркамі, накрывала стол.

Праз некалькі хвілін яны, Кузьма, Вольга і Вера, сядзелі за сталом, і Кузьма адчуваў, як праходзіць разгубленасць, як цёпла і спакойна робіцца на душы. Яны елі суп, у якім плавала некалькі бульбінак і малюсенькія чырвоныя нітачкі морквы.

— Цяжка ў горадзе. Немцы ўсё, што можна, падчысцілі,— казала Вольга.— Ды гэта б яшчэ нічога, але людзей хапаюць. На Аляксандраўскай вуліцы лагер зрабілі і на рагу Шырокай і Старажоўскай. А з тых лагераў людзей невядома куды вывозяць на работу. Кажуць, аж у самую Германію. Цяжка ў горадзе,— зноў паўтарыла яна.

— Ды не ўсім цяжка, цётка,— уставіла слова Вера.

Яна сядзела, нізка нахіліўшы галаву над сталом, і быў відзён акуратны прабор у валасах.

— Не ўсім,— згадзіўся Кузьма.

Ён успомніў сваіх спадарожнікаў па вагоне, успомніў твары крамнікаў і «чыстую публіку» на гарадскіх вуліцах. Усіх гэтых людзей аб'ядноўвала адно — сытасць. Упэўненая сытасць. Бо ёсць яшчэ сытасць палахлівая. Напрыклад, у хамякоў альбо пацукоў.

— Даражэнькая,— папрасіў ён Вольгу,— дайце, калі ёсць, кавалачак паперы і алоўак. Цыдульку хачу ў вас Праскоўі з сынам пакінуць.

Вольга дала алоўак і старую газету, і Кузьма напісаў на газеце: «Заходзіў да вас, але вас няма дома. Хутка ўбачымся. Праскоўя, глядзі, каб усё было добра, Сяргейку глядзі. Цалую крэпка. Кузьма».

Ён ужо развітваўся, як у дзверы моцна пастукалі.

— Хто б гэта мог быць? — пабляднела, накіравалася да дзвярэй Вольга.

У пакой увайшлі нямецкі афіцэр, два салдаты і два цывільныя. Афіцэр быў прыгожы, чарнабровы, з белым

дагледжаным тварам. «Здаецца, уліп я»,— пахаладзеў Кузьма і расшпіліў каўнер кашулі.

Афіцэр уважліва глянуў на Вольгу, на Веру, потым на Кузьму і, даўшы знак рукой аднаму з цывільных, пачаў гаварыць. Цывільны перакладаў:

— Мы — германская паліцыя нораваў. Прашу ўсіх падрыхтаваць дакументы для праверкі.

Кузьмоў пашпарт, здаецца, не выклікаў падазрэнняў. Толькі афіцэр пацікавіўся, кім Кузьма даводзіцца Вользе і Веры.

— Мы ў адной вёсцы да вайны жылі,— адказаў Кузьма.

Гэта задаволіла афіцэра. Ён пачаў гаварыць далей:

— Армія вялікага кайзера нясе культуру і цывілізацыю. Наш меч карае толькі ворагаў, толькі тых, хто ў сваёй сляпой нянавісці асмельваецца, мае дзёрзкасць аказваць непаслушэнства, бунтаваць. Германскі салдат — моцны духам і целам салдат. Яго паважаюць і баяцца ворагі, яму аддаюць свае сэрцы жанчыны. Каб захаваць здаровы, бадзёры дух арміі, створана германская паліцыя нораваў. Дзяўчаты і жанчыны ад шаснаццаці да трыццаці васьмі год павінны ў абавязковым парадку прайсці медыцынскі агляд. Тут прысутнічае ўрач,— афіцэр паказаў рукой на мужчыну з чырвоным тварам, у капелюшы,— які дасць сваё навуковае заключэнне.

— Не падыходзьце! — пабялела, закрычала, сціснуўшы кулакі, Вера.— Не ведаю, што зраблю! Не падыходзьце, сабакі!

Яна схапіла са стала нож, і ўрач, што памкнуўся быў ступіць крок уперад, схаваўся за афіцэра.

— Пан афіцэр,— хвалюючыся, але спакойным голасам сказала Вольга.— У мяне ёсць муж, дзіця, а гэта наша пляменніца. Усе мы здаровыя і вам з урачом можам сказаць толькі дзякуй за клопат. І вам, дальбог жа, не трэба турбавацца...

— У мяне інструкцыя,— аддаў Вользе чэсць афіцэр.— Што ж, я парушу інструкцыю, я запрашу вашу пляменніцу да нас, у вайсковы лазарэт. Фройлен праз пятнаццаць хвілін будзе свабодная.

Але Вера схавалася за шырму, загарадзілася там ложкам і крычала:

— Сабакі! Не пайду нікуды! Толькі мёртвую возьмеце! Не хачу ў ваш пракляты бардэль!

Кузьма, што ўвесь час знаходзіўся ўбаку, стаў перад Выраю, тварам да афіцэра. Халодныя прыгожыя вочы глядзелі на яго. І ў гэтых вачах убачыў ён тое, што было ў вачах крамнікаў, у вачах тых, што ў лайкавых пальчатках, пад белымі парасонамі, разгульвалі па Губернатарскай і Скобелеўскай. Ён убачыў сытую ўпэўненасць. Ён ненавідзеў яе і сказаў звонкім, рашучым голасам:

— Гэта мая нявеста. Я прашу і патрабую не чапаць яе. Я паступаю ў беларускую афіцэрскую школу палкоў-

ніка Езавітава і вам, пан афіцэр, як будучы ваш калега і саюзнік, скажу адно: таго, хто хоць пальцам дакранецца да маёй нявесты, я тут жа, на гэтым месцы, выклікаю на дуэль.

Кроў білася ў Кузьмовых жылах штуршкамі, ён сціскаў кулакі і часта, шумна дыхаў. Афіцэр уважліва выслухаў перакладчыка, паглядзеў на Кузьму, на сваіх людзей, загадаў:

— Узяць! — І дабавіў з'едліва-іранічна: — Калега...

Салдаты сталі ў Кузьмы праваруч і леваруч, афіцэр з цывільнымі — ззаду, і ўсе выйшлі на вуліцу. Вера ж з Вольгаю засталіся ў пакоі.

Кузьма ішоў у акружэнні немцаў і думаў, як нечакана ўсё павярнулася. Дзве гадзіны назад ехаў на цягніку, потым быў у фатаграфіі Мышкіна, і вось ужо вядуць яго пад канвоем, і ў разгубленых позірках сустрэчных бачыць ён спачуванне і страх. Невядома, што чакае наперадзе. Можа шампалоў усыплюць, а могуць і расстраляць. Завядуць у цёмны двор, паставяць тварам да сцяны і адправяць у Магілёўскую губерню. Што́ нейкі Кузьма Радзімовіч перад вялікім кайзерам і яго неперамožнымі салдатамі? «З цябе, Кузьма, разведчык, як з індыка леў»,— горка думалася яму. Думаў ён, што чакаюць яго Бацюта з Кладзьковым, спадзяюцца і не ведаюць пра такі канфуз. І толькі ўспамін пра Веру, пра тое, як выратаваў яе, саграваў душу.

Па дарозе афіцэр з цывільнымі адсталі, і толькі два салдаты павялі Кузьму далей. Ішлі да Аляксандраўскага вакзала. Кузьма зразумеў, што вядуць яго, напэўна, у той самы лагер, пра які казала Вольга. Так яно і адбылося.

Лагер уяўляў сабою гектара паўтара пусткі, абнесенай плотам з дошак і калючага дроту. У цэнтры стаялі чатыры бараки, зробленыя на хуткую руку. На тры тысячы чалавек жылля не хапала, і некаторыя начавалі пад адкрытым небам. Кузьма неяк ушчаміўся на нарах у бараку, толькі хацеў прылегчы, сабрацца з трывожнымі думкамі, як пагналі на таварную станцыю грузіць бярвенне. Брыгадаю ў сорак чалавек яны да цёмнага качалі сасновае бярвенне на чыгуначныя платформы. Пад канец работы ад стомленасці закружылася галава. З цяжкасцю даплёўся ён да лагера і, як забіты, паваліўся на нары.

Нявесела пачыналася яго другая раніца ў Мінску. Далі па талерачцы нішчымнага буракоўніку і зноў пагналі грузіць бярвенне. Па дарозе ён усё прыглядаўся наўкол, прыкідваў, як бы вырвацца на волю, але вартавыя сваю службу неслі спраўна.

І яшчэ адна непрыемнасць чакала яго. Увечары, калі прысеў ён на нары, каб перавязаць драпіну на руцэ, раптам стукнулі яго па плячы і ўрачыста-фальшывы голас прапеў над вухам:

— Хо-хо! Хто да нас завітаў у госці? Кузьма Радзімовіч, чырвоны начальнік, уласнаю персонай!

Кузьма ўзняў галаву і ўбачыў перад сабой Вальдэмара Кабскага. Дужа змяніўся ён з таго часу, як здаў яго Кузьма ў рукі чырвонаму патрулю, змізарнеў, счарнеў, сапсеў, як гавораць у народзе, але язык ягоны працаваў з такой жа хуткасцю, што і тады. І пыха разумніка, непрызнанага генія засталася.

— Адзін тут ці з таварышамі? — пакруціў Кабскі па баках кароценькай шыяй.— А я думаю: што за фізіяномія такая знаёмая, хто гэта такі сядзіць, як Дыяген у дзежцы?

Ён прымасціўся каля Кузьмы на нарах, ледзь не абняў яго, і гаварыў, гаварыў. Кузьма не дужа ўслухоўваўся ў ягоныя словы, перапыніў:

— Значыць, Валодзя, зноў мы сустрэліся. І зноў ты на казённым хлебе і вадзе? Так?

— Так,— ахвотна згадзіўся Кабскі.

— А я думаў, ты паразумнеў. Думаў, мо за палітыку сядзіш. Можа немцам чым насаліў. А ты такі, як і быў, кішэнны злодзей — лёгкія пальцы...

— Скажаш,— рагатнуў Кабскі.— Гэта ты ў нас спец па палітыцы. А я — вольны мастак. Душа просіць імправізацыі. Зразумеў? Не сцярпеў я і сцягнуў у немцаў дваццаць афіцэрскіх шынялёў. Ну, а яны мяне сюды, да цябе ў суседзі. Будзем суседзямі?

— Не хачу,— глянуў на яго Кузьма.— У той час, як ты, Валодзя, краў у чырвоных, а потым у немцаў, я розуму набіраўся. Не скажу, што яго залішне ў мяне, але жыццё пачынаю разумець. Кніжкі чытаў. Маркса і Леніна чытаў. Чуў пра такіх?

— Чуў. Ну і што? Дзе іхняе бальшавіцкае царства? Пашумелі, пакрычалі, і зноў усё ціха. Адзін урад замянілі другім. Ну і што? Не думай, што Вальдэмар Кабскі занадта дурны. Я табе скажу зараз словы рэвалюцыянера Прудона... Быў такі?

— Быў. Толькі з яго рэвалюцыянер, як з майго носа грамафон.

— Дык вось гэты самы рэвалюцыянер Прудон сказаў: «Урад не можа быць рэвалюцыйным па той простай прычыне, што ён урад». Вось што сказаў Прудон.

Кузьма перавязаў руку, адарваў доўгі канец марлі зубамі, выплюнуў марлю:

— Цяперака новы час. Буржуйскі ўрад, вядома, гніць пачне, а будзе за ўладу чапляцца. Савецкі ўрад — зусім іншая справа. Яго народ паставіць, і, калі пераможам усіх буржуяў, калі ўсталюецца сусветная Камуна, народ гэтаму свайму ўраду скажа: «Хлопцы! Контры няма. Кабскага няма. Усе народы — як браты. Так што рабіць вам болей няма чаго. Давайце ідзіце, куды душа жадае. Хто ў механікі, хто ў матросы, а хто падмазваць калёсы».

— А ты не адпявай мяне раней за папа,— успыхнуў Кабскі і ўстаў.— Я не забыўся, як ты мяне сваім сябрукам-камісарам здаў з рук у рукі. Камісарскія сухары пом-

ню. Тут у мяне сякія-такія хлопцы ёсць. Так што папярэджваю: беражыся. Хутка біць цябе будзем.

— Ну вось і пагаварылі,— Кузьма акуратна ўзбіў свой тоненькі сяннік, падклаў пад голаў шынель, лёг. Кабскі яшчэ трохі пастаяў побач, вылаяўся і пайшоў прэч.

Доўга не мог заснуць Кузьма. «Як вырвацца адсюль?» — гняла неадчэпная думка. Там, на волі, хлопцы ваююць. Самы галоўны бой разгараецца. Беларусь вызваляецца з-пад прыгнёту. А ён грузіць бярвенне, з якога які-небудзь германскі буржуй хлеў для сваіх кароў пабудуе. Крыўдна, нясцерпна крыўдна.

Успомніліся, каторы ўжо раз, Пчалаводаў з Лусковічам. Як шукалі яны праўду, як загінулі, так і не дайшоўшы да яе.

З растрывожаным сэрцам Кузьма заснуў. А наступная ж раніца падаравала яму свабоду.

Толькі пастроіліся і збіраліся ісці на пагрузку, як да калоны падбег лагерны шуцман, закрычаў:

— Хто тут ёсць Адам Сушыцкі? Марш да прахадной! Шнэль!

Кузьма спачатку не звярнуў увагі на гэтую аб'яву, як кажуць, у адно вуха яна заляцела, а з другога вылецела. Але потым схамянуўся: «Гэта ж я Сушыцкі». Хуценька выйшаў з калоны, стаў перад шуцманам, трымаючы рукі па швах.

— Ты што — глухі? — зароў шуцман.— А можа ў цябе вушы растуць на спіне? — і ўзмахнуў палкай, праўда, не ўдарыў.

На прахадной да Кузьмы падышоў высокі светлавалосы юнак у рускай вайсковай форме без пагонаў, з бела-чырвона-белай павязкай на левым рукаве.

— Вы Адам Сушыцкі?

— Я.

— Дзякуйце богу, што мы адшукалі вас у гэтым свінушніку. Я прадстаўнік Беларускай вайсковай рады. Са згоды германскіх улад мы бярэм вас пад сваю ахову. Ідзіце за мной. І як мага хутчэй, а то яны могуць перадумаць.

Яны пайшлі па Аляксандраўскай вуліцы, потым павярнулі на Захар'еўскую. Па дарозе Кузьма даведаўся, што пасадзейнічала ягонаму нечаканаму вызваленню. Аказваецца, па словах юнака, у Беларускую вайсковую раду да палкоўніка Кастуся Езавітава прыйшоў нейкі цывільны чалавек і паведаміў, што на Багадзельнай вуліцы немцы арыштавалі беларускага вайскоўца па прозвішчу Адам Сушыцкі і павялі ў канцлагер нумар два каля Аляксандраўскага вакзала. «Перакладчык»,— здагадаўся Кузьма.

— Езавітаў пастараўся выкупіць вас,— усміхнуўся юнак.— Наабяцаў немцам немаведама чаго. Трэба ратаваць сваіх, бо нацыянальна свядомых беларусаў пакуль што не густа.

Яны падышлі да будынка Беларускай вайсковай рады, і Кузьма сказаў, гледзячы ў вочы юнаку:

— Як беларус беларусу, шчыра вам дзякую за сваё вызваленне. Спадзяюся, што мы пасябруем. А зараз я хацеў бы прасіць дазволу адлучыцца на паўгадзіны на вуліцу Багадзельную. Мне неабходна пераапрануцца. Гонар не дазваляе мне ў такім выглядзе зайсці ў штаб Беларускага народнага войска.

Юнак уважліва выслухаў яго і адпусціў.

На Багадзельную вуліцу Кузьма не пайшоў. Пакружыў трохі па ціхіх старадаўніх завулках і накіраваўся да фатаграфіі Мышкіна. Там ён, як і першы раз, сеў на зашмальцаваную канапу, зняў шапку, шынель, прычасаў грабянцом валасы. З-за чорнай шырмы чуліся галасы, нагэты раз дзіцячыя і жаночы. Пэўна, маці ці бабуля прывяла малых фатаграфавацца.

— Болесь,— казаў жаночы голас,— чаму ты гэтак скрывіў рот? Хіба ў цябе баляць зубы?

— Я хачу цукерак.

— Будуць табе цукеркі. Толькі зрабі добрым роцік. Зрабі, як сэрцайка. Вось так.

— Сама рабі, як сэрцайка. А я хачу цукерак.

Пачуўся звонкі пляскач, і ўсё сціхла. Пэўна, Болесь, што так любіў цукеркі, зрабіў рот, як сэрцайка.

Нарэшце з-за шырмы выйшлі трое малых, усе дужа падобныя між сабою, чырванашчокія, чарнявыя, і старая сівая кабета. Выйшаў і фатограф, глянуў на Кузьму. Гэта быў таварыш Сяргей. Кузьма, як і тады, сеў за шырмаю на круглы невысокі зэдлік, сказаў, стрымліваючы ўзбуджанае дыханне:

— Я праз тыдзень жанюся і хачу заказаць у вас свой партрэт.

— Няўжо так дрэнна жыць халасцяком? — уважліва паглядзеў на яго таварыш Сяргей.

Аказалася, што пазаўчора ён дужа кепска сябе адчуваў, тэмпературыў і не змог прыйсці ў фатаграфію, і замяняў яго родзіч, сумленны, прыстойны чалавек, але не звязаны з падполлем. Выслухаўшы расказ аб Кузьмовых прыгодах, таварыш Сяргей толькі языком прыцмокнуў.

— Лічы, што ты шчаслівы,— сказаў ён.— Упяклі б цябе ў Германію ці куды-небудзь у Белавежскую пушчу дровы нарыхтоўваць, і — шукай ветру ў полі. Некаторыя з нашых так і прапалі. А надалей трэба быць асцярожным. Асцярожнасць для нас — што вінтоўка для салдата.

Таварыш Сяргей расказаў трохі пра сябе. Сам ён з беднай віленскай шляхты. Год вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, затым перавёўся ў Пецярбургскі. Але за прыналежнасць да сацыял-дэмакратычнай партыі і за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях яго выключылі, і ён пайшоў простым рабочым на гільзавую фабрыку «Калумбія». Вёў прапаганду сярод рабочых у Сестрарэцкім народным доме, за што заслужыў ссылку. З пачаткам вайны па мабілізацыі трапіў у Мінск у вайсковы шпіталь санітарам. Так і застаўся ў Мінску, жыве ў раёне Кальварыі, жонку мае

і дачку. У Мінску абстаноўка складаная. Вялікі ўплыў на рабочых аказвае Бунд, у гарадской думе заселі акцябрысты і кадэты, актывізаваліся польскія нацыяналісты, Беларуская рада ўсё больш і больш прадаецца немцам. З другога ж боку — няма прычыны вешаць нос. Усе адчуваюць, што кайзераўская Германія вось-вось рухне. Паміж нямецкіх салдат і малодшых афіцэраў нямала членаў левай сацыял-дэмакратычнай групы «Спартак».

— Ды і мы ім вочы раскрываем,— усміхнуўся таварыш Сяргей.— Вось выдалі на іхняй мове брашуру Карла Лібкнехта «Павукі і мухі».

Кузьма ўзяў у рукі тоненькую кніжачку, пагартаў.

— Ёсць у нас сувязь з Масквой і са Смаленскам,— гаварыў таварыш Сяргей, кладучы Кузьме ў рэчмяшок медыкаменты і лістоўкі.— Праўда, не заўсёды яна рэгулярная, не ўсе сувязныя праходзяць праз дэмаркацыйную лінію, але грэх было б скардзіцца. Ленін і Савецкая Расія помняць пра нас — і гэта сёння самае галоўнае. І яшчэ ў адной вельмі важнай справе зрух намеціўся. Ёсць задума пасля вызвалення Беларусі ад немцаў абвясціць Беларускую Савецкую Рэспубліку. Чуеш, Кузьма? Беларускую Савецкую Рэспубліку! І гэта не утопія, не прапагандысцкі трук, як крычаць нашы ворагі, а рэальнасць. Праўда, тут яшчэ думаць ды думаць, рабіць ды рабіць. Шмат спрэчак вядзецца. Аб'явіліся федэралісты, абласнікі, незалежнікі. Многа крыві папсуюць яны яшчэ адзін аднаму, але ідэя стварэння Беларускай савецкай дзяржавы ёсць. І самае галоўнае, што гэта не мёртвая ідэя. Ад такіх, як мы, Кузьма, ад партызан і падпольшчыкаў, ад рабочага беларускага люду і сялян залежыць лёс новай Беларусі. Усім нам трэба, як кажуць, каваць, пакуль жалеза гарачае.

— Куём, таварыш Сяргей,— уладкаваў Кузьма рэчмяшок за плячо.— За гасцінцы вялікае дзякуй. Разлічымся, не сумнявайцеся. Перадайце прывітанне вашай жонцы і дачушцы. Ну, а мне трэба ісці. Загасцяваўся я ў Мінску.

— Ідзі, Кузьма,— паціснуў яму руку таварыш Сяргей.

Кузьма ступіў да парога, але раптам азірнуўся, спыніўся, вінавата ўсміхаючыся, сказаў:

— Дык вы мяне праўда фатаграфавалі? Ці можа проста так, для маскіроўкі, на зэдлік садзілі? Фатаграфавалі? Слухайце, што я вас папрашу, таварыш Сяргей,— Кузьма пачырванеў,— калі можна будзе, перашліце як-небудзь ці перадайце фотапартрэт мой жонцы маёй Праскоўі і сыну ў сёмы барак на вуліцы Багадзельнай. Калі толькі можна будзе...

— Чаму ж нельга? Перададзім,— весела сказаў таварыш Сяргей.— Такога прыгажуна з цябе зробім, што жонка яшчэ раз у цябе закахаецца. Давай, пішы адрас.

Цягнік адыходзіў з Мінска на Асіповічы надвячоркам. Кузьма сеў у цямнейшы куток вагона, паставіў рэчмяшок між ног. Упершыню адчуў стомленасць, ды такую, што

аж галава кругам пайшла. Расшпіліў каўнер кашулі, ілбом дакрануўся да халоднага аконнага шкла.

Ішоў дождж. На пероне цьмяна блішчалі лужыны. Шэрае неба, стылы бляск рэек, мокрыя сумныя дрэвы — усё было напамінкам аб тым, што лета канчаецца, што неўзабаве наступіць восень са сваёй адвечнай журбою.

Пасажыраў у вагоне было мала. І ва ўсіх былі ціхія, разгубленыя твары. Усе гэтыя людзі, як і Кузьма, хацелі быць незаўважанымі. Але перад самым адыходам цягніка ў вагон увалілася шумная вясёлая кампанія — некалькі маладых мужчын і модных дзяўчат. Яны напоўнілі вагон смехам, салёнымі анекдотамі і фліртам. Вядома ж, яны ўсе былі нападпітку, бо адкуль бы ўзяліся такая ружовасць шчок і такая гаварлівасць.

Кузьма заплюшчыў вочы, хацеў прымусіць сябе задрамаць, але ў вушы, як мыльная пена, лезла плойма слоў, прыгожых і цынічных, узнёслых і шэрых, нібы сухі дарожны пясок:

— А ён так на мяне глянуў, так глянуў...

— Зінаідачка, пашкадуйце... Не ешце мяне без гарніру...

— Я скажу ім: «Я плюю на вашы магілы. Плюю!»

— Падарожжа ў народ. Ха-ха-ха, цікава...

Словы спляталіся, звіваліся, натыкаліся адно на другое. І раптам пачулася:

— Горка-а! Горка-а!

«Ага, значыцца, гэта вяселле едзе»,— здагадаўся Кузьма і расплюшчыў вочы.

Маладая, прыгожая чорнавалосая дзяўчына, хіхікаючы, цалавалася з рыжым бледнатварым чалавекам. Пэўна, ён быў неблагім акцёрам, гэты чалавек, бо, смачна пацалаваўшыся, раптам стаў перад сваёй нявестай на калені, узняў угору рукі, загаварыў-заспяваў:

— О каралева! О Зінаіда першая! Загадай, і твой нікчэмны раб зробіць немагчымае. Ува мне бушуе кроў гунаў. Загадай, і я пайду зноў руйнаваць Рым. Я запалю чорныя кастры на белым мармуры антычных палацаў.

— Уставай, п'яны гун,— засмяялася Зінаіда.

— Ну і шэльма гэты Грамабоеў,— сказалі сытым вясёлым голасам.— Такую жонку адхапіў! А сам хто? Казяўка, не болей.

— Я не Грамабоеў— закрычаў раптам, стукаючы сябе кулакамі ў грудзі, рыжы чалавек.— Я Бедункевіч. Прапаную ўсім устаць і выпіць за маё плебейскае прозвішча!

Усе, п'яна пасміхаючыся, усталі, з'явілася бутэлька шампанскага, звонка ляснуў корак, ударыўшыся ў столь вагона. Бедункевіч піў, рэзка адкінуўшы назад галаву; рыжыя, агняныя валасы матляліся конскай грывай. Потым зноў пачаў гаварыць, шмат гаварыць, не сціхаючы ні на хвіліну. Яму была патрэбна чужая ўвага, як вада сухой, бясплоднай зямлі. У душы ён быў акцёр і добра разумеў гэта. Ён быў паяц. Чалавек, патрэбны ўсёй кампаніі, але нікому не патрэбны паасобку.

Кузьма ўспомніў майстэрню мастака Лебедзя, успомніў Івана Юшкова, Ваську Шворана і гэтага Бедункевіча. Тады ён быў Грамабоеў, крыклівым голасам чытаў вершы, гаварыў пра смерць. Цяпер ён Бедункевіч.

Кузьма ўспомніў і Зінаіду Гайкевіч, нявесту Бедункевіча. Гэта з яе маляваў Лебедзь партрэт Рэвалюцыі, даўшы ёй у рукі меч і келіх з чырвоным вінам. Што ўбачыў у ёй Лебедзь ад Рэвалюцыі? Какетка, прыгожая самачка, і ўсё.

А вунь, побач з ёю, яе брат, чарнабровы і светла-русы. Яго завуць, як помніцца, або Ігарам, або Аркадзем. Казалі ў Чмялях, што ён нейкая важная птушка ў Беларускай радзе.

Значыць, у Зінаіды з Бедункевічам і ва ўсёй вясёлай кампаніі вясельнае падарожжа. Едуць, вядома ж, у Чмялі, у народ. Па свежай расе пахадзіць хочацца. Успомнілі пра народ, як захацелася спелых суніц са смятанай. А што народ ваюе, галадае, што страчвае лепшых сваіх дзяцей, дык гэта не іхняя справа. На тое ён і народ, каб цярпець.

Кузьма, адвярнуўшыся, глядзеў у вагоннае акно і пакрысе супакойваўся. Хай п'юць, хай крычаць. Некалі ж будзе пахмелле.

## VII

Як толькі аціх бой, прыбегла ў каплічку маці Васіля Безручонка, Марыля, затым прыкаціў самаробную каляску, у якой звычайна вазіў смалякі з лесу, дзед Піліп. Яны дапамаглі Антону сесці ў каляску, хоць той і аднекваўся, пакіраваліся да свайго двара. Ахахонін, стогнучы, застаўся ляжаць у каплічцы.

Вёска як вымерла. Дзверы і аканіцы былі зачынены. Але Антон ведаў, што за імі назіраюць цяпер дзесяткі вачэй. Крыўдна было яму за сваю новую рану, ды што паробіш, відаць, такі ягоны лёс. Чамусьці любяць яго кулі, не праміналоць.

— Васіль, ці ляжыць там яшчэ Шура? — спытаўся ён.

— Ляжыць,— адказаў Васіль.— Цябе прывязём, возьмем з дзедам рыдлёўкі, пойдзем і закапаем яе.

Натужна рыпела драўлянае кола на жалезнай восі, каляска пад цяжарам чалавечага цела глыбока ўядалася ў зямлю. Антон бачыў, як абліваецца потам Васіль, як хаўкае сухім ротам дзед Піліп, і адчуванне сваёй бездапаможнасці, свайго калецтва раздзірала сэрца. А тут яшчэ Шура ўспаміналася, яе апошнія словы і як ляжала яна мёртвая з цёмным халодным тварам.

Побач з каляскаю ішла Марыля, спалоханая, басаног, і ўсё азіралася, прасіла:

— Хутчэй жа вы, бацька і Васілёк. А то, не дай гасподзь, немцы перапыняць...

Але немцы, відно было па ўсім, пагналі ахахонінскіх дружыннікаў да Бярозы. Адтуль, здалёку, чуліся гукі стрэлаў.

— Хутчэй,— падганяла Марыля. Яны ўехалі ў двор, што зарос густой зялёнай травою, і Антон, абапіраючыся на Васіля і старога, даскакаў, дачыкільгікаў на адной назе да хлява. Там, у загародцы, ляжала сена, і ён упаў на сена, быццам кінуўся ў зялёную пахучую раку.

— Каб толькі яна не ўбачыла,— казала Марыля, маючы на ўвазе свякруху, і перавязвала Антону нагу белым кужэльным палатном. Ад слабасці і ад болю ў Антона кружылася галава, але ён цярпеў, ні разу не войкнуў, бо хоць гэтым хацеў аддзячыць добрым людзям за ўсе іхнія турботы.

— Ляжы,— уважліва глянула кабета на Антона.— Я потым кажух прынясу і паесці. А пакуль што яблыкі бяры. Бачыш, во тут на сене ляжаць...

Яна ціха выйшла з хлява, зачыніла вароты, і Антон застаўся адзін.

Ён ляжаў на спіне, знясілена раскінуўшы рукі, прыслухоўваючыся да цішыні, да свайго цела, якое ўсё было напоўнена стомленасцю і болем. Праз дзіркі ў запшчыце ў хлеў прадзіраліся праменьчыкі дзённага святла, яркія, роўныя, як накрэсленыя алоўкам. Сенная пацяруха плавала, танцавала ў гэтых праменьчыках і здавалася залатою. На страсе знадворку ўзбуджана ціўкалі вераб'і, і Антон пазайздросціў ім — яны бачаць сонца, яны могуць паляцець куды захочуць.

З двара пачуўся ціхі голас Васіля:

— Дзед, бяры рыдлёўку. Вунь пад паветкаю стаіць.

Слаба дзынкнула жалеза, пачуліся крокі, і ўсё сціхла. «Пайшлі Шуру закопваць» — зразумеў Антон. Спустошанасць агарнула яго. «Навошта на зямлі ёсць смерць?» — падумалася яму. У такі светлы дзень і столькі смерцяў. Ярчака няма, Шуры няма. Ды і тут, у гэтым ціхім хляве, калі ўважлівей прыгледзецца, прыслухацца, убачыш няўлоўны цень смерці. Вось у павуціну трапіла муха і б'ецца, звініць, як струна. І сам ён ляжыць на сене, на мільёнах загубленых зялёных жыццяў. Родзіцца чалавек, падрасце, паставіць на ногі дзяцей і знікае, як снег вясною. Няўжо жывём толькі для падаўжэння роду? Няўжо расцём толькі для таго, каб адчуць сябе травой, што падае пад ударам касы?

На двары зноў загаманілі. Антон пазнаў Марылін голас. Яна, падышоўшы да варот хлява, упрошвала нейкую Тэклю, відаць, яшчэ адну Безручонкаву нявестку:

— Ты ж глядзі, Тэклечка, золатка, не скажы старой, што ён у нас ляжыць.

— Не скажу,— паабяцала Тэкля.— Дай толькі глянуць на яго.

Рыпнулі вароты, і Тэкля, таўставатая, белабрысая, з дужа загарэлым тварам, сцярожка ўвайшла ў хлеў. Падабраўшы спадніцу, яна ўзлезла на загародку, з цікаўнас-

цю глянула на Антона. Пульхныя яе шчокі пачырванелі ад хвалявання. Антон, нечакана нават для самога сябе, падміргнуў ёй і лёгка дрыгнуў здаровай нагою. Тэкля хіхікнула ў кулак. Яе як ветрам здзьмула з загародкі.

— Вясёлы,— толькі і сказала яна Марылі.

І зноў наступіла цішыня. Карова яшчэ была на пашы, куры споўдаліся недзе па вуліцы, і Антон, змірыўшыся з адзінотай, прыцярпеўшыся да болю, незаўважна заснуў. Недарэчны сон прысніўся яму. Убачыў ён у сне шырокую зялёную лугавіну. Вечаровае сонца садзіцца, і ўжо дзенідзе пачынаюць плаваць белыя астраўкі туману. Ён, Антон, павольна ідзе па гэтай лугавіне і глядзіць сабе пад ногі. Мноства жоўтых гурбачкаў бачыць ён. Гэта — кратовыя норы. І вось ён быццам палюе ўжо на кратоў, ціха падкрадваецца да іх з тоўстай дубінкаю ў руках. Краты высоўваюць галоўкі з нораў, затым адначасова хаваюцца. Ён ловіць момант, падкрадваецца бліжэй, і — хрась! — апускаецца цяжкая дубінка на крата, на другога. А далей сон робіцца зусім страшны. Быццам сам ён, Антон, стаў кратом. Ягоныя рукі ў чорнай ільснiстай поўсці, ён адчувае вільготны пах жоўтага мяккага пяску і асцярожна высоўвае галаву са сваёй нары. І адразу бачыць таго, кучаравага, што загадаў расстраляць Ярчака. Кучаравы з дубінкаю ў руках падкрадваецца да яго, размахваецца з усяго пляча, і вось-вось няўмольная дубінка апусціцца на Антонаў чэрап.

Антон ускрыкнуў, спуджана прачнуўся. Цяжка тахкала сэрца. «Прысніцца ж брыдота»,— падумаў ён і аж плюнуў.

Нарэшце ў хлеў зайшоў Васіль, прынёс кажух, пасцілку, сеў насупраць Антона. Колькі хвілін ніхто не пачынаў гаворку, потым Васіль сказаў:

— Закапалі яе... Шуру... Яловых лапак паслалі ў магілу. Дужа прыгожая была, як закопвалі.

«Навошта ён гэта гаворыць? — думалася Антону.— Няўжо не разумее, што не магу я пра гэта слухаць?»

Памаўчалі.

— Ні немцаў, ні нашых і ні гэтых эсэраў — нікога ў вёсцы няма. Толькі чалавек дзесяць забітых валяецца, і параненыя ў гародах енчаць. Ну й дзянёк быў!

Васіль вымавіў гэтыя словы ціхім голасам, узяў у рот травінку, надкусіў яе, плюнуў, зноў сказаў ціха:

— Ну й дзянёк быў.

Тым часам на двары пачуліся яшчэ галасы, натужна завіскатала Пілiпава каляска, нехта слаба застагнаў. Васіль адразу страпянуўся, выбег з хлява.

— Пад пахі яго трымай... Пад пахі,— ціха гаварыла Марыля.— Ды мякчэй... Баліць жа чалавеку...

Затупацелі цяжкія крокі, рыпнулі вароты хлява.

— Каго гэта ты прывезла, мама? — абурана спытаўся Васіль.

— Чалавека, сынок. Бачыш — кроў з чалавека бяжыць... Мякчэй нясі яго...

— Ды не буду я яго несці. Звер ён. Нашых страляў. Вязі назад яго.

— А божачка, а сынок мой,— здзівілася Марыля,— што гэта ты кажаш? Паглядзі — чалавек аж счарнеў увесь. Ды і не немец жа ён. Наш, рускі.

— Рускі, кажаш? Ён на сонных напаў. Ён матроса загадаў забіць. Хай наш двор не паганіць.

— Малады чалавек,— прагучаў раптам стомлены мяккі голас, і Антон здагадаўся: доктар, Барыс Аляксеевіч! — Малады чалавек, я прашу, каб вы дазволілі пакласці параненага ў ваш хлеў. Часова, вядома. Хто б ён ні быў раней, зараз ён усяго толькі ахвяра вайны, можна сказаць, бездапаможнае дзіця. Наш святы абавязак, калі мы людзі, дапамагчы яму.

Дзверы шырока расчыніліся, і доктар з дзедам Пілiпам і Марыляй (Васіль не дапамагаў, стаяў збоку) унеслі ў хлеў Гаўрылу Ахахоніна. Ён быў беспрытомны, рукі і ногі віселі, як драўляныя. Яго паклалі на кажух, і доктар нахіліўся над ім.

— Цёплай вады, калі можна, прынясіце,— сказаў доктар Марылі.— Прашу вас,— і раптам заўважыў Антона. Некалькі імгненняў здзіўлена глядзеў на яго, потым весела прыцмокнуў губамі: — Можна сказаць, што сёння дзень нечаканых сустрэч. Вы ж з нашага лазарэта? Антон, здаецца?

Антон кіўнуў галавой.

Марыля прынесла гаршчок з вадою, і Барыс Аляксеевіч, спаласнуўшы рукі, адчыніў свой маленькі чорны чамаданчык, дастаў бінты, вату, ёд, пачаў перавязваць рану. Робячы гэта, ён адразу страціў цікавасць да ўсяго старонняга, што магло толькі перашкодзіць, адцягнуць увагу.

— Цяжкая рана,— казаў ён сам сабе, нібы раіўся сам з сабою,— цяжкая рана, але арганізм малады, крэпкі. Асколак сядзіць не дужа глыбока, ды дастаць яго будзе не проста. І ўсё ж зараз я паспрабую дастаць яго, дастану. Так. Я дастану цябе, асколак.

І ён мармытаў і мармытаў сабе пад нос.

Антон здзіўлена глядзеў на доктара ды і падумаў: «А што? Бабка Еўка ў вёсцы, як лечыць, малітвы-забабоны шэпча. А можа і гэтыя словы для доктара — як тая малітва?»

Барыс Аляксеевіч паглядзеў Антонаву рану, змазаў ёдам, перавязаў. Толькі пасля гэтага стомлена заплюшчыў вочы, прысеў на сена.

— Навошта вы, доктар, гэтага лечыце? — кіўнуў на Ахахоніна Антон.— Ці не бачылі, як ён Ярчака ўходаў? Самі ж прасілі не страляць матроса.

Барыс Аляксеевіч расплюшчыў вочы, і яны ў паўзмроку хлява заблішчалі.

— Не заві мяне, малады чалавек, доктарам,— папрасіў ён.— Я Барыс Аляксеевіч Лутошкін. З Масквы. Аж з самага бацюхны Арбата. А лячу я яго таму, што ён паранены. І яго лячыць буду, і цябе.

— Дык ён жа бандыт, забойца.

— Магчыма. Хоць я яшчэ не магу так упэўнена сказаць. Але для мяне свет падзяляецца не на чырвоных ці белых, зялёных або жоўтых, а на здаровых і хворых. У першую чаргу.

Барыс Аляксеевіч ямчэй уладкаваў у сене сваё магутнае цела, зноў загаварыў:

— Адстаў я ад лазарэта. Страляніна, крыкі, паніка... Разгубіўся я. Шура некуды адбілася, санітарка...

— Забілі Шуру,— ціха перабіў яго Антон.

— Шуру забілі? — Барыс Аляксеевіч уздрыгнуў, пабляднеў, дакрануўся да правай скроні рукою.— Ай-я-яй. Такая разумніца была. Усё з паўслова разумела. І параненых шкадавала. Так, шкадавала, нават, бачыў я, плакала над імі. А хадзіла з цыгарэтай, анекдоцікі любіла паслухаць.

Ён змоўк, паклаў рукі на калені, схіліў на рукі галаву.

— Адстаў я ад лазарэта... А можа і добра? Там выбіраць неабходна было. Станавіцца на нейчы бок. Ці на бок гэтага матроса Ярчака, ці супраць яго. Два куты былі, трэцяга не было. А мне гэта цяжка. Я ж, малады ты мой чалавек, інтэлігентам сябе лічу. А інтэлігент або паэт, як сказаў Аляксандр Блок, расліна шматгадовая. Мне трэба пакрысе да свайго чарназёму падбірацца, карэньчыкі пускаць у яго асцярожна, а то раптам замаразкі ці сухмень надарацца. Так і без карэнняў можна застацца,— ён кашлянуў.— Кіпіць Расія. Гарыць. Нічым яе ўжо не патушыш. Чытаў я ў адной кніжцы з залатым пераплётам перапіску расійскай імператрыцы Кацярыны Другой з французскім філосафам Дзідро. Кацярына гэтая — хітрая баба была. Не толькі бізуном выхоўвала, але і асветніцай, мудрай Феліцай хацела паказаць сябе. Ну і пісала лісты Дзідро, ліберальнічала, какетнічала ў гэтых лістах. З Дзідро яна, вядома, хутка парвала, бо зусім рознага поля ягадкі яны былі. І вось што яна ўспаміпала: «Ён, пэўна, лічыў сябе педагогам, бо, пераканаўшыся на працягу нейкага часу, што не выканана ніводная з яго рэкамендаваных вялікіх прапаноў, выказаў сваё здзіўленне і нават ганарыстае незадавальненне. Тады я звярнулася да яго з наступнымі шчырымі словамі: «Пан Дзідро, я з найвялікшай асалодай выслухала ўсё, што ўнушыла вам ваша бліскучае ўяўленне; з дапамогаю вашых вялікіх прынцыпаў, якія я вельмі добра разумею, можна пісаць цудоўныя кнігі, але вельмі дрэнна весці справы. Выдумляючы вашы планы для рэформаў, вы забываецеся, у якіх розных становішчах знаходзімся мы: вы працуеце толькі на паперы, якая гладкая, паслухмяная вам, і не маеце ніякіх перашкод ні для вашай фантазіі, ні для вашага пяра. Я ж, як імператрыца, працую на чалавечай скуры, якая ў тысячу разоў болей адчувальная і казытлівая». Так, малады чалавек, гісторыя, рэвалюцыя працуе на чалавечай скуры і не мне, слабаму нервоваму чалавеку, такая праца.

Тут з двара пачуўся крык бабы Насты:

— Ты што тут камандуеш, пагарэліца? Хто тут хадзяйка: я ці ты? Панаводзіла поўны хлеў басоты. Яшчэ двор спаляць. Язэп, сынок, гані ты іх усіх у каршэнь. А гэтай сваёй вахмістрыні задзяры падол ды ссіні скуру. Чаго ж ты стаіш, Язэп?

— Марыля, Марыля,— пачуўся ціхі разгублены голас Язэпа.— Ідзі сюды...

Марыля нічога не адказала, хоць, адчувалася, была на двары.

— І што ж у мяне за сын урадзіўся? — фальшыва і бясслёзна загаласіла старая.— Каб ты, мой сынок, пад дажджом размок... Маці родную са свету зжываюць, а ён і вусам не шавяльне.

— Марыля, ідзі сюды,— зноў, ужо болей грозна, сказаў Язэп.

Барыс Аляксеевіч зморшчыўся, прыкусіў губу, шумна ўстаў і выйшаў з хлява. Ягонае з'яўленне, рашучае і нечаканае, відаць, збянтэжыла ўсіх, хто ў гэты час знаходзіўся на двары.

— Вось бярыце,— сказаў Барыс Аляксеевіч,— я вам даю тры залатыя рублі. Болей у мяне няма. Аж тры залатыя рублі плачу я вам. Дазвольце толькі прыпыніцца ў вас. У мяне параненыя... Як толькі стануць яны на ногі, мы пойдзем. І не крычыце, калі ласка, на яе, на Марылю. Каб не яна, іх бы ўжо ў жывых не было.

Ніхто не парушыў маўчання. Антон быццам бачыў, як бярэ старая залатовікі, як сціскае іх у сухіх пальцах, як хоча паспрабаваць іх на зуб, але саромеецца староннята чужога чалавека. Зараз хуценька шмыгне яна ў хату і там, не даверыўшы нікому, будзе мацаць, разглядаць на святло, кратаць зубамі, нават нюхаць нечаканае сваё багацце. І будзе падобна яна на старую сівую мыш, якая ў цёмным падпеччы, зярнятка да зярнятка, раскладвае ў сваім гняздзе ўкрадзеную ў людзей спажыву.

Барыс Аляксеевіч вярнуўся з двара, маўкліва сеў побач з Антонам.

Праз ноч, дажджлівай панылай раніцай, вярнулася прытомнасць да Гаўрылы Ахахоніна. Дождж ліў на мокрую салому страхі. Вераб'і і ластаўкі, напуджаныя непагаддзю, зляцеліся з вуліцы ў хлеў, расселіся па зацішных цёмных кутках і не ўзнімалі вэрхалу, гармідару, а толькі распраўлялі мокрыя пёры ды, хуценька махаючы, сушылі скалелыя крылы.

Ахахонін расплюшчыў вочы. Колькі хвілін ён не мог зразумець, дзе ён і што з ім. Гурбы сена, заплеценыя павуцінай, патрэсканыя кроквы над галавой, маленькае кволае акенца ў зашчыце... І два чалавекі... Адзін — малады, худы, той, што ў часе бою страляў па ім; другі — чырванашчокі гігант, з даўно забытай дабрынёй у паглядзе.

Гаўрыла Ахахонін адчуў сябе адным з першых хрыс-

ціян, якога злавілі ў рымскіх катакомбах, выцягнулі на дзённае святло і кінулі ў клетку да дзікіх галодных звяроў. Але толькі на імгненне ўспыхнула ў ім такое адчуванне і адразу патухла. Гаўрыла запытаўся:

— Ці перайшоў кайзер у наступленне на Савецкую Расію?

Яму не адказалі.

— Паляжыце, малады чалавек,— загадаў доктар,— вам яшчэ рана ўставаць.

Антон глядзеў на Гаўрылу з нянавісцю, і непрыхаванай агідаю і знявагай. Проста дзіўна было, як прамахнуўся ён тады, страляючы з вінтоўкі. Але Гаўрылу даўно ўжо не бянтэжылі ніякія позіркі. Такі рэвалюцыянер, як ён, заўсёды павінен спакойна глядзець у вочы і крыважэрнаму кату, і хціваму цару, і падманутаму народу. Так вучылі яго. Адважны Пісаро з трымастамі канкістадораў-іспанцаў ушчэнт разграміў двухсоттысячнае войска індзейцаў-майя таму, што ішоў толькі ўперад. Толькі ўперад, як куля, што вылятае з ружжа.

Гаўрыла бачыў, што гэты малады дужа няўпэўнена сябе адчувае. Няцяжка было здагадацца па ягоным твары, адзенні, рухах, што ён сын вёскі. І нават калі ён гаварыў (а гаварыць ён стараўся па-руску), настойліва і ўладна біў з яго вясковы акцэнт. Так ранняй вясною на тварах модніц з-пад усялякіх крэмаў і пудры вылазяць вяснушкі. «Ці нашпігаваны камуністычнай прапагандай, ці пусты, як новы гліняны збан,— падумаў Ахахонін.— Хутчэй за ўсё — апошняе. З гэтага чорнага мужыцкага цеста можна спячы неблагі пірог».

Ахахонін паводзіў сябе вельмі ўпэўнена і нават весела. Дружына ягоная рассеяна, перастала існаваць, але ж застаўся ён, і гэта самае галоўнае. «Дрэва ссечана,— думаў ён,— ды жывуць карэнні». Немалую смеласць і рашучасць надаваў яму браўнінг, схаваны ў мяшэчку пад пахай. Было прыемна целам адчуваць гладкі халаднаваты метал.

— Вам яшчэ рана ўставаць,— паўтарыў свае словы доктар.

Антон глядзеў на Ахахоніна, як на чалавека, што вярнуўся з таго свету. Гэты чалавек, па ўсіх законах прыроды, не павінен быў болей жыць, але вось ён — ляжыць побач, шумна дыхае, нават усміхаецца куточкамі вуснаў, і вочы ягоныя — сама ўрачыстасць і перамога. Ён лічыць сябе вышэй за Антона, вядома ж, вышэй, і нават не хавае сваёй перакананасці ў гэтым.

Так пацягнуліся дні, доўгія, падобныя адзін на адзін, напоўненыя адзінотай і чаканнем лепшых часін. Рана паКрысе загойвалася. Васіль выстругаў Антону тоўсты арэхавы кіёк, і можна было ўжо калі-нікалі выходзіць з хлява на двор. Аднойчы на двары Антон убачыў старцаў —

абвешаных торбамі аднавокага старога і хлопчыка з ільнянымі кучаравымі валасамі — і даведаўся, што з гэтых мясцін кіруюцца яны на Ігуменшчыну, бо там у старога жыве нейкая далёкая радня. Адразу ж прыйшла Антону думка напісаць бацькам пару слоў — можа надарыцца старому ісці праз Чмялі, дык перадасць.

— А чаму ж не перадаць? — згадзіўся стары, хаваючы цыдульку за пазуху вылінялай кашулі.— З вялікай ахвотаю, калі толькі можна будзе.

Рашыў Антон, як толькі наздаравее, пакрапчэе нага, падавацца дадому. З-за гэтага і з Васілём Безручонкам пачаў старацца менш таварыць і менш сустракацца, бо той усё рваўся ў Чырвоную Армію, што стаяла ў Оршы, і падбіваў на гэта ж Антона.

«Дадому трэба вяртацца,— думаў Антон, лежачы на сене ці седзячы на бярвенні каля хлява.— Досыць бадзяцца па свеце. Паглядзеў людзей, і хопіць».

Учора старая загадала перабрацца з хлява ў стопку, таму што карова пачала даваць менш малака. Потым надвячоркам бачыў Антон, як старая тры разы абышла вакол хлява, нешта рассыпаючы па зямлі.

— Што яна робіць? — пацікавіўся Антон у Васіля.

— Ат, цёмная яна,— усміхнуўся Васіль.— Думае, што карову малочная ведзьма псуе. І пасыпала макам зямлю кругом хлява. Ноччу прыйдзе ведзьма, убачыць макавыя зярняткі. І павінна яна пералічыць усе зярняткі — такі ў ведзьмаў звычай. А пакуль лічыць яна будзе, ноч скончыцца. І не зможа яна крануць карову. Вось так...

Антон са здзіўленнем паглядзеў на старую Насту.

З Ахахоніным, ён не размаўляў. Стараўся, пры любой магчымасці, не быць з ім разам. А той, наадварот, лез у душу, не прамінаў выпадкаў выклікаць на гаворку.

— Чаму ты такі сярдзіты на мяне, зямляк? — пытаўся Ахахонін.— Я ж не вораг табе, і доктару не вораг, і гэтай старой не вораг. Матроса не я расстраляў. Уся наша дружына вынесла яму прыгавор. Справядлівы рэвалюцыйны прыгавор. Калі б не мы яго, ён бы нас да сценкі паставіў. У наш час выбіраць не даводзіцца. Камуністы ўсю нашу партыю левых эсэраў пад корань секанулі. Што ж мы — павінны па галоўцы іх гладзіць? Зразумей, што толькі наша партыя і для цябе, і для твайго бацькі, для ўсяго працоўнага сялянства шчасця жадае. Усе астатнія падманваюць вас.

Антон маўчаў.

Затое з доктарам у Ахахоніна былі цэлыя дыскусіі. Барыс Аляксеевіч ахвотна вёў гаворку. Ахахонін ахрысціў яго «талстоўцам» і звычайна, звяртаючыся да яго, казаў:

— Ну, а што думае наш талстовец?

— Я думаю,— адказваў доктар,— што для дасягнення народнага шчасця, а, калі я правільна вас разумею, гэта галоўная мэта вашай партыі, вы выбралі абсалютна няправільны шлях — шлях жорсткасці. Я не прымаю, я адвяр-

гаю Батыя, што ўзводзіць піраміды з чарапоў і ў той жа час крычыць аб сваёй любові да народа. Народ трэба любіць не на словах. Гэта самая вялікая ваша, я сказаў бы, самая трагічная памылка.

Ахахонін паблажліва ўсміхаўся. Усім сваім выглядам паказваў ён, што яму дзіўна — як гэта адукаваны чалавек, інтэлігент, не можа зразумець такіх простых ісцін?

— Вы — доктар,— казаў ён.— Не мне расказваць вам, што любая маці, любая жанчына ў пакутах дае жыццё свайму дзіцяці. У пакутах! Разумееце? Хай загіне тысяча рэвалюцыйных салдат, дзесяць тысяч, але на іхніх касцях узыдзе, як пшанічны колас, шчасце ста мільёнаў народа. Мы загінем у бітве і станем угнаеннем для заўтрашніх сонечных палёў.

— Асабіста вы не загінулі,— мякка напамінаў доктар.

— Якое гэта мае значэнне? Гэта выпадковасць. Я праліў кроў,— моршчыўся Ахахонін.

Вочы ў доктара суровелі:

— Мне здаецца, вы глыбока ўпэўнены ў тым, што ваша кроў больш чырвоная, чым у іншых людзей. Я не памыляюся?

Ахахонін маўчаў, іранічна ўсміхаўся.

— Запомніце,— загараўся доктар,— жыццё — гэта вечны рух крыві. І ва ўсіх людзей кроў аднолькавага колеру.

Неяк Барыс Аляксеевіч сказаў Ахахоніну:

— Гаўрыла Іванавіч, хачу вас папярэдзіць. Да мяне ўжо разы тры падыходзіў гаспадароў сын. Яго Васілём, здаецца, завуць. Так-так, Васіль. Дык вось — у асобе гэтага Васіля вы маеце свайго нядобразычліўца. Ён мне казаў, што вы контррэвалюцыянер, вораг Савецкай улады, і гэтак далей, і што вас трэба судзіць народным судом. Ён сялян падбухторвае супраць вас. Я, як урач, пакуль вы былі ў цяжкім стане, заявіў яму, што толькі праз свой труп дапушчу каго-небудзь да свайго пацыента. Але зараз вы пайшлі на папраўку, ужо ходзіце і... Самі разумееце...

— Разумею. І ад усяго сэрца дзякую за папярэджанне,— усміхнуўся Ахахонін.

Здавалася, яго ні на кропельку не ўсхвалявалі словы доктара. Але Антон заўважыў, як няўлоўна ўздрыгнулі цёмныя мяккія вейкі, ледзь-ледзь раней уздрыгнулі, чым звычайна.

Лета тым часам дажывала свае апошнія дні. Вось чаму такія светлыя, такія сонечныя раніцы ўставалі над Вераб'ёўшчынай. Сонца яшчэ не было відаць, а ўжо пук ягоных праменняў, пунсовых і гарачых, пратыкаў белыя маленькія хмаркі, і хмаркі тыя адразу рабіліся вішнёвымі, а потым залатымі. А яшчэ праз паўгадзіны яны бясследна раставалі, знікалі ў асляпляльнай сінечы неба, як быццам разумелі, што нельга псаваць дажджом прыгажосць такога слаўнага дня. Налятаў ранішні вецер, шумеў у галінах старога дуба на плошчы, зрываў першыя жоўтыя лісты, якія дзе-нідзе праклёўваліся ўжо ў зялёных чупрынах

дрэў. Увечары ж столькі зорак высыпала на небе! Крэслілі сіне-залатую цемру метэарыты, і старыя людзі, гледзячы на іх, казалі, што зноў нечая душа паляцела ў рай альбо ў пекла.

Казалі, што на левы бераг Бярэзіны вось-вось уступіць чырвонае войска, бо Савецкая Расія заключыла з Германіяй дагавор, па якому немцы павінны пакінуць усе занятыя тэрыторыі на ўсход ад Бярэзіны. Чакалі чырвоных, ноччу выходзілі з хат, слухалі, ці грыміць за ракой. Пакуль усё было ціха, але людзі ўжо даўно навучыліся не верыць цішыні.

Васіль Безручонак прасмаліў стары бацькаў човен, падрыхтаваўся, як што якое, плыць насустрач чырвоным. У хляве ў сене ён хаваў вінтоўку і дзве сотні патронаў. Некалькі разоў ён загаворваў з Антонам, каб збірацца ў дарогу, бо ягоная гарачая душа не магла жыць без справы. Антон спачатку спасылаўся на параненую нагу, потым пачаў адмоўчвацца, а ўжо некалькі дзён наогул пазбягаў Васіля. І той зразумеў, што хітруе ягоны таварыш. Крыўдна зрабілася і сумна, бо падабаўся яму Антон, а тут раптам так падвёў.

Аднойчы на досвітку на двор Безручонкаў з гародаў зайшлі ўзброеныя людзі. Васіль, які спаў у хляве, пачуў іхнія асцярожныя крокі і прыглушаную гамонку. Радасна забілася сэрца. «Няўжо чырвоная разведка?» — падумаў ён. Накінуў на плечы світку, падкраўся да сцяны, потым да варотаў, прыслухаўся.

Незнаёмцы стаялі крокаў за пяць ад яго. Не, гэта была не чырвоная разведка. Гэта, як здагадаўся Васіль, былі сябрукі кучаравага эсэра.

— Тут ён павінен быць,— чулася з цемры.— Вось і ліпа з абсечаным верхам. І стопка са свежага бярвення...

— Ідзі, заві яго сюды,— сказаў, відаць, галоўны.

Пачуўся асцярожны стук у маленькае падслепаватае акенца і словы:

— Фенікс... Фенікс... Уставай...

«Клічка ў яго такая»,— зразумеў Васіль.

Ахахонін амаль адразу выйшаў на двор, быццам чакаў начных гасцей. Яго акружылі, ціснулі яму руку і цікавіліся здароўем.

— Здаровы я, сябры,— бадзёра, не дужа прыцішаючы голас, гаварыў Ахахонін.— Тут да мяне доктар адзін прыбіўся, лечыць. Цікавы доктар. Гуманіст, пацыфіст і, памойму, вегетарыянец.

Усе стрымана засмяяліся.

— А ў нас справы дрэнь, Фенікс,— пасля кароткага маўчання сказаў адзін з прышэльцаў.— З Масквой і Петраградам сувязі не маем. Але ясна адно — наша партыя там разгромлена. Ды і па ўсёй цэнтральнай Расіі тое ж самае. Мы зрабіліся для Леніна ворагамі нумар адзін. Асабліва пасля таго, як страляла Фані Каплан. Тваёй Жалезнай дружыны таксама няма. Разбегліся хто куды,

як мышы. Івавоў з Баталіным да камуністаў на паклон пайшлі, публічна выракліся партыі левых эсэраў. Красоўскі з сябрамі ледзь не крымінальнікі недзе ў Смаленскай губерні. Шмат хто асеў па ціхіх кутках, чакае. Мы ж на поўдзень рашылі прабірацца, у добраахвотніцкую армію. Там, канечне, хапае жывадзёраў, там п'янае казаччо, тупалобыя генералы, але што зробіш. Лёс Расіі рашаецца сёння там. Ты едзеш з намі, Фенікс?

Наступіла цішыня, потым Ахахонін павольна сказаў:

— Пачакай, пачакай, Салаўёў... Што ж гэта выходзіць? Атрымліваецца, што ўжо ты камандзір Жалезнай дружыны. А я? Хто я?

— Цябе параніла. І прытым мы не ведалі, дзе ты нагул знаходзішся,— трошкі разгублена пачаў апраўдвацца Салаўёў, але голас ягоны паступова акрэп, і скончыў ён даволі бадзёра: — А за мяне галасавалі на дружынным мітынгу.

— Вось як,— сцішыў голас Ахахонін.— Можа за цябе і Баталін з Івановым галасавалі?

— Галасавалі. А што? — не зразумеў тонкага манеўру Салаўёў.

— Дык можа і ты заўтра ў камуністы запішашся?

— Ну, гэта ты кінь. Кінь,— запярэчыў Салаўёў, ды Ахахонін рэзка перабіў яго:

— Выбары новага камандзіра аб'яўляю незаконнымі. Камандзірам Жалезнай дружыны левых эсэраў застаюся я — Гаўрыла Ахахонін. Хто супраць? Няма. Значыць, аднагалосна. А зараз абмяркуем план дзеянняў на сённяшні дзень. Тут мясцовыя мужычкі хочуць са мной гаворку мець. Нечым не спадабаўся я ім. Што ж... Заўтра, а дакладней, ужо сёння, я сустрэнуся з гэтымі мужычкамі. Пастараюся перавесці іх у нашу веру. Калі ж не атрымаецца... Я буду гаварыць з народам пад старым дубам, на плошчы. А насупраць плошчы стаіць старая яўрэйская крамка. Дакладней, была, бо гаспадар некуды знік у семнаццатым, і стаяць толькі голыя сцены з забітымі аканіцамі. Вы будзеце сядзець там і чакаць майго знаку. Калі народ зразумее мяне, вы не спатрэбіцеся. Ну, а калі будзе наадварот, я стрэлю два разы з браўнінга, і вы выскачыце мне на падмогу. Паталкуем з народам, рэквізуем коней і рушым на поўдзень.

Васіль чуў усю гэтую гаворку слова ў слова. Халодная ярасць туманіла галаву, але ён ніводным рухам або гукам не выдаў сваёй прысутнасці. Калі сціхлі крокі начных гасцей, ён адышоўся ад варот, лёг на сена. І болей не мог заснуць. «Яны хочуць вучыць народ, як жыць,— думалася яму.— Яны хочуць паталкаваць з народам, пасмяяцца з яго. Ну — не! Яны даб'юцца таго, што заслужылі,— народ будзе судзіць іх. З самай раніцы трэба аббегчы надзейных хлопцаў і Антону сказаць. Заадно можна будзе праверыць, што ж за птушка гэты Антон». Доктару Васіль рашыў нічога не гаварыць.

У Гаўрылы Ахахоніна быў прыўзнята-бадзёры настрой. Ён насвістваў вясёлую песеньку, папрасіў у Марылі, калі тая зайшла ў стопку, прынесці люстэрка і нажніцы. Нажніцамі ён падраўняў сабе чорныя вусы і бараду. Потым павярнуўся да доктара:

— Шаноўны Барыс Аляксеевіч! Калі б у мяне было зараз усё золата свету, я, не задумваючыся, аддаў бы яго вам. Але ў мяне няма нават меднай капейкі. Так што расплочвацца з вамі я буду, на жаль, толькі пры дапамозе эмоцый. Дзякуй вам, наш дарагі эскулап, за лячэнне, за бескарыслівасць, за чыстае рускае сэрца. Войны і рэвалюцыі псуюць людзей. Людзі пачынаюць жыць грандыёзнымі пражэктамі і не хочуць заўважаць самага звычайнага і самага неабходнага — чалавечнасці. Вы, шаноўны Барыс Аляксеевіч,— узор сапраўднай чалавечнасці. Дзякуй вам.

Ахахонін нізка-нізка схіліў сваю прыгожую кучаравую галаву.

Доктар усхваляваўся.

— Што ж вы — збіраецеся пакінуць нас?

— Іменна так. Сёння.

— Але ж яшчэ рана не зусім загаілася.

— У сапраўднага мужчыны раны ніколі не павінны загойвацца,— засмяяўся Ахахонін і сказаў Антону: — Ці не можна папрасіць цябе зрабіць добрую справу, зямляк? Дзе гэта твой сябрук, Марылін сын?

Антон паклікаў з двара Васіля. Той увайшоў, бледны, маўклівы і рашучы. Ахахонін паздароўкаўся з ім за руку, сказаў:

— Хачу паталкавацъ з вашым народам. Як гэта можна зрабіць?

— Навошта табе?

Ахахонін ледзь прыкметна прыкусіў губу ад гэтага «табе».

— Я чуў, што мяне тут лаюць. Думаю, вашы сяляне няправільна зразумелі мяне і маю партыю. Хачу растлумачыць ім.

— Наш народ усё вельмі правільна разумее,— звысоку глянуў на Гаўрылу Васіль.— Добра. Я скажу мужчынам і хлопцам.

Ахахонін быў упэўнены, што згаворыцца з вераб'ёўшчынскімі мужыкамі. Народ, просты народ, думалася яму, ён ведаў. Што трэба перш за ўсё мужыку? Вядома ж, свая зямля, не панская, не дзяржаўная, не богава, а свая. Як ёсць свая жонка, свае дзеці, свая кашуля на плячах. Зямля для мужыка як тая жонка — і дзень, і ноч ён з ёю, усю наскрозь ведае.

Ён ішоў па вуліцы да старога дуба на плошчы, адчуваючы лёгкі боль у грудзях, лёгкае кружэнне ў галаве. Ён быў без шапкі, без зброі, бо пра мяшэчак з браўнінгам, што вісеў пад пахай, ніхто не ведаў.

Натоўп сялян стаяў каля дуба. Мужчыны курылі, шум-

на размаўлялі. Убачыўшы Ахахоніна, трохі сціхлі, але не настолькі, каб ён не пачуў з'едлівых слоў:

— Бач, ідзе... Як конь да вадапою.

— Паарэш на такім кані. Ён сам цябе запражэ.

Мужыкі засмяяліся, і гэты густы грубы смех як бы падагнаў Гаўрылу — ён пайшоў хутчэй, параўняўся з грамадой, сказаў:

— Добры дзень, грамадзяне.

Адзін ці два галасы адказалі, астатнія маўчалі, чакаючы, пазіралі на Гаўрылу. Гаўрыла ўзлез на старыя паламаныя калёсы, што стаялі пад дубам, глянуў зверху на людзей. Было чалавек дваццаць мужчын і дзве-тры кабеты. Твары ва ўсіх загарэлыя, і не тым мяккім шакаладным загарам, які прывозяць з Італіі або з Каўказа. Чырвонабуры быў загар, бо твар і рукі, калі пякло іх сонца, абліваліся салёным потам.

— Грамадзяне! — рашуча сказаў Ахахонін.— Вітаю вас на вашай зямлі і жадаю вам шчасця ў мірнай працы. Воляй лёсу апынуўся я паміж вас і хачу пагаварыць з вамі, як з братамі.

— Пра што гаварыць будзеш? — крыкнулі з натоўпу.

— Пра нашу агульную працу. Пра тое, што трэба нам зрабіць, каб Расія стала вольнай і магутнай. Толькі наша праца адродзіць яе...

Ахахонін яшчэ не скончыў сваю думку, яшчэ не выдыхнуў паветра з шырока раскрытага рота, як адбылося тое, чаго ён зусім не чакаў. З натоўпу выйшаў невысокі рыжанькі селянін у белай зрэбнай кашулі, з касою на плячы.

— Працаваць хочаш з намі? — спытаўся ён.— Можна. Бяры касу і пайшлі касіць.

І ён уклаў адпаліраванае гарачае касільна ў рукі разгубленаму Ахахоніну.

— Пайшлі касіць,— глядзеў знізу ўверх рыжы селянін.— У мяне сын захварэў, няма памочніка. А я табе салам заплачу. Добры кавалак дам.

— Я не ўмею касіць і папсую вашу траву,— ціха сказаў Ахахонін, і ўпершыню за апошнія гады варухнулася ў душы пачуццё, падобнае на сорам. Не, не сорам перад гэтым мужыком, гэтым натоўпам — такіх ён нямала пабачыў. А сорам перад сабой, перад тым, што калісьці страляў у тамбоўскага паліцмайстра і ціснуў руку самой Марыі Спірыдонавай. Так непрыгожа плюхнуцца ў лужыну! Касу ў рукі ўзяў... Навошта? Хіба нельга было эфектна выкруціцца, зрабіць пудзілам гэтага рыжага, а самому гаварыць, гаварыць. Бо, як напісана ў святым пісанні: «Спачатку было слова...»

— Не ўмееш касіць? — здзівіўся мужык.— Дык чаго ж ты, гніда, распінаешся? Чаго звініш, як авадзень, што сеў на аглаблю? А ну злазь!

Ён вышмаргнуў у Ахахоніна з рук сваю касу, а потым учапіўся ў крысо шыняля. Рукі ў мужыка былі худыя, у вялікіх чорна-жоўтых вяснушках. Гаўрыла пахіснуўся і

ледзь не ўпаў з калёсаў. Браўнінг крутнуўся пад пахаю, і гэта супакоіла. Ён глянуў на яўрэйскую краму, што стаяла насупраць плошчы. Там сядзяць сябры, чакаюць сігналу. Але яшчэ рана.

— Асцярожна, грамадзянін,— крыкнуў Гаўрыла і ступіў некалькі крокаў назад.— Я прыйшоў, каб сказаць вам праўду.

— Гавары, калі прыйшоў,— сказалі знізу.

— Толькі наша партыя, партыя левых эсэраў, ваш сапраўдны сябра. Усе астатнія — вашы ворагі.

— І гэта ўся твая праўда? — засмяяўся натоўп.— А ну, Васіль, скажы яму.

Васіль, Марылін сын («Хітрае сабачаня»,— падумаў пра яго Ахахонін), выйшаў з натоўпу, стаў перад калёсамі. Толькі ён наважыўся гаварыць, як выскачыла наперад жанчына ў чорным, закрычала:

— Навошта чалавека забіў, ваўкалака?!

Ахахонін уздрыгнуў. Гэта была тая самая жанчына, якую ён сekануў тады шабляй, секанyў ціха, шкадуючы. «Трэба было біць з усяго пляча»,— падумалася яму. Жанчына ўжо шукала вачмі на дарозе камень, вось знайшла, выдзерла з пяску, размахнулася і шыбнула. Камень стукнуўся Ахахоніну ў левую нагу.

— Народ — раб! — закрычаў Гаўрыла, звярэючы.— Апомніся, народ! Яшчэ не позна.

Рыжы селянін узнімаў касу, заходзіў злева. Для яго Ахахонін быў травой, пустазеллем. «Няўжо яны могуць падняць на мяне руку? — прыціскаючыся спіной да цвёрдай шурпатай дубовай кары, думаў Гаўрыла.— На мяне, які гніў за іх на катарзе... Які сям'і не займеў, жыў галодны... А мог бы быць сытым і вясёлым — у бацькі ж вялікія грошы... Мог бы зараз сядзець дзе-небудзь у Парыжы пад белым накрухмаленым тэнтам і піць халоднае шампанскае...»

— Мужыкі, трэба судзіць гэтага бандыта,— крыкнуў Васіль Безручонак.

«Мяне судзіць...— думаў Гаўрыла, засоўваючы руку пад паху, намацваючы гладкую рукаятку браўнінга.— Мяне судзілі чатыры разы... Адна катарга і тры ссылкі. Яны мяне хочуць судзіць. Дык не ж! Я судзіць вас буду! Я — вышэйшая справядлівасць!»

Ён выхапіў з мяшэчка браўнінг і стрэліў. Стрэліў для сігналу, але не ўверх, а ў рот рыжаму злому селяніну, які, наставіўшы касу, як штык, лез на калёсы. Селянін, захлынуўшыся крывёю, пляснуўся вобзем. Стала ціха, і Гаўрыла адчуў, што гэта апошняя для яго цішыня. Ён ужо зразумеў, што сябры не прыйдуць на дапамогу, бо дзверы яўрэйскай крамы запёрты тоўстым бервяном і, прыгнуўшыся, стаіліся ля акон крамы мужыкі з сякерамі і ружжамі ў руках. Вунь і Антон стаіць, той самы, з якім ён, Гаўрыла, ляжаў паранены ў адной стопцы. «І гэты прыбег».

І ўспомніўся Гаўрылу, невядома чаму, дзед Іпатыч, су-

хі, сівагаловы маўчун, які ад чорных да сівых валасоў служыў у Гаўрылавага бацькі дрывасекам і вадавозам. Верным рабом быў ён Ахахоніну-старэйшаму. Але, зрабіўшыся нямоглым, пачаў раптам займацца дробным гандлем: то кошыкі спляце і прадасць, то гліняную свістульку занясе на рынак. Пэўна, рашыў перад смерцю зарабіць сабе на хаўтуры. Аднойчы нават каровіна масла недзе раздабыў, панёс прадаваць. А для большай саліднасці паклаў масла тое ў пасудзіну. Якраз Гаўрылаў бацька прывёз з Пецярбурга французскі начны гаршчок, новенькі, бліскучы, з прыгожай накрыўкай. Адкуль было ведаць Іпатычу пра далікатнае прызначэнне заморскай штучкі? Ціхенька ўзяў ён яшчэ ні разу не выкарыстаны гаршчок і панёс у ім масла на рынак. Добрае было масла, але людзі чамусьці дзіўна сябе паводзілі: адны хіхікалі, другія глядзелі на сівагаловага гандляра са шкадаваннем.

«І маё масла ніхто не купіць»,— падумаў Ахахонін і ударыў нагою ў грудзі Васілю Безручонку, які, выламаўшы з плота кол, ішоў на яго.

Потым глянуў на плошчу, на перакошаныя нянавісцю твары мужыкоў, на яўрэйскую краму, з якой, узняўшы ўгору дрыготкія рукі, выходзілі яго таварышы, шырока раскрыў рот, увапхнуў туды гарачае ад стрэлаў дула браўнінга, упёрся языком у ніжнія зубы — яны былі халодныя — і стрэліў.

## VIII

З раніцы сеяўся шэры дождж, надакучлівы і дробненькі, як камарыны піск. Зямля размякла, дрэвы стаялі паныла і нерухома. Саламяныя стрэхі хат пацямнелі і, здавалася, згорбіліся, здранцвелі, як чалавек, якому за каўнер трапіла халодная вада. Армады нізкіх вільготных хмар паўзлі над Вераб'ёўшчынай, і не відно было ім краю. У такое надвор'е не торкай нос на вуліцу, сядзі ў цяпле, займайся няспешнымі хатнімі справамі, мілуйся або лайся з жонкаю і толькі зрэдзь часу нецярпліва краніся лбом скалелай шыбіны, глянь на вуліцу — ці не паслаў бог прасветліну ў хмарах?

У такое надвор'е Васіль Безручонак пайшоў у грыбы. На галаву ён уздзеў стары мяшок і ўвесь час чуў, як над самым вухам шлопае дождж па мяшку. Пакуль чвякаў па мокрым лузе, зарасіўся па пояс. Плечы і спіна былі сухія, а анучы — хоць выкручвай. Вада пішчала ў старых дзіравых чаравіках.

Ён увайшоў у асіннік, і над галавою адразу шырока паплыў шоргат-усхліп дрыготкага асінавага лісця. Заўсёды ў трывозе гэтае дрэва. І таму людзі не вельмі паважаюць яго. Людзі хочуць, каб спяваў ім лес або калыханку, або бяздумна-сонечную мелодыю маладой свежасці і весялосці.

Абцяжараныя дажджавой вадой, галіны дрэў нізка

нахіліліся да зямлі. Бяссільна вісела між дрэў мокрае па-вуцінне, лавіла дажджавыя кроплі.

Васіль, трымаючы ў адной руцэ лазовы кошык, у другой нож, сцярожка ішоў па лесе. Уважліва глядзеў ён наўкол, з хваляваннем чакаючы той хвіліны, калі абмытая дажджом чырвоная галоўка першага падасінавіка ярка мільгне ў паўзмроку непагодлівага ляснога ранку. Гэта — як свята. Убачыш малады фарсісты грыб, што, нібы рыжанькі хлопчык, хітра пазірае на цябе з абляцелай карычнева-залатой лістоты або з прыгладжанай дажджом светла-зялёнай лясной травы, і ўздрыгне сэрца. Тады спыніся, апусці на зямлю кошык і не спяшайся з нажом. Праз колькі імгненняў ты з радасцю ўбачыш, што не адзін, а цэлая сямейка маладых, ядраных чырвонагаловікаў засяліла ўтульную мясціну.

Васіль з дзяцінства быў грыбніком. Ведаў, дзе растуць у вераб'ёўшчынскім лесе баравікі: у сасонніку, паміж моху,— чорныя; на ўскраінах або каля лясных дарог — з карычнева-жоўтымі шапкамі або зусім бялявыя, нібы золеныя, вымачаныя ў шчолаку. Ведаў ён, што чорныя грузды селяцца ў самай гушчэчы старых елак, куды мала трапляе святло.

Праз якую гадзіну Васіль нарэзаў амаль поўны кошык адных падасінавікаў. Ішоў па мокрым лесе, і думкі снавалі зладжана і шырока. Паслязаўтра ён паплыве цераз Бярозу насустрач Чырвонай Арміі. Паплыве з Васілём Дулебенцам, бо Антон, спаслаўшыся на параненую нагу, адмовіўся. Ужо ў абвітай лазой і крапівой затоцы стаіць напагатове човен.

Незразумелы хлопец гэты Антон. Як бы двайная ў яго душа. Бяду чалавечую адчувае, зло не плодзіць, але хітрун, першы на ражно ніколі не палезе, чакае, пакуль іншыя гэта зробяць. Дужа сябе беражэ. Праўда, тых эсэраў, што ў краме Гіршы Фінкеля сядзелі, дапамагаў выкурваць.

Заўтра Васіль паплыве на той бераг. Даўно ён чакаў гэты дзень, і нішто яго ўжо не спыніць. Толькі і гаворкі вакол пра Чырвоную сацыялістычную армію, якая стварылася па дэкрэту самога Леніна. Васіль хоча стаць байцом гэтай арміі. Разам з Васілём Дулебенцам прыйдзе ён з той рабочай і сялянскай арміяй у Вераб'ёўшчыну, каб зноў былі тут Саветы.

Дождж тым часам не слабеў і не мацнеў, цягнуў сваю панылую песню, шапацеў у лісці дрэў, дзёўб траву на лясных палянах. Такія дажджы, здараецца, ідуць цэлымі тыднямі.

Васіль перайшоў Марцінава ляда, зрэзаўшы паміж бярозак-падлеткаў вялікі прыгожы падасінавік, пакіраваў у ельнік. Мяшок усё ж прамок, прыліп да спіны, і ён зняў яго, скруціўшы ў абаранак, пачаў выціскаць ваду. І тут пачуўся яму пах дыму.

Васіль прыпыніўся пад густой камлюкаватай елачкай, пацягнуў носам халаднаватае золкае паветра. Недзе побач

гарэла цяпельца. Яго не было відаць, але пах дыму плыў над зямлёй, і чуйныя скалелыя ноздры лавілі яго. Васіль падумаў, што, пэўна, цяпельца гарыць вунь на тым невысокім пясчаным грудку, які шчыльна зарос маладым беластволым бярэзнікам. Ён, асцярожна ступаючы па мокрай зямлі, пайшоў да грудка.

На ўзлобіне грудка была невялічкая паляна, якую з усіх бакоў акружалі бярозы. Складзенае стажком, весела гарэла, патрэсквала сухое бярозавае ламачча. Каснічок яркага полымя то нахіляўся да зямлі, то бадзёра ўзвіваўся ўгору. Спіною да Васіля сядзела каля цяпельца, уладкаваўшыся на сухім корчыку, жанчына. Яна была ў карычневай жакетцы, у белай, у сінія кветкі, хустцы на галаве. Часам яна нахілялася ўперад, дзьмула на цяпельца, каб тое гарэла весялей. Тады іскры ўзвіхурваліся над яе галавою.

Васіль, паставіўшы кошык, глядзеў на жанчыну і не ведаў, што рабіць. Загаварыць або кашлянуць — можна напалохаць. Завярнуцца ж і ціха пайсці таксама не хацелася. Усё-такі карцела даведацца, што за незнаёмка сядзіць адна ў дажджлівым лесе, гледзячы неадрыўна, нібы на жывую істоту, на цяпельца.

Жанчына раптам рэзка азірнулася і ўбачыла Васіля. Пэўна, спіной адчула пагляд. Яе твар пабялеў ад страху. Яна ўскочыла са свайго корчыка, памкнулася ад цяпельца да бярозавага гушчару. У правай руцэ яна трымала доўгі дубец-ражно, на якім жаўцеў і смачна сіпеў скрылёк падсмажанага на агні сала.

Гэта была не жанчына, а гадоў васемнаццаці — дваццаці дзяўчына, чарнавокая і чорнавалосая, з роўнай прыгожай смугласцю на твары, якая бывае не ад шчырага летняга сонца, а даецца з самага нараджэння. Яна была сярэдняга росту, тонкая ў таліі, з высокімі моцнымі грудзьмі. У яе былі паўнаватыя яркія вусны, і вусны гэтыя трапяталі зараз, выдаючы моцны перапалох і ўзбуджэнне.

— Не падыходзь! — крыкнула дзяўчына і выставіла ўперад правую руку з ражном, захінаючы левай расшпіленую на грудзях жакетку. Голас быў спалохана-звонкі, і чорныя вочы блішчалі.

— Ды ты не бойся,— як можна ласкавей сказаў Васіль незнаёмцы і кіўнуў галавой на свой кошык.— Я грыбы рэзаў... Чую — дымам пахне... Ну й прыйшоў... Я, калі ты так баішся, магу пайсці.

Ён узяў у рукі кошык. Дзяўчына ўсё яшчэ са страхам глядзела на яго, але вочы ўжо мякчэлі, ружовасць прылівала да шчок. Яна апусціла рукі, падалася бліжэй да цяпельца, спыталася:

— Хто ты?

— Васіль. Грыбы ў гэтым лесе збіраю...

— І шмат знайшоў?

Гэтае пытанне канчаткова разагнала яе страх.

— Хочаш — паглядзі...

Васіль паставіў перад ёю кошык. Яна нахілілася, пакратала левай, свабоднай рукою, як бы пагладзіла грыбы, здзіўлена сказала:

— Ну і яны! Ніколі такіх прыгожых грыбоў не бачыла.

Твар у яе засвяціўся, ажыў. Васіль таксама павесялеў, бо дзяўчына адразу спадабалася яму, і ён, каб падоўжыць гаворку, сеў на бярозавы корань, што выпіраўся з жоўтага пяску, спытаўся:

— А ты што тут робіш? Можа кароў пасвіш?

— Сказаў. Дзе ты бачыш тых кароў?

Дзяўчына зноў уладкавалася на свой корчык, трымаючы над полымем ражно з салам, час ад часу кавалачкам хлеба лавіла кроплі туку, што густа падалі ў цяпельца. Шчокі яе расчырванеліся ад гарачыні, хустка трошкі з'ехала на патыліцу, адкрыўшы клінок чорных, гладка прычасаных валасоў.

— У лесе або грыбы ці ягады збіраюць, або кароў пасвяць,— сказаў Васіль.

— Далёка мае каровы,— уздыхнула дзяўчына.

— Адкуль жа ты? Можа з Вяляціч ці з Мётчы?

— Здалёку,— толькі і адказала дзяўчына, і голас прагучаў суха, з халадком.

Толькі цяпер Васіль заўважыў, што яе малады прыгожы твар не бесклапотны, як можна чакаць у такім узросце, і задумліва-строгі, што нейкія перажыванні і турботы час ад часу туманяць яе вочы, і тады нібы цень ад халоднай восеньскай хмары наплывае на твар. Яшчэ прыкмеціў ён, што дзяўчына дужа здарожаная, ідзе з няблізкай стараны, бо збіліся, пабялелі наскі чорных чаравічкаў. Яна трымала ражно ўжо не над полымем, і відно было, што хоча пакаштаваць смажанага сала з хлебам, але саромеецца.

— Ты еш,— сказаў ён і дастаў з кішэні пакуначак, загорнуты ў хусцінку.— Мне маці таксама полудзень у лес дала. Хочаш пакаштаваць нашай вераб'ёўшчынскай каўбасы?

Дяўчына раптам як не звалілася са свайго корчыка, рэзка павярнулася да яго.

— Якой каўбасы, ты сказаў?

— Вераб'ёўшчынскай. А што? Вёска ў нас Вераб'ёўшчына.

— Дык ты з Вераб'ёўшчыны? — яна хуценька ўстала.— Я ж іду туды.

Столькі радасці было ў яе голасе, што Васілю зрабілася трошкі ніякавата — чым ужо такім, падумалася яму, праславілася наша Вераб'ёўшчына, каб так узрушваліся людзі, пачуўшы пра яе? Можа хіба дубам казацкім. Не, тут нешта іншае.

— Чаго ж ты ідзеш да нас? — асцярожна пацікавіўся ён.

— Чалавека аднаго шукаю. Антона Радзімовіча.

— Антона? — Тут ужо Васіль не схаваў здзіўлення. Яна здагадалася, што ён чуў пра Антона, мабыць, нават

ведае яго, можа сёння бачыўся з ім, і гэта адразу зрабіла для яе Васіля сваім, блізкім чалавекам, якому не страшна адкрыць сэрца.

— Яніна я,— сказала яна, быццам ён абавязкова павінен быў ведаць пра яе.

А ён і сапраўды чуў гэтае імя, чуў ад Антона, калі ў першы вечар іхняга знаёмства спалі яны на гарышчы хаты, і ў вёску плыў жоўты балотны туман, і камары нясцерпна галасілі над вухам.

— Дык ты аж з-пад Ігумна ідзеш? — здзівіўся Васіль.

— Ехала і ішла,— Яніна сказала гэтыя словы ціхім голасам, сказала паспешліва, каб ён не надта доўга засяроджваўся на іх. Яна глядзела на Васіля, як на свайго збаўцу. Гэта ж столькі людзей траплялася на дарозе, і яны ні разу ў жыцці не чулі пра далёкую Вераб'ёўшчыну, а гэты жыве ў ёй, нарадзіўся і гаворыць, што Вераб'ёўшчына вунь за тым сінім лесам.

— Ты завядзеш мяне туды? — узяла Яніна ў рукі свой клуначак.

— Завяду. Павінен жа я дамоў вярнуцца.

— Дык пойдзем.

Яны пайшлі ад цяпельца, што ўжо тухла, забытае імі. Дождж, як толькі выйшлі ў поле, накінуўся зверху, адгарадзіў наваколле шэрай мутнай сеткай.

— Вазьмі мой мяшок,— сказаў Васіль.

Яніна моўчкі ўзяла мяшок, уздзела яго на галаву і зрабілася падобная на бабульку, якая пад канец жыцця ідзе ў святыя мясціны, каб «пагутарыць» з богам.

— Ці зажыла ў Антона рана? І куды яго паранілі? — адхінуўшы край мяшка, трывожна глянула Яніна на Васіля.

— Зажыла. На жывым усё зажывае.

— Куды ж паранілі яго?

— У нагу. У левую нагу.

Яны зноў пашыбавалі моўчкі, і толькі шум дажджу, густы і роўны, абступаў іх з усіх бакоў.

«Да Антона ідзе,— думаў Васіль, крадком пазіраючы на вузкія Яніціны плечы.— Аж з-за свету ідзе... Адна... Значыцца, кахае. Разруха на зямлі, вайна, а яна ідзе, і ніщто не можа спыніць яе, бо яна кахае».

З невядомым раней вострым сумам падумалася яму, што вось так, як гэтая прыгожая дзяўчына, ніхто, пэўна, ніколі не прыйдзе да яго, Васіля Безручонка. Значыць, маленькі ён чалавек, непрыкметны, як той грыб лясны. Расцеш? Ну і расці. Трапішся пад ногі, зрэжам цябе. А не трапішся — не такая вялікая бяда. Значыць, у нечым сам ён вінаваты, што ўсе глядзяць на яго звычайнымі вачамі.

— Ці не прыязджаў бацька ягоны сюды? — спыталася Яніна, і ў голасе пачулася хваляванне.

— Бацька? Не. Не было. Ты першая ідзеш.

Васіль убачыў, як узрадавалася яна навіне, як зачырванеліся шчокі і затрапяталі вусны. Яна павярнулася да

яго, прыгожая, чарнавокая, з бліскучымі кропелькамі дажджу на смуглым лобе. І ён адчуў, як уздрыгнула ягонае сэрца.

— А я ніколі не люблю ў хвасце плясціся,— весела сказала Яніна.— Малая была — дужа ў горад, у Бабруйск, хацела з'ездзіць. А маці з бацькам не бралі. Паабяцаюць, а не бяруць. Раненька, яшчэ зацемна, уставалі, а мяне не будзілі. І тады я іголку з ніткаю ўзяла і, спаць кладучыся, ціхенька прышыла сваю кашулю да мамінай. Так і разбудзіла мяне мамка, хоць не хацела.

Яна засмяялася.

«Чым спадабаўся ёй Антон? — думаў між тым Васіль.— Хлопец ён, вядома, з твару не брыдкі. Разумны. Ціхі. І нават задужа ціхі. Ды розныя яны, вось у чым справа. Яна, бачна па ёй, не любіць хітраваць, душу адкрытай трымае. А той — сабе наўме, той — хітрун».

Так дайшлі яны да лясной рэчачкі. У сухмень гэта была шэрая палоса гразі сажняў на пяць шырынёю, у якой хаваліся ад сонца чорна-рыжыя вёрткія ўюны. Тады нялёгка было перайсці. Цяпер жа, калі пачыналіся восеньскія дажджы, яна разбухла, шырока, аж па карэнне ўзбярэжнага алешніку, налілася шумнай карычневай вадою.

Для Васіля рэчка не была перашкодаю. Ён закасваў штаны і, не скідваючы дзіравых чаравікаў, шлэпаў па вадзе. Усё роўна апратка мокрая. Так бывала раней, але зараз ён ішоў з Янінай, і тая разгублена спынілася каля вады, не ведаючы, што рабіць. Тыцнуліся туды-сюды. Нічога людскага нідзе не відаць: ні кладачкі, ні жэрдачкі.

— Давай я цябе перанясу,— закасаўшы штаніны, сказаў Васіль.

— Надумаўся,— сурова глянула на яго Яніна.— У вашай Вераб'ёўшчыне ўсе хлопцы такія добрыя?

— Пра ўсіх не ведаю, а я — добры.

Яніна строга звяла бровы, рашуча пайшла ў ваду, абедзвюма рукамі падняўшы спадніцу. Ён моўчкі пайшоў за ёю.

За астатнюю дарогу Васіль расказаў ёй, што Антон прыпыніўся на іхнім двары, жыве пакуль што ў стопцы. Там добрая падлога, цёпла, ёсць жалезная печка. З ім і доктар жыве, што ад свайго лазарэта адбіўся. Харошы чалавек, вяскоўцаў, хто прыходзіць, лечыць.

Яніна слухала ўважліва, але не казала нічога і нічога не распытвала. Відаць, у душы ўжо рыхтавалася да сустрэчы з Антонам.

Калі зайшлі на двор, Васіль убачыў, што ў акенцы стопкі гарыць святло.

— Там твой Антон,— сказаў ён. Сам жа хуценька пайшоў у хату, пачаў пераапранацца, а затым перабіраць грыбы. Прайшло колькі часу, і доктар Барыс Аляксеевіч выйшаў са стопкі, сеў на лавачку каля плота, закурыў. Вечар наплываў на Вераб'ёўшчыну, аціхаў дождж.

Назаўтра Васіль доўга не ўставаў з ложка. Хоць прачнуўся рана, але прымушаў сябе ляжаць з закрытымі вачамі, нечага чакаць. Што ён чакаў? Ён і сам добра не ведаў. Яму хацелася, як ён падымецца нарэшце і выйдзе на двор, каб там былі ўжо і Антон, і Яніна, і Барыс Аляксеевіч, Каб не ў стопцы былі, а на двары.

Бацька не вытрымаў, сказаў:

— Уставай, лежань. Годзе сукі на столі лічыць.

Значыць, заўважыў, што Васіль не спіць.

Ранішняе неба хмарылася, але дождж перастаў. Паветра было напоена халоднай свежасцю. Васіль, пацепваючыся, прайшоў па двары і ўбачыў Яніну з Антонам. Яны сядзелі на бярвенні, каля хлява, маўчалі. Антон трымаў у руках нейкую трэску, адшчыкваў ад яе пальцамі маленькія трэсачкі, кідаў сабе пад ногі. У вачах была хмурнасць. Яніна, з пачырванелымі шчокамі, са стомленым тварам, тулілася плячамі да сцяны. Потым яна пачала нешта казаць слабым голасам, і Васіль, каб не пачуць, пра што яны гавораць, падаўся на вуліцу. Там сустрэўся яму Кандрат Белабароды, касцісты, жаўтатвары мужчына з чорнымі доўгімі ўкраінскімі вусамі. На час вялікага голаду прыйшоў ён аднекуль з Украіны ў Вераб'ёўшчыну ды так і асеў тут назаўсёды. У яго было мяккае ўкраінскае вымаўленне і ажно дванаццаць дзяцей.

— Слухай, Васілько,— задыхана сказаў Белабароды.— Дзе ваш лекар?

— Ды, відаць, у стопцы сядзіць. А што?

— Бяда, Васілько. Панас, мой меншы, крыжык праглынуў.

— Які крыжык?

— Хрысціянскі, вядома. Як я спаў, у мяне з шыі адчапіў. А-я-яй, калі гэта было такое? Дзе ж лекар?

На ягоны голас выйшаў Барыс Аляксеевіч і, даведаўшыся, у чым справа, борздзенька пашыбаваў за Белабародым. Васіль жа ў глыбокім одуме застаўся стаяць пасярод вуліцы.

«Крыжык малы праглынуў,— думалася яму.— Гэта ж трэба такому няшчасцю надарыцца. А Яніна з Антонам сядзяць каля хлява, і ў іх таксама нейкае няшчасце. Па тварах відно... Нешчаслівы дзень пачынаецца».

Ён сеў на лавачку, сашчапіўшы рукі на каленях. Хутка ён пойдзе адсюль, пойдзе ў шырокі грымучы свет, дзе жывуць і ваююць за людское шчасце адважныя людзі, дзе шумяць прабітыя кулямі чырвоныя сцягі. Ён павінен быць там, бо маладое ягонае жыццё толькі-толькі выходзіць на сваю ўласную сцяжыну. І не трэба спазніцца, не трэба памыліцца.

Па вуліцы між тым павольна ехала фурманка, у якую быў запрэжаны вялізны, але худы, караткахвосты конь. Ён ледзьве перастаўляў ногі. Мужчына, што сядзеў у фурманцы на ладным ахапку свежай мокрай травы, тузаў за вожкі, махаў пугай і крычаў:

— Но, Вільгельм! Но, каб тваё ваўкі мяса з'елі!

Конь, відно было па ўсім, прывык да такой нервовасці свайго гаспадара і толькі злёгку ўздрыгваў, як апускалася сырыца пугі на запалыя бакі, але ўсё роўна не бег.

— Каб на тваіх кішках чэрці гралі! — кляў каня мужчына, ды ўсё дарэмна.

Калі ён пад'ехаў бліжэй, Васіль спытаўся:

— Чаго, дзядзька, каняку мучыш? Куды спяшаешся?

— А ты што — канёў бацька? — вызверыўся той.— Табе шкода маёй скаціны?

І зноў шлёгнуў пугай.

— Не слухае ён цябе, бачыш,— устаў з лавачкі Васіль.— Вот калі б ты не быў такі сярдзіты, я навучыў бы, як зрабіць, каб конь добра бег.

— Навучы, братка,— міралюбна сказаў мужчына, злез з фурманкі і падышоў да Васіля.

Быў ён сярэдняга росту, не па-вясковаму паўнаваты, з бурым загарэлым тварам. Калі зняў шапку, бліснула вялікая лысіна.

— Ты падыдзі да каня спераду і ўкусі яго за верхнюю губу. У нас цыган Платон, як заэлуе, скрозь так робіць.

Васіль казаў гэтыя словы на дзіва сур'ёзным, строгім голасам, але ў вачах віхурыўся смех. Мужчына паглядзеў на яго, зразумеў, што кпіць, пацяшаецца хлопец, і сярдзіта плюнуў сабе пад ногі. Потым узвёў на Васіля светлыя стомленыя вочы:

— Я і табе магу пугай перацягнуць. Бач, які ты вушлы.

Ён нетаропка, сутулячы спіну, пайшоў назад да сваёй фурманкі, каб узлезці на яе, паставіў нагу ў цяжкім пыльным боце на ўтулку заляпанага гразёю кола. Калі сеў, падгрэбшы пад сябе зялёную траву, дадаў:

— Шмат вас, маладых жарабкоў, што старэйшых не шануеце. Заместа коней у калёсы вас запрагаць трэба.

— А я ведаю, куды вы спяшаецеся, дзядзька, — раптам сказаў Васіль, паклаўшы руку на аглоблю.— Вы сына свайго, Антона, шукаеце. Праўда ж?

Селянін хуценька глянуў на яго, зноў пачаў злазіць з фурманкі. Значыцца, не памыліўся Васіль. Такія ж вочы і такі голас, такі крыху таўставаты ўнізе нос і ў Антона. Мужчына падышоў да Васіля, мякка лэпнуў яго рукою па плячы:

— Бачу, тут не жартуеш. А то я ўжо хацеў табе паказаць, як барсук сваіх дзяцей гладзіць.

— А як, дзядзька?

— А вось так.— Ён левай рукою раптам моцна схапіў Васіля за шыю, сціснуў яе, прыгнуў галаву, а правай пяцярнёй, тоўстымі, шурпатымі растапыранымі пальцамі, знізу ўверх, як бараной, прайшоўся па Васілёвай чупрыне ад лоба да цемені. Аж слёзы ў Васіля выступілі.— Напроціў воласу гладзіць барсук дзетак сваіх, каб паслухмяныя былі.

Мужык задаволена засмяяўся і адразу зрабіў сур'ёзны твар:

— Дык дзе ж Антон знаходзіцца?

— Ідзіце на наш двор. Там ён,— паказаў Васіль рукою, а сам падумаў: «Ну і жывадзёр. Ледзь скуру з чэрапа не злупіў». Не спадабаўся яму Антонаў бацька.

Прахор адчыніў варотцы, зняў з галавы шапку і борздзенька зайшоў на двор. Сцяжынка да ганка, шэрага, плоскага, нібы стол, валуна, была пасыпана жоўценькім пяском. Каля хаты ж і каля плота, амаль на ўсім цесна забудаваным двары, расла зялёная трава-мурагавіца.

«Акуратна жывуць»,— падумаў Прахор і адразу ўбачыў, як каля плота здаравенны чорны певень чубіць курыцу. Куры, заўважыўшы чалавека, разляцеліся ўбакі — певень сігануў шукаць новую малодку, а курыца паціснулася між колікаў у гародчык.

Прахор колькі часу патупаў на адным месцы, абабіў вулічную гразь з ботаў, потым рашуча падаўся ўперад і раптам спыніўся, як бы разгубіўся. На бярвенні, каля хлява, сядзелі Антон з Янінаю і глядзелі на яго. Твар у Яніны быў белы, як смерць. Над дваром павісла цішыня.

Але вось Прахор саўладаў з сабою, гучным, хрыплым голасам абвясціў:

— Ну, здароў, здароў, сын! Здароў, Антон!

І, не пазіраючы пад ногі, пазіраючы толькі на Антона, не пайшоў, а быццам паплыў да тога бярвення. Ён ледзьве не зачапіўся за чыгун, у якім трымалі курам ваду, але пранёс цяжкі бот трошкі вышай чыгуна, падышоў, крэпка абняў сына за плечы, цмокнуў у шчаку:

— Здароў, сын. Па тваю душу прыехаў.

— Здароў, тата,— адказаў Антон і ўстаў. Яніна ж сядзела. Антон адчуў, як нешта даўно забытае, нешта трывожна-цёплае мякка сціскае сэрца. Родны чалавек прыехаў, бацька, які малога калісьці гушкаў яго на руках, выразаў свісткі, рабіў з дубовага сучча канькі, які ведаў усе грыбныя і ягадныя мясціны, вучыў ездзіць на кані, баранаваць бульбу, вучыў плаваць і не баяцца навальніцы. Са снежня семнаццатага года не бачыліся яны, амаль дзесяць месяцаў. Бацька за гэты час пастарэў, змяніўся з твару, нават бровы пачалі сівець. Часта спрачаліся, не разумелі адзін аднаго, крыўду насілі ў сэрцы, але вось ён, бацька, прыехаў, і нібы пах роднага лесу прывёз з сабой, і даруеш яму зараз усё, бо ён, які б ні быў прыжымісты, прагны, грубы, твой бацька, твой адзіны бацька.

— Здароў, тата,— паўтарыў Антон.

Тады Прахор з падазронасцю, уважліва-ўважліва, глянуў на Яніну, нібы хацеў самую яе маленькую думку адгадаць, падаў руку:

— Здароў, Яніна. І ты тут? Вось ужо ніколі б не падумаў...

У словах быў спалох.

Яніна не падала яму руку, прыкусіўшы губу, сядзела

моўчкі. «Не сказала Антону нічога»,— п'янлівая радасць уварвалася ў Прахораву душу, але ніводная жылка не скранулася на твары. «Дзякуй богу, дзякуй богу...» Ён зноў затрос Антона за плечы:

— Ну, як ты тут? Падстрэлілі, кажаш? Нічога. Дома вылечым. Маці чакае не дачакаецца. Дома вылечым.

Прахор зрабіўся ўзбуджаны, мітуслівы, ляпаў сябе рукамі па баках, то здымаў, то зноў надзяваў шапку, часта і гучна смаркаўся.

Яніна глядзела на яго, глядзела на Антона, і холад замарожваў сэрца, аж страшна рабілася. Антон болей не кахае яе. Гэта ўжо ясна. Як толькі сустрэліся, як толькі глянула яму ў вочы і не ўбачыла там радасці, адразу зразумела. Ён, вядома ж, рабіў выгляд, што ўзрадаваўся, усё дзівіўся, усё распытваў: «І як ты надумалася? Гэта ж трэба...» Але правільна кажуць, і казалі тысячу разоў да яе, і казаць пасля яе будуць: «Сэрца не падманеш».

Яна на двары яго ўбачыла, кінулася насустрач, закрычала:

— Антон! Антонка!

Яна павісла ў яго на шыі, пацалавала ў шчаку, прыхінулася да ягоных грудзей, як бы злілася з ім, і тут убачыла спакойныя Антонавы вочы. Нібы ўдарылі яе, нібы груба, бяздушна адпіхнулі ад самага святога, чаго так прагла душа.

Няўжо Антон, яе Антон так глядзіць на яе? Няўжо забыўся ён пра той чмялёўскі лес, дзе стаялі яны абое па каленях у снезе і кляліся кахаць адно аднаго да смерці сваёй? Ды ці Антон гэта?

...Так яна спяшалася, на крылах сюды ляцела, і вось сядзіць зараз на пахучым сасновым бярвенні, і неба шэрае над галавой, і на мокрую ліпу хітра крадзецца жоўтая кошка, а побач гавораць аб нечым, ляпаюць адзін аднаго па плячы два чужыя ёй чалавекі. Якія ж падобныя яны між сабой! А калі так, значыць, і душы ў іх падобныя. З аднаго цеста зляпіў іх бог.

Яніна спустошаным паглядам абвяла двор, сад, што рос каля хаты, і ўздрыгнула — цёплыя вочы неадрыўна глядзелі на яе. Гэта быў Васіль, гаспадароў сын, той, што прывёў яе сюды з лесу. Ён стаяў на вуліцы каля плота і, узяўшыся рукамі за дзве штыкеціны, прыпаўшы тварам да гэтых штыкецін, глядзеў на яе, глядзеў праз сад, праз двор. Ён убачыў, што яна заўважыла яго, але ўсё роўна не апусціў вачэй.

Між тым, пачуўшы гаману, на двор выйшлі дзед Піліп са старой Настаю, Марыля з Язэпам і Тэкля са сваім мужыком, Марцінам. Старая Наста падазрона глянула на Прахора. Даўно б яна выгнала са свайго двара Антона з доктарам, толькі пер'е ляцела б, але... Па-першае, даў ёй доктар грошай, нямала даў і яшчэ абяцаў. А па-другое, лячыў ён вяскоўцаў, лячыў, на здзіўленне ўсім, бясплатна. Не ведаў добры Барыс Аляксеевіч, што плату ягоную за-

бірае баба Наста — у каго салам возьме, у каго мёдам, а ў каго і гарэлкай. Хто ж нічым не мог заплаціць, не мог і лячыцца — сабаку нацкоўвала на яго Наста, не пускаючы да «свайго доктара».

— Гасцей у нас поўны двор,— пачаў быў дзед Піліп, падыходзячы да Прахора, але старая Наста адціснула яго сваім яшчэ моцным плечуком, першая падступіла з роспытамі:

— Скуль будзеш, чалавек?

Вочы ў яе былі ў маладосці жоўта-зялёныя, але даўно ўжо выцвілі і напаміналі сцёртыя, бляклыя медныя капейкі.

— Прахор Радзімовіч я, з Чмялёў. Вось гэтага хлопца бацька,— бадзёра таўхануў Антона пад бок Прахор.

— Забіраць прыехаў?

— Точна. Як не забраць такога добрага хлопца?

— Кожны старац сваю торбу хваліць,— суха сказала старая.— Забірай. Але ж ён еў у нас, спаў, жыў, нейчае месца займаў... Плаціць трэба.

Цяпер пасушэў голас у Прахора. Не такі ён быў чалавек, каб нешта ад сябе адарваць.

— Сын казаў, што табе плацілі, хадзяйка,— строга прамовіў Прахор.— Лекар плаціў, які жыве ў вас.

— Плаціў, плаціў,— забубнела старая.— А ты ўсё бачыў, усё палічыў. Не прыхінайся да плота, слівіну зломіш. Садзіць нямашака каму, а зламаць усе ласыя.

Прахор паспешліва адышоўся ўбок, стаў пасярод двара, трымаючы шапку ў руках.

— Марцін,— загадала старая,— ідзі падвяжы слівіну, а то ваш Іванка, учора бачыла, колік вывернуў. Ну ідзі, чаго мулішся?

Тэклін Марцін, мужчына невысокі, белатвары, з пшанічнымі валасамі, уздрыгнуў, згорбіўся і паслухмяна пайшоў у гарод. Але Тэкля не вытрымала:

— Не ідзі, Марцін. Не наш Іванка колік вывернуў, а Марылін Лявон. Не ідзі.

Марцін разгублена спыніўся. Старая Наста засіпела, як гусачыха:

— Ваш вывернуў. Сама бачыла.

Наспявала сварка. Але ёй не даў разгарэцца Васіль — прыйшоў з вуліцы, убабіў колік у зямлю, моўчкі прывязаў да яго дрэўца вяроўчынай. І тады Прахор скінуў з сябе нерашучасць, якую нагнала на яго звяглівая старая. Ён падышоў да Піліпа, наўмысна да бабы Насты не падышоў, і сказаў:

— Грошы за майго сына лекар заплаціў. Але і вам я хачу аддзячыць па сваёй беднасці. Там у мяне,— ён кіўнуў галавой у бок вуліцы,— графін гарэлкі на возе схаваны. І сала ёсць з паўторбы. Давайце разам перакусім.

Дзед Піліп адразу згадзіўся, хацеў весці ўсіх у хату. Але старая Наста, як звычайна, вырашыла справу іначай. Яна сказала, што ў хаце няма чаго слядзіць, нявесткі толь-

кі таптаць могуць, а падлогу шараваць лянуюцца, лепей за ўсё вынесці стол на двор.

Так і зрабілі. Вынеслі з хаты стол. Прахор прынёс графін і торбу, селі палуднаваць. Яніна села побач з Антонам, Васіль — насупраць. Пілі не ўсе. Марыля, старая Наста і Яніна адмовіліся. Толькі Тэкля разам з мужчынамі спраўна кульнула сваю чарку. Дзед Пілін таксама выпіў, на гэты раз чамусьці не стаў націраць гарэлкай лысіну, магчыма, Прахора з Янінай пасаромеўся. Вельмі хутка, яшчэ не з'еўшы скрылёк сала, ён ап'янеў. Сказаў, палахліва косячы вокам на сваю Насту:

— Хочаце, маладзёны, каб стары певень песню запеў?

І заспяваў ціхім, надтрэснутым і сцёртым голасам:

Ішлі тры салдаты
З турэцкага фронту,
З турэцкага фронту дамоў.
І толькі ступілі
На турэцку граніцу —
Патруль тры разы іх абстраляў.
Адна праляцела,
Другая прасвісцела,
А трэцяя раніла мяне.
Таварыш, таварыш,
Баляць мае раны,
Баляць мае раны цяжало...

Ён спяваў, прыкрыўшы вочы, прыўзняўшы галаву, рукою лёгенька махаў сам сабе. Песня не вылятала, а нібы выбівалася, вылузвалася з ягоных хворых грудзей з вялікай цяжкасцю, бо слабыя, запалыя былі старыя грудзі. У месцах, дзе мелодыя павінна была ўзвівацца вышай і грамчэй, голас буксаваў, нібы цяжкі воз на пясчанай дарозе, і тады хацелася падтрымаць яго, дапамагчы яму, але ніхто не ведаў песню, і ўсе маўчалі.

Пакрысе ўсе разышліся з-за стала. Засталіся толькі Прахор, Антон з Янінаю і Васіль. Наляцеў вецер, ціхенька загуў у рыльцы парожняга графіна. Кроплі вады ўпалі на стары драўляны стол.

І тады Яніна ўзнялася, выйшла з-за стала, спынілася за некалькі крокаў ад усіх. Твар гарэў адчаем і гневам.

— Антон,— сказала яна,— пры ўсіх кажу: твой бацька парушыў мяне. Сілаю ўзяў у лесе, як ехала да цябе. Глянь у вочы свайму бацьку, Антон.

Усе знерухомелі, ашаломленыя гэтымі словамі. Антон паблядні, разгублена зморшчыў лоб. Ён не ведаў, што рабіць, што сказаць. У параненай назе раптоўна прачнуўся боль, і гэты боль быў як збавенне — можна было засяродзіцца на ім і адгарадзіцца ім ад такіх нечаканых і такіх непажаданых слоў.

— Глянь жа ў вочы бацьку, Антон,— зноў паўтарыла Яніна.— Баішся. Не хочаш. Эх ты, кавалер мой! Ну, стукні ж старога жарабка па цемені, загрудкі схапі. Адпомсці за дзяўчыну сваю. Не хочаш. Баішся. А я, дурная, пешшу ішла да цябе з таго лесу. У такую далеч ішла.

Тут Прахор ускапіўся з-за стала, пляснуў сябе кулакамі ў грудзі, закрычаў:

— Не вер ёй, Антон! Не вер, сынок. Звягу наводзіць. Чорнай кошкай хоча між нас прабегчы.

Ён раптам бухнуўся на калені, у мокры пясок, у гразь, пачаў размашыста хрысціцца і ўсё глядзеў на сына:

— Не вер! Хай мяне маланка спаліць, калі было што такое. Выдумала яна ўсё, гадзюка падкалодная.

Прахоравы вочы ліхаманкава блішчалі, лысіна адразу ўспацела.

— На святых абразах магу паклясціся,— крыкнуў ён,— нясіце хутчэй абразы з хаты!

— Устань, лысы павук,— ціха, з нянавісцю сказала Прахору Яніна.— Каб я была богам, я б твой язык на самую гразкую дарогу кінула. Было б людзям аб што ногі выціраць. А ты, Антон, бывай. Цалуйся з бацькам сваім.

Яніна падышла раптам да Васіля Безручонка, стала перад ім, сказала:

— Цябе Васілём завуць?

— Васілём,— узняўся з-за стала, глянуў ёй у вочы той.

— Усё ты чуў і ўсё ведаеш. Скажы, Васіль, ці хацеў бы ты мець такую жонку, як я?

— Хацеў бы,— ціха адказаў Васіль і пабляднеў.

— Добрыя твае словы. Дык бяры мяне, Васіль. Добрай жонкай табе буду. Ні перад людзьмі, ні перад богам не зняслаўлю.

Яна прыкусіла губу, усхліпнула і пабегла з двара.

— Яніна! — паклікаў Васіль і пайшоў следам.

За сталом усталявалася мёртвая цішыня. Прахор узняўся з каленцаў, выцер вочы, пагладзіў рукамі шчокі і глядзеў на сына. Антон сядзеў у нейкім здранцвенні і ўсё яшчэ не верыў, што чуў і бачыў такое. Ні на кога не было крыўды, толькі на сябе. Непадалёку ціха правалюхаўся сіне-зялёны качар, падышоў да чыгуна з вадою, папіў, задаволена крэкнуў. І пайшоў з двара.

— Сынок,— асцярожна пакратаў рукою Антонаў плячук Прахор.— Трэба ехаць дадому. Уставай.

— Скажы, ты праўда там... у лесе... ты праўда зрабіў такое? — спытаўся ў яго Антон і глянуў бацьку проста ў вочы.

— Хрыстом-богам клянуся, хлусіць яна,— зноў залямантаваў Прахор.— Не ведаю, што ёй трэба, дурной дзеўцы.

Вочы так хацелі здавацца чэснымі, так пераліваліся ў іх абурэнне і нявіннасць. Але насцярожанасць убачыў у іх Антон. Танюсенькім лядком падмарожвала яна вочы. Значыць, хлусіць бацька. Было. Ды Яніна не магла ж выдумаць такое. Чаму ж так спакойна даведваешся ты пра гэта, Антон? Чаму не крычыш, не б'ешся ў істэрыцы? Ты ж маеш на гэта права. Цябе пакрыўдзілі, абразілі. Крычы, махай кулакамі, зубамі выдзірай сваё. А ты маўчыш. Што з табою, Антон?

Ён адышоўся ад стала, ад бацькі, стаў пад ліпай, што

расла каля плота на двары. Дрэва тужліва шумела; там, уверсе, згінаў зялёную макаўку халодны вецер, і штуршкі гэтага ветру лёгкім няўлоўным трымценнем даходзілі да Антонавага пляча.

Так, ён не кахае болей Яніну. Выветрылася каханне на дарогах, у лазарэце, паміж бедаў і паміж людзей. А мо прычынай таму Шура Аўлукова, што за трыста крокаў адсюль ляжыць зараз у пясчанай магіле пад крывабокай сасной? Можа яно і так, можа не. Хто ведае?

Чаму ж ты такі спакойны, Антон? Таму, што сябе беражэш. Не хочаш расходаваць душу на слёзы і на пакуты, быццам збіраешся жыць вечна. А жыццё ж не вечнае, ты ведаеш. Шуры ж Аўлуковай усяго дваццаць было.

З такімі думкамі стаяў Антон пад ліпаю, слухаючы турботную і вечную гамонку лісця.

— Паехалі,— гукнуў яго бацька. І ён пайшоў да фурманкі.

Прахор узбіваў рукамі траву, як пярыну, роблена вясёлым голасам казаў:

— Пагасцявалі, і досыць. Ты ў хату не заходзь. Я ўжо падзякаваў і развітаўся. Дадому паедзем. Дома і рэдзька саладзейшая.

Неахвотна крануўся Вільгельм, колы зарыпелі па шорсткім шэрым пяску. З акна хаты нехта выглянуў, пэўна, Марыля.

— Усюды зараз немец сядзіць,— казаў між тым Прахор, ужо прымерваючыся пугаю да худых конскіх бакоў.— І ў нас у Чмялях іхняя ўлада. У вайну, вядома, строгасць патрэбна. Вось яны і вядуць усе свае справы па строгасці. Ведаў Пятра Чыжэвіча з Запольцаў? Дык яго павесілі.

— Павесілі? — перапытаў Антон.— За што?

— Коні нямецкія хацеў украсці. Ды я скажу табе, што за крадзёж скрозь строгая кара была. У нас пры Мікалаю Сямён Барнатовіч быў. Таксама спец па канюшнях. Дык яго злавілі мужыкі, спачатку, як вядзецца, косці перацёрлі, з хамутом на шыі павадзілі. А потым прывялі ў кузню і падкавалі. Падковы да босых ног вухналямі прыбілі і пусцілі. Дапоўз ён да Запольцаў. Там, казалі, памёр.

Антон адчуў, як злёгку пахаладзела спіна, глянуў на бацьку:

— Скажы, няўжо ты за немцаў? Не мы ж у іхнюю хату прыйшлі, а яны ў нашу.

Прахор узбіў на патыліцу шапку:

— Гаворыш ты! Мне што немец, што турак. Зямлі гаспадар патрэбен. Зразумеў? Гаспадар. А бальшавікі зямлю не любяць. Бо яны, значыць, пралетары. Ім паболей бы жалеззя-ламачча нарабіць.

— А наш жа Кузьма, твой сын, за бальшавікоў. І я ў бальшавіцкім лазарэце быў. Шмат добрых людзей там бачыў.

— Добрыя людзі — гэта мы з табою, Антон. І ўсё. І болей нікога. Запомні гэта. Усіх роўнымі хочуць зрабіць.

А нават у пчалы, у насякомай, і матка ёсць, царыца пчаліная, і салдаты іхнія, і рабочыя пчолы. Нават трутні ёсць. А калі ёсць, значыць, яны трэба. Паруш такую завядзёнку — і загінуць пчолы, і мёду не панюхаеш.

Прахор казаў усё гэта гучным, упэўненым голасам. Ён радаваўся ў душы, што так добра ўсё атрымалася. Вязе сына дадому. І ад дурніцы-дзеўкі без вялікай страты адбіўся.

— Но, Вільгельм,— узняў путу Прахор, але Антон раптам сказаў:

— Спыніся.

— Ты што? — не зразумеў, спалохаўся Прахор. Яму падалося раптам, што сын хоча вярнуцца назад, да ўсіх гэтых бальшавікоў, меншавікоў і эсэраў. Колькі іх на свеце, а сын адзін, адзін, і ён, Прахор, не аддасць яго нікому.

— Не пушчу,— сказаў Прахор і моцна ўчапіўся рукою за крысо Антонавай світкі.

— Ды не бойся,— нахмурыўся Антон.— Вунь з чалавекам пагаварыць трэба.

Да фурманкі падыходзіў доктар, Барыс Аляксеевіч Лутошкін. Уся ягоная вялізная фігура, здавалася, свеціцца радасцю. Ён лёгка ступаў па раскіслай ад дажджу вуліцы, толькі пырскі ў бакі ляцелі. «Ну і млын хадзячы»,— падумаў Прахор.

Барыс Аляксеевіч паздароўкаўся з ім, сказаў Антону:

— Не глытаў малы крыжыка. Каб бацькоў напалохаць, кавалак мыла праглынуў. А крыжык у калодзеж укінуў. Яшчэ адзін бязбожнік расце.

Ён весела засмяяўся.

— Белабароды за гэта яму нос на пятку нацягне,— таксама ўсміхнуўся Антон.

— Не нацягне. Я правёў выхаваўчую работу. Кандрат — мужык памяркоўны. А куды гэта ты сабраўся?

— Ды вось бацька па мяне прыехаў. Дадому вязе. Слухайце, Барыс Аляксеевіч, давайце паедзем з намі.

Гэтае нечаканае запрашэнне вырвалася ў Антона само сабой. Але ўжо праз якую хвіліну ён быў глыбока перакананы, што толькі з доктарам трэба ехаць. Доктар цудоўны чалавек, ды і ў Вераб'ёўшчыне, у старой Насты, ужо засядзеўся. А наперадзе — дарога, новыя людзі. Доктар, ведае Антон, любіць усё новае, нязвычнае. А хворых у Чмялях не менш, калі не больш, чым у Вераб'ёўшчыне.

Прахор сядзеў моўчкі, касавурыўся на сына. «Бач ты яго — запрашае чалавека, не папытаўшы згоды ў бацькі. Так ён і патрэбен у хаце, лішні рот. Нічога, сынок, пакуль пагавары, зрабі выгляд, што ты хадзяін. А там будзе, як я скажу і як я захачу».

Барыс Аляксеевіч на дзіва хутка згадзіўся. Толькі дамогся, каб і Прахор запрасіў яго.

— Сядайце,— буркнуў Прахор.— У фурманцы месца хапае.

Тады доктар трушком пашыбаваў у стопку забраць свае

рэчы. Праз некалькі хвілін ён выйшаў з чорным чамаданчыкам, і плашчом, перакінутым цераз руку. З ім побач ішоў Васіль Безручонак.

«А гэтаму што трэба?» — падумаў Антон і адчуў, як нечаканы сорам непрыемна халодзіць сэрца.

Васіль падышоў, падаў на развітанне руку:

— Ну, бывай, сябра. Пагаварылі мы з табою, рыбу палавілі, нават паваявалі трохі. Значыць, дадому едзеш? А я заўтра на той бок Бярозы падамся, насустрач чырвоным. Шкада, што не разам з табой. Ну што ж, бывай.

Ён пацінуў руку Барысу Аляксеевічу, кіўнуў Прахору, павярнуўся і пайшоў на свой двор. Прыгожа ішоў, лёгка і ўпэўнена. Цёмна-русую галаву трымаў прама, плечы не сутуліў.

«Няўжо Яніна і праўда застанецца з ім? Няўжо разам за Бярозу паплыве? — з дакорам сабе, з рэўнасцю падумаў Антон.— Няўжо яна не глядзіць зараз адкуль-небудзь на мяне?»

Але ніхто не глядзеў ні на яго, ні на іхнюю фурманку. Толькі паважны сіне-зялёны качар, той, што піў ваду з чыгуна,ываліўся аднекуль з гарода на вуліцу, трохі пастаяў, аддыхаўся, лыпнуў кругленькім малюсенькім вочкам і пайшоў сваёй дарогаю.

# IX

У свае трыццаць тры гады, у «хрыстовым узросце», доктар Барыс Аляксеевіч Лутошкін адчуваў, што не ўсё яшчэ склалася, аформілася ў ягонай душы так, як ён хацеў бы. Незадаволенасць сабой была, бадай, самай галоўнай рысай яго характару. Пасля доўгіх роздумаў, пасля бяссонных начэй ён дайшоў, як яму здавалася, да частковага, няпоўнага разумення сэнсу чалавечага жыцця. Сэнс жыцця — у запаўненні вакуума. Згарэў горад — будуюць, памёр чалавек — нараджаюць новага. І гэтак — навекі. Але навошта, дзеля чаго запаўняць гэты самы вакуум? Тут ён адказу не знаходзіў.

Тры падзеі ўскалыхнулі, уразілі і ашаламілі Лутошкіна: смерць Льва Талстога, здрада жонкі і выпадак, калі мужыкі ледзьве не пасеклі яго на кавалкі сякерамі.

Калі памёр Талстой, яму здалося, што і ў ім нешта памерла. Перад гэтым ён прачытаў кніжку Талстога «У чым мая вера» і жыў ідэаламі ўсёчалавечай любові, душэўнага самаачышчэння, пошукамі шляхоў да рускага селяніна, адзінага захавальніка чысціні і маральнага здароўя. Яму хацелася растварыцца ў народзе, як кропля раствараецца ў акіяне. Зімовым марозным днём ён паехаў у Ясную Паляну на магілу свайго вялікага настаўніка. Ён ішоў пад чорнымі зледзянелымі дрэвамі парку, жмурыўся ад асляпляльнага звонкага снегу, і была нейкая абраза ў гэтай нерэальнай снежнай белі. Снег тут, ля гэтай магілы, ля гэ-

тай невымернай жалобы, павінен быў быць чорным. Віўся над сялянскімі хацінамі дым, мыкалі галодныя худыя каровы, каркалі вароны, а вялікі стары спаў.

Жонка пайшла ад яго, Лутошкіна, да адваката Кукушкіна, ружовашчокага лысага панка, які меў каменны дом, свой выезд, багатую кліентуру і акцыі ў Сібірскай пушніннай кампаніі. Самае крыўднае было тое, што збегла яна ў дзень нараджэння Барыса Аляксеевіча Лутошкіна, пакінуўшы яму на стале бутэльку шампанскага і запіску з наступнымі словамі: «Выпі за маё шчасце. Ужо не твая Леакадзія». Потым ён выпадкова ўбачыў яе ў ложы ў тэатры. Яна сядзела вясёлая, прыгожая побач са сваім адвакатам, і шыкоўнейшы чорнааксамітны собаль атуляў белыя плечы.

Мужыкі ледзь не засеклі яго спякотным летам, калі амаль кожны дзень грукаталі ў Падмаскоўі злыя навальніцы, калі маланка крышыла на трэскі векавыя дубы, паліла саламяныя стрэхі. Ён паехаў да свайго сябра, таксама медыка, у вёску, і там маланка ўдарыла ў маладога мужчыну, які касіў на лузе. Яго радня адразу выкапала ямку, па самую шыю замуравала ў зямлю пацярпелага. Барыс Аляксеевіч, якому надарылася быць пры такім здарэнні, пачаў крычаць, што гэта невуцтва, варварства, што яны толькі загубяць хлопца і што яго трэба неадкладна адкапаць, рабіць яму штучнае дыханне, каб зноў ажыло сэрца. Адкапалі, і Барыс Аляксеевіч са сваім сябрам пачаў завіхацца над ім, але ўсё было дарэмна. Натоўп, даведаўшыся пра смерць аднавяскоўца, дзіка зароў, загуў. Вядома ж, віноўнікамі няшчасця адразу былі прызнаны Лутошкін і ягоны калега.

— Яны чорны парашок у рот усыпалі! Сам бачыў! — закрычаў дзябёлы чарнавалосы мужык.— Бі антыхрыстаў!

— Бі! — з нейкай невядомай Лутошкіну радасцю падтрымаў натоўп. Мужыкі якраз ішлі ў хмызняк высякаць стажары для стагоў і таму адразу выхапілі з-за паясоў сякеры. Ніколі ў жыцці Барыс Аляксеевіч так хутка не бегаў. Мужыкі гналіся за імі па лузе, па балоце, і толькі лес выратаваў уцекачоў. Селянін, якога так любіў і ў якога верыў Леў Талстой, аказаўся, на праверку, не такім ужо бяскрыўдным анёлам.

І ўсё-ткі гэты выпадак не вынішчыў у душы ў Лутошкіна жадання глыбей вывучыць жыццё народа, што, мяркуючы па сямейных паданнях, у свой час зусім не цікавіла ягонага дзеда. Дзед ягоны, Ерафей Лутошкін, валодаў трыма сотнямі прыгонных душ і жыў са смакам і камфортам, жыццём сапраўднага рабаўладальніка. Мужыкі выслухоўвалі дзедавы загады, толькі зняўшы шапкі і толькі стоячы на каленях. Меў ён цэлы гарэм прыгонных рабынь і чатырох прыгажунь уласнаручна засек да смерці бізуном за здраду. Скончылася тым, што мужыкі ўтапілі яго ў балоце.

Дзедава кроў не перадалася Лутошкіну. Ён саромеўся свайго дваранскага паходжання, ён і ў медыкі пайшоў дзе-

ля таго, каб быць бліжэй да народных пакут. Тое, што ён убачыў, даўшы клятву Гіпакрата, асляпіла і аглушыла. Уся Расія была падобная на чэхаўскую палату № 6. Сухоты, каўтун, сіфіліс, п'янства, цяжкая беспрасветная праца падкошвалі сілы народа, разбуралі ягоную душу. Як свае ўласныя, адчуў Барыс Аляксеевіч і назаўсёды пасяліў у сэрцы някрасаўскія радкі:

От ликующих, праздно болтающих,
Обагряющих руки в крови
Уведи меня в стан погибающих
За великое дело любви.

Але палітыкам не стаў. Перашкаджала мяккасць душы. Ён мог толькі, як і большасць інтэлігентаў, пабурчаць, пакрытыкаваць урад, пакпіць з тупой прышыбееўшчыны, і ўсё. І гэта рабілася цішком, у сваім вузкім асяродку, каб, не дай бог, ніхто лішні не пачуў. Гэтая інтэлігенцкая закулісная гаварыльня раздражняла яго, часам выводзіла з раўнавагі. Ён называў яе «туалетнай смеласцю», той хлапчукоўскай смеласцю, з якой, заміраючы, халадзеючы сэрцам, пужліва азіраючыся па баках, пішуць на сценах і на платах нецэнзурныя словы.

З першых дзён вайны Барыс Аляксеевіч Лутошкін пачаў працаваць у палявым лазарэце. Мора крыві сустрэла яго. Ён адрэзаў сотні чалавечых рук і ног, і яны, акрываўленыя, мёртвыя, не патрэбныя ўжо нікому, пачалі сніцца па начах. Адчай ён заглушаў спіртам.

У час рэвалюцыі пайшоў за салдатамі, хоць бальшавікоў не разумеў. У Жан Жака Русо вычытаў ён словы, якія дапамагалі хоць трошкі арыентавацца ў імклівай супярэчлівасці падзей: «Вы загінеце, калі забудзецеся, што плады зямлі належаць усім, але зямля — нікому».

Шмат сутычак было ў Лутошкіна з Ярчаком. Матрос быў чэсны, чалавекалюбівы, але, на думку Барыса Аляксеевіча, з тых, што не дужа прыслухоўваюцца да чужых меркаванняў.

І вось няма Ярчака і няма лазарэта. А Барыс Аляксеевіч Лутошкін сядзіць у звычайнай сялянскай фурманцы, на макраватай злямчанай траве і едзе ў невядомым кірунку, у невядомую вёску Чмялі. Чаму ён так хутка згадзіўся з прапановай Антона Радзімовіча, ён і сам не ведае. Пэўна, зноў успомніліся гарачыя парыванні маладосці і захацелася ў народ. А магчыма, падсвядома імкнецца ён у цішыню, далей ад стрэлаў і смерцяў, ад крыві, што цячэ па зямлі, як вада.

Каб не трапіць на вочы немцам, Прахор трымаўся лясных дарог, стараўся аб'язджаць мястэчкі і буйныя вёскі. Немцы ўжо адабралі ў яго Чумака, і ён не хацеў, каб яны адабралі і Вільгельма. Няўклюдзіна, гультай несусветны, але ўсё-ткі конь.

Край, па якім ехалі, быў разбураны вайной, дужа спустошаны і галодны. Барыс Аляксеевіч успамінаў, што тут праходзілі Карл XII і Напалеон, а яшчэ раней тапталі гэ-

тую зямлю цяжкія, закаваныя ў сталь коні крыжаносцаў. Ён ведаў, што жыве тут славянскі, рускага кораня, народ, які называе сябе беларусамі. Гаворка, будова хат і адзенне адрозніваліся тут ад таго, што сустракаў ён, скажам, у Маскоўскай губерні. Народ быў у большасці русавалосы і сінявокі, даволі высокага росту, з непаспешлівасцю ў рухах, адчуваннем уласнай годнасці ў поглядзе. Народ гэты любіў працаваць, любіў вострае, дасціпнае слова. І не яго была віна, што, жывучы амаль у цэнтры Еўропы, ён араў зямлю першабытнай сахой і крыў хаты саломай. Не яго віна была і ў тым, што вельмі мала, нават зусім не было на гэтай зямлі прыгожых высозных збудаванняў з каменю і мармуру, хоць сыны ягоныя мелі залатыя рукі і здавён славіліся ў чужых краях як знакамітыя дойліды.

Ехалі моўчкі. Прахор час ад часу пакрыкваў на Вільгельма, Антон з Лутошкіным думалі кожны пра сваё.

Антон вяртаўся ў Чмялі пасля амаль дзесяцімесячных блуканняў па Беларусі. Нельга сказаць, каб занадта шмат радасці было ў гэтым вяртанні. Ён адчуваў, ён прызнаваўся сам сабе, што пацярпеў паражэнне. Вельмі шмат чаго набыў ён за гэты час, але і шмат што страціў. Вядома ж, ніколі не забудзе ён Ярчака, Шуру Аўлукову і Васіля Безручонка. Запомніць і Жолуда, і кучаравага эсэра. Яны, хацеў бы ён ці не, пакінулі ў душы такі след, які не зарастае.

Антон глядзеў на бацьку і быў упэўнены, што той зараз праклінае яго ў душы за Лутошкіна. Не ведае бацька, што вязе ў сваю хату курыцу, якая нясе залатыя яечкі. Гэтаму доктару цаны не будзе ў Чмялях і Запольцах.

Пра Яніну Антон стараўся не ўспамінаць. І нават не вельмі сябе ўшчуваў. Ну, быў маладзейшы, хадзіў з ёю, гуляў, але ж, як помніцца, нічога не абяцаў. Яна знойдзе сваё шчасце, можа з гэтым Васілём, а ён, Антон, будзе шукаць сваё. Але не-не ды і выплывалі ў памяці чорныя гордыя пакрыўджаныя вочы, і дрыготкі голас гучаў: «Бывай, Антон».

Спыніліся пераначаваць у сасонніку над невялікім, круглым, як сярэбраны сподак, возерам. Барыс Аляксеевіч з Антонам расклалі цяпельца. Прахор выпраг каня, спутаў і пусціў хадзіць на невялічкай лугавіне, што вяла да возера.

Ноч мякка апускалася на зямлю. Закрумкалі жабы. Туман пачаў гусцець і папоўз па лугавіне. Змоўкла шапаценне ветру ў сасонніку. Здавалася вецер, як і людзі, стаміўся за дзень, захацеў паспаць.

Калі трошкі перакусілі, Прахор спытаўся ў Лутошкіна:

— Вы, значыцца, лечыце?

— Лячу,— адказаў той.

— І каго ж?

— Усіх, хто хварэе.

— А свіней або авечак?

— Гэтых не. Гэтых ветэрынар лечыць.

— Шкада,— уздыхнуў Прахор.— У нашай вёсцы авечак шмат.

Перад сном Прахор пайшоў і прывёў Вільгельма. Распусціў вожкі і прывязаў імі каня да фурманкі — хай будзе пад бокам, пасецца каля людзей.

Барыс Аляксеевіч Лутошкін ляжаў на фурманцы, падклаўшы пад галаву свой чорны чамаданчык, і глядзеў у зорнае неба. З кожным імгненнем усё болей зорак выплывала з бяздоннай далечы, уставала на бяссонную начную вахту над зямлёй. «И звезда с звездою говорит»— успомнілася яму.

Ён з дзяцінства любіў глядзець на зоркі. Яны, калі глядзеў на іх, ачышчалі душу. У дзяцінстве маці казала, што ў кожнага чалавека ёсць на небе свая зорка. І зараз, трыццацітрохгадовы, стомлены, ён прагна глядзеў на неба і думаў: «Дзе ж тут, паміж гэтага хаосу, мая зорка? Можа гэта, а можа вось гэта — зеленаватая? Ці вунь тая, што ўвесь час дрыжыць, як асінавы ліст?»

Як толькі ўзышло сонца і ўспыхнула раса на траве лагчыны і на іголках соснаў, прачнуліся. Прахор пачаў запрагаць Вільгельма, а Лутошкін з Антонам пайшлі да возера, скінулі кашулі, абмыліся да пояса крыштальнай вадой.

У Чмялі ўехалі надвячоркам. Прахор падабраўся да вёскі гародамі, каб нікому не кінуцца на вочы. Ён распрог Вільгельма ў канцы сваёй палосы і баразною павёў на двор. Лутошкін з Антонам ішлі следам за ім.

У душы ў Антона нясцерпна расло хваляванне. Гэта ж зноў ён бачыць сваю вёску, сваю хату! Колькі разоў сніў іх на чужыне. Каля самага плота заўважыў ён паміж павялага бульбоўніку лапік жоўта-бурай свежаўскапанай зямлі. Тырчала з зямлі рыдлёўка з бліскучай, адпаліраванай далонямі ручкай. Значыць, капаюць патроху ўжо бульбу на вячэру. А вось — ён нават прыпыніўся — на пульхнай зямлі выразна віднеецца след босай нагі. Матчын след!

Аўдоля, босая, без хусткі, сядзела на ганку, вылузвала са струкоў фасолю ў гліняную міску. Валасы, дужа пасівелыя, залаціла вечаровае сонца. Ва ўсёй яе паставе, ва ўсёй заглыбленасці ў свой няхітры занятак было столькі міру, цішыні, спакою, што ў Антона пераняло дыханне. Ён спыніўся сярод двара і на нейкія непаўторныя і такія яркія імгненні ўспомніў сябе маленькім, пяці-шасцігадовым. Ён успомніў, як хадзілі яны з маці ў суніцы. Маці, ва ўсім белым, прыгожая, загарэлая, маладая, збірала ягады ў вядро, ён — у невялічкі кубарык, зроблены з асінавай кары. Трава, помніцца, была тады густая-густая, і ён, як ні ўглядаўся, не знаходзіў суніц. Маці ішла побач, смяялася, казала:

— Антонка, ты такую вялікую ягаду раздавіў...

Усё гэта пранеслася ў душы, як гарачы вецер, як гаючы дождж. І ён зразумеў: пройдуць, праляцяць гады, скончыцца калі-небудзь жыццё, а гэты ўспамін, такі светлы і такі шчымлівы, будзе нязгасна жыць у ім аж да скону.

— Аўдоля,— сказаў Прахор, здымаючы з каня хамут,— ці не спіш ты, чортава баба? Глядзі, каго я прывёў!

Маці ўзняла галаву, убачыла Антона, войкнула і прыклала руку да грудзей. Потым, перакуліўшы міску з фасоляю, імкліва ўскочыла на ногі, не прабегла, а, здаецца, праляцела тыя дзесяць крокаў, што аддзялялі яе ад Антона, абшчапіла шыю рукамі. Ён адчуў яе цёплыя, мяккія вусны на сваёй шчацэ.

— Сынок,— заплакала маці,— вярнуўся, вярнуўся...

Некалькі разоў паўтарыла яна адно гэтае слова, і столькі дрыготкага шчасця было ў яе голасе, столькі светлых слёз, што Прахор не стрымаўся, буркатнуў:

— Годзе румзаць. Бач ты яе — усхадзілася, як маладая.

Антон стаяў, аглушаны хваляваннем і шчасцем, і, нібы сляпы, пальцамі рук лёгка датыкаўся да матчынага твару, быццам хацеў пералічыць усе маршчыны. Шмат было ў маці маршчын.

— А гэта госць да нас завітаў. Людзей лечыць,— не надта прыязным голасам сказаў Прахор, паказаўшы вачамі на Лутошкіна. Барыс Аляксеевіч нізка схіліў вялікую сваю галаву, ступіў крок да Аўдолі, узяў яе руку, цёмную, сухую, і пацалаваў.

— Ой, божачка, што гэта вы робіце? — засаромелася, пачырванела Аўдоля і схавала руку за спіну.

— Вельмі рады з вамі пазнаёміцца. Вельмі рады,— зноў пакланіўся Барыс Аляксеевіч.— Мая мама жыве ў Маскве. І, ведаеце, яна нечым падобная на вас.

— Аж у Маскве жыве! — ціха здзівілася Аўдоля.— Дык і вы, значыцца, з Масквы?

— Карэнны масквіч,— адказаў Лутошкін.

— З самай Масквы да нас у госці прыехалі. Праходзьце ж, праходзьце ў хату, даражэнькі.

Шчасцем ззялі Аўдоліны вочы, яна памаладзела, пажвавела, вось-вось, зайграй толькі музыка, у скокі пусціцца.

— А я сённяшняй ноччу сон бачыла,— казала яна, шырока адчыніўшы дзверы, прапускаючы ўсіх у хату.— Быццам іду па запольскай дарозе, а да мяне белы баранчык бяжыць, пушысценькі, кучаравенькі. Ды ўсё «бэ», «бэ», падбягае, цягае зубамі мяне за спадніцу. Я розгай махну, трохі адбяжыцца і зноў — да мяне. Я й падумала адразу, яшчэ ў сне: «Прыб'ецца нехта да нашага двара». Аж гэта Антон і вы з Масквы прыехалі. Дзякуй жа богу, дзякуй богу. А як жа з тваёю ранай, сынок? Баліць?

— Зажыла рана,— весела адказаў Антон і, пакорпаўшыся ў кішэні, дастаў невялічкі вузельчык.— Развяжы, мама... Глянь...

Аўдоля асцярожна развязала, сказала, са здзіўленнем гледзячы на сына:

— Кулі, здаецца... Дзве... І жалеза кавалачак. Бач ты які войстры.

— Гэтае ўсё жалеззе ўва мне сядзела, мама.

Аўдоля ўздрыгнула, адхапіла пальцы, як апёкшыся, ад вузельчыка. Потым, супакоіўшыся, з халодным бляскам у вачах, з непрыхаванай непрыязнасцю доўга глядзела на тое, што прыносіла пакуты ее малодшаму сыну. А тады сціснула ў кулаку вузельчык і, ні слова не кажучы, шыбнула яго ў печ, толькі попел узвіўся.

— Што ты зрабіла, мама? Хай бы былі на памяць,— глянуў на яе Антон.

— Хай гарыць, сынок, такая памяць,— сцяўшы губы, цвёрда сказала Аўдоля.

У час вячэры маці ўсё распытвала Антона, расказвала вясковыя навіны. І паўтарала:

— Добра, што вярнуўся.

Назаўтра, як ні хаваўся, як ні адмоўчваўся Прахор, высветлілася, што ўся вёска ўжо ведае пра вяртанне Антона.

— У людзей, пэўна, на спіне вочы растуць,— пляваўся Прахор.

Перад абедам пад'ехаў да хаты Шмарлоўскі, крыкнуў Прахору, які аплятаў лазою дзіравы кошык:

— Хай твае двое праз паўгадзіны зойдуць да капітана Рэхлінга ў валасную ўправу.

— Якія двое? — як бы не зразумеў Прахор.

— Не шукай дурных. Твой сын і той, што прыехаў з ім.

Давялося Антону з Лутошкіным ісці ва ўправу. Капітан Рэхлінг спачатку выклікаў з калідора Антона, не запрасіўшы сесці, задаў першае пытанне:

— Ты бальшавік?

— Не,— глянуў Антон у сінія вочы капітану.

— Добра. Пойдзеш у стражнікі ў маёнтак?

— Я паранены і хачу працаваць з бацькам на гаспадарцы. З мяне дрэнны ваяка.

— Добра,— згадзіўся Рэхлінг.— Пакуль працуй. Хоць адным вокам глянеш на лес, у якім хаваюцца бальшавіцкія бандыты, расстраляем. Можаш ісці.

Антон выйшаў з цяжкім сэрцам.

Барыса Аляксеевіча Лутошкіна капітан Рэхлінг запрасіў сесці, працягнуў пачак французскіх папярос.

— Не куру,— лёгка пакланіўся капітану Лутошкін.

Рэхлінг закурыў сам, смачна, глыбока зацягнуўся, заплюшчыў вочы. Колькі імгненняў сядзеў ён з заплюшчанымі вачамі, адкінуўшыся ўсім целам на мяккую спінку крэсла. Здавалася, ён забыўся пра Лутошкіна. Усё яшчэ з заплюшчанымі вачамі, Рэхлінг нарэшце загаварыў:

— Назавіце сваё прозвішча.

— Лутошкін. Барыс Аляксеевіч Лутошкін,— паклаўшы рукі на калені, выпраміўся ў сваім крэсле Лутошкін.— Урач. Скончыў медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу.

— О! — ажывіўся капітан Рэхлінг і расплюшчыў вочы.— Урач. Гэта добра. Вельмі добра. Вы велікарус?

— Так. Я масквіч.

— Масквіч? — перапытаў Рэхлінг.— Масква сёння чыр-

вая сталіца. Там, у Крамлі, сядзіць Ленін. Вы бачылі Леніна?

— Не меў гонару. Ленін з бальшавіцкім урадам зусім нядаўна, наколькі мне вядома, пераехаў з Піцера ў Маскву. Я ж не бачыў Маскву з чатырнаццатага года, з таго часу, як пайшоў на фронт.

Капітан Рэхлінг уважліва глядзеў на гэтага рускага велікана-доктара, на яго цяжкія чырвоныя рукі, на запыленыя чаравікі. «Дык вось ён, славянскі інтэлігент,— думалася капітану.— Патэнцыяльны вораг германства. Пагляд яго не назавеш палахлівым. Наадварот, сядзіць, як дзе-небудзь у сваёй рускай карчме».

Капітан Рэхлінг з дваццацігадовага ўзросту быў членам Пангерманскага саюза, канцлера Бісмарка лічыў жывым богам. Ён быў глыбока перакананы, што германскаму народу, народу, створанаму для вялікага лёсу, не хапае жыццёвай прасторы, і таму вайна — біялагічная неабходнасць. Яшчэ са студэнцтва ўрэзаліся яму ў памяць словы аднаго славутага германскага публіцыста: «Мы, як дрэва, што ўрасло каранямі ў шчыліну скалы. Або мы рассунем камень і будзем расці далей, або супраціўленне акажацца такое моцнае, што мы захірэем, бо не атрымліваем у дастатковай колькасці ежы».

— Чаго вы прыехалі сюды? — спытаўся капітан.

— Разумееце,— захваляваўся Лутошкін,— як вам лепш растлумачыць... Я шукаю сябе. У мяне было ў жыцці нямала расчараванняў... Я рашыў жыць жыццём народа... Я не магу есці белыя булкі, калі народ харчуецца чорнымі сухарамі. У мяне да вас просьба, пан капітан...

— Просьба? — здзіўлена прыўзняў прыгожыя бровы Рэхлінг.— Ну-ну...

— Я хачу лячыць мясцовых жыхароў. Але ў мяне ўжо амаль няма медыкаментаў, прасцейшых гігіенічных матэрыялаў: ваты, марлі... Ці не маглі б вы дапамагчы мне набыць іх?

Капітан Рэхлінг колькі імгненняў маўчаў. Зноў успомнілася яму дрэва, якое расце ў шчыліне скалы і якому не хапае ежы. Ён, Рэхлінг, сядзіць тут, каб здабываць харч для гэтага дрэва. Ён думаў не пра тубыльцаў. Яны наогул могуць нічога не есці, усё роўна лёс іхняй расы — вымiранне. А тут просяць даць медыкаменты, і каму...

— Мы заключылі перамір'е з Саветамі,— павольна сказаў капітан,— але не сёння-заўтра зноў могуць пачацца баявыя дзеянні. Ведучы крыжовы паход супраць бальшавізму, мы праліваем свяшчэнную германскую кроў. Так што нічога, як вы можаце здагадацца, я вам не дам. А гэтых людзей вы можаце лячыць. Я дазваляю.

Ён пстрыкнуў пальцамі правай рукі, прыжмурыўшы вочы, сказаў:

— Ці не здаецца вам, што каэфіцыент карыснага дзеяння Дон Кіхота раўняецца нулю?

— Як вы сказалі? — не зразумеў спачатку Лутошкін.

— Я хачу сказаць, што яны, вашы будучыя хворыя, калі яны толькі прыйдуць да вас, не зразумеюць вас. Страшная рэч — няўдзячнасць народа. А народ мясцовы — няўдзячны.

Барыс Аляксеевіч маўчаў. Што ён мог сказаць гэтаму халоднаму прыгажуну, гэтаму юнкерскаму сынку? Ён і так дужа многа сказаў. Сляпая наіўнасць думаць, што пад сукном гэтага мундзіра б'ецца сэрца гуманіста.

— Ці не магу я быць свабодны? — асцярожна пацікавіўся Лутошкін.

— Можаце. Але спачатку я стаўлю вам дзве катэгарычныя ўмовы. Першая: ніякай антыгерманскай прапаганды. Другая: ніякіх сувязей з ляснымі бандытамі. Калі ж хто з іх уздумае наладзіць з вамі, як урачом, кантакт, неадкладна паведамляйце мне. Усё. Можаце ісці.

Барыс Аляксеевіч выйшаў з валасной управы. Па дарозе да хаты Радзімовічаў адчуваў страшэнную пустату ў душы. Яму прапанавалі службу шпіёна. Якая агіда!

Так прайшоў іхні другі дзень у Чмялях. Назаўтра Агапка Шамаль прывяла за руку свайго сына Віцю.

— Палец у яго дужа нарваў,— сказала яна, гледзячы Лутошкіну проста ў вочы.— Зрабіце што-небудзь, даражэнькі доктар. Крычыць хлопец ноччу, не спіць.

Барыс Аляксеевіч глянуў на тоўсты, сінявата-буры палец, зморшчыўся, дастаў баначку з маззю. Змазваючы і перавязваючы палец, павучаў Агапку:

— Такое вы можаце лячыць самі. Цыбулю разваданую прыкладвайце або, лепш за ўсё, алоэ. Ёсць у вас у хаце алоэ?

— Не чула пра такое, Ляксеевіч.

Калі толькі паспела выведаць Агапка, як завуць доктара? Лутошкін уважліва глянуў на яе, чырванашчокую, русавалосую, сказаў:

— Расліна такая пакаёвая. У вас яе, здаецца, альясам называюць.

— Як жа, ёсць альяс,— узрадавалася Агапка.— Але ж там, у вас, у Маскве, яго можа як-небудзь іначай прыкладваюць? — І такія наіўна-шчырыя, такія агніста-дзёрзкія былі яе цёмныя вочы.

З валасной управы Антон пайшоў не дахаты. Не цярпелася яму даведацца, якія хлопцы і дзяўчаты ёсць зараз у вёсцы і чым яны займаюцца. Завітаў у адну хату, у другую, у трэцюю, але хлопцаў дома не было. «На заробкі падаліся»,— казалі іхнія бацькі, стараючыся дужа не глядзець яму ў вочы. Ён здагадваўся, якія гэта былі «заробкі».

З Антонавых аднагодкаў у Чмялях былі толькі Васіль Гаранок і Мікіта Сцепанюга. Васіль жыў з бацькам у флігелі графа Незабітоўскага, будаваў сабе новую хату з бярвення, падараванага графам. Разам з цеслямі грукаў ён сякерай і быў цвёрда ўпэўнены, што той ноччу падпалілі іхнюю хату людзі Андрэя Бацюты.

— Не звязвайся з імі,— сказаў ён Антону пры сустрэчы.— Там брат твой і сястра твая, я знаю. А ты не звязвайся, калі не хочаш жыццё сваё перакруціць.

Мікіта Сцепанюга, зваліўшыся з каня, зламаў нагу і таму крукам сядзеў у хаце. Ён вельмі ўзрадаваўся, убачыўшы Антона. Шырокі ягоны твар асвятліўся на дзіва лагоднай усмешкай, хоць, помніцца, раней з Антонам ён не вельмі вадзіў кампанію.

— Сядай, Антон,— сказаў Мікіта, падсоўваючы зэдлік. Быў ён у белай споднай кашулі, правая нага сціснута вузкімі ліповымі дошчачкамі, якія ў сваю чаргу былі туга перахопленыя пяньковай вяроўчынай.

— Матка,— гукнуў Мікіта, — нясі нам бутэльку і з закусі што-небудзь.— Ён падміргнуў Антону, шапнуў: — Зараз прывалачэ старая. Дужа любіць мяне. Баіцца, каб мне нагу не адрэзалі.

І сапраўды, праз лічаныя хвіліны Дар'я Сцепанюжыха, высокая, дзябёлая, з цыганскай чарнатой у паглядзе, павітаўшыся з Антонам, паставіла на стол перад Мікітам гарэлку ў чырвоным гліняным збане і міску студзеню. Потым, збегаўшы ў камору, сыпанула на стол жаўтабокіх мочаных антонавак.

— Нага нешта скрыпіць у мяне ў калене, мама,— зрабіўшы кіслы твар, ціха паскардзіўся Мікіта. Сцепанюжыха ўся пабялела, пачала асцярожна мацаць ягоную нагу рукамі і ўсё прыгаворвала:

— А мой ты сынок... От ужо бяда дык бяда... Дай жа бог, каб усё добра павярнулася. А то будзеш, як той Сямён-артылерыст, калекам...

— Мне жалезную нагу Бацюта выкуе,— хітра засмяяўся Мікіта.

Гэтыя словы, здаецца, даканалі Дар'ю. Яна ўсхліпнула, пачала хрысціцца на абразы і прасіць бога, каб той злітаваўся над яе сынам.

— Ну, досыць румзаць, матка,— строга звёў чорныя бровы Мікіта.— Мы з Антонам гаварыць будзем...

Сцепанюжыха адразу выйшла, а Мікіта, задаволены сабой, ціхенька засмяяўся дрыготкім, сытым смехам.

— Па адной маснічыне матка ў мяне ходзіць,— скончыўшы смяяцца і выцершы рот рукавом кашулі, пахваліўся Мікіта.— Што ні скажу, усё слухае. А нага мая ў калені і не скрыпела ніколі.

— Дык ты што, падманваеш яе? — здзівіўся Антон. Яму чамусьці непрыемна было глядзець на Мікіту.

— Давай вып'ем,— падсунуў поўную шклянку Мікіта і, бліснуўшы вачамі, закінуў галаву, адным махам справіўся з гарэлкаю. Антон таксама выпіў і хуценька схапіў яблык, пачаў закусваць.

— Ты студзень еш. У ім мяса шмат,— чэрпаў Мікіта вялікай драўлянай лыжкай, са смакам еў. Шчокі ягоныя запунсавелі, нават кропелькі поту праклюнуліся на пераноссі.— Зажыла нага ў мяне. Ужо хадзіць магу. Але, ду-

маю сам сабе, калі шчэ адпачнеш так? Ну і не здымаю дошчачкі, матку палохаю. Яна ў мяне добрая,— Мікіта зноў пачынаў наліваць.

— Мне досыць,— прыкрыў сваю шклянку рукой Антон.— А ты пі, калі хочаш... Усё-ткі, Мікіта, дрэнна ты з маткай сябе паводзіш. Не крыўдуй, брат, а дрэнна.

— Нічога... Яна вытрывае,— засмяяўся Мікіта. — Неяк унача да мяне бацька з лесу прыходзіў. Казаў, каб я да іх у атрад ішоў. А я яму нагу ў дошчачках — шах! — пад нос. Бачыш — калека я. Не магу, значыць. З лесам спешку рабіць не трэба. Пачакаю, пагляджу... Ды і ты, бачу, не рвешся туды.

— Я не рвуся, але я не хаваюся за дошчачкі ды за вяровачкі,— падняўся з-за стала Антон. Ён адчуваў, што п'янее. І трэба было хутчэй сказаць гэтаму веселуну ўсё, што ён, Антон, пра яго думае.— Я не рвуся, але я не прыкідваюся хворым або занадта разумным. А ты матку зводзіш, сушыш...

Мікіта на гэты момант асушыў ужо другую шклянку і сядзеў, шырока раскрыўшы ад здзіўлення вочы. Пэўна, не чакаў такіх слоў.

— Пастой, пастой, Антон,— ачомаўся ён нарэшце,— нешта я не разумею. Выходзіць, што ты мяне лаеш? У маёй хаце? Маю гарэлку п'ючы?

Ён рэзка пачырванеў, стукнуў кулаком па стале, закрычаў:

— Мама! Мама!

Як віхор, уляцела Дар'я.

— Мама, нешта нага ў мяне мярцвее,— ціха пажаліўся Мікіта, і маці завохкала, укленчыла каля яго. Антон толькі плюнуў і выйшаў з хаты.

Ён прыйшоў дадому і ўбачыў Барыса Аляксеевіча з рыдлёўкай і з кошыкам у руках.

— Куды гэта вы сабраліся? — здзівіўся Антон.

— Бульбы пайду накапаю.

— Да вы што? Дзе вы капалі ў Маскве тую бульбу? Давайце мне рыдлёўку.

— Ну, тады разам пойдзем — я з кошыкам, а ты з рыдлёўкай,— сказаў Лутошкін.

Антон выкопваў карчы, а Барыс Аляксеевіч выцягваў іх з сухой шэрай зямлі, абтрасаў і акуратна абіраў у кошык клубні. Рабіў ён усё гэта не спяшаючыся, з вялікай сур'ёзнасцю, быццам удзельнічаў у старадаўнім свяшчэнным абрадзе. Кожную бульбіну, перад тым як пакласці яе ў кошык, ён круціў у пальцах, разглядаў з усіх бакоў.

— Што яе мацаць? — загаварыў, каб не засмяяцца, Антон.— Чаго вы на яе гледзіцё, як на кавалак золата? Бульба, ды ўсё.

— Э не,— не згадзіўся Барыс Аляксеевіч.— Бульба бульбаю, а я трымаю ў руках найвялікшую таямніцу прыроды. Вось гэты шэры непрыгожы клубень, калі толькі яго не зварыць або не спарыць, праляжыць усю зіму ў по-

грабе ці ў канцы, і вясною яго зноў апусцяць у гэтую ж зямлю. І адбудзецца цуд — ён дасць добры дзесятак новых жыццяў. Як у ім захоўвалася жыццёвая сіла? Чаму яна нарадзіла на свет зноў бульбіну, а, скажам, не кавун ці агурок? Пакуль што гэтага мы не ведаем. А ты кажаш: «Бульба, ды ўсё». Дарэчы, прашу зваць мяне і гаварыць са мной на «ты».

— Добра,— згадзіўся Антон,— буду зваць цябе Ляксеевіч, калі так. Скажы, Ляксеевіч, што табе талкаваў гэты немец ва ўправе?

— Талкаваў, каб я паводзіў сябе смірна і нават не кашляў без ягонага дазволу,— Барыс Аляксеевіч усміхнуўся, асцярожна пачаў абіраць корч.— Сядзіць ён тут, гэты капітан, як плантатар дзе-небудзь на Новай Гвінеі. Лічыць, вядома ж, сябе інтэлігентам, тонкім знаўцам чалавечай душы. А на самай справе ён, ведаеш, што? Давільная машына для выціскання соку. Гэта калі яшчэ мая жонка не кінула мяне, ездзілі мы з ёю ў Крым. Дык там мясцовыя татары вінаград на віно ціснуць.

— А чаму ты з жонкаю сваёй не жывеш? — пацікавіўся Антон.

Барыс Аляксеевіч уважліва паглядзеў на яго.

— Лічыцца, што яна мяне кінула і за адвакатам Кукушкіным пабегла. Так лічаць, прынамсі, мае сябры і мая маці. Яны і мне пастараліся ўнушыць такую ж думку. Толькі я ведаю — яшчэ далёка да гэтага самага славутага Кукушкіна мы з ёю ўжо былі ворагамі, чужымі людзьмі. У чым прычына, галоўная прычына? — Барыс Аляксеевіч звузіў вочы, памаўчаў, потым загаварыў зноў: — Яна з пароды жорсткіх людзей, мая былая жонка... Людзі з такой духоўнай канструкцыяй ідуць, як мне думаецца, у інквізітары, у ка́ты, нават робяцца гіцалямі — лаўцамі бяздомных кошак і сабак.

Над зямлёю паціху пачынаў гусцець вечаровы змрок. Цямнела поле. З лугоў, з глухіх балотаў поўз вільготны туман. У хатах не запальвалі святла. Моўчкі вячэралі, моўчкі рабілі хатнія справы і клаліся спаць. Здавалася, людзі адвыклі ад слоў і навечна пасяліліся ў краіне нямых. Толькі два чалавекі сядзелі ў цемры над кашом бульбы, глядзелі, як затапляе палеткі туман, і гаварылі, гаварылі...

Назаўтра паступіў загад ад капітана Рэхлінга: усе мужчыны вёскі Чмялі ва ўзросце ад васемнаццаці да пяцідзесяці пяці гадоў павінны з'явіцца ў маёнтак на сельскагаспадарчыя работы, неабходныя для германскай арміі. Прахор, лаючыся, запрог Вільгельма і разам з Антонам і Барысам Аляксеевічам паехаў у маёнтак. Ім загадалі капаць бульбу. Вялізнае бульбяное поле графа Незабітоўскага раскінулася ад самага маёнтка аж да Гразёўкі і да лесу. Кабетам і дзяўчатам граф яшчэ плаціў для прыліку капейкі, мужчыны ж павінны былі працаваць бясплатна, як мабілізаваныя.

Парабкі наганялі барознаў, прыехаў на матацыклетцы на поле шуцман Функ, вызначыў усім дзённую норму. Антон з Барысам Аляксеевічам сталі ў баразну, Прахор жа на кані звозіў выкапаную бульбу ў бурт.

— Уліплі мы з табою, Антон,— нявесела жартаваў Лутошкін.— Цішыні шукалі і вось знайшлі. Тут яе — уга колькі!

Антон нічога не адказваў, гробся рукамі ў халоднай зямлі. Збіраў ён бульбу толькі зверху, а тую, што сядзела глыбей, абмінаў, закідваючы пяском. Так працаваў ён з гадзіну, як раптам на поле ў брычцы прыехалі Незабітоўскі з Кандратам Гаранком. Граф аддаў лейцы Гаранку, а сам жвавенька саскочыў з брычкі, пайшоў па полі, трымаючыся тых барознаў, дзе працавалі жанчыны.

— Добры дзень, шаноўныя,— крануў ён рукою брыль капелюша.— Як працуецца? Які ўраджай сёлета?

Яму нядружна, з неахвотаю адказалі на прывітанне, пра ўраджай наогул змоўчалі. «Твой ураджай — ты яго разам з немцамі і лічы»,— падумалі ўсе. Незабітоўскі зразумеў гэта і, не задаючы болей ніякіх пытанняў, падаўся назад, да сваёй брычкі.

Затое замест яго, злезшы з брычкі, пайшоў па полі Кандрат Гаранок. Гаранок служыў аканомам у маёнтку, замяніўшы Гайкевіча, які неўзабаве пасля таго, як у валасці аб'явіўся рэўком, раптоўна памёр ад вадзянкі.

У руках Гаранок трымаў доўгі арэхавы кіёк. Пройдзе некалькі крокаў следам за бульбакопамі, ткне кійком у зямлю, пашавеліць і глядзіць, ці чыста капаюць. Калі знойдзе бульбіну, строга кашляне, варухне русымі вусамі, падніме яе і занясе ў вядро або кошык таго, хто пакінуў яе за сабою, сказаўшы:

— Грэх у зямлі дабро гнаіць.

Потым дастане з кішэні ватоўкі блакноцік і нешта запіша ў яго. Як прыйдуць бабы з дзяўчатамі вечарам у маёнтак грошы палучаць, глядзіш — той недададуць, той — штраф!

Антон марудліва плёўся ў бясконцай сваёй баразне, як раптам за спіною пачуўся не крык, а сапраўдны енк Гаранка, быццам той неабачліва сунуў руку ў кіпень. Антон азірнуўся.

— Чыя баразна? — увесь чырвоны ад злосці, пытаўся Гаранок, стоячы на Антонавай баразне. Згледзеў Антона, крыкнуў: — А ну ідзі сюды!

Антон з кошыкам у руках падышоў да яго, спыніўся. Ля Гаранковых ног ляжала добрая куча бульбы, якую аканомаў кіёк толькі што выграб з зямлі.

— Ты што капаеш, як свіння лычам?! — уз'юшана накінуўся на Антона Гаранок.

— Як умею, так і капаю,— адказаў Антон.

— Ах ты, бальшавіцкае ўроддзе! Яшчэ языком нешта плявузгае! Брат з сястрой у бандыты збеглі, і ты туды ж глядзіш. Хату маю спалілі.

Гаранок раптам размахнуўся і з усяго пляча секануў кійком. Антон нібы чакаў удару — імгненна выставіў уперад руку з кошыкам, загарадзіўся. Кіёк звонка ляснуў па кошыку. Другі раз размахнуцца Антон Гаранку не даў — выхапіў кіёк з рукі, пераламаў аб калена, шпурнуў далёка ад сябе. Гаранок з нянавісцю глядзеў на яго, часта дыхаў.

— Чаго, дзядзька, так размахаўся? — пабялеўшы, спытаўся Антон.— Можа хочаш, каб я табе вось гэты кошык на галаву ўздзеў?

Гаранок, задам-задам, павольна адступіў ад яго на некалькі крокаў, потым раптам ірвануўся, як малады жарэбчык, пабег да брычкі. У адным месцы ён спатыкнуўся, упаў потырч на рукі, борздзенька ўсхапіўся. Дабегшы да Незабітоўскага, пачаў жаліцца:

— Вунь той руды адмаўляецца працаваць. Гэта Антон Радзімовіч, ваша правасхадзіцельства. З бальшавіцкага кораня. Руку на мяне ўзняў.

Граф Незабітоўскі зрабіў белую далоньку стрэшкай, глянуў з-пад яе на Антона. Потым хмыкнуў у сярэбраныя вусікі, павярнуўся да Гаранка:

— Руку ўзняў, кажаш? Едзем да капітана Рэхлінга. Ён прышле на поле салдат.

Брычка пакацілася да Чмялёў.

— Антон, Антон,— падбеглі да Антона жанкі і дзяўчаты,— уцякай хутчэй адсюль. Зараз салдаты прыедуць.

Барыс Аляксеевіч таксама крыкнуў са сваёй баразны:

— Бяжы ў лес!

Ногі былі як бы здранцвелыя, не слухаліся. Як не на сваіх нагах, трымаючы ў руках кошык, прабег Антон з дзесятак крокаў. Потым злосна плюнуў, кінуў вобзем кошык і даў такога драпака, аж пыл закурэў з-пад ног.

У лесе ён трохі аддыхаўся, агледзеўся па баках і пашыбаваў глыбей. Цішыня была ў лесе, халодная, восеньская. Антон подбегам ішоў па ледзь прыкметнай, засыпанай жоўтай ігліцай сцяжынцы. Некалі тут была дарога на смалярню, але смалярня згарэла, і людзі перасталі карыстацца дарогаю, якую адразу ж заглушыла лясная трава. З часам і бярозкі з елачкамі ўкараніліся тут, і цяпер толькі мясцовы чалавек па аднаму яму вядомых прыкметах мог распазнаць калісьці шырокую торную дарогу.

Антон, калі бег па полі, яшчэ не ведаў, дзе будзе ратавацца. Зараз жа, супакоіўшыся, рашыў дабірацца ў Арэхаўку. Там жыве цётка, матчына сястра Зося, і ў яе можна будзе перачакаць колькі дзён. Пра тое, каб шукаць партызанаў, Кузьму з Дзінаю, ён не думаў. Хопіць з яго дзвюх дзірак на скуры. Наваяваўся, наматаўся па свеце. Як і Барысу Аляксеевічу, хочацца пажыць яму нарэшце ў цішыні. «Пагарачыўся я з гэтым Гаранком,— думаў ён.— Хіба цяжка было сабраць тую бульбу? Дужа шмат гонару ў душы завялося. А навошта ён мужыку? Цяпер немцы і мяне ў бальшавікі запішуць».

З такімі думкамі асцярожна выйшаў ён на кацярынку — шлях, які вёў з Запольцаў на Асіповічы. Яму трэба было адразу перасекчы яго і праставаць лесам, але якраз у тым месцы было балота, з паўвярсты даўжынёю, і ён рашыў абмінуць балота шляхам, балазе нікога не было паблізу. Ды тут яго чакала неспадзяванка. Толькі пашыбаваў ён шляхам, як з-за паваротні, насустрач яму, пачуліся конскае ржанне, адчайна-вясёлы гром званочкаў пад дугою. Дзве фурманкі, запрэжаныя тройкамі коней і поўныя шумных, п'яных людзей, вылецелі з-за паваротні. Ехала вяселле.

Антон увабраў галаву ў плечы, апусціў долу вочы, хацеў незаўважна размінуцца з фурманкамі. Мала што за чалавек ідзе па сваіх справах лясной дарогаю? Вяселлю, калі грыміць і звініць яно на паўсвету, не да нейкага адзінокага пешахода. Ды раптам пярэдняя фурманка рэзка спынілася, аж коні захраплі. Дзяўчына ў белым вэлюме, у белай доўгай спадніцы лёгенька саскочыла з фурманкі, усміхаючыся, пайшла да Антона. «Нявеста»,— здагадаўся ён. Дзяўчына падыходзіла бліжэй, як бы лябёдка белая плыла, і на выцягнутых руках несла прыгожы сіні сподак. А на сподку тым стаяла сярэбраная чарачка з гарэлкай і ляжала лустачка хлеба, пасыпаная соллю.

Нявеста падышла, пакланілася ў пояс, пявучым голасам сказала:

— Па старому беларускаму звычаю, першы чалавек, якога сустрэне на сваёй дарозе вяселле, павінен выпіць гарэлкі, пакаштаваць хлеб-соль і пажадаць маладым шчасця. Пажадайце ж нам, добры чалавек, шчасця.

Антон разгублена глядзеў то на яе, то на сярэбраную чарачку, у якой плавала зялёная сасновая іголка. Дужа неспадзявана ўсё адбылося, нібы ў тых казках, якія, плетучы лапці, любіў расказваць дзед Ігнат. Прыгожая дзяўчына стаяла, усміхаючыся, чакала.

— Жадаю вам здароўя і шчасця,— сказаў нарэшце Антон, асцярожна, каб не разліць, узяў са сподка чарачку, узняў вочы, і раптам пахаладзела, абарвалася сэрца. На пярэдняй фурманцы, паміж гасцей, убачыў ён капітана Рэхлінга. А побач з рыжавалосым п'яным жаніхом сядзеў, усміхаўся, глядзеў на Антона Аркадзь Гайкевіч з вялікай чырвонай кветкай на грудзях. Прыгожая маладая была ягонай сястрою.

# X

Калі вярталіся з бульбянога поля дадому, Прахор Радзімовіч на чым свет стаіць кляў сваю нешчаслівую долю. Побач з ім на дрогкіх калёсах сядзеў Барыс Аляксеевіч і слухаў усю гэтую кляцьбу.

— Вот жа не шанцуе, вот жа ідзе ўсё навыварат,— ледзь не плакаў Прахор, не забываючыся сцёбаць пугаю

Вільгельма па худых баках.— Думаў, што хоць гэты пад старасць будзе каля бацькавага двара. Хоць вочы бацьку пасля смерці закрые. Дык на́ табе... Чаго яму трэба было заядацца з Кандратам? Думаў, хоць гэты бацьку пад старасць сагрэе. Аж тут такое насланнё. Кукіш дурному бацьку пад нос. Грэе сынок бацьку, грэе. Грэе, як у мёртвага лысіна.

Ён казаў гэтыя словы ўсё болей сярдзітым голасам і ўсё часцей паварочваў вочы на Барыса Аляксеевіча. І той зразумеў: злуецца і на яго Прахор, лічыць, што і ён Антона з дарогі збіва́ў. Хоць пра сябе Барыс Аляксеевіч не мог такое сказаць. Правільна, часта, дужа часта гаварыў з Антонам, бо бачыў, што душа ў хлопца горнецца да справядлівасці. Але ж пра палітыку, за рэдкімі выключэннямі, не гаварылі. Больш на вечныя тэмы гаварылі: пра сэнс жыцця, пра любоў да бліжняга, пра смерць. Хаця, вядома, калі думаць пра ўсё гэта, разважаць, параўноўваць, то вельмі лёгка з гэтага клубка можна нітачку працягнуць у сённяшні дзень.

«І тут няма цішыні»,— ужо не першы раз думаў Барыс Аляксеевіч. І не першы раз прыходзіла да яго простае і непазбежнае адкрыццё, што іначай не будзе і не можа быць. Мяняецца свет, мяняюцца людзі, і ўсё гэта робіцца з болем. Так, як маці з болем нараджае дзіця. Але ён, доктар Лутошкін, пастараецца ўсё ж не трапіць у гэты вогненны чалавечы вір. Ён будзе лячыць людзей. І толькі.

— Зайду ў валасную ўправу, папрашу за Антона,— сказаў Прахор, спыніўшы каня. Барыс Аляксеевіч злез з фурманкі, пайшоў пехатой. Шмат хто з чмялёўцаў ужо ведаў яго, і таму людзі віталіся, некаторыя запрашалі зайсці ў хату. Але ён, не прыпыняючыся, ішоў да Радзімовічаў. Ён ужо адчуў, што гаспадыня, Аўдоля, ставіцца да яго вельмі добра, паважае, што ён у яе вачах сур'ёзны і разумны, праўда, трошкі дзіўнаваты, чалавек. Прахор таксама не так пачаў касавурыцца, калі зразумеў, што доктар чалавек з грашыма і што грошы гэтыя не любіць трымаць толькі ў сваёй кішэні.

Барыс Аляксеевіч зайшоў на двор, убачыў на хаце замок. Аўдоля не хадзіла сёння капаць бульбу ў маёнтак, значыцца, некуды адлучылася ў вёску. Ён мог бы адчыніць дзверы, ведаў, дзе хаваюць ключ — пад старым гладышом на плоце, але ён сеў на ганак, стаў чакаць гаспадыню.

Цікава, куды ж падаўся Антон? Можа да свайго брата ў лес? Добрую сёння здачу даў ён крыкліваму аканому. Чэсна прызнацца, не чакаў ад яго такой порсткасці Лутошкін.

Ціха рыпнулі веснічкі, і Барыс Аляксеевіч, азірнуўшыся, устаў з ганка. На двор, трымаючы за руку сына, зайшла Агапка Шамаль. На ёй быў прыгожы андарак — сінія клеткі па чырвоным полі. Цяжкая русявая каса была перакінута цераз левае плячо, і, калі Агапка ішла, каса ўздрыгвала ў яе на грудзях. Яшчэ заўважыў Барыс Аляксеевіч,

што Агапка была абута ў новыя хромавыя боцікі, бліскучыя, з высокімі і тонкімі, у абцяжку паназе, халявамі.

«Што за свята ў яе такое сёння?» — падумаў Барыс Аляксеевіч. Бульбу яна капала разам з усімі. Значыць, прыйшоўшы з поля, хуценька пераапранулася і адразу пайшла сюды. Сын таксама быў апрануты чыста — у белай вышыванай кашульцы, у сініх штоніках.

— Добры вечар вам, Ляксеевіч,— прагаварыла-праспявала Агапка, паказаўшы белыя дробненькія зубы. Ружовасць была разліта на яе поўненькіх загарэлых шчоках, а цёмныя вочы іскрыста смяяліся.

Барыс Аляксеевіч адчуў, як нейкая няёмкасць нараджаецца ў душы, разгублена сказаў:

— Добры вечар, Агапа Харытонаўна.

Два дні назад у Аўдолі спецыяльна пацікавіўся, як звалі Агапчынага бацьку.

Агапка пачырванела — відаць, не часта яе так прывячалі.

— На двары седзіцё... А дзе ж гаспадары? — пацікавілася яна.

— Прахор ва ўправу пайшоў, а гаспадыня адлучылася некуды. Нават не ведаю куды,— адказаў Барыс Аляксеевіч. Ён бачыў пад неглыбокім выразам кофтачкі, якое загарэлае ў Агапкі цела. Нязвычна гэта, бо вясковыя жанчыны маюць, як водзіцца спрадвеку, светлую, не дужа кранутую сонцам скуру. У іх хіба толькі твары і рукі вельмі загарэлыя.

— Зноў майму Віцю нядужыцца. Нешта жывот схапіла,— сказала Агапка і левай рукою пачала церабіць касу. Сын туліўся да яе, але на Лутошкіна глядзеў без страху, з цікаўнасцю.

— Што ж ты, Віця, хварэеш часта? — паклаў малому руку на плячо Барыс Аляксеевіч.— Ясі, пэўна, мала?

— Што вы, Ляксеевіч,— запярэчыла Агапка.— Хіба я шкадую? Хіба можна свайму дзіцяці шкадаваць?

Сын падтрымаў яе, сказаў са смешнай сур'ёзнасцю:

— Мама мне не шкадуе, дзядзька. Я ем, як салдат. Сёння мы пеўня варылі.

— Во якія вы з мамай героі,— засмяяўся Барыс Аляксеевіч.

Агапка глядзела то на сына, то на Лутошкіна, і выраз яе твару мяняўся — то святлелі вочы, радасцю наліваліся, то раптам халодны цень набягаў на іх. Нешта не давала ёй спакою, нешта гняло, трывожыла яе, і яна, каб схаваць хваляванне, села ў сваім новым андараку на прызбу, на жоўты пясок, і сына ўзяла на калені. Знізу ўверх пазірала яна на Лутошкіна, што, як гара, узвышаўся над імі. Лутошкін даставаў з кішэні паліто нейкія парашкі, загорнутыя ў рознакаляровыя паперкі, гаварыў, калі і як іх трэба піць, а яна, быццам слухаючы яго, глядзела на вялізныя чэпкія рукі, на пукатыя надброўі, на шырокі загарэлы твар, які бывае ў грабароў, грузчыкаў і каменячосаў. «Не

парашкі б яму рассыпáць, а адной сякераю дубы валіць»,— думала яна.

Барыс Аляксеевіч заўважыў гэты пільны неадрыўны погляд і разгубіўся. Ён наогул, як і большасць людзей з мяккай душою, не выносіў паглядаў ва ўпор, першы адводзіў убок вочы. Гэта лічаць слабасцю духу, бесхарактарнасцю, нават нейкай непаўнацэннасцю чалавека, але гэта не так. Такія людзі не толькі пра сябе думаюць у тую хвіліну.

Ды Агапка глядзела на Барыса Аляксеевіча зусім паіншаму. І ён зразумеў. «Я падабаюся ёй»,— з разгубленасцю і шкадаваннем падумаў Лутошкін. Ніколі не быў ён лавеласам. Ён ведаў, што ў жыцці ёсць каханне, крапелькай такога кахання і ён наталіў калісьці сваё сасмяглае сэрца. Але ведаў і другое...

— Давайце яму, Агапа Харытонаўна, перад ядой вось гэтага парашку,— сказаў Лутошкін, стараючыся не дужа глядзець на яе.

Агапка разам з сынам паднялася з прызбы, узяла парашкі, усміхнулася:

— Вялікае дзякуй вам, Ляксеевіч.— Потым, падаўшы на развітанне тонкую цёплую руку, паабяцала: — Я вам за ваша добрае сэрца, Ляксеевіч, торбу сушаных уюноў дам і свінога кумпячка. Віця прынясе.

Барыс Аляксеевіч зморшчыўся:

— І не падумайце гэта зрабіць. У мяне прынцып. На пражытак у мяне ёсць, за стол Аўдолі плачу. Нічога не трэба, Агапа Харытонаўна.

Агапка глянула на яго, як прапякла цёмнымі вачамі, ціха сказала:

— Дзіўны вы... Не сустракала такога...— І хуценька пайшла з двара.

Лутошкін павольна прайшоўся туды-сюды, пасядзеў на ганку, глянуў у гарод, дзе ў кучах ляжалі гарбузы, вялікія і маленькія, жоўтыя і чорна-зялёныя, стракатыя і аднаколерныя. Заўтра Прахор усцягне іх на страху хлява, і будуць ляжаць яны, як сытыя парсючкі, падставіўшы бакі яшчэ цёпламу вераснёўскаму сонцу. А потым Аўдоля будзе цэлымі палавінкамі смажыць іх у печы, варыць гарбузовую кашу, сушыць на блясе і на патэльнях белыя духмяныя семкі.

Усё-ткі як шмат ціхіх радасцей дае чалавеку сялянскае жыццё! Штодзённае адчуванне бессмяротнай зямлі, пошум дрэў, якія растуць, цвітуць і даюць плады на тваіх вачах, кругаварот прыроды, шаленства грымучых навальніц і белая бязважкасць першага снегу, вясновы прылёт птушак і тужлівы вырай — усё гэта ўзвышае душу чалавечую, робіць яе спагадлівай і мудрай. Ты жывеш у пракаветнай драўлянай хаце і, ці робіш, ці спіш, помніш, што побач з табою, усяго за некалькі дзесяткаў крокаў ад цябе, жывуць пчала, ластаўка, мурашка. Нябачнымі ніцямі назаўсёды злучаны ты з імі.

Так думаў Барыс Аляксеевіч Лутошкін, седзячы на вясковай прызбе, заплюшчыўшы вочы, падставіўшы твар ветру і сонечным промням. У гэтыя імгненні ён быў шчаслівы, як можа быць шчаслівай дзікая лясная кветка, што расце на невядомай людзям паляне, паміж дрымучага бору, і ў госці да якой наведваюцца толькі паўдзённае сонца ды залатавокі чорна-чырвоны чмель.

— Гэй, хто ў хаце ёсць?! — крыкнулі раптам з вуліцы, і ён уздрыгнуў, расплюшчыў вочы.

— Выходзь на вуліцу! — загадваў нізкі ўладны голас. Барыс Аляксеевіч устаў з прызбы, выглянуў за веснічкі. Двое конных стражнікаў, п'янаватыя, з бізунамі ў руках, убачылі яго, і адзін няўклюдна палез з каня на зямлю. Ён заблытаўся нагою ў стрэмені, вылаяўся і нарэшце падышоў да Лутошкіна.

— Ты Антон Радзімовіч? — сіплым, з прысвістам, голасам спытаўся ён.— А ну збірайся! Загадана завезці цябе ва ўправу.

У стражніка быў бледны, увесь у прышчах і балячках твар. Яшчэ ў стражніка была на дзіва тонкая шыя, яе, здаецца, можна было перашчыкнуць двума пальцамі.

— Збірайся! — закрычаў раптам стражнік і схапіў Лутошкіна за плячо.

Барыс Аляксеевіч пахіснуўся і, страціўшы раўнавагу, ударыў плячом на стражніка. Той не ўтрымаўся на нагах, упаў.

— Дык ты яшчэ штурхацца будзеш? — залямантаваў стражнік.— А ну, Пракаповіч, змаж яму бізуна!

Той, што сядзеў на кані, лена, не дужа моцна махнуў бізуном, і тонкая пякучая сырыца абвілася вакол плячэй Барыса Аляксеевіча. Боль быў не дужа вялікі, але ён ашаламіў Лутошкіна. Яго білі! Білі ўпершыню ў жыцці, калі не лічыць дзіцячыя бяскрыўдныя шлепкачы, якія зрэдзь часу перападалі ад маці ў трох-чатырохгадовым узросце. А зараз яго білі, як б'юць жывёлу, раўнадушна і зняважліва.

У Барыса Аляксеевіча пацямнела ўваччу ад гневу. Як і ўсе надзеленыя вялікай сілай і вялікім целам людзі, ён быў дабрадушны, ціхмяны, біцца не любіў.

«Я заб'ю яго,— падумаў Барыс Аляксеевіч.— Зараз я сцягну яго з сядла і задушу».

— Ну, ты... Ну, ты... Асцярожней,— зразумеў, спалохаўся стражнік і пачаў адварочваць каня. Ён падаўся тулавам назад, падкурчыў ногі, бо тоўстыя пальцы Лутошкіна ўпіваліся ўжо ў наваксаваны бот. Барыс Аляксеевіч ужо сцягваў стражніка на зямлю, і той вішчаў, як парасё, і ўсё хацеў пацэліць у твар Барысу Аляксеевічу рукаяткай бізуна.

— Гэта ж не Антон Радзімовіч. Гэта маскоўскі доктар,— сказалі раптам за спіною. І Лутошкін адразу ж адчуў страшэнную апатыю, стому. Рукі зрабіліся як папяровыя.

Стражнік, узбадзёраны тым, што выслізнуў з жалезных рук, ад'ехаў трохі ад Барыса Аляксеевіча, сказаў са з'едлівасцю ў голасе:

— У яго ж на лобе не напісана, хто ён. А бізуна і доктару не шкодзіць пакаштаваць.

Гікнуўшы, ён з таварышам памчаўся ад хаты Радзімовічаў.

Барыс Аляксеевіч азірнуўся. Сярэдняга росту, худы, цёмнавалосы селянін стаяў крокі за тры ад яго, прыязна глядзеў маленькімі васільковымі вачамі. У яго на плячах быў лаплены аўстрыйскі шынель, падпяразаны вяроўкай. Быў ён босы.

— Бачу я, валтузяць некага гэтыя жывадзёры. Аж гэта вы,— ціхім, прабачлівым голасам казаў ён, быццам пёк яго сорам ад таго, што ўбачыў Лутошкіна ў такой непрыемнай сітуацыі.

Барыс Аляксеевіч астываў. Сэрца яшчэ бухала ў грудзях, але гнеўлівы туман, што хвіліну назад сляпіў вочы, пакрысе сплываў. «Сам вінаваты. Сказаў бы адразу, хто я, і гэты Пракаповіч не крануў бы»,— падумаў Лутошкін, але ўсё роўна рашыў, што сёння ж пойдзе ў валасную ўправу і паскардзіцца на стражнікаў.

— Вялікім дастаецца,— усміхнуўшыся, сказаў ён, маючы на ўвазе свае магутныя габарыты.

— У нас кажуць: вялікаму каню — вялікі хамут,— таксама ўсміхнуўся цёмнавалосы селянін.

Яны прыселі на лавачку, разгаварыліся. Прозвішча ў селяніна было Храмянок, Рыгор Храмянок. Ён прапанаваў Барысу Аляксеевічу закурыць, і той не адмовіўся, задыміў цыгаркай.

— Праўда, што вы бясплатна лечыце? — пацікавіўся Храмянок.

— Праўда. Я толькі ў крайніх выпадках, калі ў мяне выходзяць прадукты, бяру што-небудзь з яды.

— Няўжо вам грошы не патрэбны?

— Уявіце сабе, што не патрэбны. Я веру ў чалавека, а ён вышэй за грошы. Ды прытым грошы ў наш час — рэч ненадзейная. Я бачыў, як імі сцены абклейвалі.

Храмянок слухаў вельмі ўважліва, час ад часу згодна ківаў галавою. Барысу Аляксеевічу ён спадабаўся сваёй памяркоўнасцю, ненастырнасцю, што наогул было ўласціва ўсім тутэйшым мужыкам.

— А ці праўда, што ў Германіі хутка рэвалюцыя будзе? — спытаўся Храмянок і прытушыў цыгарку.

— Вось гэта я не ведаю,— адказаў Барыс Аляксеевіч.— Я доктар. Мой абавязак лячыць хворых.

Храмянок глянуў на Лутошкіна ўважлівей. Барыс жа Аляксеевіч успомніў раптам, як біў яго стражнік, і зморшчыўся ад сораму.

Вечарэла. Ужо прыйшла ў хату Аўдоля, запаліла ў печы, і на цёмных шыбах заскакаў вірлівы залацісты клубок водбліскаў. Клён шумеў, буркатаў непадалёку, быццам быў

нечым незадаволены. Карова мыкнула млявым голасам. Зыкі вечаровага жыцця былі нягучныя, мяккія.

— А ў мяне плату вы возьмеце,— сказаў раптам Храмянок.

— Якую плату? За што?

— Жонка мая павінна неўзабаве разрадзіцца. Сёмае дзіцятка я чакаю. Дык паклічу, будзеце ўжо ласкавы, вас. Бабка Еўка таксама будзе. Без яе нейк неспадручна. Але і вы ўжо забяжыце.— Храмянок змоўк, а потым дадаў: — Хачу я, каб хоць гэтае дзіця маё свет з доктарам убачыла. А родзіцца яно добра, не бойцеся. Жонка ў мяне здаровая. Дзеці з яе, як качаны капусты, выкочваюцца.— Ён устаў з лавачкі, сказаў: — То будзьце здаровы.

І пайшоў у цемру. Чутно было, як мякка шлёпаюць па зямлі яговыя босыя ногі.

Назаўтра зноў пагналі чмялёўцаў капаць графскую бульбу. Барыс Аляксеевіч пайшоў на поле пешшу, бо не хацелася турбаваць Прахора з яго Вільгельмам. Але Прахор, стоячы на поўны рост у калёсах, дагнаў яго ўжо за вёскай, сказаў:

— Садзіся, доктар. Чаго ногі біць?

Барыс Аляксеевіч сеў, нязручна падкурчыўшы доўгія ногі, трымаючы ў руках вялікі лазовы кошык. На каляінах так трасло, так падкідвала, што ў вушах стаяў звон, а ў жываце нешта тоненька булькала.

— Знайшоўся наш Антон,— азірнуўшыся на Лутошкіна, весела сказаў Прахор. Твар у яго быў задаволены, светлы.

— Дзе ж Антон? — зацікавіўся Барыс Аляксеевіч.

— І не дадумаешся. Гэ-гэ... Мой Антон не дурны, не які-небудзь Сырамалот. У маёнтку Антон. З самім Незабітоўскім і з Аркадзем Гайкевічам чай п'е. За свайго яны яго прызналі. Гэ-гэ... Бульбу ў баразне пакінуў. Майму Антону не бульбу капаць, а самы раз аканомам быць, на месцы гэтага ёлупня Гаранка.

Барыс Аляксеевіч нічога не разумеў. Чаму Антон у маёнтку? Чаму п'е чай з графам? То ўцякаў у лес, як заяц, а тут раптам такое...

— Хто такі гэты Гайкевіч? — спытаўся ён у Прахора.

— Сынок нашага былога аканома. З Мінска прыехаў. Беларускае начальства яго сюды прыслала, каб, значыць, весці гэтую самую... як яе?.. Агітацыю.

— За каго ж ён агітуе?

— Ды бог яго ведае. За беларускую дзяржаву, кажуць.

Барыс Аляксеевіч болей ні пра што не распытваў, змоўк. Чэсна кажучы, раней, да вайны з Германіяй, нічога не чуў ён пра беларусаў. Былі велікарусы і іншародцы, былі палякі, фіны і армяне. А тут раптам аб'явіўся цэлы народ. Ды не дзе-небудзь паміж стараверскіх лясоў, а каля Смаленска, пад самым бокам у Масквы. Дзе ж ён быў ра-

ней, гэты народ? Няўжо так моцна спаў? А можа яго проста не хацелі заўважаць?

Прыехалі на поле. Прахор пачаў звозіць у бурт бульбу, а Барыс Аляксеевіч заняў баразну. Марудліва выкалупваў ён з зямлі чырвона-шэрыя клубні. Спіна балела, была як драўляная.

«Вот бы ўбачылі зараз мяне маскоўскія сябры,— думаў ён.— Жоначка б убачыла. Было б размоў на ўвесь Арбат. Барыс Аляксеевіч Лутошкін, дваранін, блакітная кроў, доктар медыцыны, як нейкі сляпы крот, капаецца ў зямлі. Яму пад пазногці — ах! — набіваецца чорны, брудны пясок, у якім трапляюцца кавалачкі перагною. А перагной гэты вясною вывезлі на поле з-пад сялянскай каровы, з-пад каня».

Лутошкін выпрастаўся, глянуў наўкол сябе. Дзесяткі людзей, жанчыны, дзяўчаты, мужчыны і нават дзеці, сагнуўшыся, марудліва ішлі над баразнамі. Не было радасці на іхніх тварах. Пад чужым прымусам рабілі яны сваю нялёгкую, нецікавую, непрыгожую работу.

«Што мне з таго, што скажа ці падумае Арбат? — зноў нахіліўся ён над сваёй баразною.— Я сам выбраў гэта. Я хацеў пажыць жыццём народа. Не таго народа, з лубкоў, што іграе на балалайках, водзіць карагоды. Я хацеў пажыць жыццём смерда, хлопа, спаць так, як спіць ён, есці так, рабіць, хварэць ягонымі хваробамі, дыхаць чадам ягонай курнай хаціны. У гэтым — ачышчэнне і выратаванне. Спазнаць лёс можна толькі з ягоных каранёў. Сам Леў Талстой прайшоў праз гэта».

Але праз якую пару гадзін высокія думкі паступова пакінулі Барыса Аляксеевіча. Засталася толькі, і з кожным імгненнем мацнела, цяжкая свінцовая стома. Яму хацелася кінуць кошык, легчы на баразну, на мяккую пульхную зямлю. Вочы заліваў пот, нылі ўсе косці.

Высыпаючы ў фурманку Прахору бульбу, Барыс Аляксеевіч пачуў, як перашэптваліся на суседняй баразне жанчыны.

— Дурны нейкі доктар...

— Кажуць, жонку сваю забіў... І вось сюды яго, на катаргу, прыгналі...

— А чым для яго тутака не катарга? Бач, рукі белыя які...

— Тоўсты ён і патанчэць хоча... А таўстоцце з потам выходзіць.

Народ зноў не разумеў Барыса Аляксеевіча. Быў Лутошкін белай варонай, якая выпадкова, на гора сабе, на смех суседзям, села на чорную раллю, паміж чорных зласлівых варон.

«Заўтра не пайду. І сапраўды, я — круглы дурань»,— падумаў Барыс Аляксеевіч. Панура паплёўся ён да сваёй баразны.

— Ляксеевіч,— весела пачулася за спіною,— Ляксеевіч.

Лутошкін азірнуўся. Агапка Шамаль, у сіняй паддзёвачцы, у зялёнай хустцы, ішла да яго. Шчокі расчырванелыя, а ў вачах залатыя іскры ўспыхваюць. Вось параўнялася, узяла з ягоных рук кошык, сказала:

— Давайце памагу... Цяжка табе, Ляксеевіч, такім дзелам займацца. Тут спіна крэпкая трэба.

І, прыгнуўшыся, жвава пайшла ўздоўж баразны, быццам стомы не ведала, быццам радасць адзіная была для яе ў гэтым капанні. Лутошкін таксама памкнуўся быў капаць, але яна спыніла яго:

— Адпачні... Ты лепей кошыкі адносъ.

І ён цягаў да фурманкі, а потым і да бурта поўныя цяжкія кошыкі, бачыў, як цікаўна глядзяць на яго і на Агапку жанчыны, і не баяўся, не саромеўся іхніх пагляда́ў. Нешта ажыло ў ім, расправіла крылы.

Нарэшце скончыўся доўгі, пакутлівы дзень. Барыс Аляксеевіч адчуваў сябе, як матрос, што ўпершыню схадзіў у мора. Патармасіла яго там, пагайдала, пабіла аб сталёвую палубу, і вось сышоў ён на бераг, і ногі не слухаюцца яго, і галава кружыцца, і ў грудзях нейкая халодная пустэча, быццам зараз пачне ванітаваць.

— Нарабіўся, Ляксеевіч,— спагадліва сказала Агапка.— Не лезь у фурманку. Там зноў цябе раскалоціць. Давай памалу пешшу пойдзем.

Яны пайшлі па жоўтай чэрствай дарозе, і Барысу Аляксеевічу ўсё хацелася прысесці дзе-небудзь, заплюшчыць вочы, пакласці гарачыя ад мазалёў рукі на халодную траву. Ручкай ад кошыка ён нацёр на правай руцэ вялікі крывавы мазоль, ішоў, разглядаў яго, хукаў на яго і дзівіўся: «У мяне на руцэ мазоль. У мяне, які толькі чуў пра мазалі на лекцыях урача-дэрматолага».

Пад'ехаў Прахор, стоячы ў фурманцы. Глянуў на Лутошкіна, на Агапку, сказаў:

— Сядай, доктар. Замарыўся ты сёння.

— Не хачу,— адмоўна хітануў галавою Барыс Аляксеевіч.— Лепш прайду паціху.

— Хай ён пройдзе,— прамовіла і Агапка.

— А ты што, як курыца, лезеш у чужы гарод? — цыкнуў на яе Прахор.— Ты што — раўня яму? Можа мужыком сваім хочаш зрабіць? Можа маскоўскай мадамай збіраешся стаць?

— Не кажыце так,— строга глянуў на Прахора Лутошкін.

— Доктар, доктар, не ведаеш ты яе. Вірлавокая яна. Вочы так паставіць, задам пакруціць, і мужыкі — вядома, слабая душа — бягуць за ёю.

— Не кажыце так,— зноў паўтарыў Барыс Аляксеевіч.— Вы не маеце права так гаварыць пра жанчыну.

— Гэ-гэ... Жанчыну...— скрывіў ва ўсмешцы рот Прахор.— На гэтую жанчыну трэба добрую ляйчыну.

Твар у Агапкі раптам пачырванеў, вочы заблішчалі, грудзі ўзняліся пад сіняй паддзёвачкай. Яна поўнай жме-

няй схапіла з дарогі шорсткага пяску, сыпанула Прахору ў вочы.

— Ты што, чортава баба? — вылаяўся Прахор і ад нечаканасці плюхнуўся, сеў у сваёй фурманцы.

Агапка выдзерла з яго рук пугу, шлёгнула з усяе сілы каня, і той спуджана панёсся па дарозе. Усё гэта яна зрабіла моўчкі, выцерла рукі ад пяску, засунула іх у кішэні паддзёвачкі, глянула на Барыса Аляксеевіча і, ціха сказаўшы:— Бывайце. Да заўтра,— хуценька пайшла наперад.

Лутошкін застаўся адзін. Ён хацеў паклікаць Агапку, нават паклікаў, але тая нібы не пачула, надбавіла кроку. Змяркалася.

Назаўтра Барыс Аляксеевіч не выйшаў на работу, і ніхто яго не стаў прыганяць. Хапала і без яго людзей. Ён пайшоў у валасную ўправу, каб паскардзіцца на стражніка Пракаповіча Рэхлінгу. Капітана не было. Скаргу выслухаў шуцман Функ, сказаў, што разбярэцца, а ў вачах былі недаўменне і здзіўленне. «Нічога ён не зробіць. Ён глядзіць на мяне, як на марсіяніна,— падумаў Барыс Аляксеевіч.— Ды якога марсіяніна? Як на ідыёта».

А праз два дні, трымаючы за руку Віцю, прыйшла Агапка. Аўдолі з Прахорам не было ў хаце, Антон не вяртаўся з маёнтка, і толькі адзін Лутошкін, седзячы на табурэтцы, уздзеўшы на шавецкую жалезную лапу бот, біў малатком, заганяў у падэшву драўляныя цвікі. На бульбяным полі разлезліся ягоныя апошнія боты, ён мог бы купіць новыя, з'ездзіўшы ў Ігумен,— грошы яшчэ былі. Але ён ведаў, што Леў Талстой сам сабе рамантаваў боты, хоць быў графам, і таксама ўзяўся за работу. Цвікі ламаліся, малаток разы са два, сашчаўкнуўшыся, балюча плеснуў па пальцах.

Агапка ўвайшла ў хату якраз тады, як Барыс Аляксеевіч хукаў на пабітыя пальцы, паклаўшы іх у рот. Ён здаваўся вялікім смешным дзіцём, якое крадком ад дарослых забралася ў кладоўку і злізвае там смятану або варэнне.

Убачыўшы Агапку, Лутошкін разгубіўся. Хуценька выцягнуў з рота руку і нават схаваў яе за спіну.

— Добры дзень у хату,— звонка сказала Агапка і зрабіла выгляд, што не заўважыла разгубленасці Барыса Аляксеевіча.— А я думаю сабе — хто гэта грукае? Можа Аўдоля ў ступе што таўчэ... Аж гэта Ляксеевіч боты падбівае.

Яна падышла бліжэй — Віця застаўся стаяць у парозе,— лёгенька пакратала бот рукою.

— Аж падэшва гарачая. Ты не так часта, Ляксеевіч, бі, а то падэшву праб'еш...

У цёмных вялікіх вачах жылі смяшынкі.

Барыс Аляксеевіч адразу перавёў гаворку ў іншае рэчышча.

— Што ў цябе, Віця, забалела? — падышоў ён да малога.

Малы заміргаў такімі ж цёмнымі, як у маці, вачамі, памуляўся, уздыхнуў і раптам адказаў:

— Нічога.

Тут ужо Агапка разгубілася. Хуценька падышла да сына, сказала, пагладзіўшы яго па галаве:

— А ты жаліўся, што ў жываце пячэ.

— Нічога ў мяне не пячэ, мамка,— буркнуў сын.

— Ідзі на вуліцу,— загадала Агапка.

Малы выйшаў, і ў хаце ўсталявалася цішыня. Дзумкала муха, б'ючыся ў мутную шыбу. Шашаль рабіў сваю адвечную работу — грыз дрэва.

— Сядайце, Агапа Харытонаўна,— сказаў Лутошкін і пасунуў да яе табурэтку.

Але Агапка адмовілася. Стаяла пасярод хаты, глядзела на Барыса Аляксеевіча.

— Дзіўна вы жывяце,— сказала нарэшце, нечакана перайшоўшы на «вы». — Прыйшлі, прыбіліся са свету, прыляцелі, як той шпак вясною. І зноў ад нас у вырай паляціцё. Так?

Барыс Аляксеевіч маўчаў. Ён не ведаў, што азначаюць словы «шпак» і «вырай». «Пэўна, пра птушак гаворыць»,— падумаў ён. Параўнанне з птушкаю ў душы рассмяшыла яго. «Нічога сабе верабейчык — Барыс Аляксеевіч Лутошкін. Калі і птушка, то які-небудзь выкапнёвы гіганцкі яшчар, што меў крылы сажні на тры даўжынёю».

— Ляксеевіч,— не дачакаўшыся ягоных слоў, падышла бліжэй Агапка.— Чаго ты будзеш тут жыць? У гэтага Прахора... Бачыў, які ён звяруга. Хочаш — перабірайся да мяне. У нас з Віцем чыста, ціха. Людзей лячыць у нас будзеш.

Яна глядзела на Лутошкіна з такім чаканнем, з такой надзеяй, што цяжка было вытрымаць яе пагляд. Барыс Аляксеевіч разгублена круціў у руках малаток; уся ягоная вялізная фігура як бы меншала, сціскалася; ён, зморшчыўшы лоб, аб нечым пакутліва думаў.

— Ды не бойся, не з'ем я цябе,— раптам звонка засмяялася Агапка.— Палахлівец ты, Ляксеевіч.

— Можна і перабрацца,— сказаў нарэшце Барыс Аляксеевіч.— Чаму б не перабрацца, калі запрашаюць. Я перабяруся. Толькі заўтра. А то гаспадар сапраўды коса на мяне глядзіць.

У Агапкі радасна заіскрыліся вочы, запунсавелі шчокі. Удзячна глянуўшы на Лутошкіна, яна хуценька выйшла з хаты і толькі сказала напаследак:

— Да заўтра, Ляксеевіч.

Барыс Аляксеевіч зноў сеў на табурэт, але не дакрануўся да свайго бота і нават малаток паклаў. Толькі тут ён заўважыў, што стаяў перад Агапкай у адным боце. Ён глядзеў на сваю босую нагу, шавяліў пальцамі, і было неадольнае адчуванне, што гэта нага не ягоная, чужая — такая яна была шырокая, незагарэлая, непрыгожая, з расплюснутымі карычневымі пазногцямі.

Ён выйшаў на двор, стаў у прыцемках, пачаў глядзець на зорнае неба. Халаднаваты ветрык залазіў пад кашулю, і разагрэтае цела злёгку ўздрыгвала, наструньвалася.

Раптам цёмная чалавечая постаць аддзялілася ад плота, пайшла да Лутошкіна. Барыс Аляксеевіч міжволі зрабіў крок назад.

— Хто гэта? — спытаўся чалавек.

— А вы хто? — Барыс Аляксеевіч, каб супакоіць хваляванне, кашлянуў.

— Я жыву ў гэтай хаце... Жыў,— сказаў чалавек, і Барыс Аляксеевіч здагадаўся: «Кузьма. Прахораў сын. Той, што партызаніць».

— А я доктар. Кватарую ў вас,— злёгку пакланіўся Барыс Аляксеевіч.

— Вунь яно што...

Кузьма, трымаючы ў руцэ вінтоўку, спыніўся насупраць Лутошкіна, глядзеў пранізліва і сурова. Твар ягоны аброс густой чорнай барадою, вусы былі святлейшыя, нават з рудоцінкай.

— Вунь яно што,— павольна сказаў Кузьма.— А я стаю пад клёнам і гляджу на хату. Думаю: павінна ж маці выйсці да каровы. Аж вы выйшлі... Незнаёмы чалавек. Думаю: мо злодзей...

— Аўдоля Герасімаўна пайшла, здаецца, на радзіны. І Прахор Ігнатавіч з ёю. Ды вы заходзьце ў хату.

— Іншым часам. А дзе Антон? Дома?

— Антон у валаснай управе пісарам робіць. Тут ягоны сябра аб'явіўся — Аркадзь Гайкевіч...

— Пісарам?

Твар у Кузьмы аж выцягнуўся. Ён, здалося, на пальчыкі ўстаў, каб бліжэй глянуць у вочы Лутошкіну і пераканацца, ці не жартуе або ці не хлусіць той.

— Так, пісарам. Яго ўгаварылі, і ён згадзіўся. Дома ён вельмі рэдка начуе. Усё больш у маёнтку.

— Пісака,— хмурнеючы тварам, зморшчыўся Кузьма. Навіна, бачыў Барыс Аляксеевіч, вельмі засмуціла і раззлавала яго. Ён глянуў на хату, на двор, ямчэй узяўся рукою за рэмень вінтоўкі і сказаў: — Калі ўбачыце яго, Антона, скажыце яму, каб адразу ж кідаў гэтую сваю работу. Адразу ж! Скажыце: брат так загадаў, Кузьма. Не паслухаецца — дрэнна яму будзе. Так і скажыце.

— Дык Антон жа, усе кажуць, не крыўдзіць людзей. Стараецца па сумленню рабіць, па справядлівасці,— асцярожна падаў голас Барыс Аляксеевіч.

Вочы ў Кузьмы пацямнелі ад злосці.

— Перадайце яму, што я прыйду з лесу і, калі ён не кіне сваю паскудную работу, галаву яму адкручу, як пеўню.

Кузьма нахіліў галаву, больш нічога не сказаў, бясшумна пайшоў у цемру. Няўлоўна прашалясцелі ягоныя крокі ў гародзе, і ўсё сціхла. Толькі клён зашумеў галасней, быццам нешта хацеў сказаць Кузьме на дарогу.

Назаўтра Барыс Аляксеевіч вялізнымі крокамі шыбаваў па вуліцы і ўсёй істотай адчуваў, як дзесяткі вачэй сочаць за ім. Бабы пераставалі абіраць бульбу або паліць у печы, мужчыны выходзілі з хлявоў і з-пад паветак, дзецi кідалі гуляць у пікара і лазіць па ліпах. Во якую ўсеагульную цікавасць выклікала шэсце доктара! І калі ён пасля хаты Сямёна-артылерыста пакіраваў у завулак, калі абмінуў глыбокую лужыну, у якой плавалі качкі, і завярнуў на падворак Агапкі Шамаль і яна, расчырванелая, сустрэла яго на ганку, усе Чмялі здзіўлена вохнулі:

— У прымы пайшоў!

# XI

Антон трымаў у руцэ сярэбраную чарачку і глядзеў, як, саскочыўшы з фурманкі, падыходзіць да яго Аркадзь Гайкевіч. Ішоў Аркадзь размашыста, упэўнена і казаў, усміхаючыся:

— Каго я бачу? Няўжо гэта ты, Антон? Жывы? Ну і малайчына. Вось дык малайчына.— Ён падышоў, працягнуў руку:— Здароў, Антон.

Аркадзь мала змяніўся за той час, як яны не бачыліся. Быў такі ж русявы, з чыстым, загарэлым тварам, з густой сінню ў вачах. Толькі маршчынак ля вачэй і ў куточках рота дабавілася ды плечы ледзь прыкметна апусціліся.

— Здароў жа,— не апускаў руку Аркадзь.

— Няхай ён вып'е спачатку за маё з Бедункевічам сямейнае шчасце,— усміхнулася Зінаіда.

Антон выпіў чарачку, паставіў яе на сподак. Зінаіда пайшла да фурманкі.

— Едзьце без нас,— махнуў рукой Аркадзь.— Пачакайце нас каля вогнішча.— І адразу ж павярнуўся да Антона:— Ну, расказвай, што з табой было?

— А што расказваць? — холадна глянуў на яго Антон.— Ты і сам усё помніш. Як мяне, параненага, кінуў у снезе, як хату паліў. Нічога не магу я табе расказаць.

— Ну, не кіпяціся, Антон, не кіпяціся,— Гайкевіч хацеў узяць Антона пад руку, але той адхіснуўся.

— Давай прысядзем, паталкуем,— прапанаваў Аркадзь і першы сеў на пянёк, што тырчаў узбоч дарогі. Антон стаяў.— Ты думаеш, мне лёгка было? Гэты самы Скальскі і мяне ледзь не застрэліў. Ён як шалёны стаў, калі чырвоныя пачалі ціснуць з усіх бакоў. Яго потым параніла пад Асіповічамі, руку адарвала, і ён крывёю сышоў. А мы, ты і я, як бачыш, жывыя. Я, як абвясцілі Беларускую народную рэспубліку, у Мінску ў генерала Кандратовіча быў. Але ваяка з мяне дрэнны, цывільная душа ўва мне сядзіць. І адпрасіўся я ў Чмялі, на радзіму. Новую Беларусь будаваць трэба, Антон. Сваімі рукамі будаваць. Без бальшавікоў і,— ён трохі сцішыў голас,— без немцаў. Пакуль што немцы гаспадары ў нашым краі, але паступова

яны аддадуць кіраванне нам. Украінцам яны здорава дапамаглі і нам дапамогуць, калі мы будзем разумныя.

— А ці ведаеш ты, што немцы твае хутка пабягуць дадому, як мокрыя мышы? — сказаў яму Антон. Сказаў наўмысна вясёлым голасам, каб падкалоць Гайкевіча. Ён ужо ведаў, што ніколі болей не паверыць Аркадзевым словам, і гэтая незалежнасць, гэтая самастойнасць прыемна бадзёрыла сэрца.

— Не жартуй,— спахмурнеў Гайкевіч.— Не жартуй. Нам не трэба, каб немцы беглі адсюль. Без іх бальшавікі нас голымі рукамі возьмуць.

— Я не жартую,— усміхнуўся Антон.— Усе так кажуць. А каму гэта «нам» трэба, каб немцы тут засталіся?

— Нам, беларусам.

— Але ж беларус не толькі ты. Беларус і Андрэй Бацюта, і Яўхім Сцепанюга, і Мішка Сырамалот, і наш Кузьма.

— Бальшавікоў наслухаўся,— узняўся з пянька Гайкевіч.— Можа і сам бальшавіком стаў?

— Не стаў,— адказаў Антон і сеў на пянёк.— Я хачу жыць так, як мне мая душа гаворыць. А душа мне гаворыць: сядзі на бацькавай зямлі, чэсна працуй, не слухай разумнікаў, а сам з сабою райся. Разумнікі любяць вучыць, кіраваць, камандаваць. А я сам сабой хачу камандаваць.

— Ну-ну,— уважліва паглядзеў на яго Гайкевіч.— Каша ў цябе ў галаве.

— Каша, ды мая.

— Хацеў я, Антон, табе памагчы, ды бачу, што не трэба мая дапамога.

— Ты хацеў мне памагчы? — падышоў бліжэй, стаў побач з Аркадзем Антон.— Тады зрабі так, каб я не ўпякаў са сваёй вёскі, абарані ад Гаранка.

І ён расказаў Гайкевічу пра тое, што здарылася на бульбяным полі. Расказваў, а сам глядзеў на ягоны твар.

— Думаю, што дапамагу,— паклаў яму руку на плячо Гайкевіч.— Капітан Рэхлінг мяне паслухае. І Шмарлоўскага я ведаю. А Кандрат Гаранок не пікне.

Яны пайшлі па дарозе, пайшлі туды, дзе каля ляснога вогнішча спявала і танцавала вяселле.

Гайкевіч стрымаў слова. Капітан Рэхлінг, выслухаўшы яго, паклікаў да сябе Антона, спытаў, хто ягоныя бацькі, што ён умее рабіць, і, даведаўшыся, што Антон першы ў вёсцы грамацей, прызначыў яго пісарам. Так апынуўся Антон у валасной управе.

Нечаканая пасада спачатку напалохала Антона. Як гляне ён у вочы аднавяскоўцам? Падумаюць людзі, што немцам прадаўся. Але назаўтра ж прыйшоў бацька, агледзеў пакойчык, у якім сядзеў Антон, сказаў:

— Ты цяпер, Антон, як важны пан. Вот каб дзед Ігнат цябе зараз пабачыў.— І вочы ў бацькі былі шчаслівыя.

Пакрысе да Антона вярнулася ўпэўненасць. «Не я, дык нехта б другі сядзеў на гэтым месцы»,— думаў ён і, па-

мачыўшы ручку ў чарніліцу, выпісваў пропуск якому-небудзь дзядзьку на права выезду з Чмялёў. З Гайкевічам ён стараўся не вадзіць кампанію.

У маёнтку выдзелілі яму невялікі пакойчык, і ён жыў там, толькі зрэдзь часу наведваючыся дахаты. Упершыню прыйшоўшы ў той пакой, ён успомніў, што ўжо аднойчы быў тут. Успомніў ён зімовы снежны дзень, кавалак чырвонай матэрыі на падлозе і ўсхваляваны голас Мішкі Сырамалота:

— Вось тут, уверсе, напішы, Антон: «Смерць капіталу!»

Як даўно было гэта! Як змянілася ўсё з таго часу!

Здавалася, ён знайшоў тое, што шукаў — цішыню. Праўда, няпроста яна яму далася, трэба было служыць пад камандай капітана Рэхлінга, але ён супакойваў сябе тым, што іншыя людзі нясуць яшчэ больш цяжкі крыж. І яшчэ думаў ён, што ніводнай чалавечай крывінкі ніколі не будзе на ягоным сумленні, бо ён мае справу толькі з паперай і чарнілам.

Прайшоў тыдзень, другі, уранні і ўначы пачалі надарацца замаразкі, нават ужо раз снег папырхаў над зямлёю, і пацягнула Антона да Барыса Аляксеевіча Лутошкіна. Захацелася даведацца, як жыве доктар на новым месцы, чым займаецца.

Па ціхім завулку дайшоў Антон да Агапчынага двара і спыніўся. На ганку ён убачыў Лутошкіна.

Барыс Аляксеевіч, у белай споднян кашулі, у зялёных вайсковых штанах і ў валёнках, карміў курэй. Ён браў поўную жменю зерня, веерам сыпаў яго па двары, тонкім смешным голасам прыгаворваў:

— Пылі-пылі-пылі...

Куры аддзіскалі адна адну. Толькі чорны певень з вялікім чырвоным грэбенем трымаўся збоку і як бы іранічна паглядаў на сваіх сяброўак.

Нарэшце Барыс Аляксеевіч заўважыў Антона.

— Ідзі сюды,— махнуў ён рукою.

Антон, пудзячы курэй, прайшоў праз двор, паздароўкаўся з Лутошкіным. На твары ў Барыса Аляксеевіча бачылася свежасць, вочы былі спакойныя і лагодныя.

Два шукальнікі цішыні адышліся ў гародчык, селі на вялікі замшэлы валун, што немаведама з якіх часоў ляжаў каля Агапчынай хаты. Абодва не курылі, і таму, каб бавіць час, Лутошкін дастаў з кішэні два яблыкі, адзін аддаў Антону.

— Як ты ладзіш з гэтым Рэхлінгам? — спытаўся Барыс Аляксеевіч.

— А што ладзіць? Што ён скажа, тое і раблю.

Памаўчалі. Было такое ўражанне, што гаварыць няма аб чым. Нарэшце Антон рашыўся задаць пытанне, якое яго дужа цікавіла.

— Скажы,— глянуў ён на Барыса Аляксеевіча,— ты з Агапкай як мужык з жонкай жывеш?

І адразу ж зразумеў, што дарэмна спытаўся. Не спадабаўся Лутошкіну такі паварот размовы. Вейкі ў Барыса Аляксеевіча ўздрыгнулі і знерухомелі.

— Яна дужа харошы чалавек,— маючы на ўвазе Агапку, сказаў Барыс Аляксеевіч.— Я шмат што зразумеў, шмат што быццам упершыню ўбачыў. Такое можна зразумець толькі ў вёсцы, дзе чалавечае карэнне бліжэй за ўсё да зямлі.

Ён так і сказаў — «чалавечае карэнне».

— З тваім братам сустракаўся я,— пасля працяглага маўчання павярнуўся да Антона Барыс Аляксеевіч.

— Ну й што?

— Казаў брат, каб кідаў ты сваё пісарства. Не падабаецца яму, што ты ў Рэхлінга служыш.

— Можа і табе не падабаецца? — злосна спытаўся Антон. Гэты флегматычны здаравяк пачаў выводзіць яго з душэўнай раўнавагі.

— Мне таксама гэта не падабаецца. Ты ж рускі чалавек, а служыш тэўтонам.

— Я беларус,— сказаў Антон.

— Добра,— памяркоўна згадзіўся Барыс Аляксеевіч.— Мне не падабаецца, што ты, славянін, служыш нейкаму Рэхлінгу, заваёўніку, які сядзіць на тваёй зямлі.

— Ну што ж, дзякуй табе,— рэзка ўзняўся з валуна Антон.— Ты, вядома ж, чысценькі. Як божая птушка, расой харчуешся. А хто тваёй Агапцы, калі яна ў Бабруйск ездзіла, пропуск выпісваў? З чыйго дазволу ты людзей у Чмялях лечыш?

— Не сярдуй, Антон,— таксама ўстаў Лутошкін.— Я ж не хацеў цябе пакрыўдзіць. Проста братавы словы табе перадаў.

— У мяне ёсць свая галава. Не трэба братавай,— ляпнуў веснічкамі Антон, хутка пайшоў праз двор на вуліцу.

Пуста было на душы. Хоць ты немым голасам крычы, хоць біся галавою аб паркан. І ўспомніў ён, што, калі па просьбе Мішкі Сырамалота і Сцяпана Гаршкова капаўся ў графскіх кнігах, убачыў старадаўні малюнак, зжаўцелы і сцёрты. На малюнку тым быў чалавек, падарожнік, худы, знясілены, з кійком у руках і торбаю за плячамі. Нямала, відаць, паблукаў ён па свеце, бо падэшвы чаравікаў былі ў дзірках і адзенне свіцілася наскрозь. Прыйшоў нарэшце падарожнік на край зямлі, прабіў, праламаў сваім тулавам шкляны нябесны дах і з надзеяю і з пакутаю на твары глядзіць: а што ж там уперадзе? А ўперадзе — чорная бясконцасць, мёртвая пустка...

Ад Лутошкіна Антон адразу павярнуў да Мікіты Сцепанюгі. Той, усё яшчэ трымаючы на назе ліповыя дошчачкі, дужа ўзрадаваўся, закрычаў вясёлым голасам:

— Мама! А ну цягні нам што-небудзь перакусіць!

Адразу прыбегла Дар'я, на стале з'явіліся бутэлька гарэлкі, хлеб, сала і цыбуля. Выпілі. Гарэлка закружыла галаву, гарачынёй ударыла ў шчокі.

— Мама, нясі балалайку! — закрычаў Мікіта.

Затрэнькалі струны, заматляліся Мікітава рука і русая спатнелая чупрына. Нястройныя гукі здаліся Антону на дзіва прыгожымі, зладжанымі.

— Жывём, Прахаравіч! — падміргнуў вялікім сінім вокам Мікіта, прыцмокнуў языком, падкінуў балалайку, злавіў яе і яшчэ мацней ударыў пальцамі па струнах.

— Дай мне паіграць,— папрасіў Антон, хоць ніколі не браў балалайку ў рукі.

Струны былі слізкія, вырываліся з-пад пальцаў.

— Давай, Антон, давай! — падзуджваў Мікіта, схапіў са стала дзве лыжкі, зашчоўкаў, забраскатаў імі аб калена.

Спалоханая Дар'я, прачыніўшы дзверы, глянула на тое, што робіцца ў хаце, і зноў схавалася. Антон, прыціснуўшы пальцамі левай рукі струны, шморгаў па іх правай рукою, аж пазногцям стала балюча. Раптам з гучным бэмканнем лопнула струна, і скончылася ўся музыка. Мікіта яшчэ трохі паляпаў лыжкамі, потым узяў з рук у Антона балалайку, паглядзеў на парваную струну і шыбнуў балалайку ў дзежку, на краі якой толькі што сядзеў белахвосты кот.

— Хочаш да баб схадзіць? Хочаш? Ды ты не бойся... Я тут знаю адно месца...

Антон нікога не баяўся. Смеласці ягонай хапіла б зараз на пяцярых чалавек. Душа была бадзёрая, радасная. У вушах усё яшчэ гучала музыка. Ён паклаў Мікіту на плячо руку, павольна сказаў:

— Хачу. Але ты ж аднаногі. Як ты пойдзеш на аднойназе? — І засмяяўся.

Мікіта таксама засмяяўся. Нейкі час яны смяяліся разам, потым Мікіта крыкнуў маці:

— Пайду Антона правяду. Дзе мой кіёк?

Дар'я прынесла кіёк, папрасіла:

— Адразу ж вяртайся... Не натруджвай нагу.

Яны вываліліся з хаты, і Мікіта, як толькі апынуўся ў цемры, схаваў свой кіёк пад ганак, скруціў з нагі дошчачкі і таксама схаваў туды ж. Бадзёра тупнуў нагою, і яны пайшлі.

Восеньская ноч была халодная. Рэдка дзе свяціўся агеньчык. Ліпы глуха шумелі над вуліцай, быццам закалыхвалі вёску.

— Ну і гразі ў нашых Чмялях,— шлёпаючы нагамі па лужынах, бурчаў Мікіта.— Як з усяго свету сюды яе звезлі.

Гразі і сапраўды было шмат. І Антон ціснуўся да плота, дзе павінны былі ляжаць кладкі. Але дзе ты ў цемры намацаеш тую кладку?

— Я ведаю, дзе бабы з дзеўкамі збіраюцца,— чуўся наперадзе Мікітаў голас, і Антон трымаўся гэтага голасу.

У Чмялях было аж тры вуліцы. Нямала павадзіў Мікіта Антона, пакуль не падышлі яны да прасторнай, пад

вялізною шапкай страхі, хаты, якая была збудавана глыбока ў двары, глухою сцяной да вуліцы. Вароты былі зачынены знутры.

— Палезем цераз плот,— зашаптаў Мікіта.— Не бойся, сабакі тут няма.

Антон узяўся рукамі за слізкія штыкецiны, неяк ускарабкаўся на плот, скокнуў адтуль на двор, што зарос травой. Мікіта чмякнуўся побач, вылаяўся, пачаў абтрасаць штаны.

«Хто ж тут жыве? — успамінаў Антон.— Не Гаўрыла Крыванос? Не, здаецца. Пэўна, Пятрок Луцэйчык».

Мільготнае святло прабівалася з акна, якое знутры было завешана посцілкай. Падышлі да акна, прыслухаліся. Жаночыя галасы чуліся [redacted] хаты, нават як бы песня гучала. Адчувалася, што народу там шмат.

— Што я казаў? — урачыста абвясціў над вухам Мікіта.— Тут, брат мой, дзевак — якіх хочаш. І чорных, і белых, і рабых. Пайшлі.

Мікіта костачкамі пальцаў пастукаў у акно. Галасы ў хаце сціхлі, нейчая рука адхінула посцілку, і круглы твар прыліп да шкла.

— Адчыніце, дзяўчаты,— весела сказаў Мікіта.

Антон адчуў, як знікае, выветрываецца з галавы п'янка.

Заскрыгатала жалезная зашчапка, і дзверы адчыніліся. Антон [redacted] Мікітам, прыгнуўшы галовы, увайшлі ў цёмныя сенцы, у нерашучасці спыніліся.

— Сюды, сюды ідзіце,— пачуўся мяккі жаночы голас.

— Трэба мне было сваю балалайку ўзяць. Шкада, што ты струну парваў,— таўхнуў Антона пад бок Мікіта, і ў гэты самы час яны апынуліся ў хаце.

У хаце быў паўзмрок. Некалькі тонкіх свечак гарэла на стале, што стаяў у самым куце пад абразамі. Уздоўж сцен стаялі доўгія дубовыя лавы, і на іх, сашчаміўшы на каленях рукі, сядзелі дзесяткі два кабет, пераважна пажылога веку.

— А дзе ж гарманіст, дзяўчаты? — весела гукнуў Мікіта, ступіў крок наперад і раптам асекся. А ў Антона халадок заструменіўся па спіне. «Не туды мы трапілі»,— зразумеў ён.

З-за стала ўзняўся сівы сухі чалавечак з вялізнаю кнігаю ў руках. Кніга была ў скураным пераплёце, абабітая бляшанымі бліскучымі палоскамі. Сівы чалавечак уздзеў на нос акуляры, грозна глянуў на Мікіту з Антонам.

— Хто вас падаслаў сюды? Чаму вы замінаеце нам спяваць святыя песні? Згіньце, дзеці сатаны!

Толькі зараз Антон пазнаў яго. Гэта быў Пятрок Луцэйчык, які ездзіў на заробкі ў Амерыку, нажыў там, як казалі людзі, немалое багацце і, вярнуўшыся дадому, купіў у Запольцах млын. Усё ў яго спачатку ішло добра, жонка была і дзеці, але неўзабаве ў навальніцу згарэў млын, а потым і жонка з дзецьмі збегла да бабруйскага ляснічага. З тых часоў зрабіўся Луцэйчык святым.

— Згіньце! — узняў ён над сабой святую кнігу.

Мікіта з Антонам пацініснуліся да дзвярэй, а потым ірвануліся праз цёмныя сенцы на двор. Услед ім несліся грозныя праклёны святога Луцэйчыка. Так скончыліся іхнія начныя вандраванні, і так у Антона з галавы вылецеў апошні хмель. Зрабілася сорамна і крыўдна. Не развітаўшыся з Мікітам, паплёўся ён дадому.

У хаце, у цяпле, яму стала кепска. Пад грудзі падкочвалася млявасць, галава была быццам не свая — пустая, з цяжкім звонам у скронях. Ён, не распранаючыся, паваліўся, як падсечаны, на ложак. Падышла маці, схілілася над ім, уважліва паглядзела на яго. Маці была ў цёмнай хустцы, святло газнічкі не падала на яе твар, і таму твар выдаваў змрочным, злым.

Усё Антонава цела раптам звёў пакутлівы курч, рукі напружыліся, калені падагнуліся. Ён падкаціўся на край ложка, бяссільна звесіў уніз галаву. Маці хуценька прынесла старое пабітае вядро і, гледзячы, як уздрыгваюць ягоныя нешырокія плечы, як боўтаецца галава, ціха гладзіла яму валасы, казала:

— Хіба ж можна так, сынок? Гэтак мучаешся... Так і памерці нядоўга. Думала, бацька п'е, дык хоць сыны разумнейшыя будуць. Але ж: якое дрэва — такі клін, які бацька — такі й сын.

Яна ўсхліпнула, ён знайшоў яе руку, лёгенька пацісвуў:

— Я не такі, мама... Не такі...

— А які ж ты? — слёзна бліснулі матчыны вочы.— Сэрца маё баліць на цябе пазіраючы. Усё шукаеш нешта, усё выбіраеш. Жаніўся б, сынок. От і ўсё б дзела было. І сам бы паспакайнеў. І мне б нявестка з унукамі на радасць былі ў хаце...

Антон цяжка павярнуў галаву, зноў глянуў на маці. І раптам, як штуршок сэрца, прыйшоў успамін. Даўнодаўно гэта было, аж не верыцца ў такое. Ён успомніў стары здзічэлы сад, густыя зараснікі пякучай шэрай крапівы каля абамшэлага плота. Паміж гэтай крапівы ляжалі на зямлі, нясцерпна зіхцелі пад сонцам, вабілі сэрца прыгожыя рознакаляровыя шкельцы. Можа, хто бутэльку разбіў ды кінуў, можа, так што-небудзь шкляное растаўклі людзі за непатрэбаю, але для дзіцячай кволай душы гэта былі — кавалачкі радасці. З Пятрычом — так звалі суседскага хлопчыка Петрыка — Антон палез у крапіву. Абпяклі босыя ногі, рукі, нават шчокі, а знайшлі стары дубовы пругкі абруч, якімі абцягваюць дзежкі. Адразу забыліся на шкельцы, пачалі гуляць з абручом, расцягваць яго. Петрык трымаў за адзін канец, Антон — за другі. І раптам Антон, быццам хто яго падпіхнуў, выпусціў свой канец абруча. Навошта ён гэта зрабіў? Ён і сам не ведаў. Пятрыч дзіка закрычаў, упаў з залітым крывёю тварам. «Я выбіў яму вока»,— аглушыла, прыціснула да зямлі думка. З гэтаю думкаю кінуўся Антон наўцёкі, бег, спатыкаўся і апамя-

таўся толькі ў малінніку, за дзедавай лазняй. Там яго ўвечары і знайшла маці, несла, прытуліўшы да грудзей, потым мыла ў вялікім ліповым карыце; ён ляжаў у цёплай казытлівай вадзе, высунуўшы з вады толькі твар і, як і зараз, глядзеў на яе знізу ўверх, а яна, маладая, прыгожая, ласкава нахілялася над ім, гаварыла:

— Цэлае вока ў Пятрыча, цэлае... Не плач, сынок.

— Не пі, сынок,— уздыхнула, папрасіла маці, і Антон уздрыгнуў. Потым, калі маці адышлася, ляжаў нерухома, глядзеў на столь, на бэльку, у якую быў увабіты жоўты драўляны крук. На круку гэтым вісела калісьці іхняя з Кузьмой і Дзінаю калыска.

З журботлівым расхваляваным сэрцам Антон заснуў і не ведаў, колькі праспаў, бо, здаецца, адразу ж прахапіўся. Бацькаў голас чуўся ў хаце, незадаволены, сярдзіты голас.

— Ты яго яшчэ на руках панасі, пагушкай,— з'едліва казаў Прахор Аўдолі, якая ў гэты час хацела сцягнуць з Антонавай нагі бот,— цыцку дай яму. Цьфу, баба дурная. А ну, уставай! — падышоў ён да Антона, шмарганууў за плячук.

Антон сеў на ложку, працёр кулаком вочы.

— Не з таго канца жыццё пачынаеш,— спыніўся перад ім Прахор, трымаючы ў руках аброць: пэўна, каня з лугу прыводзіў.

Антон глядзеў на бацьку, нічога не адказваў. Гэта яшчэ болей распаліла Прахора.

— Піць, гуляць, да дзевак бегаць... А рабіць? Хто рабіць будзе? Саветы ці немец за цябе рабіць будуць?

— Я раблю,— нарэшце сказаў Антон і ўстаў.

— Ты робіш... На тваім месцы разумныя людзі золатам абсыпаліся б даўно, на чацвёрцы коней ездзілі б. Сядзіш ва ўправе і не можаш лішнюю капейчыну ў хату прынесці. Шмарлоўскі сала бярэ, Функ, гэты шымпанзе крывабокі, мёд і яйкі бярэ. Усе бяруць.

— І ты бяры,— глянуў на яго Антон.— Заўтра ж сядай на маё месца і бяры.

— Шчанюк! — пацямнеў тварам, крыкнуў Прахор.

—Я з табой на адной сабакарні не быў,— ступіў да парога Антон.

— Ах ты! — Прахор размахнуўся, з усяго пляча ўдарыў аброццю.

Удар прыйшоўся па руцэ, занямелі пальцы. Злосць прарвалася ў душы, такая гарачая, выбуховая, што аж уваччу пацямнела. Антон шмаргануў у бацькі з рук аброць, шыбнуў яе ў запечак. Сам жа ўзяў бацьку загрудкі, тармаснуў, сказаў:

— Табе яшчэ за Яніну нехта рукі аддзярэ. Чуеш? За Яніну!

І выйшаў з хаты.

Ля маёнтка яго перапынілі трое стражнікаў. Асвяцілі ліхтаром твар, спыталі:

— Хто такі?

— Пісар з валасной управы,— адказаў Антон.

— Так і ёсць, хлопцы. Пісар гэта,— сказаў чарнавусы, чырванатвары стражнік, і Антон нават успомніў ягонае прозвішча — Пракаповіч.

— Яго, калі не быў ён яшчэ пісарам, загадана было прывесці ва ўправу і даць па казённаму месцу дваццаць пяць шампалоў. Аж, бач ты, паразумнеў чалавек,— весела тлумачыў сваім сябрам Пракаповіч.

Тыя зарагаталі.

Антон, прыкусіўшы губу, пайшоў у маёнтак, у свой пакойчык. А ззаду ўсё яшчэ гаварылі:

— Шампалоў не пакаштаваў, а за дзеўкамі бегае...

— А тут калей усю ноч на вуліцы, як той сабака...

Прайшло некалькі дзён. Антон увесь час сядзеў ва ўправе, а як змяркалася, цягнуўся ў маёнтак. Дадому ж ні разу не заглянуў. Злосць на бацьку не патухала. Наадварот, калі браў душу одум, злосць гэтая мацнела, затапляла сэрца. Тады ён хадзіў па сваім пакойчыку ўзад-уперад, хадзіў і думаў, думаў...

Нясkладна паварочвалася жыццё. Быццам лішні апынуўся ён на белым свеце. Быццам быў між двух берагоў, і невядома, да якога берага дабірацца. А можа і не трэба яны яму, гэтыя берагі? Можа проста трэба плыць па цячэнні, плыць, куды вада занясе?

«Падзяліўся свет на белых і чырвоных,— думаў ён.— І немцы во, і рускія. У лесе ж, паглядзі, і елкі, і бярозы, і асіны, і дубы растуць. Мірацца між сабою. Усім хапае зямных сокаў. Што ж людзям трэба?»

Не было ў яго адказу на такія пытанні, і гэта бянтэжыла, палохала.

Прыйшоў неяк ва ўправу Мікіта Сцепанюга, ужо без дошчачак на назе, сказаў, азірнуўшыся па баках:

— Бацька мяне ў лес кліча. Да партызанаў, значыцца. Грозіцца, што пракляне, калі не прыйду. Кляцьбы ягонай я не баюся. Але, як будзе паміраць, нічога мне можа не пакінуць. Усё малодшым аддасць. Ён у нас гарачы. Што рабіць, Антон? Можа і праўда ў лес падавацца?

— Як хочаш,— стараючыся не глядзець на прыгнечаны Мікітаў твар, азваўся Антон. І падумаў, што, калі будзе клікаць Мікіта гарэлку піць, трэба адразу ж адмовіцца. А то зноў да якіх-небудзь святых трапіш.

— У лес я не хачу ісці,— шчыра прызнаўся Мікіта.— Не хочацца галаву пад кулі падстаўляць. Адна яна ў мяне, другой не дадуць. Слухай, Антон, можа б ты мяне куды ўладкаваў?

— Куды я цябе ўладкую?

— Можа да сябе, у памочнікі. Я ж таксама трохі грамату разумею.

Мікіта глядзеў на Антона лагоднымі карычневымі вачамі.

— Не вялікі я начальнік, каб браць,— суха сказаў Антон.— Ды і што твой бацька падумае на гэта?

— А я скажу, што мяне немцы прымусілі. Ты ж таксама так скажаш, як прыйдуць чырвоныя. Праўда?

Гэтымі словамі ён пацэліў у балючае Антонава месца. Сапраўды, што скажа ён, Антон, калі прыйдуць чырвоныя? А яны ж прыйдуць. Кожны, хто не дурны, гэта ведае. Праз год, праз два, праз тры, але яны прыйдуць. Рэхлінга ці Шмарлоўскага тут тады і са свечкай не знойдзеш.

— Я знайду, што сказаць,— нарэшце справіўся з сабою Антон.— А ты за сябе будзеш адказваць. Кожны будзе сам за сябе адказваць.

Гэта, як ні дзіўна, нікольki не выбіла Мікіту з раўнавагі. Памаўчаўшы, ён прапанаваў:

— Слухай, кідай ты ўжо свае паперкі. Пойдзем да мяне паабедаем. А то ў роце з учарашняга сухмень.

— Не пайду я. Не магу,— адмовіўся Антон.

Нечаканым аказаўся для Антона і візіт Аркадзя Гайкевіча. Ведаў жа, добра ведаў Гайкевіч, што Антон пазбягае яго, але прыйшоў ва ўправу, сеў на крэсла насупраць. Быў ён чыста паголены, свежы, перакінуўшы нагу за нагу, пагойдваў карычневым насатым чаравікам.

Антон уталопіўся ў паперы і нават вачэй не ўзнімаў. Пасядзіць, памаўчыць дый пойдзе. Але Гайкевіч не збіраўся ісці. Выцягнуў васілёк, што тырчаў у нагруднай кішэньцы пінжака, круціў яго ў пальцах, нюхаў. Нібы толькі затым і прыйшоў, каб у прысутнасці Антона нюхаць васілёк.

— Свяшчэнная кветка Беларусі,— сказаў ён нарэшце.— У іншых народаў — ружа, цюльпан, гордыя каралеўскія кветкі. А ў нас сціплы непрыкметны васілёк — сын сялянскай нівы.

Антон маўчаў. Хай гаворыць прыгожыя словы, хай любуецца сам сабой. Ды і васількі даўно ўжо адцвілі. Пэўна, знайшоў засушаны ў якой-небудзь графскай кнізе.

— Сімвал нашага краю, нашага народа,— казаў, нібы размаўляў сам з сабою, Гайкевіч.— На вялікі жаль, наш народ яшчэ не ўсвядоміў сваю сілу. Сырая этнаграфічная маса паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіною — вось што такое сёння беларускі народ. А Беларусь — гладыятарская арэна, на якой сутыкнуліся каталіцызм з праваслаўем. І толькі.

Антон маўчаў.

— Ды ты чаго маўчыш? Язык праглынуў?

— Не хачу з табой гаварыць,— адказаў Антон.— Нецікава мне з табой гаварыць.

— Бач ты! — шчыра здзівіўся Гайкевіч.— А што цікавей: бульбу капаць або пісарам у канторы сядзець?

— Бульбу капаць.

— Тады я магу пры выпадку сказаць пра гэта капітану Рэхлінгу.

— Скажы. Хоць сёння.

Антон згроб усе свае паперы ў шуфляды стала, устаў, павярнуўся да Аркадзя:

— А зараз, пакуль я тут яшчэ пісарам, выматвайся адсюль. Ну!

Ён бачыў, як пабялелі шчокі ў Гайкевіча, як перасмыкнуўся твар. Гайкевіч зноў дастаў з кішэнькі пінжака свой васілёк, панюхаў яго і раптоўна сцёр, струшчыў у руках, кінуў на падлогу.

— Хітруеш,— жорстка сказаў Гайкевіч.— На двух святах хочаш пагуляць. Сёння — нашым, заўтра — вашым. Так? Не выйдзе! Тваё ж знішчаць цябе. Твой брат, што туляецца ў лесе. Паміж небам і зямлёй паплывеш, як павуціне. Лічыш, што я дурны, а ты разумнейшы. Можа я і дурань, але я чэсны дурань. Я пачаў служыць беларускай справе і да скону буду такі. А ты ўсіх памяняеш, як дужа гарачая баба мужыкоў.

— Маўчы! — закрычаў Антон.— Маўчы, сабака! Тваім языком вугалле з печы выграбаць. Ты сам памяняў ужо дзесятак гаспадароў. У паны рвешся, аканомаў хвост. Вон адсюль!

— Гнойны жук,— толькі і сказаў Гайкевіч, іранічна глянуўшы на Антона, і павярнуўся да выхаду.

— Ах ты, сволач!

Антон схапіў са стала чарніліцу, размахнуўся і з усяе сілы шпурнуў яе ў Гайкевіча. Той прысеў, і чарніліца са свістам урэзалася ў дзвярны вушак, абпырскала яму чарнілам твар і светлы прыгожы пінжак.

— Застрэлю! — выціраючы адной рукою твар, другой нервова палез у кішэню пінжака Гайкевіч.

Антон падскочыў да яго, вывернуў руку, выхапіў з яго-най кішэні рэвальвер.

— Лаві кулю! — закрычаў Антон і ўзвёў на Гайкевіча рэвальвер.

— Не трэба,— ціха сказаў Гайкевіч.— Я пайду адсюль.

Ён зняў з плячэй пінжак, перакінуў яго цераз руку, згорблены, расслаблены, выйшаў на двор. Па жоўтай пясчанай сцежачцы датэпаў да калодзежа, злавіў дрыготкімі рукамі вочап, пачаў даставаць ваду. Вецер узвіхурыў, натапырыў русыя валасы, агаліў незагарэлую тонкявую шыю. Выцягнуўшы з калодзежа поўнае вядро, Аркадзь паставіў яго на пясок, нахіліўся і па плечы ўлез галавою ў ваду. Вада слаба забулькала, пабегла на пясок.

Антон замкнуў свой пакой, ключ разам з рэвальверам паклаў у кішэню штаноў, збег з ганка і хутка пакрочыў ад валаснай управы. Узбуджэнне ўсё яшчэ распірала грудзі, і ён, каб супакоіцца, спішыў крок, падняў з-пад ног згублены дзецьмі цвёрды, выразаны з нямецкай гумы мячык, ішоў і падкідваў яго ў руцэ. Ён ведаў, што сённяшнім учынкам паламаў сваё жыццё, што Гайкевіч, вядома ж, паскардзіцца немцам, і тады не чакай літасці. А можа і не

паскардзіцца, можа пабаіцца, пасаромеецца. Што ж рабіць?

«Трэба ісці да капітана Рэхлінга і ва ўсім прызнацца,— не дужа рашуча выплыла ў галаве думка.— Трэба аддаць яму Аркадзеў рэвальвер і прасіцца, каб адпусціў з пісарства, вызваліў. Хай гоняць нарыхтоўваць дровы, капаць торф. Толькі б далей ад праклятай канторы».

Так дайшоў ён да маёнтка, уваліўся ў свой халодны пакойчык, у цяжкім одуме сеў на ложак. Рэвальвер выпіраў з кішэні, і ён дастаў яго, паклаў пад падушку. І раптам такая стома навалілася, такая спустошанасць абрынулася на душу, што ён закрыў вочы, уткнуўся галавою ў металічную спінку ложка. І як бы здранцвеў.

Сон падкасіў яго. І прыснілася яму Яніна. Быццам стаіць яна ў лесе, каля патухлага вогнішча, якое чорнай падковай ляжыць на зямлі, і нешта трымае ў руках. Што трымае — не відно. Кулачок сціснуты, але не моцна, мякка. Так птушанё ў руцэ трымаюць. І гаворыць Яніна:

— Падыдзі бліжэй, Антон... Бліжэй... Помніш, як кляліся мы каля гэтага цяпельца? Як валасы авечымі нажніцамі састрыгалі і ў агні палілі? Ты парушыў нашу клятву. Дык забяры ж назад свае валасы, не ўзяло іх полымя...

І расціскае Яніна кулак, і ляжыць у яе на далоні пасма Антонавых валасоў. Страшна робіцца Антону.

— Не вазьму,— ціха гаворыць ён і павольна адступае ад Яніны.— Ты чары на іх навяла, хваробы. Не вазьму...

— Вазьмі, Антон,— кажа Яніна, і слёзы свецяцца ў вачах.

— Вазьмі! — разносіцца раптам па лесе дзікі, нечалавечы крык, і з-за дрэў выбягае Васіль Безручонак са стрэльбаю ў руках.

— Не вазьму,— адчуваючы, як заміраe ў смяротнай тузе сэрца, адказвае Антон.

Тады Васіль рыўком ускідвае да пляча стрэльбу, і, як гром, раскочваецца па лесе стрэл.

Антон спуджана ўсхапіўся з ложка, падбег да акна. Стралялі на двары маёнтка. З дзесятак верхавых наўскач несліся з боку Чмялёў, махалі шаблямі. Шаблі асляпляльна блішчалі пад нізкім вечаровым сонцам.

Антон убачыў, як рассыпаецца на дробныя кавалачкі акно флігеля і адтуль, знутры, выторкваецца тупое рыла кулямёта. Вось гэтае рыла павярнулася ў акне, пагойдалася, быццам нюхала паветра, шукала здабычу, і доўгая вузкая палоса агню рванулася насустрач коннікам. Двое ці трое ўпалі, пераляцеўшы цераз галовы коней. Але астатнія коннікі ўжо заляцелі на двор, і разам з імі імчаліся дзікія шалёныя коні, якія толькі што страцілі сваіх гаспадароў.

Адзін з коннікаў — «Кузьма!» — пазнаў Антон — шырока размахнуўся, шыбнуў у акно флігеля ручную бомбу. Жоўта-буры слуп агню і дыму шугануў адтуль, і кулямёт змоўк, як папярхнуўся.

З флігеля выскачыў шуцман Функ, без шапкі, з вялізнай крывавай плямай на спіне. Ён прабег некалькі крокаў, потым павярнуўся, стаў на адно калена, пачаў страляць з карабіна. Збоку наляцеў коннік, размашыста махнуў шабляй.

Стражнікі Шмарлоўскага, збіўшыся ў цесную купку, адступалі да маёнтка, бязладна страляючы і мацюкаючыся. З кожным імгненнем купка гэтая ўсё меншала, бо стражнікі падалі адзін за адным. Хто курчыўся на зямлі, хто адразу клаўся каменем. Толькі некалькі чалавек на чале з самім Шмарлоўскім схаваліся ў маёнтку. Бой загрымеў унутры будыніны.

Антон адбегся ад акна, узяўся быў за ручку дзвярэй, але перадумаў. Куды ён пабяжыць? Пад кулю Шмарлоўскага ці Кузьмы? Ён зашчапіў дзверы на зашчапку, а сам лёг на ложак.

«У мяне баліць галава,— падумаў ён.— Я хворы. Яшчэ пазаўчора ў мяне балела галава. Чаму я не маю права хварэць? Яны хочуць страляць, забіваць адзін аднаго, а я хачу хварэць». Ён нацягнуў на сябе па самую шыю коўдру, знерухомеў.

Але галава не балела. Яна была на дзіва ясная.

Гукі бою з першага паверха маёнтка перакінуліся на другі, усё бліжэй да пакоя, у якім ляжаў Антон. Вось прагрукацелі, як не над самым вухам, цяжкія хуткія крокі. Нехта бег па калідоры. Нават чулася гарачае, сіплае дыханне. Потым прарэзліва, роспачна закрычаў смяротна паранены чалавек. Дзынкнула, рассыпаючыся па падлозе, шкло. І ўжо беглі па шкле. Яно рыпела, трашчала, сквірчэла, шархацела пад людскімі нагамі. Колькі страшных, непрыемных гукаў нараджае разбітае, растаптанае шкло!

— Антон! — закрычалі раптам у калідоры.— Антон!

Гэта крычаў Кузьма.

Антон уздрыгнуў, сеў на ложку.

— Антон! — зноў закрычаў Кузьма.

— Тут яго бачылі. У маёнтку,— сказаў малады, узбуджаны голас.— Можа дзе паранены ці забіты ляжыць.

— Не накаркай,— злосна выдыхнуў Кузьма.— У лес яго забяру. З сабою забяру.— І зноў пачаў клікаць: — Антон! Антон!

Грымнулі стрэлы. Тынкоўка пасыпалася са столі. Маленькі цвёрды кавалачак упаў Антону на плячо. Нехта падбег да дзвярэй пакоя, пачаў тузаць іх, стараючыся адчыніць, потым налёг плячом.

«Кузьма,— падумаў Антон.— Усё ж знайшоў». Ён павольна ўстаў з ложка, падышоў да дзвярэй і адкінуў зашчапку. Ён не ўяўляў, як паглядзіць у вочы брату.

Але ў пакой увабег Шмарлоўскі, глянуў на Антона, хуценька зачыніў і зашчапіў дзверы і сеў проста на падлогу. З параненага калена цякла кроў. Штаніна была ўся ў крыві, матлялася, як бы склычылі яе зубы драпежнага звера.

Яны сустрэліся вачамі, і ў паглядзе Шмарлоўскага прачытаў Антон боль і злы адчай. Шмарлоўскі зрабіў страшны твар, прыклаў палец да вуснаў, а карабін трымаў правай рукою так, што руля ягоная цэліла проста ў грудзі Антону.

«Палохае. Баіцца, што выдам»,— зразумеў Антон. Ён сеў на ложак, абшчапіў галаву рукамі.

На двары тым часам зноў засакатаў кулямёт, скаланулі паветра выбухі бомбаў і гранат. Рэзка загучалі нямецкія вайсковыя каманды. Бой з маёнтка перакінуўся на двор, на суседняе поле. У маёнтку ўсталёўвалася цішыня, толькі паранены прарэзліва енчыў недзе на першым паверсе, і ягоны крык далятаў сюды, у гэты пакой.

«Няўжо я палахлівец? — думалася Антону.— Быццам бы не. Хоць смерці, як і кожны чалавек, вядома ж, баюся. Але не настолькі, каб, як страус, хаваць галаву ў пясок. Тады чаму я не адгукнуўся Кузьме? Няўжо праўду казаў Гайкевіч, што я — як тое павуцінне між небам і зямлёю. Дзе ж маё неба і дзе мая зямля?»

Так сядзеў ён, паглыбіўшыся ў свае невясёлыя думкі, а капітан Рэхлінг з графам Незабітоўскім па чарзе з аднаго «Цэйса» глядзелі ў гэты час на запольцаўскую дарогу, па якой пад ударамі нямецкага войска адступалі партызаны. Прыйшла падмога з Асіповіч. Яшчэ б паўгадзінкі... Капітан Рэхлінг нервова сціскаў у кішэні фрэнча рукаятку рэвальвера. У рэвальверы заставаўся ўсяго адзін патрон, і калі б не падмога...

Цішыня наплывала на маёнтак, на пакой, у якім на скрыпучым ложку сядзеў Антон Радзімовіч. Раптам нешта цяжка груканула, абвалілася побач. Антон спалохана прыўзняў галаву. Шмарлоўскі, страціўшы прытомнасць, ляжаў на падлозе каля ягоных ног.

# XII

У той час, калі на Антона абрушвала жыццё такія неспадзяванкі, калі трапляў ён, здаецца, з агню ды ў полымя, Барыс Аляксеевіч Лутошкін адчуваў, як пакрысе ўліваецца ў душу спакой.

Спачатку пабойваўся ён вясковых звяг, думаў, што аблаюць, абсмяюць яго, праходу не дадуць на вуліцы. Але Чмялі сустрэлі ягонае прымацтва на дзіва памяркоўна. Трохі, праўда, пагаманілі бабы ля студняў і на лавачках каля сваіх хат, і ўсё прыціхла.

Дужа неакрэсленымі ўяўляліся яму будучыя адносіны з Агапкаю. Жыць пад адной страхою з маладой прыгожай кабетай можна было або ў якасці кватаранта, або на правах законнага мужа. Барыс Аляксеевіч спачатку быў і заікнуўся пра кватаранцтва, пра тое, што ён будзе плаціць Агапцы за начлег, але яна смела глянула яму ў вочы, сказала з выклікам:

— Трэба мне, Ляксеевіч, не грошы, а чалавек харошы.

Потым дастала з куфэрка фотакартку свайго былога мужа, што загінуў у Галіцыі, выцерла рукавом трэснутае мутнае шкло.

— На покуце свайго Арцёма павешу. Хай глядзіць на мяне кожны дзень і хай даруе. Чатыры гады, усе дні і ночкі, яго чакала. Чыстая мая душа перад ім.

Усё-ткі на першым часе не пакідала Барыса Аляксеевіча непрыемнае турботнае адчуванне сваёй віны. Быццам украў нешта. З Агапкаю трымаўся ён далікатна, прабачліва, звяртаўся да яе на «вы». Яна ж глядзела на яго бліскучымі закаханымі вачамі.

З Віцем, сынам Агапкі, Барыс Аляксеевіч адразу пасябраваў. Разам падрэзалі яны сучча на чатырох яблыньках, што раслі ў гародзе, зграблі ў вялікую кучу апалае лісце са смеццем і падпалілі. Потым пачалі рамантаваць плот і хляўчук. Працуючы, хлопчык заўважаў нявопытнасць гарадскога доктара, нязвычку ягоную да мужыцкай чорнай працы, але не смяяўся, а як мог падказваў, вучыў. Ён толькі ўсё не мог зразумець, паверыць, як гэта такі вучоны чалавек, родам з самой Масквы, прыйшоў у іхнюю бедную драўляную хатку і стаў жыць разам з імі. Але здзіўлення свайго і сваёй разгубленасці стараўся не паказваць.

Барыс Аляксеевіч лячыў, калі прыходзілі, людзей, у свабодную ж часіну тупаў разам з Віцем на двары або ў гародзе, ускопваў зямлю, пілаваў дровы, насіў са студні ваду, карміў курэй. І здзіўляўся, як цела ягонае, магутнае, здаровае цела трыццацітрохгадовага чалавека, мала прызвычаена да працы, якой жывуць штодзённа мільёны мужчын, жанчын і іхніх дзяцей.

А праца, аказваецца, можа быць радасцю, шчасцем. Дрэва, якое ты пасадзіў, ніва, якую ўзараў і засеяў, робяцца для цябе як родныя дзеці. У іх — кавалачак тваёй чалавечай бессмяротнай душы.

Сонечным кастрычніцкім раннем Агапка сказала:

— Пойдзем, Ляксеевіч, у журавіны. Дужа многа іх на балоце.

Пайшлі ўдваіх. Віця заскабіў нагу і застаўся ў хаце на печы. Свежы халаднаваты ветрык ляцеў з поля і сцішаных лугоў, нёс пах ужо трохі падмарожанай зямлі, засіверанай вады. Лес, што падковаю апаясваў Чмялі, здаецца, памаладзеў — столькі яркіх восеньскіх колераў было ў ім. Густа і строга зелянелі елка і сасна, але бярозы і асіны, кляны і ліпы так шчодра палалі, гарэлі, зіхацелі пад промнямі сонца, так прыгожа стаялі пад сінім звонкім небам, што, падалося Барысу Аляксеевічу, яшчэ хвіліна-другая — і ўзаўюцца яны ў паветра, і паплывуць над восеньскай зямлёй, як залатыя чароўныя хмары на карцінах Рэрыха. Восеньская звонкасць адчувалася наўкол, і гэта бадзёрыла, ясніла душу, рабіла пругкім крок.

Агапка ішла побач з Барысам Аляксеевічам, жмурачыся ад сонца і ад стракатасці лясных сліпучых фарбаў. Была яна ў чорным кажушку наросхрыст, у белай паркалёвай хустцы, трымала ў руках вядро. Яе загарэлы прыгожы твар свяціўся радасцю, быццам ішла яна не ў журавіны, а сабралася на вялікае свята, дзе чакае яе дужа прыемная навіна. Барыс Аляксеевіч крайком вока час ад часу паглядваў на яе і бачыў роўную смуглявасць шчок, ледзь прыкметны пушок на верхняй губе, цёмнае брыво, якое ўздрыгвала, калі яна пачынала што-небудзь гаварыць, бачыў высокія моцныя грудзі, абцягнутыя сіняй ваўнянай кофтаю. Было ў ёй нешта ад гарэзлівай бесклапотнай дзяўчынкі — яна то зрывала якую-небудзь познюю восеньскую кветку, здзіўлена разглядвала яе, нюхала, то раптам з вясёлым крыкам: «Я грыб знайшла, Ляксеевіч!» — лезла ў прыдарожны лясны гушчар і выцягвала адтуль падасінавік або масляк. Русыя валасы выбіваліся з-пад хусткі, закрывалі вочы, і яна адмахвала іх рукою, прыгожым, плаўным, чыста жаноцкім рухам. Але адчуваліся ў ёй і нейкая напружанасць, нейкая трывога, бо раптоўна патухалі смяшлівыя вочы, маршчынкі, як праменьчыкі, пераразалі лоб. І тады яна глядзела на Барыса Аляксеевіча з непрыхаванай разгубленасцю, быццам шукала ў яго падтрымкі, і адразу ператваралася ў дарослую, стомленую жанчыну, якая зведала ўсе зямныя турботы і разумее, што на кожную чалавечую душу адпушчана жыццём не дужа шмат шчасця.

Восеньскі лес быў сцюдзёны, туманны і шматфарбны. Холад быў разліты па лесе, павуціна, мокрая ад ранішняга туману, абчапляла ўсе кусты і дрэвы, перапляла ўсе сцяжынкі, і падумалася, што прабег тут ноччу сярдзіты паранены звер і ўсюды пакінуў шматкі сваёй белай сцюдзёнай поўсці. Адзінокія птушыныя галасы няўтульна гучалі ў гэтым урачыстым халодным маўчанні, якое перад прыходам зімы ўсё глыбей і глыбей агортвала лес. Засвішча, заскуголіць паўночны вецер, скуе дарожныя каляіны і травяністыя балотцы свежы бліскучы лёд, глуха зашумяць высозныя цёмныя грамады елак і соснаў, бездапаможна затрапечацца чырвоным апошнім лісцем бедалака-асіна, і пад лясныя шаты прыйдзе зіма. Змярцвелы лес будзе стаяць тады пад суровым небам, успамінаць раздольна-сонечныя веснавыя дзянькі, успамінаць сваё шумлівае зялёнае юнацтва, ціха скардзіцца пякучаму ветру, і аднойчы, на самым золку, раптам пасвятлее ўсё, азорыцца іскрыстай чыстай беллю. Гэта першы нясмелы снег бязгучна апусціцца на скаваную маразамі зямлю.

Выйшлі на журавінавае балота. Мяккія белыя купіны, падобныя на вялізныя падушкі, былі раскіданы між чэзлага крывабокага хвойнічку. Ногі правальваліся па калена ў жоўта-буры мох, і пад мохам гулка чвякала вада.

Агапка нахілілася над купінаю, пачала зрываць буйныя чырвоныя ягады і кідаць іх у вядро. Барыс жа Аля-

ксеевіч усё не мог згледзець, дзе яму прыпыніцца. Прайшоў з дзесятак крокаў, і раптам з-пад ног з шумам і трэскам вырвалася некалькі вялізных птушак. Ён ад нечаканасці аж адскочыў.

— Цецерукі! — смеючыся, крыкнула Агапка.

Барыс Аляксеевіч чуў пра такіх птушак, але бачыў іх упершыню. Вось непадалёку на сухую бярэзіну цяжка ўладкаваўся самец-прыгажун. Пяро чорнае з сіняватым адлівам, падхвосце белае, але самым эфектным у паважнага касача быў, вядома ж, хвост. Вялікі, загнуты ў два бакі, ён напамінаў старадаўнягрэчаскую ліру. Цецярук сядзеў на сваёй бярэзіне, як цар гэтага балота, і чырвоным вокам цікаваў за людзьмі.

Нарэшце і Барыс Аляксеевіч натрапіў на журавіны. Тонкія галінкі з дробным прадаўгавата-акругленым лісцем слаліся па купіне. Ягад было няшмат. Ён сарваў адну, паклаў на зуб і адразу зморшчыўся ад рэзкай халоднай кіслінй.

Вялікая пляскатая купіна сядзела, як востраў, пасярод лужыны, зацягнутай тонкім зеленаватым лёдам. Калі Барыс Аляксеевіч нагою наступіў на лёд, вада пад лёдам расплылася ва ўсе бакі. Прычым расплылася яна светлымі рухавымі плямамі, вострымі язычкамі, і ён зразумеў — пад лёдам было шмат паветра.

Пераходзячы ад купіны да купіны, Агапка набліжалася да Лутошкіна і казала:

— Ты такія ягады, Ляксеевіч, пэўна, першы раз бярэш?

— Першы раз,— згадзіўся Барыс Аляксеевіч.— Я журавіны з капустаю ў «Метраполі» каштаваў. Пасля гарэлачкі... І прыносілі мне іх, Агапа Харытонаўна, ведаеце ў чым? У сярэбранай талерцы.

— Дзе, дзе каштаваў журавіны? — не зразумела Агапка.

— У «Метраполі». Рэстаран такі ў Маскве ёсць.

— А-а...— глянула на яго Агапка.— У Маскве, канечне, усё маецца.

— Можа ўсё, а можа і не. Я ж вось у вашы Чмялі прыехаў. Значыць, не хапіла мне нечага там.

Дзень разгараўся ўсё ярчэй, белыя хмары плылі над лесам, вецер ціха шумеў у сухой траве і ў бухматых кронах хвоек. Цецерукі, змірыўшыся з нечаканымі гасцямі, адляцелі на ўскраек балота, апусціліся там, і зноў пачаўся іхні перарваны людзьмі сняданак.

«Якое шчасце — жыць...— шукаючы скалелымі пальцамі паміж шорсткага моху журавіны, думаў Барыс Аляксеевіч.— Блукаць вось па гэтым лесе, па гэтым балоце. Глядзець на зямлю і разумець яе. Разумець жывы голас прыроды, шум ветру, крык птушкі. Вось гэтую балотную купіну я ніколі не бачыў і, вядома ж, ніколі не ўбачу пасля сённяшняга дня, а для нейкіх жывых істот, для божых каровак, для стракоз, для цецерука з хвастом-лірай, для

вужа, які, пэўна ж, ужо кладзецца спаць на зіму вунь пад тым струхлелым карчом, яна — цэлы Сусвет. Якое шчасце жыць і ведаць гэта».

Ягоны позірк спыніўся на Агапцы, што шчыравала над купінай, акуратна выбіраючы ў вядро цёмна-чырвоныя марозлівыя ягады.

«Яна шчаслівейшая за мяне. Вядома ж, шчаслівейшая. Куды мне з усёй маёй вялікай адукацыяй, з маімі сталічнымі звычкамі, з усімі маімі найсучаснымі комплексамі да гэтай дачкі прыроды. Яна ведае болей за мяне, канечне, не медыцыну, не літаратуру — яе гэтаму не вучылі. Яна ведае рух жыцця. Як расце хлебны колас, як вясною сонечная сіла ўзрывае самы тоўсты лёд, як нараджаецца светлая раніца».

— Ляксеевіч,— весела гукнула Агапка,— Ляксеевіч, ці не заснуў ты там? Хопіць ужо, кажу, ірваць. Дахаты час збірацца.

— Іду,— адказаў Лутошкін, пайшоў да яе і, паслізнуўшыся на лёдзе, ледзьве не ўпаў.

— Давай цяпельца раскладзём,— прапанавала Агапка, калі яны, выбраўшыся з балота, апынуліся на пясчанай сухой узлобіне, што парасла густым невысокім сасоннікам. Назбіралі ламачча, і Барыс Аляксеевіч запаліў касцёр. Сам запаліў, з другой запалкі, і вельмі ганарыўся гэтым.

Светлыя касмылі агню затанцавалі свой адвечны танец, закружыліся, і добра было глядзець на гэта, шчокамі і вачамі адчуваючы мяккую гарачыню. Агапка зняла свой кажушок, села на яго, выцягнуўшы да агню рукі, сказала:

— Пальцы замерзлі...— Варухнула плячамі, і журботны агеньчык бліснуў у цёмных вачах.

Барыс Аляксеевіч сядзеў крокі за тры ад яе на абломку сухадрэвіны, глядзеў на полымя, маўчаў. Ён ведаў, што на Каўказе і ў Персіі ёсць рэлігія вогнепаклоннікаў, і зараз, кожнай клеткай цела ўбіраючы ў сябе мудрасць і сілу агню, добра разумеў гэтых людзей.

— Пра што ты думаеш, Ляксеевіч? — ціха, з дрыготкасцю ў голасе, запыталася Агапка і, не даўшы яму адказаць, хуценька ўстала, падышла да яго, апусцілася на калені і, мякка прыгарнуўшыся да ягонага пляча, сказала:— Даражэнькі ты мой... Смейся з мяне, праганяй ці праклінай, а не магу я без цябе. Як гляну — вясна ў душу прыходзіць... Смейся з мяне, смейся... Ты такі харошы, такі добры... А я табе на шыю з дзіцем вісну...

— Агапа,— глуха выдыхнуў Барыс Аляксеевіч, мо ўпершыню не назваўшы яе па бацьку.— Агапа, ты слаўная, мілая... Я не бачыў такіх жанчын.

Ён дакрануўся вялікімі рукамі да яе смуглявых шчок, лёгенька павярнуў да сябе бледны прыгожы твар. Гарачыня пакацілася, здавіла дыханне, і ён, адчуваючы, як кругам ідзе галава, пацалаваў яе. Ён узяў яе на рукі, цёплую, даверлівую, апусціўся на кажушок.

— Агапа,— казаў ён, гладзячы яе цёмна-русыя шаўкавістыя валасы.— Не трэба пра сябе такое казаць... Ты лепшая за іх...

Ён не сказаў, за каго яна лепшая, бо не трэба было гэта казаць тут, ля гэтага кастра, пад гэтымі дрэвамі...

— Даражэнькі ты мой,— шаптала яна,— век цябе не забуду... Дочачку ад цябе мець хачу....

Адразу на пакровы лёг на зямлю першы снег. Барыс Аляксеевіч, у кажушку, з двума драўлянымі вёдрамі ў руках, выйшаў з хаты да студні і спыніўся на ганку. Увесь двор быў засланы белым свежым снегам. Снег быў такі малады, такі мяккі, што, здавалася, дыхні, хукні — і ён разляціцца ва ўсе бакі, як лёгкае пер'е нябачаных дзівосных белых птушак. На тонкіх галінках вішні, што расла каля плота, снег ляжаў так нясмела, што ад подыху ветрыку зрываўся ўніз, рассыпаўся ў паветры на найдрабнейшыя іскрыстыя пылінкі. Чорна-руды кот ішоў па двары і асцярожна ставіў лапкі, нюхаў з асцярогаю снег. І Барыс Аляксеевіч зразумеў: гэты кот, як той афрыканец, упершыню ў сваім жыцці бачыць такое дзіва.

Барыс Аляксеевіч таксама асцярожна спусціўся з ганка, ступіў колькі крокаў, з асалодай адчуваючы пад нагамі хрусткую звонкасць, спыніўся пасярод двара. Потым паставіў на снег вёдры, зачарпнуў поўную жменю снегу — ён быў не халодны,— зляпіў снежку і кінуў яе ў шыбіну акна. Снежка мякка распаўзлася па шкле. Адразу праз акно глянула на двор Агапка.

— Агапа! Снег! — весела крыкнуў ёй Лутошкін.

Яна выбегла з хаты ў світцы, накінутай на плечы, без хусткі на галаве, спынілася, разгубленая і шчаслівая, на ганку.

— Снег,— зноў сказаў Лутошкін такім голасам, быццам паведаміў, што на ўскраіне Чмялёў людзі знайшлі Месяц, які зваліўся з неба. Агапка шчасліва засмяялася, сказала Барысу Аляксеевічу:

— Хутчэй мый твар снегам.

— Навошта? — здзівіўся ён.

— Хто памыецца першым снегам, заўсёды прыгожы будзе.

Яны глянулі адно на аднаго, усміхнуліся і пачалі мыцца снегам. Калі ўжо Барыс Аляксеевіч наліў два вядры вады і збіраўся ісці ў хату, да студні прымчаўся верхавы з маёнтка, крута спыніў каня, спытаўся:

— Вы доктар?

— Я доктар.

Барыс Аляксеевіч паставіў вёдры на снег.

— Загадана тэрмінова з'явіцца вам у маёнтак. Там двум параненым трэба зрабіць перавязкі.

— Шмарлоўскаму і гэтаму... як яго? Пракаповічу?

— Так точна. Шмарлоўскаму і Пракаповічу.

Твар у верхавога быў малады, хударлявы. Верхавы хацеў здавацца грозным і старэйшым за свае гады.

— Але ж у немцаў ва ўправе ёсць і ўрач, і медыкаменты,— зноў узяў вёдры ў рукі Барыс Аляксеевіч.

— Капітан Рэхлінг сказаў, што ў Германіі не так шмат медыкаментаў і што хай рускіх лечаць самі рускія.

— Я іх перавязваў учора,— ступіў у напрамку свайго двара Барыс Аляксеевіч.— А сёння мяне прасілі зайсці паглядзець хворае дзіця. Так што не магу.

Ён наўмысна націснуў на слова «прасілі».

— Вам загадана,— аж прыўзняўся ў страмёнах верхавы.

Ад рэзкага руху шапка з'ехала ў яго на патыліцу, і ён сярдзіта паправіў шапку рукою.

— Не магу,— спакойна сказаў Барыс Аляксеевіч.— Яны пацерпяць. Ваенны час. А дзіця трэба лячыць сёння. Сёння.

Ён, не азіраючыся, пайшоў з вёдрамі, і вада лёгенька вылівалася цераз край, і там, дзе падала яна на снег, чарнелі кяроўныя дзірачкі. Верхавы разгублена пазіраў яму ўслед.

Пакрысе ўсталёўвалася зіма. Той першы снег, што так уразіў Барыса Аляксеевіча, быў недаўгавечны, неўзабаве растаў. Але наляцелі новыя завеі, новыя снягі ўпалі на чмялёўскую зямлю. Яны былі спарнейшыя і глыбейшыя. І нарэшце прырода здалася на літасць зімы. Сіверны вецер каменным холадам скаваў зямлю і ваду. Чырвоныя марозныя світанкі былі такія пранізліва-звонкія, такія пякучыя, што ўсё знерухомела, зледзянела: дрэвы, калодзежныя жураўлі, дымы над хатамі.

Аднойчы ў хату да Агапкі і Барыса Аляксеевіча зайшоў Лаўрэн Лапыцька і сказаў, што быццам бы ў Германіі скінулі кайзера. У Лаўрэна былі радасныя вочы — ён не прамінуў пахваліцца, што і пра канец царавання Мікалая ён таксама даведаўся адзін з першых у Чмялях.

Лаўрэнава навіна, калі яе пачаў правяраць Барыс Аляксеевіч, поўнасцю пацвердзілася. Так — у Германіі рэвалюцыя. Кайзер Вільгельм адрокся ад трона і ўцёк у Галандыю ці ў Бельгію, дзе і жыве, ужо як прыватная асоба. Самая ж яркая прыкмета германскай рэвалюцыі была ў тым, што ў маёнтку графа Незабітоўскага пачаў дзейнічаць салдатэнрат — салдацкі камітэт, і капітан Рэхлінг, як ні злаваўся, як ні моршчыўся, павінен быў прызнаць паўнамоцтвы гэтага новага, нечаканага для яго органа ўлады. Прызнаць, вядома, знешне, бо дужа шмат было ў яго прускага гонару, каб мог хоць на хвіліну згадзіцца ён з тым, што плебей можа быць раўнёй яму — юнкеру.

«Значыць, хутка скончыцца вайна,— падумаў Барыс Аляксеевіч.— І капітану Рэхлінгу давядзецца тушыць пажар ва ўласным доме. А тушыць гэты пажар будзе ой як

цяжка, бо нямецкі салдат прынясе дадому з чырвонай Расіі поўныя кішэні іскраў і вуголля».

Адыдзе кайзераўская армія — прыйдуць бальшавікі. Гэта таксама было ясна для Лутошкіна. І гэтага, як мог ён меркаваць па ўласных назіраннях, з нецярпеннем чакала ўсё мясцовае насельніцтва. Не чакалі толькі адзінкі — тыя, што заплямілі рукі народнай крывёю, што са сляпой упартасцю верылі ў зварот старых часоў.

Барыс Аляксеевіч адразу заўважыў, як занепакоілася Агапка. Раней была такая вясёлая, усмешлівая, а тут раптам прыціхла, прысмірэла, вочы патухлі.

— Ці не захварэла ты? — пацікавіўся Барыс Аляксеевіч.

Яны сядзелі за сталом, абедалі. Чыгунок з варанай капустаю стаяў перад імі, на белым ручніку ляжала параная неаблупленая бульба. Агапка якраз лупіла бульбіну, мачала яе ў соль.

— Не, Ляксеевіч,— падцяла вусны Агапка.

— Дык чаго ж ты хмурная такая, як дажджлівы чацвер?

Агапка глянула на яго, пачырванела, схіліла галаву і раптам усхліпнула. Гэта было вялікай нечаканасцю для Барыса Аляксеевіча.

— Што ж з табой, нарэшце? — устаў ён з-за стала.

— А тое,— адказала Агапка, не падымаючы галавы і не гледзячы на яго,— што была я сёння ў маёнтку. Усе кажуць: немец у Германію збіраецца, дахаты. Бачыла, салдаты іхнія купамі ходзяць, крычаць, махаюць рукамі.

— Ну і што?

— Кажуць, што чырвоныя ўжо ідуць сюды. Ужо быццам бы за Барысавам. Праз тыдні два і ў Чмялях могуць быць.

— Ну і што? — зноў перапытаў Барыс Аляксеевіч.

— Прыйдуць чырвоныя, і ты назад у сваю Маскву падасіся. Навошта я тады табе, дурніца вясковая? Такіх Агапак у Расіі — мільён.

Агапка ўстала з-за стала, падышла да акна, стоячы спіною да Лутошкіна, пачала глядзець на вуліцу. Там падаў ціхі снег, на варотах сядзела і хрыпата каркала варона.

Барыс Аляксеевіч абняў Агапку за плечы.

— Вось яно што. А я думаў: ты за няшчаснага кайзера перажываеш, што кавалка хлеба ў яго няма на вячэру.— Ён памаўчаў, потым сказаў:— Не абавязкова жыць у Маскве. Можна жыць і тут, у Чмялях. І нядрэнна жыць, Агапа.

— Дык ты не паедзеш ад мяне? — рэзка павярнулася яна да Барыса Аляксеевіча, і вочы ярка заззялі.— Праўда, не паедзеш?

— Праўда,— адказаў Барыс Аляксеевіч.— Навошта старому каню Лутошкіну шукаць канюшыну, калі ён есць авёс?

— Даражэнькі мой,— хуценька пацалавала яна яго ў шчаку і прыхілілася да яго ўсім целам.— А я думала: пакарыстаешся — і шукай ветру ў полі. Думала і баялася. Аж ты не адназначнік, не пералётны птах. Даражэнькі мой...

Неяк увечары, калі Барыс Аляксеевіч з Агапкаю ўжо клаліся спаць, пачуўся ціхі стук у шыбіну.

— Ці то вецер стукае, ці што? — прыўзнялася з ложка, трывожна паглядзела на цёмнае акно Агапка. Яны прыслухаліся. Праз колькі часу стук паўтарыўся, ціхі, няспешны, але настойлівы.

— Хто б гэта мог быць? — услых падумала Агапка і пачала апранацца.

Барыс Аляксеевіч адчуў, як няясная трывога варухнулася ў сэрцы. Не раз стукалі ў гэтае акно, стукалі нават глыбокай ноччу, але стукалі, не хаваючыся — моцна, аж шыбы калаціліся. Паміраў ці нараджаўся чалавек, і ў першую чаргу пра такія навіны даведваўся доктар.

— Ты ляжы,— сказала Агапка.

Сама ж яна ўзяла для смеласці ў качарэжніку вілкі, адчыніла дзверы ў сенцы, выйшла туды, спыталася:

— Хто гэта?

— Адчыніце,— ціха папрасілі з вуліцы.— Мне трэба да доктара.

— А хто ты? — перапытала Агапка.

— Я Васіль Кушнер з Запольцаў. Пастухоў сын.

Агапка стаяла ля зашчэпленых дзвярэй, прыпамінаючы. Сапраўды, жывуць у Запольцах Кушнеры, і ёсць, здаецца, сярод іх адзін пастух. Толькі ж, на яе памяць, сына таго Кушнера завуць не Васіль, а Валодзя. Але Агапка адчыніла дзверы — чалавек жа спяшаецца да доктара.

Невысокі юнак у белым кажусе, засыпаным снегам, у валёнках пераступіў парог хаты, зняў з галавы шапку. У яго былі чорныя кучаравыя валасы і такія ж чорныя, падкоўкамі, бровы. Ён колькі імгненняў азіраў хату, потым накіраваўся проста да ложка, на якім сядзеў Барыс Аляксеевіч, што паспеў ужо апрануцца. Вялікія снежныя сляды заставаліся на падлозе ад валёнкаў юнака.

— Доктар,— сказаў ён.— Мы просім вашай дапамогі.

Увайшла з сенцаў Агапка, узяла венік і пачала падмятаць снег, які незнаёмец прынёс з вуліцы. Ён заўважыў гэта, разгублена ўсміхнуўся.

— Прабачце. Я не хацеў... Але я так спяшаўся...

— Нічога,— за Агапку адказаў яму Барыс Аляксеевіч.— Дык што ў вас такое?

— Я з лесу. З партызанскага атрада. У нас цяжка паранілі камандзіра. Натрапіў на засаду, і дзве кулі ўсадзілі яму ў жывот. Ляжыць, крывёй сцякае...

— З лесу? — перапытаў Барыс Аляксеевіч.— Вы прыйшлі з лесу? — і ўважліва паглядзеў на юнака. Той пераступіў з нагі на нагу, чамусьці засунуў шапку ў кішэнь кажуха, глуха адказаў:

— Так. З лесу. У нас памірае Сцяпан Кладзькоў. Трэба ратаваць.

— Доктар не пойдзе,— адразу кінула венік, падышла да іх Агапка.— Капітан Рэхлінг расстраляе Барыса Аляксеевіча, калі даведаецца пра гэта.

У хаце павісла цішыня. Юнак маўчаў, глядзеў на Лутошкіна.

— Доктар не пойдзе,— зноў сказала Агапка.

Барыс Аляксеевіч задумліва пацёр далонню шчаку, як бы нешта прыпамінаючы. Потым устаў з ложка, сашчапіў на грудзях рукі, згорбіўся, быццам было яму холадна.

— Разумееце, я стараўся ўвесь час трымаць нейтралітэт. Рэхлінга я не баяўся, не. Гэты прускі ваяўнічы індык наганяў на мяне хутчэй за ўсё не страх, а смех. Але я прынцыпова трымаўся нейтралітэту. Я хацеў стварыць для сябе... Як бы вам сказаць? Востраў або аазіс... дзе быў бы толькі я... Але мы затрымліваемся. Якім жа чынам у такую завіруху дабярэмся мы да лесу?

— Дык вы пойдзеце? — узрадаваўся юнак.

— Пайду.

— Тады не хвалюйцеся! Я прыехаў верхам на кані. І для вас на повадзе каня прывёў.

— Цудоўна,— сказаў Барыс Аляксеевіч.— Агапка, правер, ці ўсё на месцы ў маім чамаданчыку.

— Нікуды ты не паедзеш, Ляксеевіч,— пабляднела, узяла яго за руку Агапка.— Той камандзір, калі ён паранены ў жывот, усё роўна памрэ. А ты нікуды не паедзеш. Давай класціся спаць.

Барыс Аляксеевіч здзіўлена паглядзеў на яе, сказаў, апранаючы паліто:

— Ты што, Агапа? Не бойся за мяне. Я хутка вярнуся. А ехаць трэба. Чалавек жа памірае.

— Не едзь, Ляксеевіч,— раптам заплакала Агапка.— Дрэнны сон мне бачыўся. Быццам пярэдні верхні зуб у мяне выпаў. З крывёю выпаў. Не едзь.

Барыс Аляксеевіч разгубіўся. Столькі пакуты было ў Агапчыных словах, так умольна глядзела яна на яго, што зашчымела сэрца. Ён не ведаў, што рабіць. Але перасіліў сябе, асцярожна зняў са свайго пляча Агапчыны рукі.

— Я вярнуся. Сёння ж вярнуся. Вось убачыш. Толькі, прашу цябе, не плач.

Ноч сустрэла моцным халодным ветрам і снегам. Шчыльная цемра абступіла з усіх бакоў. Снег нёсся з гэтай цемры шырокімі белымі хвалямі, сляпіў вочы, забіваў дыханне.

Барыс Аляксеевіч падняў каўнер паліто, прыгнуў галаву, ехаў, моцна сціснуўшы правай рукою лейцы, левай — прытрымліваючы свой нязменны чамаданчык. Крокаў за дзесяць паперадзе кіраваўся на сваім кані да лесу малады партызан. Ехалі моўчкі, сцярожка прыслухоўваючыся да начной цішыні.

Барыс Аляксеевіч думаў пра Агапку. Успаміналіся яе слёзы, яе вочы, напоўненыя трывогай і болем. «Яна кахае мяне»,— думаў ён. Усведамленне таго, што нейчая душа імкнецца зліцца з ягонай душою, што ёсць на зямлі сэрца, якое, не задумваючыся, можа ахвяраваць сабой дзеля яго, хвалявала Барыса Аляксеевіча, кранала самыя патаемныя струны душы, і яму хацелася заўсёды быць высакародным, чэсным, чыстым, добрым, вартым светлай жаночай любові.

Яго, інтэлігента, двараніна, пакахала простая сялянка. Аднаго гэтага хапала для таго, каб шакіраваць усіх ягоных былых маскоўскіх знаёмых. А маці, калі б толькі даведалася пра такое, зваліў бы нервовы ўдар.

Мінулі поле, уехалі ў начны лес. Стары змрочны ельнік сустрэў суровым гудзеннем, ад якога трывожна заныла душа. Кожная галінка, кожная іголачка трапяталі пад няўмольным напорам ветру. Лес здаваўся адным суцэльным вялізным ветразем, і было такое адчуванне: калі б не карэнне, што моцна ўчапілася ў зямлю, лес даўно б узвіўся ў паветра і паплыў над белым снежным полем.

Коні ціха ішлі па вузенькай лясной сцяжынцы. Цемра была густая, але не настолькі, каб не бачыць калматыя лапы елак, якія слаліся па самай зямлі. Чамаданчык, хоць быў не надта цяжкі, адцягваў руку, увесь час спаўзаў набок, і Барысу Аляксеевічу каштавала вялікіх намаганняў не выпусціць яго.

Нарэшце забраліся ў такую непраходную гушчэчу, што давялося злезці з коней і весці іх на повадзе. Барыс Аляксеевіч зрабіў гэта з задавальненнем, бо, трэба шчыра прызнацца, быў не вельмі важнецкім коннікам. Ён ішоў следам за юнаком, амаль упрытык, і ў ціхім начным лесе ўспомніўся яму выпадак з франтавога жыцця. Тады два афіцэры з іхняга палка ледзь не страляліся на дуэлі. А справа была вось у чым. Яны, таксама ноччу, таксама ўзімку, ішлі з размяшчэння сваіх рот да камандзіра палка, які разам са сваім штабам атабарыўся ў старадаўнім панскім маёнтку. Ішлі, каб скараціць шлях, лёдам панскай сажалкі. І той, што ішоў ззаду, крыху маладзейшы, пахваліўся сустрэчнаму таварышу:

— А мне за капітанам Івановым добра ісці.

— Чаму? — пацікавіўся таварыш.

— А таму, што з яго пясок сыплецца, і мне не слізка.

Мінут праз пятнаццаць выбіліся на вялікую круглую паляну. На гэтай паляне стаяў хутарок. У хаце свяціліся вокны. Пасля цемрыва глухой ночы не верылася напачатку ў такое яркае святло.

— Хто ідзе? — ляснулі наперадзе замком вінтоўкі.

— Я,— адказаў юнак.

— З доктарам?

— З ім.

У цемры чамусьці засмяяліся. Барысу Аляксеевічу падумалася, што дужа бесклапотна паводзяць сябе партыза-

ны. Размясціліся, лічы, пад самым бокам у Чмялёў, не хаваючыся, сядзяць на хутары, святло ў вокнах відаць за вярсту. Але гэта, бадай, можна было растлумачыць не бесклапотнасцю, а смеласцю і яшчэ дэмаралізацыяй германскай арміі, якая ў думках даўно ўжо бачыла сябе дома.

Зайшлі на абнесены высокім шчыльным тынам двор. Барыс Аляксеевіч пачаў ужо раскрываць свой чамаданчык, каб там, у хаце, адразу прыступіць да справы.

— Ідзіце за мной, не адставайце,— упершыню за ўсю сумесную дарогу звярнуўся да Лутошкіна юнак і, прыгнуўшы галаву, рашуча ўзяўся за клямку дзвярэй.

Барыс Аляксеевіч паспяшаўся за ім. Яркае святло на імгненне асляпіла яго. Ён убачыў вялікую прасторную святліцу, падлога ў якой была заслана саматканымі стракатымі дыванамі. Пад столлю, слаба пагойдваючыся, вісела лямпа-дзесяцілінейка з медным прыгожым абажурам. Каля супрацьлеглай сцяны, заклеенай партрэтамі кінаактрысы Веры Халоднай, стаяў прасторны дубовы стол на круглых тоўстых ножках. За сталом сядзела чалавек пяцьшэсць цывільных, ужо нападпітку. Тытунёвы дым, як туман, плаваў у хаце.

— Дзе параненыя? — павярнуўся Барыс Аляксеевіч да юнака. «Весела жывуць гэтыя робін гуды»,— падумалася яму.

Тлумная гаворка сціхла, усе твары з цікаўнасцю павярнуліся да Лутошкіна. Ён, падсунуўшы табурэтку, паставіў на яе чамаданчык. Да яго заўсёды прыходзіў спакой, калі бачыў ён медыцынскія інструменты.

— Дзе ж пацыент? — зноў запытаўся Барыс Аляксеевіч. Нешта пачынала не падабацца яму ў гэтай шумлівай вясёлай кампаніі. «Баявы сябра паранены, а яны гарэлачку п'юць»,— адзначыў ён сам сабе.

— Ха! Доктар! — пахіснуўшыся, узняўся над сталом з чаркаю ў руках высокі смуглатвары мужчына.— Прыйшлі, значыцца.

Барыс Аляксеевіч, прыгледзеўшыся, пазнаў таго стражніка па прозвішчу, здаецца, Пракаповіч, які калісьці хвастануў яго бізуном. Мацней затахкала сэрца. Ён пачынаў ужо разумець, што павінна адбыцца нешта нечаканае і нядобрае.

— Прыйшоў, значыцца. Прыбег,— ужо на «ты» звярнуўся да яго Пракаповіч і пачаў вылазіць з-за стала.

За сталом усе ажывіліся, загаманілі, перабіваючы адзін аднаго.

— Ну што? Хто выйграў пары?

— Як міленькі прыбег!

— А казалі, што доктар Лутошкін не любіць палітыку.

— Ха! Не любіць! Ён жа гуманіст. Ён не тое што мы...

За сталом гучна, абразліва засмяяліся.

У Барыса Аляксеевіча затрымцела, нястрымана затргалася левае павека. Пачало балець у скронях, як хто стукнуў па іх. Ён павольна закрыў чамаданчык.

Тым часам Пракаповіч вылез нарэшце з-за стала, падышоў да Лутошкіна, хітра ўсміхаючыся, глядзеў на яго.

— Камандзіра партызанскага лячыць, значыцца, сабраўся? Прабач — няма камандзіра. Мы б, каб спаймалі яго, не лячылі б. А вось нас лячыць ты не хацеў. Не хацеў.

Ён трымаў у руках поўную чарку, рука ўздрыгвала ў такт словам, і гарэлка пералівалася цераз край, мачыла пальцы.

«Вось як, аказваецца, усё павярнулася,— адчуваючы, як шуміць увушшу кроў, думаў Барыс Аляксеевіч і ўсё глядзеў на чарку і на жылістую загарэлую руку Пракаповіча.— Я спатрэбіўся ім, як блазен для каралеўскай вячэры. Я, відаць, пайду на дэсерт, бо занадта многа ўжо выпіта горкага. Маскоўскі доктар у ролі прасцячка-недацёпы — хіба ж гэта не здорава?»

— Непрыгожа,— глуха выдыхнуў Барыс Аляксеевіч, гледзячы на вясёлыя п'яныя твары за сталом.— Спекуляваць на няшчасці, на крыві, каб пасмяяцца з чэснага чалавека. Непрыгожа. Вам усім павінна быць зараз сорамна.

— Уяві сабе, што ні мне і ні ім,— рукой з чаркаю тыцнуў Пракаповіч у бок стала,— ні кропелькі не сорамна. Нам смешна і весела. Толькі свіснулі — ты і прыбег. Можаш павіншаваць мяне — я выйграў пары. Я быў упэўнены, што ты клюнеш на гэтую вудачку.

— Дзякуй за камплімент,— з'едліва ўсміхнуўшыся, сказаў Барыс Аляксеевіч.— У сваім жыцці я сапраўды часта кляваў, як вы кажаце, на такую вудачку. Я пачынаю здагадвацца, чаму вас так паспяхова б'юць бальшавікі. Як вас не біць, калі ў вас няма інакшай зброі, акрамя хлусні?

— Ну, ты! — зашумелі, захваляваліся за сталом.— Прытрымай язык! Агітатар!

— Дзякую за запрашэнне на ваш баль, панове,— не спыняўся, гаварыў Барыс Аляксеевіч.— Чэсна кажучы, вы — не вельмі прыемная кампанія, а ваш баль — баль у час чумы. Піце, пакуль ёсць магчымасць, сёння, бо заўтра бальшавікі не дадуць вам гэтага зрабіць. Піце і ешце, пакуль жывыя, бо заўтра станеце мерцвякамі.

— Заткні яму глотку! — закрычалі з-за стала.

Пракаповіч пляснуў сваю нявыпітую чарку аб падлогу, схапіў Барыса Аляксеевіча загрудкі. Але Барыс Аляксеевіч так сціснуў Пракаповіча ў пояснціцы, што ў таго вочы палезлі з арбіт, а потым штурхануў на стол. Зазвінела разбітае шкло, узняўся лямант.

На Барыса Аляксеевіча, сціснуўшы кулакі, схапіўшы са стала нажы, рынуліся ўсе Пракаповічавы сябрукі. Ён узяў табурэтку і страшным ударам зваліў з ног пярэдняга.

— Якія ж вы няветлівыя, панове,— казаў ён, цяжка махаючы табурэткай,— вы нават не запрасілі мяне, свайго госця, сесці.

Пракаповіч, што ўпаў на падлогу, хацеў быў схапіць доктара за нагу, але Барыс Аляксеевіч адкінуў яго ў кут

ударам свайго вялізнага бота. Тады са стала нехта шпурнуў бутэльку і патрапіў Лутошкіну проста ў галаву. Ён захістаўся, але ўстаяў на нагах. Кроў залівала вочы. Ён змахнуў яе рукавом і табурэткаю паклаў на месцы чарнявага вёрткага хлопца, што, карыстаючыся ягонай ранай, быў схапіў яго за правую руку.

Табурэтка рассыпалася на кавалкі, і тады Барыс Аляксеевіч схапіў дубовы ўслон, які стаяў каля сцяны. Страшная нечалавечая сіла прачнулася ў ім, і ён, паранены, з залітым крывёю тварам, адбіваў удары і сам наносіў іх, усё змятаў, крышыў на сваім шляху.

— Прыкончыце яго! Страляйце! — крычаў, лежачы пад перавернутым сталом, Пракаповіч.

Яго ніхто не чуў — звінела шкло, разлятаўся па падлозе посуд і храбусцеў пад нагамі, сіплае дыханне і праклёны вырываліся з грудзей.

Барыса Аляксеевіча ўдарылі нажом у левае плячо, праз паліто і тоўстую ваўняную кашулю дасталі да цела. Ён адчуў пякучы боль, сапчаміў мацней зубы і біў, біў услонам. Потым кінуў услон, схапіў табурэтку, што падвярнулася пад руку.

— Ды страляйце ж хутчэй, сволачы! — зароў, як шалёны, Пракаповіч, узняўся на ногі, растапырыў доўгія пальцы жылістых загарэлых рук.— Дайце мне рэвальвер! Хутчэй дайце рэвальвер! Я сам яго пакладу!

Барыса Аляксеевіча рыўком схапілі за ногі, і ён усім сваім вялізным целам грымнуўся на падлогу, патыліцаю стукнуўся аб парог. У вачах заскакалі нясцерпна-яркія агні, пранізліва зазвінела ў вушах. Ён не страціў прытомнасць, але абмяк, раптоўна аслабеў, нібы лопнула ў ім унутры жалезная спружына.

Ён ляжаў на бруднай падлозе, гарачы, цяжкі, знявечаны, ужо бяссільны, а яны білі яго нагамі, білі за тое, што ён быў лепшы, чысцейшы, чым яны. Так раз'юшаная сабачая гайня ўсімі сваімі ікламі ўпіваецца, угрызаецца ў пераможанага мядзведзя. Ён амаль не адчуваў болю — такое ўзбуджэнне кіпела ў душы. Усё жыццё праносілася ў гэтыя хвіліны ў ягонай галаве, нібы шалёна круціўся вялізны стракаты глобус. Ён убачыў ціхую заснежаную вуліцу Замаскварэчча, сябе, малога, з калядным абаранкам у руках. Ён убачыў тонкія залачоныя крыжы на жоўтай царкве, потым твар маці, потым нейкую бясконцую дарогу паміж пустых восеньскіх палёў і халодных мокрых лясоў. Па абодва бакі ўсцяж дарогі грымелі гарматы, узвіваліся выбухі, падалі дрэвы і людзі, а наперадзе, з-за высокіх снежна-белых воблакаў, з блакітнага звонкага неба, глядзелі на яго ўважлівыя жаночыя вочы, Агапчыны вочы, напоўненыя пяшчотай і шкадаваннем. І ўжо апошні ўспамін пранізаў, як успышка маланкі,— ён убачыў засыпаную снегам магілу Льва Талстога.

— На двор яго цягні! Навошта ў хаце падлогу пэцкаць?!

Барыса Аляксеевіча выцягнулі на двор, кінулі ў пухкі, сярэбраны ад месячнагаззяння снег. Непадалёку стаяў Пракаповіч, пляваўся крывёю ў снег і снегам цёр, адмываў свае чырвоныя рукі.

## XIII

З Мінска ў атрад Сцяпана Кладзькова зноў прыбыў таварыш Сяргей. Радасныя навіны прынёс ён — германскія войскі пачынаюць адыходзіць з тэрыторыі Беларусі; з усходу, з-за ракі Бярэзіны, чакаецца неўзабаве прыход Чырвонай Рабоча-Сялянскай Арміі.

— Цяпер наша галоўная задача,— казаў у штабным будане таварыш Сяргей,— не даць немцам вывезці з сабою ні фунта хлеба, ні кубаметра дроў, ніводнага станка і ніводнага плуга. Кайзераўцы павінны з пустымі рукамі ўбірацца з нашай зямлі. Убрацца, як пабітыя сабакі.

У будане весела гарэла, аж захліпалася, скляпаная з жалезных лістоў печка. Дымавая труба выходзіла на вуліцу праз акно. Першакоў, які змайстраваў гэты цуд з рэшткаў свайго браневіка, падбітага на запольцаўскай дарозе, сядзеў на сасновым чурбанчыку акурат насупраць печкі і быў качагарам — падкідваў у траскучы агонь сухія паленцы.

Шмат народу набілася ў будан — як павярнуцца. Кузьма стаяў побач з Яўхімам Сцепанюгам і Мішкам Сырамалотам, уважліва слухаў таварыша Сяргея. Радасна было ў яго на душы — хутка, вельмі хутка выйдуць яны з лесу, вернуцца ў свае вёскі і гарады, і пачнецца новае жыццё, за якое столькі праліта ўжо людской крыві. Ён зможа нарэшце адшукаць Праскоўю з Сяргейкам. Жыць яны будуць або ў Мінску, або ў Чмялях — гэта яшчэ невядома, але галоўнае ў тым, што пасля доўгіх месяцаў разлукі яны збяруцца разам.

Мішка Сырамалот стаяў побач з Кузьмой, і ў яго быў трывожна-шчаслівы твар. Справа ў тым, што з дня на дзень павінна была нарадзіць Дзіна першынца. Мішка ўсім заявіў, што назаве сына Андрэем, у гонар Андрэя Бацюты.

«А калі дзяўчынка родзіцца?» — цікавіліся ў яго.

«Дзяўчынкі зімою не нараджаюцца. У іх дужа арганізм далікатны»,— прыводзіў Мішка, як яму здавалася, самы важкі аргумент у адказ.

Зараз ён стаіць каля Кузьмы, у шынялі, у белай авечай шапцы, і аж язык высунуў — слухае таварыша Сяргея. Але Кузьма ведае, як нецярпліва кіпіць, клякоча Мішкава душа, як бачыць ён сябе ў думках бацькам маленькага прыгожага і здаровага хлопчыка, будучага разведчыка. «Мой сын будзе разведчыкам, як я»,— неаднойчы горда казаў Мішка. Калі ж яму даводзілі, што хутка скончыцца

вайна з германцам і разведчыкі не спатрэбяцца, ён спрачаўся: «А колькі на свеце буржуяў яшчэ засталося? Цэлы мільён набярэцца. Мы што ж з імі — цалавацца будзем, ці што? І іх пад кілецць узяць трэба».

Дзьмуўся Мішка на Кузьму пасля той гісторыі на лясной паляне. Але ўсе даручэнні, усе загады выконваў спраўна, стараўся. А ў Кузьмы даўно ўжо не было на яго ні кроплі злосці — харошы хлопец, талковы, адважны і, якніяк, радня, швагер...

— Няхай жыве савецкая рэспубліка Беларусь! — скончыў між тым сваю прамову таварыш Сяргей і махнуў рукою, сцятай у кулак. Шчокі ў яго гарэлі, вочы глядзелі на людзей радасна і рашуча.

Усе зашумелі, замахалі рукамі, шапкамі, вінтоўкамі. Андрэй Бацюта пацiснуў таварышу Сяргею руку, сказаў:

— Дзякуй табе. Добрыя весткі ты нам прынёс.

З будана хлынулі на вуліцу, на марозік. Але яго не заўважалі, бо дужа радасныя і ўзбуджаныя былі ўсе. Ніколі не быў такі шумны лясны лагер.

Кузьма адразу накіраваўся да сваіх разведчыкаў, пачаў збірацца ў дарогу. Сённяшняй ноччу ён павінен быў правесці таварыша Сяргея да ракі Бярэзіны і дапамагчы яму пераправіцца на ўсходні бераг. Гэтае заданне даў Кузьме сам Сцяпан Кладзькоў.

У будане разведчыкаў у вялікай самоце ляжаў на нарах Цімох Валадкевіч. Вельмі ўзрадаваўся ён Кузьмоваму з'яўленню, сказаў:

— Не шанцуе мне, Прахоравіч. Як хто зачараваў. Усе людзі здаровыя, адзін толькі я бакі пралежваю. Эх! — глыбока ўздыхнуў ён.

— Ляжы, Цімох, ляжы,— паправіў на ім кажухі і ватоўкі Кузьма.

Дні тры назад Цімох, вяртаючыся з-пад Асіповіч, заначаваў у полі, прастудзіўся. Вось і душыць яго кашаль.

— Пойдзеш сёння ноччу некуды? — пацікавіўся Цімох.

— Пайду,— адказаў Кузьма. І абодва яны змоўклі, бо нікому не трэба было ведаць, куды ён пойдзе.

Рушылі ў дарогу пасля васьмі гадзін вечара. Таварыш Сяргей быў апрануты ў добрае гарадское паліто з футравым жоўтым каўняром, на галаве зухавата сядзела прыгожая футравая шапка-магерка. Кузьма ішоў у сціплейшай апратцы. Староннi чалавек мог падумаць, што гэта вяртаецца з заробкаў або ідзе ў заробкі які-небудзь дрывасек ці пячнік. На Кузьме была сіняя тоўстая світка, шэрыя картовыя штаны былі ўвабраны ў халявы высокіх салдацкіх ботаў. За спіною трымаў ён невялікі палатняны вузельчык, у якім ляжалі бохан хлеба, луста сала і чатыры цыбуліны.

Кузьма ішоў наперадзе, таварыш Сяргей ззаду. Дамовіліся ісці не вельмі хутка, бо ў таварыша Сяргея балела ў калене правая нага. Гэта ён у Мінску, у час нямецкай аблавы, скокнуў цераз плот.

Да Бярэзіны было вёрст трыццаць. Кузьма вёў таварыша Сяргея глухімі ляснымі дарогамі, дзе можна было не баяцца сустрэч з людзьмі, тым больш з немцамі. Але пільнасць не пакідала іх ні на хвіліну, бо ведалі — усялякае здаралася на такіх дарогах.

Ноч пачыналася ціхая, светлая. У свежым паветры прарэзваўся, крапчэў марозік. На неба выплыў месяц, і вакол яго ярка зіхцеў шырокі серабрыста-жоўты круг. Зоркі нясмела блішчалі ў сцюдзёным небе. Здавалася, яны баяцца холаду, баяцца зацятай начной маўклівасці. Снег парыпваў пад нагамі, і гэтае калючае рыпенне ўспорвала марозную цішыню.

Часам даводзілася ісці па цаліку, і тады ледзьве цягнуліся, бо таварыш Сяргей пачынаў адставаць. Кузьма прыпыняўся, чакаў яго, і моўчкі зноў ішлі яны ў бязмежжа начных снежных прастораў.

Разы са два перасякалі заліўныя лугі, якія былі скуты бліскучым сіняватым лёдам. Кусцікі чароту выбіваліся з-пад лёду. Лёд, як кінуць вокам, успыхваў халодным белым полымем пад месячнымі промнямі.

У полі, што было густа завалена вялікімі і малымі валунамі, спудзілі чародку курапатак. Напалоханыя птушкі бясшумна зніклі, растварыліся ў снежным ззянні. І зноў мёртвы холад і шорсткі снег былі наўкола.

Кузьма не ведаў, куды ідзе таварыш Сяргей. Ідзе за дэмаркацыйную лінію, да чырвоных. А там дзе спыніцца — у Оршы ці ў Смаленску — вядома толькі Кладзькову і Андрэем Бацютам. Канспірацыя, канечне, рэч сур'ёзная, неабходная, але ўсё ж хацелася Кузьме ведаць, куды ляжыць дарога ягонага начнога спадарожніка. Толькі ж не спытаеш аб гэтым у таварыша Сяргея. Разведчык у такіх выпадках павінен трымаць язык за зубамі.

Ды здарылася так, что сам таварыш Сяргей сказаў, куды ён ідзе. Прытаміўшыся, зашыліся ў густы нізкі хвойнічак, што прыляпіўся ля берага нешырокай пятлістай рачулкі. Наламалі хваёвых лапак, селі на іх. Таварыш Сяргей накорпаўся ў кішэні паліто, дастаў два кавалачкі цукру. Адзін, большы, даў Кузьме.

— Шмат яшчэ ісці? — спытаўся ён.

— Вёрст пятнаццаць — семнаццаць будзе,— прыкінуў Кузьма.

— Шмат,— сказаў таварыш Сяргей.— З маёй нагою шмат. Думаў, што зажыве нага, аж яна яшчэ больш разбалелася.

— Натрудзіў ты нагу, таварыш Сяргей. Трэба было трохі перачакаць, дні два-тры.

— Чакаць нельга, Кузьма. Дужа ж доўга мне дабірацца. Да самай Масквы.

— Да Масквы? — аж прысвіснуў Кузьма.— Дык ты ў Маскву сабраўся?

— У Маскву,— усміхнуўся таварыш Сяргей.

— І быў ты там раней?

— Чаму ж не? Быў. Не раз быў.

— У Маскве будзеш,— задумліва сказаў Кузьма і глянуў у далеч снежнай ночы.— Зайздрошчу я табе. Маскву пабачыш, паходзіш па ёй. Там жа і Ленін зараз жыве.

Ён сядзеў, сашчапіўшы на калене рукі, слухаў журботны шум хвойнічку і думаў, што яму ніколі, пэўна, не давядзецца пабываць у Маскве. А ёсць жа людзі, што нарадзіліся там, жывуць, робяць, гадуюць дзяцей, і для гэтых людзей Масква такая ж звычная, як для яго Чмялі.

Ён часта чуў, і ад сваіх людзей, і ад ворагаў, як называлі Маскву чырвонай сталіцай. І яму думалася, што там на кожным кроку вісяць чырвоныя сцягі, жанчыны ходзяць у чырвоных суkенках, а салдаты — у чырвоных шынялях. Там нават будынкі, думалася яму, афарбаваны ў чырвоны колер.

— Зайздрошчу я табе,— яшчэ раз сказаў ён таварышу Сяргею.

Перадыхнулі і зноў пайшлі пад маўклівым халодным небам, па такой жа маўклівай зямлі.

Раніца застала іх у балоцістым куп'істым лузе. Чэзлы алешнічак цягнуўся каля невялікай рачулкі, што ўся была засыпана снегам. Птушыныя і звярыныя сляды скрыжоўваліся на гэтым снезе. Пад высокім альховым пнём, які навісаў з крутога берага над рачулкай, убачылі жменьку сіне-зялёнага, чырвонага ад крыві пер'я. Значыць, зусім нядаўна кіпела тут жыццё і толькі нечаканае з'яўленне людзей напалохала дзікіх жыхароў снежных абшараў, і яны пахаваліся хто куды.

— Прывал трэба рабіць,— сказаў Кузьма, бо ўбачыў, што таварыш Сяргей зусім знясілеў.

Ён азірнуўся наўкола і заўважыў невысокі скасабочаны стажок сена непадалёку. Гэта вельмі ўзрадавала яго — нейкую гадзіну можна пасядзець у зацішку.

Выскублі ў стажку яміну-нару, залезлі туды, замаскіраваліся знадворку сенам, і цёплая мяккая стома агарнула цела. П'янліва пахла злежанымі травамі. Гэты нapaўзабыты пах абудзіў у Кузьмовай душы хвалюючыя ўспаміны. Летняя раніца ўспомнілася яму. Яшчэ маўчаць птушкі... Яшчэ спяць дрэвы, абмытыя сярэбранай расой... На ўсходзе, там, дзе павінна выкаціцца на блакітны прастор нябёсаў сонца, толькі злёгку прабягаюць лёгкія хвалі прыглушанай, няяркай чырвані. Ён, Кузьма, падпасак. Толькі што расштурхала яго маці, павесіла на плячо торбачку з полуднем, дала ў рукі вялікую цяжкую пугу, і ён басанож ідзе па вясковай пясчанай вуліцы, крычыць сонным, вялым голасам:

— Выга-ня-я-яй!

Але з кожным імгненнем, з кожным крокам усё болей прачынаецца ўся ягоная істота, бо так сярэбрана зіхціць раса, такое высокае, смугла-сіняе неба, такі свежы ветрык пранікае за каўнер кашулі, казыча, халодзіць цела. За вёскай чакае луг, а ў тым лузе — цэлае мора шумлівай

аксамітнай травы, звон чмялёў і пчол, няўлоўнае пырханне стракоз, птушыныя таемныя гнёзды, вечная плынь белых воблакаў над галавою...

Калі гэта было? І ці было гэта?

Нарэшце дайшлі да ракі Бярэзіны. Яна была пакрыта лёдам, але, адчувалася, лёд яшчэ нетрывалы, тонкі, яшчэ «дыхае». Да бліжэйшага моста каля вёскі Глівін было вёрст пятнаццаць, ды на мост не выпадала ісці, бо там стаялі немцы. Нямецкія кавалерыйскія раз'езды кожны момант маглі з'явіцца і тут. Рашылі пераходзіць раку па лёдзе.

Выбралі вузейшае месца. Тут праз хмызняк да ракі вяла сцежачка. Калі прыгледзеліся, выявілася, што не людзьмі пратаптана яна, а ласямі. «Ласі пераходзілі на той бераг,— падумаў Кузьма.— Значыць, і мы зможам перайсці».

Уважліва гледзячы пад ногі, ён пайшоў наперадзе, таварыш Сяргей — за ім. Лёд у некаторых месцах быў засыпаны мяккім снегам, і Кузьма стараўся абыходзіць такія месцы, бо пад снегам звычайна лёд бывае танчэйшы, слабейшы. Лёд плаўна асядаў пад нагамі ўгінаўся і калыхаўся. Нават лужыны вады відненіся там-сям.

Чым далей адыходзіліся ад берага, тым большы неспакой адчуваў Кузьма. Ён ужо здагадаўся, што ласі прыходзілі на рэчку піць ваду, значыць, недзе наперадзе ёсць у лёдзе палонкі.

Вось лёгкі трэск прайшоў па ўсёй рацэ. Лёд пад нагамі ўздрыгнуў і як бы паплыў уніз. Доўгая сінявата-белая трэшчына пабегла ад самых Кузьмовых ног да супрацьлеглага берага.

— Спыніся,— падаў ён знак таварышу Сяргею. Сам таксама прыпыніўся.

Ён стараўся не рабіць ніякіх рэзкіх рухаў, нават дыхаць стараўся цішэй. Наперадзе заўважыў шырокія палосы на снезе і здагадаўся — гэта ласі кляліся тут на жывот і асцярожна падпаўзалі да адкрытай вады.

Кузьма таксама апусціўся, лёг на лёд і ціха папоўз, стараючыся, аднак, забіраць правей ад таго месца, дзе поўзалі да палонкі ласі. Ён поўз і ўсім наструненым целам адчуваў, якая глыбокая, сцюдзёная прорва вады пад ім. Правай рукой асцярожна цягнуў ён па лёдзе свой вузельчык. Дрэнна было тое, што не даўмеўся дастаць з-за пазухі і пакласці ў кішэнь світкі рэвальвер. Зараз рэвальвер перашкаджаў паўзці, але перакладваць яго ў кішэнь было позна — кожны лішні рух усё болей павялічваў страшную трэшчыну ў лёдзе.

Злева, сажняў за пяць ад сябе, убачыў Кузьма шырокую вымоіну ў лёдзе, над якой курылася лёгкая імжыстая пара. Вада там, у вымоіне, усхліпнула, плесканулася цераз край ад цяжару чалавечага цела. Кузьма знерухомеў, счакаў, пакуль супакоіцца дрыготкі лёд, потым зноў ціха падаўся наперад.

Нарэшце выбраўся ён на бераг, ад холаду рэзка трасянуў рукамі, падскочыў колькі разоў на адным месцы і азірнуўся. Таварыш Сяргей поўз яго ж дарогаю. Ён быў цяжэйшы за Кузьму, і таму трэшчына ў лёдзе пабольшала, пагрозліва шырылася.

Да берага заставалася крокаў пятнаццаць, як раптам лёд не вытрымаў, праламаўся, і таварыш Сяргей па плечы апынуўся ў вадзе. Кузьма ўбачыў яго спалоханы, пабялелы твар, пачуў шыпенне вады, што вырывалася з-пад лёду.

— Кузьма! — закрычаў таварыш Сяргей. У ягоным крыку чуўся адчай. Рукамі ён хапаўся за лёд, але той крышыўся, выслізгваў, і з кожным рухам таварыша Сяргея палонка ўсё павялічвалася.

Кузьма маланкавым паглядам акінуў бераг. Усюды снег, кволыя кусцікі алешніку... Але вось ляжыць у алешніку доўгая яловая жэрдка, рубель, якім сяляне ўціскалі летам вазы з сенам і, пэўна, забыліся або згубілі. Кузьма схапіў гэтую жэрдку, збег да самай вады, падаў таварышу Сяргею. Той хацеў схапіцца, выскачыў амаль да пояса з вады, але не дастаў і цяжка боўтнуўся назад, схаваўся ў рацэ з галавою.

«Жэрдка кароткая,— памярцвела ў грудзях у Кузьмы.— Што ж рабіць?» Ён расшпіліў світку, зняў з сябе скураную салдацкую дзягу, прывязаў, моцна зашмаргнуў яе да канца жэрдкі і зноў кінуў таварышу Сяргею. На гэты раз аслабелымі рукамі той учапіўся за дзягу, і Кузьма, прысеўшы, падаўшы ўсё цела назад, пачаў цягнуць яго на бераг. Звонка ламаўся лёд, вада бурліла і шумела каля Кузьмовых ног, а ён, сашчаміўшы зубы, адчуваючы, як гарачым потам залівае твар, з усяе сілы цягнуў на сябе жэрдку і разам з ёю таварыша Сяргея.

Нарэшце той дабраўся да берага. Вада лілася ручаямі з паліто, з шапкі. Ён разгублена спыніўся каля Кузьмы, не ведаў, што рабіць. Зуб не трапляў на зуб.

— Не стой... Пабеглі,— сказаў яму Кузьма.— Будзеш стаяць — прападзеш.

Яны пабеглі ад ракі, што так негасцінна іх сустрэла. Таварыш Сяргей бег, і на вачах уся ягоная адзежа пакрывалася бліскучай луской лёду.

«Хутчэй у цяпло, да людзей. Калі хвілін праз дваццаць не натрапім на чыё-небудзь жытло, ён замерзне»,— думаў Кузьма, пазіраючы, як сінее твар у таварыша Сяргея.

Яны прабеглі па лузе, вылецелі на бугор і каля лесу, крокаў за трыста ад сябе, убачылі хутарок. Невялікая прыгожая хатка, пад жоўтай саламянай страхой, стаяла, як цацка, паміж ліпавых прысадаў.

— Наддай, Сяргей,— сказаў Кузьма, і яны з апошніх сіл памчаліся да хутарка, бо толькі там магло быць выратаванне.

Вароты на двор былі зачынены. Тады яны пералезлі цераз паркан, пабеглі да хаты. Але і на хаце вісеў замок.

Вялізны чорны сабака з адчайным брэхамываліўся раптам з-пад ганка і кінуўся на Кузьму. Кузьма паспеў сустрэць яго ўдарам нагі. Сабака перакуліўся на спіну, заенчыў, шмыгнуў пад паветку, дзе ў торпе былі складзены дровы.

— Хата зачынена,— разгублена сказаў таварыш Сяргей і скалануўся ад холаду. Вочы ягоныя мутнелі.

Кузьма азірнуўся, убачыў, што пад паветкаю ў тоўстай яловай калодзе тырчыць сякера. Ён хуценька прынёс сякеру, сякерай гэтай з прабоем вырваў замок.

— Бяжы ў хату,— падпіхнуў ён таварыша Сяргея.

Печ, відаць, нядаўна палілі, бо яна яшчэ была цёплая. Таварыш Сяргей як быў у зледзянелым адзенні, так і сігануў на печ і ўжо там пачаў таропка сцягваць з сябе мокрае.

Кузьма шыбнуў яму на печ сваю світку, убачыў на лаве кажух, падаў і яго таварышу Сяргею. Той хутаўся ў рыззё, ляскаў зубамі ад холаду.

— Цяпер перазімуем,— весела сказаў Кузьма і, сеўшы на лаву, пачаў аглядаць хату, куды так нечакана яны трапілі.

Амаль трэцюю частку яе займала печ, на якой грэўся таварыш Сяргей. Каля печы стаяў услон, завалены нейкімі клункамі, побач быў драўляны ложак, акуратна засланы, з вялікай горкаю падушак. Па правую руку, ля сцяны, стаяла гарадская шафа, з люстэркам у дзвярах, за ёй, насупраць акна, мясцілася швейная машына «Зінгер». У хаце было чатыры акны, і на кожным падаконніку ў вазонах або ў драўляных скрыначках раслі кветкі. У чырвоным куце, абвітая ручнікамі і пажоўклымі папяровымі кветкамі, вісела ікона.

З першага пагляду нельга было меркаваць, хто гаспадар хаты. Але, відно па ўсім, чалавек гэты меў сякую-такую капейчыну.

На плеценай этажэрцы нават кнігі ўбачыў Кузьма. Падышоў, пагартаў. Большасць кніг была на польскай мове. У іх былі малюнкі, на якіх старадаўнія рыцары з доўгімі коп'ямі і мячамі, на танканогіх конях, заганялі ў драўляныя або сплеценыя з лазы загоны дзікіх звяроў. Ваўкі і дзікі, куніцы і казулі, зайцы і алені ратаваліся ад бязлітасных coннікаў, падалі пад ударамі іхніх пік, пад капытамі іхніх коней.

— Давай адзежу тваю выкручу. Хутчэй высахне,— падышоў да печы, глянуў на таварыша Сяргея Кузьма.

Той, голы, захінуўшыся ў кажух, трымаў у руках невялікую скураную сумку, з вялікай асцярогай даставаў з яе нейкія падмочаныя паперыны, раскладваў іх на чарэні. «Не было ж у яго сумкі гэтай,— падумаў Кузьма.— Пэўна, пад адзежай, на грудзях насіў».

Таварыш Сяргей, падалося Кузьме, як бы хацеў прыкрыць рукой ад яго свае паперыны, схаваць іх. Але хаваць было позна, і ён сказаў Кузьме:

— Выкруці, калі ласка. А то я сяджу ў чым маці нарадзіла... Няёмка атрымалася. Як зладзеі, уварваліся ў чужы дом. Што падумаюць гаспадары, як нас тут убачаць.

— Ты б зледзянеў, калі б не натрапілася гэтая хата.

— І то праўда.

— Не грэх зараз і перакусіць,— трохі счакаўшы, прапанаваў Кузьма.

— Можна,— згадзіўся таварыш Сяргей.

— Дык у мяне ёсць у торбе хлеб з салам. І цыбуля ёсць. Чым не яда? Вось каб толькі гарэлкі дзе тут пашукаць... Табе для сугрэву...

— Не трэба,— адразу пасуровеў таварыш Сяргей.— Выпіць пасля такога ледзянога купання я выпіў бы. Але ў чужой незнаёмай хаце браць чужое, браць без ведама гаспадароў... Не падыходзіць гэта нам.

— Ясна,— уздыхнуў Кузьма.

Моўчкі перакусілі. Таварыш Сяргей зашамацеў на печы сваімі паперамі. Кузьма ж падышоў да акна, глядзеў на двор. Чорны сабака круціўся там і раз-пораз адрывіста гаўкаў, пазіраючы на хату, у якую зайшлі чужыя людзі.

Церусіўся лёгкі сняжок. Вецер шкуматаў голле чорных ліп, якія шчыльнай сцяною абступалі сядзібу.

«Тут жа павінны ўжо быць чырвоныя»,— радасна падумаў Кузьма. Казалі ж усе, што па дамове з Савецкай Расіяй немцы ачысцілі левабярэжжа Бярэзіны. Значыць, неўзабаве можна будзе сустрэць сваіх. Гэта адразу падняло настрой.

— Як ты там? Падсушыўся? — весела спытаўся Кузьма ў таварыша Сяргея.

Той ужо апранаўся. Адзенне было яшчэ трошкі макраватае, але не хацелася яму доўга заставацца ў чужой хаце. Не ведаў, як гляне ў вочы гаспадарам, калі тыя заявяцца дадому.

— Пайшлі,— сказаў таварыш Сяргей.

Яны выйшлі на ганак, і зноў, адбегшыся на дрывотню, забрахаў чорны сабака.

Кузьма забіў на месца прабой, павесіў замок, венікам замёў сляды на ганку.

Таварыша Сяргея пачаў біць кашаль. Спачатку быў ён рэдкі, нястрашны, але чым далей, тым кашаль узмацняўся. Таварыш Сяргей пачаў гаварыць шэптам — так раптоўна ахрып.

— Трэба вяртацца ў хату,— сказаў Кузьма.— Куды ж ты такі пойдзеш?

Але таварыш Сяргей адмоўна пакруціў галавою, на самыя вочы насунуў шапку, заматаў шыю і рот шалікам. Толькі выйшлі яны з двара, як з лесу, насустрач ім, выехала цяжка нагружаная фурманка, на якой сядзела двое мужчын.

— Гаспадар едзе,— здагадаўся Кузьма.— Бачыў, як мы хадзілі па двары. Зараз пачнецца допыт, толькі паспявай адбівацца.

І сапраўды, фурманка, параўняўшыся з імі, спынілася. Мужчына гадоў сарака, чарнавусы, чырванатвары, у доўгім, па самыя пяты, белым кажусе, лёгка скочыў на дарогу, сказаў:

— Добры дзень вам.

— Добры дзень,— спыніліся Кузьма з таварышам Сяргеем.

Мужчына падышоў да іх. Маладзейшы, відаць, ягоны сын, сядзеў у фурманцы, на цэлай гары поўных мяхоў, якія былі прыцярушаны саломай.

У мужчыны былі дзіўныя вочы: — адно чорнае, другое — сіняе. Здавалася, з аднаго твару глядзяць на людзей два розныя, непадобныя адзін на аднаго твары.

— Добры дзень вам,— яшчэ раз паздароўкаўся мужчына. Кузьма з таварышам Сяргеем маўчалі. «Глядзіць, ці не свіснулі ў яго на двары што-небудзь»,— падумаў Кузьма.

Але чарнавока-сінявокі мужчына спытаўся нізкім глухаватым голасам:

— Ці не гэта будзе сядзіба Казіміра Францкевіча?

«Значыць, не гаспадар»,— абрадаваўся Кузьма. Узняўся настрой і ў таварыша Сяргея. Толькі што ж адказаць незнаёмцу? І самі яны не ведаюць, хто жыве ў гэтай замкнёнай хаце. Кузьма хацеў ужо так і сказаць, але мужчына апярэдзіў яго. Ён павярнуўся да таварыша Сяргея, чамусьці палічыўшы яго за гаспадара:

— Дык вы будзеце Францкевіч Казімір? Мне гаварылі пра вас. Мой швагер, Давыд Чма́ра, быў тут на мінулым тыдні. Дзесяць пудоў збожжа на той бок вёз.

Мужчына махнуў рукой у аўчыннай рукавіцы на супрацьлеглы бераг Бярэзіны, адкуль нейкую гадзіну таму назад прыйшлі Кузьма са сваім таварышам. Рознакаляровыя вочы наліліся вільгаццю.

— Я Францкевіч,— сказаў раптам таварыш Сяргей. Кузьма ад здзіўлення ледзь не папярхнуўся, але ж адразу надаў твару сур'ёзны, нават суровы выраз, зразумеў — пачынае таварыш Сяргей хітрую, небяспечную гульню, бо падазронай здавалася яму гэтая фурманка.

— Вось і добра, што мы ўбачыліся, што шукаць вас не трэба,— засвяціўся радасцю змрачнаваты дагэтуль твар мужчыны.— Калі хлеб перапраўляць будзеце? Ноччу?

— Падумаем,— нахмурыў лоб таварыш Сяргей.

— У вас жа тут раней паром быў. А цяпер па лёдзе можна.

— Слабы яшчэ лёд,— уставіў сваё слоўца Кузьма.

Мужчына глянуў на яго, потым зноў павярнуўся да таварыша Сяргея.

— Хутчэй трэба. А то чырвоныя чэкісты могуць і сюды дабрацца. Цяжка стала да вас ездзіць. Усюды бальшавіцкага войска — як грыбоў увосень. Братоў Казловых злавілі са збожжам. У Талачын павезлі.

Паступова Кузьма пачынаў усё разумець. Значыцца, багацеі з вёсак, што пад Саветамі, возяць збожжа немцам. Возяць, пэўна ж, за грошы, а можа і так, каб толькі не даць лішняга кавалка хлеба Чырвонай Арміі. Казімір Францкевіч, гаспадар хаты, у іх як бы начальнік перавалачнага пункта.

Кузьма спытаўся:

— А як у Расіі з хлебам?

— Дохнуць, як мухі,— ціхенька засмяяўся ў кулак мужчына.— У Піцеры і ў Маскве хлеб на асфальце не расце. А Украіна, Дон і Кубань пад белым войскам. Вялікі голад ідзе. Голад, я вам скажу, страшней за любога кайзера. Прыязджаў да нас са Смаленска камісарык з атрадам. Прадуктовыя атрады яны стварылі, прадуктовую развёрстку прыдумалі, каб, значыць, з мужыка хлеб выбіваць. Ну, сустрэлі мы гэтага камісарыка па хрысціянскаму звычаю. Хлеб-соль... Гарэлачка... А ноччу ўсіх за ногі ды ў балота. Камісарык у споднім праз акно выскачыў, ратавацца надумаў. Але мой Сымон вілы яму ў спіну ўсадзіў...

Ён глянуў на хлопца, на свайго сына, які сядзеў на мяхах са збожжам і ўважліва слухаў размову. Кузьма і таварыш Сяргей таксама паглядзелі на Сымона.

— А як Саветы? Утрымаюцца? — спытаўся ў гаваркога мужчыны таварыш Сяргей, і Кузьма заўважыў, як торгаецца ягонае цёмнае брыво.

— Кукіш з маслам ім. Да піліпаўкі з божай дапамогай усё скончыцца. Генерал Дзянікін на Маскву ідзе. У войску, кажуць, адны толькі паны ахвіцэры.— Мужчына весела плюнуў сабе пад ногі.— Прыблуда нейкі, крамнікаў сынок, уздумаў вучыць мяне, як трэба жыць. Хто ты мне, грамацей такі? Па мне — ты хоць на нажы тырчы. Але не лезь, не лезь у душу. Я сам хачу быць сабе хадзяінам. Не дам хлеба, і спруцянееш, як камар пад снегам. А як з аплатаю будзе? — пацікавіўся ён раптам.

— Заплоцім,— з непрыхаванай пагрозаю сказаў, не вытрымаў Кузьма. Таварыш Сяргей хуценька глянуў на яго.

Але мужчына пакуль што не адчуваў небяспекі. Ён скруціў тоўстую цыгарку, закурыў.

— Чым жа плоцяць германцы?

— А чым швагру твайму плацілі? — закашляўся таварыш Сяргей.

— Давыду Чмару? Бітон масла для швейнай машыны прывёз.

— Ну, а ты што б хацеў займець?

— Я? — мужчына плюнуў на цыгарку, затушыў яе і схаваў у кішэню кажуха.— Лепей, вядома б, золатам узяць. Золата, яно, брат, не гніе і не ржавее. Да страшнага суда можа ляжаць. І пры любой уладзе яго паважаюць.

— А калі не будзе золата? — настойваў таварыш Сяргей.

— Тады можна нямецкіх гадзіннікаў узяць. Добрыя іхнія гадзіннікі. Бачыў я, на залатым ланцужку іх носяць. І для Сымона штуку трэба набыць...

— А ён што хоча?

— Вінтоўку хоча. Неспакойна цяпер у вёсцы. Трэба, каб пад рукою не толькі сякера была.

Змоўклі. Сняжок узмацніўся, пачаў зацягваць навакол-ле дрыготкай белай сеткай. Кузьма адчуваў, што вось-вось не стрымаецца і ўлепіць добрую аплявуху аматару нямецкіх гадзіннікаў з залатым ланцужком. «Чакаем чырвоных, як бога,— думаў ён,— а гэтыя гнойныя жукі да кайзераўцаў хлеб возяць». Ён нецярпліва пазіраў на таварыша Сяргея, чакаў сігналу.

Ды той не спяшаўся канчаць гаворку. Пэўна, хацеў болей даведацца пра жыццё ў чырвонай Расіі.

— Што мне іхняя камунія? — казаў між тым мужчына.— Згоняць усіх, спраўных і лайдакоў, працавітых і п'яніц, забяруць усё, і цалуйся з якім-небудзь задрыпанцам. А ён бы ў мяне, задрыпанец той, і гусей не пасвіў. Ні хлеба і ні вады ім не трэба даваць, гарлахватам. Як тога камісарыка, віламі трэба...

— Ну ўсё! — крыкнуў Кузьма.— Годзе, шкура паганая, языком мянташыць!

Ён дастаў з кішэні рэвальвер, упёр халоднае дула мужчыну ў грудзі. Той захліпнуўся на паўслове. Стаяў, бялеў, рабіўся як ліст паперы.

Сын ягоны, Сымон, раптам выхапіў з-пад крыса кажуха свінцовы кастэт, адным махам уздзеў яго на правую руку, скокнуў з фурманкі да Кузьмы. Але таварыш Сяргей наставіў на яго рэвальвер, сказаў ціха і жорстка:

— Ну-ну, гарачы які... Гэта табе не віламі... Кідай цацку ў снег.

Сымон зірнуў спадылба — у яго таксама, як і ў бацькі, былі рознакаляровыя вочы,— абмяк, кінуў кастэт цераз пляча на дарогу.

— Вось так,— нахіліўся, падабраў кастэт таварыш Сяргей.

Мужчына часта, шумна дыхаў. Пот буйнымі кроплямі каціўся па чырвоных шчоках.

— Гадзіннік захацеў? — прыжмурыўшы вочы, дулам рэвальвера расхінуў яму кажух Кузьма.— Сволач. Народ ваюе, галадае, гіне... А ты белыя булкі з крыві народнай пячэш. Расстраляць цябе мала.

— Не страляйце,— сказаў мужчына і рукавом выцер пот на твары. Ягоны сын, унурыўшы галаву, маўчаў.

— Запомніце і перадайце сваім хаўруснікам: рэвалюцыю нічым у труну не загоніш — ні жалезам, ні голадам. Кожны дзень сонца ўзыходзіць, кожнай вясною трава прабіваецца... Так і рэвалюцыя.

Гэта казаў таварыш Сяргей, і вочы яго былі бязлітасна сінія.

— Можаш, Кузьма, канём кіраваць? — спытаўся ён.

— Гаворыш! Так, як і лыжкай у рот трапляць магу,— весела адгукнуўся Кузьма.

— Тады бяры вожкі і заварочвай каня. На ўсход паедзем. А вы,— павярнуўся таварыш Сяргей да мужчыны і ягонага сына,— пагуляйце тут, падумайце, добра пра ўсё падумайце. Заадно і Францкевіча свайго сустрэнеце.

Уладкаваліся на мяшках, Кузьма ўзмахнуў вожкамі, і фурманка пакацілася ў той бок, адкуль зусім нядаўна прыехала. Яе ранейшыя гаспадары, бацька і сын, стаялі на заснежанай дарозе, са страхам і нянавісцю глядзелі ўслед. А з лесу, правальваючыся ў сумётах, цягнучы санкі з насечаным галлём, выходзіў, кіраваўся да сваёй хаты Казімір Францкевіч.

Праехалі, не перакінуўшыся адзін і адным словам, лес. Пачалося поле, роўнае, як сподак, ветранае. Таварыш Сяргей сядзеў, згорбіўшыся, часта, глуха кашляў. Твар у яго пасінеў, вочы слязіліся.

Кузьме, згодна з загадам Сцяпана Кладзькова, патрэбна было адразу на беразе рэчкі развітацца з таварышам Сяргеем і павярнуць назад, у атрад. Пра гэта ведаў і таварыш Сяргей. Але чамусьці маўчаў. Кузьма ж са спачуваннем глядзеў на свайго хворага спадарожніка і не рашаўся пакінуць яго аднаго. «Як ён дабярэцца да Масквы? — думаў Кузьма.— Зваліцца недзе ў вагоне паміж чужых людзей і прападзе».

Моўчкі праехалі яшчэ вярсты са дзве. «А што, калі б ён мяне ўзяў з сабою? — глядзеў на згорбленую спіну таварыша Сяргея Кузьма.— Я ў яго як ардынарац быў бы. Ён жа нейкі важны падпольны начальнік. Важныя дакументы ў Маскву вязе. Я б яму спатрэбіўся, яшчэ як спатрэбіўся».

Гэтая думка засела ў галаве, і, як ні стараўся Кузьма даказаць самому сабе, што ўсе ягоныя планы лухта, што ёсць ваенная дысцыпліна, па якой ён, разведчык Радзімовіч, павінен заўтра ж вярнуцца ў атрад, цяжка было саўладаць з сабою. Тады ён набраўся смеласці і сказаў усё як ёсць таварышу Сяргею. Не дыхаючы, чакаў адказу.

Таварыш Сяргей яшчэ мацней закашляўся, глянуў на яго пачырванелымі вачамі.

— Са мною хочаш ехаць? А дэзерцірам цябе не палічаць?

— Ну як жа я магу зрабіцца дэзерцірам? — пакрыўдзіўся Кузьма.

— Будуць хвалявацца, думаць, што прапалі мы з табой удвух, што нехта нас падстрэліў па дарозе.

Усё гэта, вядома ж, магло быць. І Кузьма змоўк. Падганяў каня, глядзеў, як па белым полі завіваюцца тонкія струменьчыкі снегу.

— Тады я злезу тут і пайду назад, а ты едзь далей,— сказаў ён, счакаўшы нейкі час, і прыпыніў каня.

Таварыш Сяргей уважліва паглядзеў на яго, паглядзеў на пустыннае снежнае поле, строга звёў бровы.

— Падабаешся ты мне, Кузьма. Скажы: ты член партыі?

Кузьма моўчкі кіўнуў галавой.

— Ты ведаеш, што я не магу цябе ўзяць. Добра ведаеш. І я ведаю. Але пад сваю адказнасць парушу загад Кладзькова, і мы будзем дабірацца да Масквы разам. Я не ўзяў бы цябе, ды, сам бачыш, хвароба на мяне накінулася. А мне край як трэба там быць, і чым хутчэй, тым лепш. Слухай уважліва: што б са мною ні здарылася — можа страчу прытомнасць, можа яшчэ што,— не адыходзься ад мяне ні на крок і не здавай ні ўрачам, ні вайсковаму начальству, нікому. Тут,— ён ляпнуў рукою па грудзях,— вязу тое, што не кожным вачам трэба бачыць. Зразумеў?

— Ясна,— радасна ўсміхнуўся Кузьма і ўспомніў пра скураную сумку, з якой даставаў таварыш Сяргей мокрыя паперыны.— Дзякуй табе. І не сумнявайся: не падвяду.

Ён шырока, весела махнуў вожкамі, конь пабег трушком, фурманка затрэслася на калдобінах, і, здалося, адразу пасвятлеў, папрыгажэў дзень. Новая дарога чакала наперадзе, далёкая дарога, і ўся істота, кожная клетачка цела, жыла прадчуваннем гэтай дарогі.

На высокай заснежанай узлобіне паміж поля, там, дзе расла купка маладых тонкіх бярозак, іх спыніў кавалерыйскі раз'езд. Сямёра коннікаў нячутна вынырнулі з цішыні белых раўнін напярэймы фурманцы. Кузьма з таварышам Сяргеем схапіліся за рэвальверы, але ўбачылі чырвоныя зоркі на нязвыклых чубатых шапках з шэрага сукна.

— Нашы! — крыкнуў таварыш Сяргей. Імгненная, амаль дзіцячая радасць затапіла змучаны хваробай твар.

Верхавыя абкружылі фурманку, снег пушыстымі воблачкамі вырываўся з-пад конскіх капытоў. Коні танцавалі, іх цяжка было стрымаць.

— Хто такія? — раздзімаючы густыя русыя вусы, крыкнуў малады шыракаплечы кавалерыст у чорнай бурцы.

— Свае! — выгукнулі Кузьма з таварышам Сяргеем і кулём скаціліся з фурманкі.

Радасць, незвычайная радасць, распірала грудзі. Вось яны — байцы Чырвонай Рабоча-Сялянскай Арміі. Маладыя, прыгожыя, пунсавашчокія ад лёгкага марозу. Значыць, ёсць яна, гэтая армія, армія, якую стварыў сам Ленін. Яна прыйшла на Беларусь, яна нясе збавенне ад пакут працоўнаму люду. А пра іх жа, гэтых маладзенькіх, вясёлых хлопцаў у чубатых чырваназорных шапках, крычалі паны і падпанкі несусветную хлусню, называлі іх апрычнікамі, дзікімі ордамі, крыважэрнымі гунамі.

— Пахомаў, правер дакументы,— загадаў русавусы. Худы, чорненькі, як грачок, кавалерыст скокнуў з каня на снег, падышоў да Кузьмы і таварыша Сяргея. У яго былі поўныя шчокі, маленькія вочы. Кузьма, не адрываючыся, глядзеў на чубатую шапку з зоркаю. На зорцы молат перакрыжоўваўся з плугам. «Такую б шапку — Ваську Шворану. Вось радасці было б хлопцу!» — падумалася раптам.

— Хлеб вам прывезлі,— кашляючы, казаў між тым таварыш Сяргей,— у багацеяў перахапілі...

Ад хвалявання, ад радасці ён зусім аслабеў, стаяў, прыхінуўшыся да фурманкі, разгублена ўсміхаўся і кашляў.

— У лазарэт табе трэба, таварыш,— спачувальна сказаў русавусы.

— Не,— адмоўна пакруціў галавою таварыш Сяргей.

Чарнавокі Пахомаў заўважыў, з якой цікавасцю глядзіць Кузьма на зорку, усміхнуўся:

— Першы раз бачыш?

— Першы.

— Тады бяры,— Пахомаў адшпіліў зорку ад шапкі, аддаў яе Кузьме.— Бяры, бяры. Можа калі ўспомніш мяне. А ведаеш, чаму ў зоркі пяць канцоў? Таму што пяць частак свету нам ад капіталістаў вызваліць трэба.

— Дзякуй, братка,— Кузьма асцярожна паклаў зорку ў нагрудную кішэню гімнасцёркі і доўга адчуваў яе ўсім целам.

Праз якое паўгадзіны ў вялікай валаснов вёсцы ўбачылі столькі чырвонага войска, што аж вочы разбегліся. Кулямёты бачылі, і гарматы, і браневікі. Кузьма толькі паспяваў галавою круціць на ўсе бакі.

— Бачыш, якая сіла,— казаў яму таварыш Сяргей з такім выразам твару, нібы сам сабраў і прывёў сюды гэтую сілу.

Праз двое сутак на станцыі Прыяміна селі яны ў цягнік, які павольна, прыпыняючыся амаль каля кожнага слупа, пакаціўся на ўсход. Вокны ў вагонах былі пабітыя, і вецер гуляў па ўсім эшалоне, намятаючы снег, выдзьмуваючы цяпло. Народу ехала няшмат: параненыя чырвонаармейцы, абцяжараныя мяхамі і торбамі сяляне, насцярожаныя галодныя падлеткі-беспрытульнікі.

На чарговым прыпынку Кузьма, схапіўшы чайнік, выбег з вагона па кіпецень. На пероне ўбачыў бязногага маладога мужчыну, у салдацкім парваным шынялі, з салдацкай бесказыркай у руцэ. Як абрубак дрэва, тырчаў калека ў шэрым раскіслым снезе, каля ўваходу ў вагон.

— Не дайце з голаду памерці, таварышы,— бяссільна ляцелі насустрач людзям ціхія словы, і бесказырка ўздрыгвала ў вялікай, сіняй ад холаду руцэ.

Кузьма не мог нічога даць і, не вытрымаўшы пагляду журботных, разумных вачэй, прабег міма. Потым, ужо седзячы ў вагоне, зноў і зноў успамінаў ён чалавека-абрубка, невымерную крыўду ў ягоных вачах.

Зімовая белая зямля плыла абапал чыгункі. Скаваныя холадам, пакорна стаялі лясы, глытаючы пякучы смалістачорны паравозны дым. На пераездах, адгароджаныя паласатымі, пярэстымі шлагбаумамі, цярпліва чакалі, пакуль прапаўзе цягнік, сялянскія сані. Худыя, з прысохлымі да жывата і ног каўцюхамі, як бы драмалі сялянскія коні. У сялян былі відны толькі густыя, абсыпаныя шэранем бароды.

Змеркласся, але святла не запальвалі. Цягнік з пакрэктваннем, з сіпеннем, поўз усё далей на ўсход, і ўсё болей снегу ляжала на роўнядзі нешырокіх, абкружаных лясамі палёў.

Вакзалы былі разбітыя. Зрэдзь у цёмных вокнах станцыйных будынкаў мільгалі слабыя язычкі газовак. Паўсюдна была цемра, маўклівая, трывожная. Здавалася, яе чэпкія рукі датыкаюцца да вагонаў, шкрэбаюць па іх, аж ледзянее чалавечая душа. Няцяжка было ўявіць, як пад покрывам халоднай ночы пераразаюць некаму глотку, разбіваюць чэрап цяжкім бязменам.

З-за жоўта-чорных хмар выплыў на сінюю прагаліну неба серп месяца, асвятліў зямныя снягі. Фантастычнае відовішча бачыў кожны, хто не спаў, а, як Кузьма, прыпаўшы да акна, глядзеў у начную цемру. Ледзь асветленыя бярозавыя лясы стаялі каля чыгункі, як снегавыя воблакі, што заблудзіліся ў халодным змрочным небе і ўпалі на зямлю і так застылі, нерухомыя і мёртвыя.

Ноччу праехалі Смаленск. У вагон зайшло ▪ дзесятак чырвонаармейцаў. Яны курылі, смяяліся. Вогненныя кропкі цыгарак праколвалі густы вагонны змрок. Ударылі ў станцыйны звон, далі сігнал да адпраўлення, і журботны крык халоднай медзі паляцеў у начную цемру.

Кузьма сядзеў каля халоднага акна і адчуваў, што засынае. Не было ўжо ніякіх сіл змагацца з манатоннасцю начной дарогі, з цемрай, якая, здавалася, вось-вось расплюшчыць вагон. Ён устаў, глянуў на таварыша Сяргея, паправіў на ім шынель, азірнуўся — ці няма якіх-небудзь падазроных людзей,— потым зноў сеў, насунуў шапку на вочы, сцяўся ў камяк і амаль адразу ж заснуў.

А назаўтра раніцай была Масква. Таварыш Сяргей, бледны, з хваравітым бляскам у вачах, надрыўна кашляючы, ішоў па пероне паміж вірлівага натоўпу. Кузьма не адставаў ні на крок, як не прыклеіўся да таварыша Сяргея, бо згубіцца тут, у гэтай людской гаманлівай калатнечы, было надта ж проста.

Селі ў трамвай. Ён з рэзкім скрыгатам, ад якога калола ў зубах, пакаціўся па ранішніх маскоўскіх вуліцах. Пасажыраў было многа. Народ ехаў на работу — на фабрыкі, заводы, у канторы, у вайсковыя часці. Твары ва ўсіх былі заклапочаныя і худыя. Столькі худых людзей адразу Кузьма ніколі не бачыў.

Масква яшчэ не ачулася пасля кастрычніцкіх баёў семнаццатага года. Сляды ад куль і асколкаў на сценах дамоў, разбітыя вітрыны булачных, развернуты снарадамі брук траплялiся на кожным трамвайным перагоне. Ды гэта ўсё, як пачынаў разумець Кузьма, было толькі часцінкай тых нечалавечых пакут, якія абяцалі прынесці ў Маскву белыя генералы.

«Не ўварвуцца яны. Мала кашы елі»,— думаў Кузьма, гледзячы на стомленыя, зямлістыя твары сваіх суседзяў. Каб уварвацца ў гэты горад, трэба знішчыць усіх яго ных

жыхароў. Трэба забіць вунь таго дзядка з белай бародкаю, з акулярамі на кірпатым носе. Вунь тую дзяўчыну, што стаіць ля акна. У яе ў кішэні ляжыць акраец хлеба, і яна, стараючыся, каб ніхто не заўважыў, адшчыквае ад акрайца маленькія крошачкі, кладзе іх у рот і смокча, заплюшчыўшы вочы. Каб уварвацца ў Маскву, трэба прастрэліць грудзі вунь таму рыжавалосаму рабочаму хлопцу, які без шапкі сядзіць каля дзвярэй і хукае на вялікія скалелыя рукі...

Нарэшце, паездзіўшы і пахадзіўшы па Маскве, знайшлі Гранатны завулак, знайшлі дом нумар дваццаць чатыры, у якім размяшчаўся Белнацком. Па вузкім доўгім калідоры ўвайшлі ў маленькі светлы пакой і ўбачылі светлавалосую дзяўчыну, якая друкавала на пішучай машынцы. Дзяўчына ўзняла на іх блакітныя вочы, спыталася:

— Адкуль вы, таварышы?

— З Мінска,— адказаў таварыш Сяргей і прыкрыў рот кулаком, каб стрымаць прыступ кашлю.

— З Мінска? — перапытала дзяўчына.— Вы на канферэнцыю?

— Так. На канферэнцыю беларускіх секцый РКП(б),— таварыш Сяргей не вытрымаў, вінавата ўсміхнуўшыся, прысеў на канапку, што стаяла каля сцяны.— Я дэлегат. А гэты таварыш,— ён кіўнуў на Кузьму,— мяне суправаджае.

Дзяўчына перастала друкаваць, уважліва глянула на Кузьму.

— Пачакайце, калі ласка, тут. Я скажу пра вас.

Яна выйшла ў нізкія, абабітыя чорнай цыратай дзверы.

— Сядай,— пасунуўся, даў месца таварыш Сяргей.

Праз колькі часу разам з дзяўчынай у пакой увайшоў невысокі таўставаты, жвавы чалавек гадоў трыццаці — трыццаці пяці. Ён паціснуў руку спачатку таварышу Сяргею, які ўстаў з канапы, потым Кузьме, адрэкамендаваўся:

— Зміцер Жылуновіч. Сакратар Белнацкома пры ўрадзе Расійскай савецкай рэспублікі.

Поціск рукі ў яго быў мяккі, расслаблены. Акуляры ў простай аправе рабілі бледны твар строгім. Гаварыў ён у нос, нахіляючы круглую лысую галаву.

— Дык вы з Беларусі? — запытаўся Жылуновіч.— Што там робіцца зараз? Чырвонае ж войска ўжо ў Мінск увайшло.

Тут ужо таварыш Сяргей з Кузьмой узрушана пераглянуліся, стаялі, аглушаныя радасцю, не верачы навіне.

— Так-так, увайшло. Сто пяцьдзесят першы і сто пяцьдзесят другі стралковыя палкі семнаццатай стралковай дывізіі.

Жылуновіч, адчувалася, быў задаволены, што першы паведаміў ім такую доўгачаканую вестку. Ён пакратаў рукою акуляры, смешна зморшчыў лоб.

«Дык вось чаго стаялі каля Бярэзіны тыя гарматы і кулямёты, тыя кавалерысты»,— успомніў Кузьма, намацаў-

шы ў кішэні гімнасцёркі чырвоную зорку, якую падарыў яму чарнавокі смяшлівы Пахомаў. Значыць, Мінск вызвалены. І, напэўна, Праскоўя з Сяргейкам ужо вярнуліся дадому. І Іван Юшкоў вядзе сваю роту па мінскіх вуліцах. Як захацелася яму быць зараз там, бачыць усё гэта на свае вочы.

— Чакаем дэлегатаў з Тамбова,— казаў між тым таварышу Сяргею Зміцер Жылуновіч.— Як толькі яны прыедуць, пачнём канферэнцыю. Нельга нам сёння адставаць ад падзей. Разам з таварышамі са Смаленска трэба як мага хутчэй сабрацца і ўсяму свету абвясціць, што працоўны люд Беларусі ўздымае над сабою чырвоныя штандары.

Ён хваляваўся. Ён быў паэтам і міжволі пачынаў гаварыць высокімі прыгожымі словамі, якія нараджала ягоная ўражлівая душа.

Заначавалі ў двухпавярховым жоўтым асабняку непадалёку ад Данскога манастыра. У асабняку, яшчэ пры Керанскім, жыў мільянер Краснабаеў, які меў залатыя капальні ў Сібіры і асятровы промысел у Астрахані.

Кузьма ляжаў, не мог заснуць, пад высокім блакітнажоўтым балдахінам, на шырокім, чырвонага дрэва ложку. Тут, пэўна, спаў калісьці сам Краснабаеў. Сярод ночы, запаліўшы свечку — электрычнасць адключылі,— уважліва прыгледзеўшыся, Кузьма здрыгануўся: па дарагой мільянерскай коўдры, па элегантным чырвоным дрэве ішлі на яго ў наступ клапы.

21 снежня 1918 года ў шэсць гадзін вечара ў памяшканні Белнацкома пачалася канферэнцыя беларускіх секцый РКП(б). Прысутнічала дваццаць дэлегатаў з шасці гарадоў: з Масквы, Петраграда, Саратава, Тамбова, Мінска, Невеля.

Зміцер Жылуновіч, усхваляваны, бледны, выйшаў на сярэдзіну пакоя, сказаў, як заўсёды, трошкі ў нос:

— Таварышы! Прапаную ад імя нашай канферэнцыі паслаць шчырае братэрскае прывітанне, паслаць тэлеграму таварышу Ульянаву-Леніну.

І, узяўшы ў рукі невялікі аркуш паперы, пачаў чытаць: «Першая канферэнцыя беларускіх секцый РКП(б) вітае вас як шчырага спаборніка канечнае патрэбы вырашыць нацыянальнае пытанне з класавага пункту гледжання і як адданага рэвалюцыянера і змаганніка за інтарэсы пралетарыяту і бяднейшага сялянства ўсіх краін і нацыянальнасцей. Канферэнцыя мае надзеі, што пры вашым аўтарытэтным падтрыманні работніцка-сялянская Беларусь зойме належнае месца ў Савецкай Сацыялістычнай Федэрацыі».

## XIV

— Дзіна ваша хлопчыка ў лесе нарадзіла,— сустрэўшы Прахора на вуліцы, сказала старая Сойка.

Прахор якраз цягнуў на санках драўляную дзежку з вадою — надумаўся памыцца ў лазні. Ён рэзка спыніўся, затармазіў, і ледзяная вада цяжка плёхнулася цераз край, абліла ногі.

— Каб на цябе ваўкі! — вылаяўся Прахор і рукамі пачаў абіваць ваду з бурак і штаноў. Але яна ўжо дайшла да цела, апякла лютым холадам.

— Дзед ты ўжо, Прахор,— гледзячы сабе пад ногі, пакіравалася далей па вуліцы Сойка.

Была яна ў парваных валёнках, у чорным кажусе і чорнай ваўнянай хустцы. Ішла ж да Пятра Луцэйчыка паслухаць святыя песні.

— Ды пачакай ты, не ляці,— крыкнуў ёй услед Прахор.— Хто табе казаў пра хлопца?

Сойка прыпынілася, азірнулася, і яе сухі раток, заўсёды шчыльна сцяты, нібы сшыты ніткамі, расплыўся ва ўсмешцы.

— Сарока з лесу прыляцела, сказала.

— Сур'ёзна пытаю: адкуль ведаеш?

— От чалавек... От чалавек!..— забубніла Сойка.— Унук у цябе, унук... Гасцінец рыхтуй,— і пайшла па замеценай снегам вуліцы.

Прахор дацягнуў санкі да лазні, узяў вядро, што вісела на плоце, і пачаў насіць, пераліваць ваду з дзежкі ў металічную бочку, якую выменяў у немцаў на сала і ўмураваў у лазні ў печ, складзеную з камянёў і цэглы. Уваходзячы ў лазню, нізка прыгінаў галаву, каб не стукнуцца, і адразу адчуваў гаркаваты, застоены пах перапаленай цэглы і сухіх бярозавых венікаў.

Значыць, у яго нарадзіўся ўнук, першы ўнук. Дало парасткі Радзімовічава дрэва. Ён — дзед. Да гэтага яшчэ трэба прывыкнуць, асвойтацца з гэтым новым званнем, якое звычайна прыносіць не толькі радасць, але і сум.

Мог, канечне, хлопчык нарадзіцца ў цёплай хаце, у чыстым ложку. Мог, каб маці, дачка Прахорава, разумнейшая была. А то ў лесе, як зайчанё ці ваўчанё, першы дзень свой пабачыў.

Калі ж з другога боку глядзець, дык можа і добра, што ўнук-партызан з'явіўся. Кажуць, чырвоныя непадалёку, праз які тыдзень і ў Чмялях могуць быць. А калі так, дык Мішка Сырамалот самы цяпераka найлепшы зяць для яго, Прахора.

Немцы патроху пачынаюць вастрыць лыжы і ўсё часцей азіраюцца на захад, на сваю Германію. Кожны, хто не сляпы, бачыць: нядоўга засталося ім гаспадарыць на Беларусі.

І Прахор гэта бачыць. Кажуць, з Асіповіч кожны дзень ідуць эшалоны на Брэст-Літоўск і далей.

Не чакаў, прызнацца, Прахор ад немцаў такога. Крычалі: культурная нацыя, вялікая нацыя, пуп зямлі, а бальшавік даў ім выспятка — і паляцелі на сваё месца. Давядзецца, значыць, з бальшавікамі жыць. Тут ужо, як кажуць, не сам выбіраеш, а цябе лёс шукае і сваю музыку іграе.

Ну што ж, бальшавікі дык бальшавікі. І Леніну не абысціся без мужыка. Хто зямлю арэ, хто хлеб дае? Мужык. Хто дзяржаву корміць?

«Толькі каб кожны сам на сябе рабіў і сваё дабро спажываў. А то знойдзецца на твой каравай і начальнікаў, і калекаў, і тых, што языком хвацка чэшуць».

Крыўдна Прахору. Па капейцы грошы збіраў, аж з дзевяцьсот трэцяга года пачаў збіраць, каб зямлі купіць, гаспадаром зрабіцца. Спаў і сніў гэтую сваю зямлю. А тут рэвалюцыя — як гром з яснага неба. Зямля — усенароднае дастаянне! Зямлю — сялянам! Значыць, той, што гуляў, што вачэй не прадзіраў з-за п'янкі, возьме, як і Прахор, сваю долю, возьме, пальцам аб палец не стукнуўшы. А Прахор недаядаў, недасыпаў, лішнія боты не знасіў.

З такімі думкамі выграб Прахор вуголле ў вядро, вынес на вуліцу і кінуў у снег. Яно засіпела, заскавытала, аж мароз па спіне пабег. Потым распрануўся, сядзеў голы, звесіўшы галаву, ашчаперыўшы калені рукамі. У лазні было горача, быў вялікі дух, як кажуць у Чмялях. Аж вусны смылелі.

Ён сядзеў у змроку, у нясцерпнай гарачыні, увесь абліваўся потам, і на самоце думалася яму, што жыццё ягонае ўжо канчаецца, што паліпіць ён нейкі пяток-дзесятак гадоў і зваліцца, як і бацька. Бач, якое цела азызлае, як у зморшчыны пабралася, мяшок з мокрым сенам, дый годзе. А некалі ж, як малады быў, цераз любы плот мог пераскочыць, са сцяны цвік зубамі выдзіраў.

Прахор узяў жалезную конаўку, плюхнуў вады на чырвоныя распаленыя камяні. Па́ра шуганула ва ўсе бакі, здавалася, закопчаная столь лазні прыўзнялася. А ён забраўся на палок, памачыў венік у кіпецень і пачаў хвастаць сябе старанна і трошкі злосна.

Раней ён запрасіў бы мыцца суседзяў. Заўсёды так вялося ў Чмялях: спачатку мыліся мужчыны, потым — бабы. Ішлі са сваімі венікамі, хто і паўлітэрку нёс у свежай бялізне. Столькі збіралася людзей, што вады не хапала. Столькі размоў вялося, гісторый расказвалася, вясёлых і страшных.

А сёння ён мыецца адзін. І нібы так і трэба. Вольна аднаму — хоць ты на палку́ качайся, хоць нырца давай у дзежку з вадою. Адбіўся ад суседзяў, ці можа суседзі адбіліся ад яго... Хто цяпер здолее разблытаць гэты вузел?

Прахор, асцярожна ставячы ногі, злез з палка, сеў на мокрую гарачую лавачку, намацаў у цемры малюсенькі змылачак, пачаў намыльваць галаву. Вочы ён моцна заплюшчыў, бо яшчэ з маленства баяўся пякучай мыльнай

пены. Так і сядзеў, паглыбіўшыся ў свае думкі, знерухомеўшы, быццам прыслухоўваўся да нейкіх далёкіх галасоў, што чуліся яму праз цемрадзь часу.

Раптам з панадворку зашкрэблі рукою па дзвярах — нехта шукаў клямку. Прарэзліва рыпнуўшы, дзверы расчыніліся, і Прахор пачуў жончын голас:

— Дзе ты тут, Прахор? — пыталася Аўдоля.— Ці не памёр ты тут?

— А ты б радая была? — выліў на сябе паўвядра вады Прахор.

Голас у Аўдолі, адчуў Прахор, быў узбуджаны, вясёлы. З якой такой прычыны, цікава?

— Чаго ты ў цемрыве сядзіш?

Аўдоля запаліла лучыну, што прынесла з сабою, уткнула яе ў трэшчыну ў бервяне над дзвярыма лазні. Слабы агеньчык спалохана затрапятаўся ў клубах белай пары.

— Хіба ж ты памыўся? Толькі паплёхаўся. Дай я табе спіну пацяру.

Аўдоля скінула світку, засталася ў сіняй сукенцы з кароткімі рукавамі.

— Наша ж Дзіна ўжо свайго маленькага мае,— радасна сказала яна, і голас цёпла ўздрыгнуў.— Мая ты дачачка. Такая маладая, і ўжо маці. Самую яшчэ цыцкой трэба карміць.

У словах былі непрыхаваны гонар, задаволенасць.

— Трэба што-кольвечы занесці ёй,— сказала Аўдоля, ужо звяртаючыся да Прахора, бо перад гэтым размаўляла, здаецца, сама з сабой.

— Куды занесці?

— У лес. Немцам жа не да лесу ўжо. Бягуць, як рудыя мышы. Можна прайсці ў Дзінін атрад.

— У Дзінін атрад,— перадражніў яе Прахор.— Вось што: хай сама ідзе сюды, з дзіцем ідзе і з мужам, і хай прабачэння ў бацькі просіць. Калі ж не папросіцца, і на парог не пушчу. Пракляну.

— Ты ўжо кляў,— уздыхнула Аўдоля.

— Тры разы клянуць. Калі на трэці раз пракляну, бог пачуе і не дасць ёй жыцця. Во як гэты бярозавы венік ссушыць.

Прахор нахіліўся, у вядры апаласнуў галаву. Калі адфыркаўся, калі расплюшчыў вочы, убачыў каля сябе жонку, такую разгубленую, няшчасную, але і прыгожую. Сэрца размякла ці ад гарачыні, ці ад жончыных вуснаў, што былі так блізка, і ён апчаперыў яе рукамі, пацалаваў у шчаку, прыгарнуў да сябе, сказаў са смяшком у голасе:

— А я яшчэ не хачу дзедам быць. Можа я свайго сынка яшчэ хачу мець.

Аўдоля сярдзіта пляснула яго па руках.

— Каб ты язык прышчаміў.

І выйшла з лазні, грукнуўшы дзвярыма.

Прахор памыўся, апрануўся, зачыніў лазню і трохі пастаяў на вуліцы. Цела было лёгкае, маладое, як не сваё.

Нездарма кажуць людзі: «У лазні памыцца, што нанова на свет нарадзіцца».

У начной вёсцы было ціха, толькі каля валаснай управы, каля камендатуры капітана Рэхлінга, чулася ўзбуджаная гамана. І Прахор раптам зразумеў: капітан збіраецца даць лататы з Чмялёў. Пэўна, удзень саромеецца. А значыць, з ім і Шмарлоўскі пабяжыць, і Пракаповіч з Незабітоўскім.

Зноў маёнтак застанецца без гаспадара. Вядома ж, прыйдзе з лесу Андрэй Бацюта і зноў, як і ў семнаццатым годзе, аб'явіць усё савецкім. Але калі тое будзе, а маёнтак, магчыма, ужо стаіць без аховы. І не можа быць, каб у спешцы не забыліся нешта немцы, не згубілі. А што з воза ўпала, тое прапала. Заўтра ж з самай раніцы трэба збегаць у маёнтак, усіх трэба апярэдзіць.

Як помніць сябе Прахор, заўсёды ў яго было жаданне любую рэч хутчэй прыбраць да сваіх рук. Ці гэта ахапак сена, які нехта згубіў на вуліцы, ці яблыкі-лясоўкі, што перад надыходам зімы апалі ў лесе на зямлю. Ад беднасці, пэўна, пайшло ўсё гэта, а можа і яшчэ ад чаго... Ён не дужа задумваўся. Ён браў, калі толькі можна было ўзяць. Помніцца, як быў малы, хадзілі з хлопцамі ў лес у грыбы. Маленькія баравічкі не бралі — хай да заўтра падрастуць! — прыкмячалі грыбное месца і ішлі дадому. Назаўтра Прахор самы першы прыбягаў у лес і зразаў усе баравікі. «Толькі б не праспаць»,— падумаў Прахор і пайшоў у хату.

Назаўтра раніца надарылася ясная, сонечная. Прахор, ледзь працёршы вочы, падаўся ў маёнтак. Снег звонка рыпеў пад буркамі, бадзёрыў душу. Прахор і не заўважыў, як адолеў вярсту, што аддзяляла маёнтак ад вёскі.

Расчараванне чакала яго — немцы яшчэ не паспелі выехаць.

Прахор бокам-бокам патупаў, робячы выгляд, што прыйшоў у маёнтак па дужа неадкладнай справе. Сам жа прыкмячаў і запамінаў, дзе што стаіць і ляжыць.

...У той час, як развітваўся Прахор з надзеяю пажывіцца хоць якім-небудзь іржавым цвіком, на двор маёнтка ўехалі сані. Пракаповіч нецярпліва падганяў каня, а на ўсю даўжыню саней ляжала нешта вялікае, прыкрытае посцілкай і сенам.

— Вось што зрабілі бальшавікі! — крычаў Пракаповіч, і як бы радасць чулася ў голасе. Ён спыніўся пасярод двара, злез з саней. Наўкол пачалі збірацца людзі. Падышоў бліжэй і Прахор. На санях ляжаў доктар Барыс Аляксеевіч Лутошкін, страшна знявечаны, нежывы. Адно вока было выбіта, твар у сіняках.

— Хто ж гэта яго? — спалохана запыталіся з натоўпу.

— Ясна хто,— гучна сказаў Пракаповіч.— Бацютавы хлопцы гэта падстроілі. Іхняя работа. Ён жа,— Пракаповіч рукою з бізуном паказаў на труп,— лячыць іх не хацеў, не хацеў звязвацца з бандытамі.

Гнятлівая цішыня павісла над натоўпам. Толькі ўсхліпвала жанчына, незнаёмая Прахору, відаць, батрачка з маёнтка.

— Я яго ў лесе знайшоў,— падалі ў гэтую звонкую цішыню рэзкія словы Пракаповіча.— Паехаў галля насекчы. Бачу: лоўж непадалёку ад дарогі. Падышоў — аж з галля ногі тырчаць.

Пракаповіч быў узбуджаны, яму не стаялася на месцы, і ён хадзіў наўкол саней, ужо мо пяты раз расказваючы, як паехаў ён у лес і як знайшоў там мёртвага доктара.

— Не можа быць, каб Бацюта Андрэй зрабіў такое,— ціха, з развагаю ў голасе, сказаў пячнік з маёнтка Аркадзь Пісаронак.

— А хто? — аж падбег да яго Пракаповіч.— Тады ты забіў! Ты!

— Не тыкайся, а то праколеш,— спакойна сказаў Пісаронак.— Не мог гэтага Бацюта зрабіць.

Прахор глядзеў на вялікія стаптаныя боты свайго былога кватаранта, на сінюю парваную штаніну з плямаю крыві і думаў пра несправядлівасць жыцця. Гэты ж во доктар маскоўскі людзей лячыў, ад смерці ратаваў, а яго самога затаўклі ў лесе, і людзі нават не ведаюць, хто зрабіў такое. Не разумеў Прахор доктара, не мог уцяміць, як гэта можна ад грошай адмаўляцца. Грошы толькі дурань не бярэ. Але доктар быў ужо мёртвы і ўсё сваё добрае і благое панёс з сабою.

— Агапка бяжыць,— захваляваўся натоўп.

Усе галовы павярнуліся ў бок дарогі, што вяла з Чмялёў.

Агапка была без хусткі, у старой аблезлай паддзёўцы, у вялікіх стаптаных валёнках. Цяжка дыхаючы, спатыкаючыся, бегла яна туды, дзе знямела чарнеўся натоўп. Следам бег Віця, крычаў, плачучы:

— Мамачка, пастой! Мамачка, хадзем дамоў!

Але яна не чула сынавых слоў, яе пагляд, нерухомы, страшны, быў скіраваны толькі ўперад.

Яна ўпала каленьмі ў снег, ашчаперыла галаву Лутошкіна рукамі, зайшлася ў слёзным крыку.

— Ляксеевіч, устань! Чаго ты тут ляжыш? Табе ж холадна, саколік мой ясны. Ручкі твае змярцвелі, ножкі твае зледзянелі, вочкі нічога не бачаць. Паглядзіце на мяне, вочкі дарагія. Хіба ж я вас не любіла, хіба ж не шанавала? Устань, Ляксеевіч, устань, даражэнькі мой!

Яна гладзіла доктару валасы, цалавала белы халодны лоб.

— Я ж казала: не едзь, не едзь, Ляксеевіч. Не паслухаў мяне, саколік, і склаў галаву. Хто ж твае вочкі навекі закрыў? Каму ты дарогу заступіў? А ты ж быў як месяц ясны. Нікому зла не зрабіў, да ўсіх з адкрытай душой ішоў. Забілі цябе, замардавалі. Цела тваё белае растапталі. Як жа я без цябе жыць буду?

— Агапка, супакойся. Пашкадуй сябе і сына,— спрабавалі ўгаварыць яе, але нічога не дапамагала.

Прахор не вытрымаў, пайшоў з маёнтка. Не любіў ён бабскіх слёз — яны для сэрца, як іржа для жалеза. Хіба ажывіш слязамі таго, хто богу душу аддаў? Крычы не крычы — адна дарога, на магілкі. І як бабы такое не разумеюць?

Думкамі зноў вярнуўся ён да нямецкага адступлення. Усё зменіцца. Кузьма з Дзінаю з лесу прыйдуць. На бацьку, вядома ж, будуць дзьмуцца. От свет пайшоў — дзеці лічаць сябе разумнейшымі за бацьку. А бацька ж для іхняга дабра стараўся і стараецца. Няўжо не могуць даўмецца яны сваім вялікім розумам, што мужык, той, што з зямлі жыве, сам павінен пра сябе клапаціцца? Узараць, пасеяць, зжаць, змалоць, хлеб спячы — усё сам павінен зрабіць, толькі сам, бо на людзей паспадзяешся — з голаду здохнеш. Людзі толькі могуць памагаць есці.

У хаце Прахор сказаў Аўдолі:

— Чула, што хаўтуры ў нашай вёсцы?

Аўдоля сядзела ля акна, прала кудзелю. Аж нітку парвала яна ад Прахоравых слоў.

— Ды што ты гаворыш? Хто ж гэта памёр?

— Агапчын прымак. Доктар, што ў нас жыў.

— Барыс Ляксеевіч? Дык у яго ж здароўя на траіх хапала. Нешта ты не тое кажаш.

— Ведаю, што кажу,— зазлаваў Прахор.— У лесе яго забілі. Пэўна, Бацютавы людзі падпільнавалі.

— А божа ж ты мой,— адразу адсунула ўбок прасніцу Аўдоля.— Дзе ж ён ляжыць? У маёнтку? Збегаю пагляджу.

Назаўтра разнеслася чутка, што немцаў ужо няма ні ў маёнтку, ні ў вёсцы, ні ва ўсёй Чмялёўскай воласці. Падаліся яны на захад, бо ў іхняй Германіі таксама пачалася рэвалюцыя.

Прахор адразу ж пашыбаваў у маёнтак. Ціха было там і пуста. У пабітых вокнах свішча вецер, замкі з усіх дзвярэй збіты, дзверы расчынены. Толькі голыя сцены стаяць, хоць ты вазьмі ды ўкусі іх са злосці. Няўжо нічагусенькі не пакінулі пасля сябе кайзераўцы, усё падчысцілі, як вылізалі?

Ён па рыпучай вінтавой лесвіцы ўзняўся на другі паверх маёнтка. Калідор быў затаптаны, забруджаны. Тынкоўка асыпалася са сцен і храбусцела пад нагамі. Гэты мёртвы, безнадзейны гук разносіўся па халодных бязлюдных пакоях.

Прахор тыцнуўся туды-сюды. Але скрозь былі запусценне, холад і бруд. Граф Незабітоўскі, аказваецца, не спаў у шапку: разам з немцамі павалок на захад усё сваё дабро.

На высокіх вузкіх дзвярах убачыў Прахор бліскучую медную ручку. Са злосцю выдраў яе, уваліхнуў у кішэню кажуха. Болей тут не было чаго рабіць, і ён, плюючыся, падаўся на двор. Можа там што трапіцца пад руку. Ён

абышоў усе пабудовы, зазірнуў у флігель. У флігелі знайшоў нямецкі губны гармонік, паклаў у кішэню. З такім небагатым набыткам і паплёўся дадому:

Але нешта рупіла яму ў хаце, нешта гняло, і ён зразумеў: трэба агледзець той невялікі свіран, што стаіць у самым канцы графскага двара, паміж кустоў агрэсту і парэчак. Збожжа ці золата ў свірне, вядома, не будзе, ды, каб быць спакойным, трэба праверыць і там.

— Куды ты зноў ідзеш? — спытала Аўдоля.

— Не твая бабская справа.

— Чаго ты нешта разбегаўся, як бытта панос у цябе?

— Ну ты! — махнуў кулаком Прахор.— Займайся сваёй кудзеляю і схавай язык.

Ляпнуўшы дзвярыма, ён выйшаў на вуліцу і пакіраваўся да маёнтка.

Ля свірна не было відаць нічыіх слядоў, і гэта ўзняло настрой. Прахор плечуком націснуў на цяжкія старыя вароты, і яны расчыніліся з натужным рыпеннем. Чародка вераб'ёў, напалохаўшы Прахора, ірванулася паўз самую ягоную галаву са свірна на вуліцу. Аж вецер па твары пайшоў.

Пуста было і тут. Але каля сцяны стаяў нейкі вялізны жалезны чан. Вышынёй ён быў амаль у два Прахоравы росты. Металічная лесвічка ляпілася збоку.

Прахор падышоў да чана, костачкамі пальцаў пастукаў па ім. Чакаў звонкага раскацістага гулу, як заўсёды бывае, калі крычыш у пустату: у калодзеж, у дзежку. Але толькі глуха зазвінеў метал. Значыць, у чане нешта ёсць.

Прахор, асцярожна ставячы ногі, палез па лесвічцы. «Што ж там такое?» — не давала спакою цікаўнасць.

Аж па самы верх чан быў запоўнены вадкай карычнева- жоўтай масай. Мёд не мёд, віно не віно. Прахор, трошкі павагаўшыся, памачыў палец, лізнуў яго языком — салодка! «Па̀така»,— здагадаўся ён. Бач, колькі немцы нарылі яе, колькі скібак хлеба маглі ёю намазаць. Ды не паспелі, а можа забыліся вывезці.

Прахорава сэрца напоўнілася радасцю. Усё-такі не дарма шукаў ён, не дарма ў кожную шчыліну заглядваў. Хутчэй трэба прыбіраць да рук гэтае дабро, а то пранюхаюць вяскоўцы, і тады не толькі не пакаштуеш патакі — да чана не праціснешся.

Ён борздзенька прыбег дадому, крыкнуў з парога жонцы:

— Вёдры давай!

— Дык ёсць жа ў хаце вада. Навошта табе вёдры? — здзіўлена паглядзела на яго Аўдоля.

Моўчкі схапіў Прахор вёдры, выліў на вуліцу ваду ў снег і заспяшаўся да маёнтка. Спяшаючыся, узлез па лесвіцы, зачэрпнуў вядром. Патака ручаямі цякла па вядры. Ён напоўніў і другое вядро, подбегам накіраваўся дадому. «Сам з'ем і свінні будуць сытыя,— радасна думаў ён.—

І прадам у Запольцах». Нечаканая знаходка амаладзіла яго. Ён стаў рухавы, вясёлы, шматслоўны.

— Ты ж нікому не гавары пра патаку,— павучаў ён Аўдолю.— За ноч перацягаю. Усё ж не купляць.

Ён быў вельмі задаволены сабой і не заўважыў, як іранічна пасмейваецца Аўдоля, гледзячы на ягоную бегатню. Зрабіўшы тры рэйсы да свірна і назад, ён адчуў страшэнную зморанасць і запрог у калёсы Вільгельма. «Навошта і вядром пэцкацца? — падумалася яму.— Адразу поўную дзежку прывязу».

Прахор выкаціў з каморы пустую дзежку, пагрузіў яе на калёсы. Бадзёра шлёгнуў пугаю Вільгельма і зноў памчаўся ў маёнтак. Каля валаснoй управы нечакана ўбачыў Антона. Той у цяжкім одуме стаяў каля расчыненых дзвярэй, ці то выходзіў з будынiны, ці хацеў зайсці.

— Антон! — паклікаў Прахор сына.

Антон уздрыгнуў, павольна павярнуў галаву. У вачах — разгубленасць і пакута.

— Антон, ідзі сюды,— нецярпліва тузануў вожкі Прахор.

Сын падышоў, глянуў з непаразуменнем, быццам не пазнаў бацьку.

— Сядай у калёсы,— сказаў яму Прахор.

Той, на дзіва, паслухмяна сеў, сашчапіў на каленях рукі.

Прыехалі ў маёнтак. Прахор павярнуў Вільгельма да свірна.

— Куды вы гэта едзеце? — нібы прачнуўся ад цяжкога сну Антон.

— Зараз пабачыш. Згружай дзежку і бяры вядро.

Прахор, схапіўшы ў руку другое вядро, жвава пабег да варотаў. Прыпыніўся, агледзеўся. Усё ў парадку — вароты зачынены, вось і колічак тырчыць, якім ён падпёр іх. Значыць, яшчэ ніхто не соваў сюды свой нос.

— Заходзь, Антон,— весела сказаў Прахор і адчыніў вароты такім рухам і з такім выглядам, нібы паказваў сыну дарогу ў запаветную, яшчэ нікім не бачаную краіну бессмяротных.

— Заходзь, Антон.

Сам жа хуценька пашыбаваў да чана, хапаючыся ўспацелымі рукамі за слізкія, халодныя парэнчы лесвічкі, як не ўзляцеў наверх. Сэрца распірала радасць.

Ён зачэрпнуў поўнае вядро, цяжка выцягнуў яго і з прыемнасцю ўдыхаў густы хмельна-салодкі пах патакі. Вядро было поўнае, з каптуром, і ён указальным пальцам акуратна згарнуў ручайкі патакі, што ліліся цераз край, у адну кучачку і з'еў яе, аблізаўшы палец. «У чужым садзе і яблыкі смачнейшыя»,— успомнілася яму. Гэту ж во патаку ён не рабіў, не варыў, а яна будзе ягоная. Як не радавацца?

Антон стаяў унізе, разгублена, з непаразуменнем глядзеў на бацьку. Яму здавалася чамусьці, што бацька звар'-

яцеў. Увабег, як шалёны, у свіран, залез на гэты чан, нешта дастае з чана і пальцы аблізвае.

— Трымай, нясі ў дзежку,— сказаў Прахор, перадаючы поўнае вядро Антону, і ў голасе былі радасць і лагода.

— Што гэта? — не зразумеў Антон.

Вядро адцягвала руку.

— Не пытай, калі даюць. Дзярма, дрэні якой не дадуць,— задаволена зарагатаў Прахор.— Патака гэта. Германскі тавар.

Антон раптам пабляднеў, пранізлівая злосць успыхнула ў вачах. Ён, як быццам яно было гарачае, пякло рукі, з сілай кінуў вядро на зямлю, у шэры пыл, у бруд. І яшчэ ўдарыў, падчапіў яго нагою, і яно, цяжка ўздрыгваючы, пакацілася да сцяны.

— Ты што робіш? — часта задыхаў, звузіў вочы Прахор.— Ты што робіш, сысунок?

Голас ягоны, хвіліну назад такі вясёлы, бадзёры, як бы трэснуў, пераламаўся. У голасе, зусім нядаўна цёплым і лагодным, пачулася халодная вастрыня разбітага шкла.

— Людзі гінуць. Барыса Ляксеевіча забілі, а ты... а вы... Цягнеш, грабеш усё пад сябе. Усяго табе мала. Табе паветра і таго мала. Хіба так жыць цяпер трэба? Зямля трэсне напалам, а ты не здрыганешся, будзеш сядзець над сваёй кучкай.

Антон зняў з правай рукі рукаўку і хукнуў на пальцы, быццам абпёк ці адмарозіў іх. У вачах яшчэ гарэла, гнеўна пералівалася ўзбуджэнне.

— А як жа жыць цяпер трэба? — Прахор павольна, цяжка злез на зямлю, упрытык падышоў да Антона.— Павучы, сынок, будзь ласкаў, дурнога бацьку.

Раптам твар ягоны скрывіўся, шчокі і губы заторгаліся. Ён схапіў абедзвюма рукамі сына загрудкі, падцягнуў да сябе, як мяшок жыта, закрычаў рэзка і страшна:

— А ну паднімі вядро! Паднімі вядро!

Антон ірвануўся з чэпкіх бацькавых рук, але сілы, каб вызваліцца з гэтых рук, не хапіла, і тады яны, сын і бацька, пакаціліся па зямлі, па пяску і саломе, па патацы, што карычнева-жоўтай стужкай выцякала з вядра. Папераменна то адзін, то другі аказваліся наверсе, усім цяжарам цела навальваліся, націскалі на праціўніка, каб уплішчыць, удавіць яго ў зямлю, але той, як уюн, выслізгваў спаднізу, і барацьба пачыналася спачатку. Яны цяжка, з гарачым прысвістам дыхалі, пот заліваў вочы, у грудзях булькатала і хрыпела, здаецца, трашчалі жылы і косці, але ні адзін не хацеў саступаць, і ніводнага слова не вымавіў ні адзін. Сілы ў іх прыкладна былі роўныя, бо ў родных людзей прырода заўсёды ўкладвае аднолькавы кавалак сілы. Прахор быў старэйшы, грузнейшы, хутчэй стаміўся, але болей моцы было ў мускулах. Антон жа браў гнуткасцю, спрытам, ды толькі мяккі ў яго яшчэ быў хрыбетнік, не хапала вынослівасці, трываласці.

У кішэні ў Антона быў рэвальвер, ён балюча ўпіваўся

ў бок, у сцягно, і вось тое, што пры ім была зброя і зброя гэтая кожную хвіліну магла стрэліць, працверазіла Антона. Ён, сабраўшы ўсе сілы, адпіхнуў ад сябе бацьку, ускочыў на ногі. Страшэнная стома была ва ўсім целе. Сэрца нібы вырывалася з грудзей.

Антон млявай рукой зашпіліў світку, нагнуўся, падняў рукаўку. Гарэла правая шчака. Ён пакратаў яе пальцамі, і, яшчэ не бачачы, здагадаўся, што пальцы ў крыві. Тады ён павярнуўся, вельмі павольна пайшоў на вуліцу.

Прахор застаўся ляжаць. Ён ляжаў на спіне, раскінуўшы рукі, заплюшчыўшы вочы.

Толькі што ён біўся з родным сынам, біўся са сваёй крывёю і плоццю, можна сказаць, з самім сабой. Ён і зараз бы біўся з ім, таму што лічыў сябе пакрыўджаным, зняважаным, растаптаным сынавай чорнай няўдзячнасцю. Хіба толькі для сябе цягаў ён гэтую патаку? Хіба ён адзін з'есць яе ўсю? Яму хопіць адной лыжкі. Для сям'і, для роду свайго стараўся. Сын узняў на яго руку. Тады для чаго трэба было нараджаць такога сына? Лепей трэба было быць бясплодным, як сухая гліна, як камень.

Прахор цяжка расплюшчыў вочы, правёў рукою па твары. Адчуў, якая шурпатая, старая ў яго скура. І вялікае шкадаванне да самога сябе выбухнула ў сэрцы.

Ён прыўзняўся на локцях, расслабленым позіркам акінуў свіран. Ва ўсіх кутках быў паўзмрок, толькі тут, дзе ён ляжаў, было трохі святлей. Ён паглядзеў уверх і ўбачыў вялікую шчыліну ў саламянай страсе.

Нешта зварухнулася каля супрацьлеглай сцяны, у маленькім ахапачку саломы. Прахор напружыў зрок і ўбачыў мыш, звычайную шэрую мыш, якая рабіла сваю адвечную работу — здабывала харч. Яна, прыўзняўшыся на заднія лапкі, пярэднімі і вострай мордачкай вылушчвала зерне з перакручаных збуцвелых каласоў. Колькі там таго зерня, адны слёзы, але ёй хопіць, ёй шмат не трэба.

І Прахор адчуў раптам, як ажывае, выпростваецца душа. Вось што заўсёды трэба рабіць чалавеку, як бы горка ні было,— трэба здабываць сабе ежу. Ён схапіў вядро, забыўшыся на боль, на стому, зноў палез уверх па лесвіцы.

Прахор зачэрпваў вёдры і насіў у дзежку, якую зноў паставіў на калёсы, бо потым, поўную, яе было б не пагрузіць аднаму чалавеку. Ён разагрэўся, расшпіліў кажух, нават кашулю, і бегаў, як малады, ад чана да дзежкі.

Хутка патакі ў чане паменшала. Яму даводзілася ўсё глыбей, аж трашчала ў плячы, апускаць руку з вядром. «Трэба знайсці дзе-небудзь на двары жэрдку і прывязаць да яе вядро,— падумаў ён.— Але гэты раз яшчэ і так дастану».

Левай рукой Прахор абапёрся аб верхні край металічнай лесвічкі, нагамі, наскамі ботаў учапіўся за парэнчы, усім целам нахіліўся, пераважыўся ў чан. Вядро зачэрпнула патакі, але не да краёў, і ён другі раз пачаў закідваць, заводзіць яго. Ён яшчэ болей нахіліўся ўніз, аж кроў да

вачэй і вушэй прыхлынула. Тук... тук... тук...— застукалі гарачыя малаточкі ў скронях.

Ён ужо выцягваў вядро, як раптам нешта хруснула, перарвалася ўсярэдзіне. Прахор адчуў, як адразу ж аслабела, абмякла ягонае цела, пахаладзеў ад жаху, выпусціў вядро і паляцеў галавою ўніз.

Калі б ён так упаў у чан, ён адразу б загінуў, захлынуўся. Але нечалавечым напружаннем, ад якога пацямнела, стала балюча ўваччу, Прахор падкінуў усё сваё цела ўверх, і гэта выратавала яго. Ён урэзаўся ў патаку не галавою, а пляснуў грудзьмі. Нагамі адпіхнуўшыся ад слізкай сценкі чана, ён вынырнуў, выскачыў на паверхню, на поўны рот хапіў паветра і рукамі паспеў учапіцца ў невялікі выступ, які быў на сценцы, прыкладна за паўсажня ад верхняга зрэзу чана.

Рукамі, пальцамі, пазногцямі ўпіваўся Прахор у слізкае, халоднае жалеза, а цела, паралізаванае страхам, цяжкое, няўмольна цягнула яго ўніз. «Што ж гэта такое? Няўжо я загіну?» — аж зайшоўся ад смяротнай роспачы Прахор і пачаў крычаць:

— Антон! Антон!

Сын не адказваў, не чуў ці можа не хацеў чуць, і Прахор, адчуваючы, як немеюць, зацякаюць, трашчаць мускулы рук, закрычаў як толькі хапала сіл:

— Людзі, ратуйце! Людзі!

Ён прыслухаўся — адказу не было. Не было ні гуку. Левая рука сарвалася, і ён цяпер вісеў толькі на правай руцэ. «Няўжо я загіну?» — зноў, як пякучая маланка, пранізала ўсю істоту роспачная, нясцерпная сваёй страшнай суровай праўдаю думка.

Не вытрымала, сарвалася і правая рука. Ён пайшоў уніз, але, сабраўшы ўсе сілы, сабраўшы рэшткі апошніх сіл і надзей, рэзка адпіхнуўся нагамі ад дна, зноў, захлынаючыся, выскачыў на паверхню. Паўзмрок быў у свірне, і недзе здабывала сваю ежу шэрая асцярожная мыш.

«Гіну»,— як бы закрычаў нехта, чужы, староннi, у ягоным сэрцы, у кожнай клетачцы напружанага, ужо непаслухмянага цела.

Прахор апошні раз хапануў перакошаным ротам паветра, узмахнуў рукамі, як перабітымі крыламі, і паляцеў уніз, у холад, у змрок...

# XV

Кайзераўскія ваякі пакідалі Беларусь, стараючыся не прыцягваць лішняй увагі, асабліва не кідацца ў вочы. Куды дзеліся пруская самаўпэўненасць і пыха. Стомленая, духоўна спустошаная армія панесла з сабою ў цэнтр Еўропы не толькі глухую злосць на тых, хто больш чым чатыры гады трымаў яе пад ружжом, яна панесла туды бальшавіцкія ідэі і лозунгі, жаданне жыць у сваім доме па чалавечай справядлівасці.

Не радаваліся адступленню немцаў толькі палітыканы з Беларускай народнай рэспублікі. Трэба было тэрмінова пакаваць чамаданы і даваць лататы на захад, бо Чырвоная Армія была ўжо ў Барысаве. Трэба было падшукваць зімнія кватэры ў Варшаве, Празе або ў Коўне. Яны ўжо нічога не значылі для свайго народа гэтыя дзеячы з «Народнага сакратарыяту» — Серада, Варонка, Скірмунт, Аляксюк, Езавітаў, Смоліч, Бялевіч, Астроўскі... Белы снег замятаў іхнія сляды.

Адступаючы, германскае воінства не грэбавала нічым, што можна было б прыхапіць з сабою. Бралі вэнджаныя кумпякі на гарышчах вясковых хат і чыгуначныя шпалы, конскія падковы і юшкі-засаўкі для комінаў. Спрацаваў закон саранчы. Саранча павінна з'есці ўсё, што толькі можна пераварыць, і пакінуць пасля сябе чорную пустыню.

Але ўсюды аматары чужога дабра сустрэлі арганізаваны, дружны адпор беларускіх рабочых і сялян. У Мінску была створана рабочая міліцыя, якую ўзначаліў Адам Славінскі. Рабочыя занялі ў цэнтры горада гасцініцу «Гарні» і ператварылі яе ў свой баявы штаб. На вакзале нямецкія цягнікі з нарабаваным дабром былі ачэплены дружынамі чыгуначнікаў. Так і не крануліся гэтыя цягнікі з месца. Акрамя таго, нямецкім вайсковым уладам быў прад'яўлены ультыматум: здаць усю зброю рускага вырабу. Тысяча вінтовак перайшла ў рукі рабочых.

Атрад Сцяпана Кладзькова такім самым чынам дзейнічаў на станцыі Асіповічы і ў Чмялёўскай воласці. І амаль усюды немцы згаджаліся на ўсе ультыматумы. Было нават трохі дзіўнавата — іхнія ж часці былі яшчэ баяздольныя, мелі шмат боепрыпасаў. Але Кладзькоў сказаў:

— Адзін у іх клопат: хутчэй бы ногі адсюль вынесці. Паглядзіце, як нервуюцца іхнія афіцэры. Для іх, для паноў афіцэраў, кожная лішняя гадзіна на бальшавіцкай зямлі — гэта сотні страчаных салдацкіх душ. Салдат глядзіць, думае і бачыць, што ў нас тут не буржуйская ўлада становіцца на ногі, а народная. Чаму б, мяркуе салдат, і мне не зрабіць такое самае ў Германіі?

Сонечнай марознай раніцай дваццаць партызан з атрада Сцяпана Кладзькова ўступілі ў Чмялі. Большасць з іх былі, канечне ж, чмялёўцы: Андрэй Бацюта, Мішка Сырамалот з Дзінаю і сынам, Яўхім Сцепанюга. Акрамя чмялёўцаў, урачыста прайшоў па вясковай вуліцы Першакоў са сваімі сябрамі-чыгуначнікамі. Асноўная ж частка атрада засталася ў лясным лагеры, каб праз дзень-другі выступіць у напрамку Мінска і зліцца там з Чырвонай Арміяй.

Наперадзе ўсіх, трымаючы на руках Мішкавага сына, ішоў, шырока ўсміхаючыся, Бацюта. Быў ён у ватоўцы, а паверх яе апрануў нямецкі зялёна-карычневы плашч. На ўскраіне вёскі ён зняў з галавы шапку, запіхнуў яе ў кішэню плашча.

Малы круціўся, кугікаў на вялікіх Бацютавых руках. Бацюта высока ўзняў яго, сказаў:

— Вось ты і дома, цёзка. Вось адсюль тваё карэнне. Глядзі і ўсё запамінай.

За Андрэем Бацютам паціху ехалі на санях Дзіна з Мішкам Сырамалотам, Яўхім Сцепанюга і Сямён-артылерыст. Мішка ўсё перажываў, усё гаварыў:

— Асцярожна, Андрэй. Каб толькі не выпусціў малога. Нядоўга ж паслізнуцца...

— Не бойся, Сырамалот. Бацюта не паслізнецца,— шчасліва ўсміхалася Дзіна.

Твар яе ззяў радасцю, вочы ўсхвалявана блішчалі. Яна плечуком прытульвалася да Мішкі, а сама неадрыўна глядзела наперад, туды, дзе на моцных руках, над белай вясковай вуліцай, у сонечным блакіце неба, то плачучы, то смеючыся, плыў яе першынец, яе сын. Яна адчувала сябе самай шчаслівай на ўсёй зямлі, і нават крыху боязна было ад такога шчымлівага і нязвыклага адчування.

Сямён-артылерыст за час свайго партызанства зрабіў новую драўляную нагу, дубовую, вельмі прыгожую, абабітую бліскучымі меднымі цвічкамі. Ён горда ехаў, выставіўшы яе на паказ усёй вёсцы, жмурачыся ад зыркага сонца.

І толькі Яўхім Сцепанюга быў не надта радасны з выгляду. Маўкліва кіраваў ён канём, глядзеў толькі ўперад і старанна, дужа старанна грыз бліскуча-жоўтую саломінку. Ён, пэўна, узяў яе ў рот, каб хоць нечым забавіцца, каб не гаварыць, бо не да размоў было яму.

З невясёлаю душою ехаў у родную вёску Сцепанюга. Як будзе глядзець ён у вочы людзям, калі сын ягоны, Мікіта, так і не пайшоў у лес, так і прасядзеў на печы? Што падумае Андрэй Бацюта? У яго, у Яўхіма Сцепанюгі, у мужыка-пралетара, і такі несазнацельны сын. Хоць ты скрозь зямлю праваліся ад сораму.

Але галоўнае выпрабаванне чакала Яўхіма каля Нупрэевай бярозы. Менавіта каля яе, абапёршыся спіною аб ствол, выставіўшы ўперад нагу ў ліповых дошчачках, трымаючы ў правай руцэ кіёк, стаяў ягоны Мікіта. Угледзеўшы бацьку, весела замахаў кійком, закульгаў насустрач.

— Прывітанне героям! Прывітанне нашым збавіцелям!

Вочы былі нахабна-ўпэўненыя і хітрыя.

Яўхім Сцепанюга аж згорбіўся, аж зморшчыўся, нібы ў яго раптоўна не адзін, а адразу сем зубоў забалела.

«Няўжо і праўда баліць у яго нага? — падумаў Яўхім.— І дзе ён набраўся такіх слоў?»

Мікіта ж весела гукнуў Бацюту:

— Прывітанне, Андрэй!

Бацюта ўважліва паглядзеў на яго, спакойна сказаў:

— Здароў, Мікіта. Усё хварэеш?

— Ды хварэю, Андрэй. Скаваў бы ты мне жалезную нагу замест гэтай балячкі.

І Мікіта рашуча трасянуў нагою ў ліповых дошчачках.

«Не баліць яна ў яго»,— аж перакусіў і злосна выплюнуў саломінку Яўхім.

Сямён-артылерыст, так сказаць, галоўны чмялёўскі

спецыяліст па калецтвах, адразу заўважыў Мікітавы хітрыкі, са смяшынкаю ў голасе спытаўся:

— На якім фронце падстрэлілі?

— На чмялёўскім,— бадзёра адрапартаваў Мікіта і зачыкільгікаў да бацькі.

— Здароў, бацька! А мы цябе ўжо зачакаліся. Маці ўжо бліноў напякла.

— Ідзі, ідзі дадому,— увабраў галаву ў плечы Яўхім.

Тым часам уся вёска, хто толькі стаяў на нагах, выйшла на вуліцу. Даўно не было ў Чмялях столькі радасці, столькі цёплых людскіх усмешак, столькі шчырых чыстых слёз. І ўсё гэта не хавалася на дно чалавечай душы, а шчодра, як вясновая крыніца, струменілася насустрач тым, хто ішоў і ехаў па заснежанай вясковай вуліцы. І такім мірным, даўно забытым здалося раптам усё. Быццам гэта не байцы ў абпаленых порахам світках, у задымленых бінтах ішлі зараз, а вярталіся з ліпеньскага сонечнага лугу касцы, вясёлыя, загарэлыя хлопцы.

Чым глыбей уваходзілі ў вёску партызаны, тым усё болей шчыльнеў натоўп на вуліцы. Старыя, жанчыны, дзеці ціскалі ім рукі, выносілі квас і малако, хлеб і яблыкі. Вось ужо амаль перагарадзілі дарогу, і Андрэй Бацюта, трымаючы малога на руках, спыніўся.

— Здароў, Андрэй!

— Здарова, хлопцы! — чулася адусюль.

Гудзенне ўзбуджаных галасоў, людскі смех і плач зліваліся, сплята给ся ў адзін клубок.

Бацюта аддаў малога Дзіне, узняў руку.

— Таварышы! Землякі нашы! Вось мы і вярнуліся.

— Вярнуліся,— выдыхнуў натоўп.

— Вось мы зноў ідзём па нашай вуліцы, па нашай зямлі. Паверце мне, няма большага шчасця для нас усіх, як зноў бачыць гэтыя хаты, гэтыя ліпы, бачыць вас, дарагія вы нашы. Пад свіст куль, пад разрывы снарадаў марылі мы пра гэта штодзённа. Некаторыя нашыя хлопцы не дайшлі, не дажылі. Дык здымем шапкі і паклонімся ім нізка. І яны ў гэтую хвіліну быццам будуць тут, будуць з намі.

Натоўп заціх, як мёртвы. Мужчыны знялі шапкі. Жанчыны выціралі з вачэй слёзы. Вецер шумеў над Чмялямі, шумеў у чорным галлі злядзянелых ліп.

— Таварышы! — узвысіў голас Бацюта.— Недарэмна мы ваявалі. Чырвоная Армія ўжо каля самага Мінска. Беларусь зноў робіцца Савецкай. І такой яна будзе навекі.

Ён змоўк, бо хваляванне раптам прыдушыла голас. Ён стаяў і глядзеў на маўклівы натоўп, а голас усё не вяртаўся да яго, не прыходзіў.

— Гавары, Андрэй,— папрасілі з натоўпу.

Бацюта вінавата ўсміхнуўся, пачаў кашляць і раптам сустрэўся позіркам са сваёй Тэкляй. Яна стаяла каля плота, прыхінуўшыся плячуком да аброслых зялёным імхом штыкецін, і неадрыўна глядзела на яго. Столькі любові было ў вачах, столькі пяшчоты і столькі пакуты!

Ён адчуў, як цёплая пругкая хваля падкацілася да грудзей, да горла, аж сталі вільготнымі вочы. Ён маўчаў і ўсміхаўся ёй. І яна шчасліва, аддана ўсміхалася яму.

Гэта ж колькі ён не бачыў яе? Месяцаў дзесяць, калі не болей. Часта сніў яе ў лесе. А аднойчы, калі з Кузьмой Радзімовічам хадзілі ў Чмялі на разведку, падкраўся да хаты з гародчыка, ціха пастукаў у акно. Тэкля яшчэ не спала, падышла да акна, трывожна паглядзела ў вечаровы змрок. Бацюта адхінуўся, не захацеў, каб убачыла яго, бо па вуліцы хадзілі Гаранок са Шмарлоўскім. Тэкля, накінуўшы хустку на плечы, выйшла на ганак, ціха гукнула:

— Андрэй!

Ён ляжаў у разоры і глядзеў на яе. Яна зноў гукнула.

Як хацелася яму тады ўзняцца, падысці да яе, абняць за плечы, але ён стрымаўся. Яна сумна ўздыхнула, шчыльней захуталася ў хустку, быццам нясцерпны холад пабег па целе, і пайшла ў хату.

І вось зараз яна побач, за нейкія дзесяць крокаў ад яго, і яму здаецца, што ён нават чуе яе ўсхваляванае дыханне.

— Яшчэ гавары, Андрэй. Даўно не чулі цябе,— прасіў натоўп.

— Пасля пагаворым, хлопцы,— усміхнуўся Бацюта.— А зараз сустракайце сваіх, хто каго. Ды не вельмі дужа частуйце, бо жываты нашы да лясной нормы прывыклі. А я да сваёй Тэклі пайду.

І ён пайшоў да яе праз натоўп, і яна памкнулася насустрач. Калі падышоў, упала галавой на грудзі, абхапіла шыю рукамі і цалавала, цалавала яго, не саромеючыся старонніх вачэй. І яму было трошкі дзіўна адчуваць, што трапеча ў яго, як у семнаццацігадовага, сэрца.

— Гэта ты тады ўвечары ў шыбу стукаў? — расчырванелая, памаладзелая, шчасліва спыталася Тэкля, як ішлі яны дадому.

— Я.

— Я так і падумала. Выходжу на ганак, аж нікога няма. Стаю, гукаю, і сама, павярыш, адчуваю, што ты на двары, недзе побач, а ўбачыць не магу. Усю ноч плакала.

— Ну што ж гэта ты? — засмяяўся, лёгенька абняў яе Андрэй.— Бацютава жонка, а плачаш. Мая жонка не мае права плакаць.

— Таму і плакала, што Бацютава,— радасна глядзела яму ў вочы Тэкля.— Плакала, што Бацюта мой не адгукаўся.

Прыйшлі ў хату, і Бацюта ўбачыў, што ўжо накрыты стол. Стаяць міскі, чыгунок з яшчэ цёплай бульбаю, стаіць бутэлька самагонкі.

— Ого! — здзівіўся Бацюта, здымаючы плашч і ватоўку.— Нават гарэлка ёсць. Хіба можна лясны пост парушаць?

— Сёння можна. Не ўсё ж жыццё пасціцца,— засмяялася Тэкля.— Давай я табе на рукі палью.

Ён сцягнуў з плячэй кашулю, голы па пояс нахіліўся над цэбрам, што стаяў каля дзвярэй. Тэкля зачэрпнула кубак вады, лінула яму ў прыгаршчы і глядзела, усміхаючыся, як мыецца ён, як фыркае і трэ загарэлую шыю.

Селі абедаць. Тэкля наліла Бацюту шклянку гарэлкі, сабе капнула на дно, чокнулася і сказала:

— Добра, што ты вярнуўся. Нікуды цяпер не адпушчу.

Бацюта толькі ўсміхнуўся.

— А чыё гэта ты дзіцё трымаў? — спытала яна, калі ўжо выпілі і закусілі.

— Дзіны Сырамалот хлопчыка. Цёзку свайго.

Яна змоўкла, сумна ўздыхнула, і Бацюта зразумеў яе сум — хацела б і яна мець сваё дзіцятка, ды не дадзена ёй гэтае вялікае жаночае шчасце, абдзяліла яе прырода.

— Не вешаць нос,— весела сказаў Бацюта, устаў, выйшаў у сенцы і зашчапіў там дзверы. Вярнуўся ў хату, пачаў распранацца.— Што для салдата самае галоўнае? Добра паспаць. Вось і я гэтак зраблю ■ дарогі.

Ён ляжаў на ложку, па самую бараду накрыўшыся коўдраю, і глядзеў на Тэклю. Яна прыбрала са стала, памыла рукі, акуратна зашмаргнула на вокнах фіранкі і таксама пачала распранацца. Застаўшыся ў адной сарочцы, распусціла густую цёмна-русую касу. Доўгія прыгожыя валасы закрылі ўсю спіну. Яна асцярожна, на пальчыках, падышла да ложка, лягла, павярнулася да Бацюты, усхвалявана дыхаючы, абвіла яму шыю рукамі, пяшчотна і цвёрда пацалавала ў вусны.

Прачнуўся Бацюта толькі назаўтра, недзе ля абеду. Цела было лёгкае і свежае. Ён ускочыў з ложка, памахаў рукамі, пабегаў па хаце. Тэкля пякла аладкі, смяялася.

— Чаго гэта ты, Андрэй, як уджалены, бегаеш?

— Гэта гімнастыкай называецца. Сілу дае.

Бацюта схапіў раптам яе на рукі, узняў ледзь не пад самую столь.

— Ой, Андрэечка, разаб'юся,— заплюшчыўшы вочы і смеючыся, закрычала Тэкля.

Ён панасіў яе па хаце, пасадзіў на канапу, сказаў:

— Сядзі і не варушыся. Я сам аладкі буду пячы.

Яна, вясёлая, шчаслівая, сядзела на канапе і глядзела, як Бацюта пячэ аладкі. Ён мазаў распаленую патэльню кавалкам здору, вялікай драўлянай лыжкай акуратна разліваў цеста і ставіў патэльню ў печ, бокам да агню. Ён, як заўсёды, грыз свае жоўтыя вусы і глядзеў на патэльню так, нібы ад якасці аладак залежаў ягоны лёс.

— Ой, што гэта я, як паня якая, сяджу? — схамянулася нарэшце Тэкля.— Хіба мужчынскае дзела з чапялою круціцца? — Яна прагнала Бацюту ад печы, сказала: — Лепш вады прынясі ў хату.

Бацюта накінуў на плечы ватоўку, узяў вёдры, з непакрытай галавою выйшаў на вуліцу.

Браўся марозік. Неба было светла-шэрае, з трывожным свінцовым адлівам. Снег ляжаў на платах, на дрэвах, у

гародзе. Птушыныя сляды перакрыжоўвалі замецены снегам двор. Худы жоўты кот краўся некуды па плоце. Убачыўшы Бацюту, мякка скокнуў у снег.

Вядро, стукаючыся аб зледзянелы зруб вузкага калодзежа, паплыло ўніз, да цёмнай вады. Рыпеў стары вочап, выслізганы і абмацаны чалавечымі рукамі.

Бацюта хацеў быў ужо несці поўныя вёдры ў хату, як убачыў, што па вуліцы ідзе да яго, спяшаецца Лаўрэн Лапыцька. У Лаўрэна зграбны чорны кажушок, на нагах новыя лапці з белымі анучамі.

Лаўрэн падышоў, нетаропка зняў шапку, сказаў:

— Добры дзень, Андрэй Арыстафанавіч.

— Добры дзень,— адказаў Бацюта і падумаў: «Бач ты яго — нават імя майго бацькі запомніў».

Лаўрэн ступіў да яго, абняў слабымі рукамі, тры разы пацалаваў у шчокі. Гэта адбылося так нечакана, а ў Лаўрэна быў такі сур'ёзны, урачысты выраз твару, што Бацюта разгубіўся.

— Са шчаслівым зваротам цябе, Андрэй,— сказаў Лаўрэн Лапыцька, надзеўшы на галаву шапку.

— Дзякуй, Лаўрэн. Як жывеш?

— Пра жыццё маё нецікава нікому расказваць. Дыхаю патроху. Мурзіка, сабачку майго, немцы забілі. Дужа гаўкаў на іх. Надоўга вярнуўся, Андрэй?

— Назаўсёды.

— Добра кажаш,— ажывіўся Лаўрэн.— Хай так і будзе. А я табе доўг прынёс.

— Які доўг? — здзівіўся Бацюта.

— А ты ж карову мне даў. Помніш, як у госця майго, Дзяніса з Бялыніч, карову ўкралі з майго хлява? Дужа выручыў ты мяне тады. І сказаў я пры ўсіх, што аддзячу табе. Ды ўсё не выпадала. А сёння — бяры. Бяры, Андрэй.

Лаўрэн палез рукою за пазуху кажуха, дастаў адтуль невялікі палатняны мяшэчак, пачаў развязваць. Бацюта з цікавасцю глядзеў на яго.

З мяшэчка дастаў Лаўрэн цёмнымі сухімі пальцамі масіўны залаты гадзіннік з залатым ланцужком.

— Дык ты што? — аж адступіў ад Лапыцькі Бацюта.— Зараз жа схавай назад.

— Бяры, Андрэй,— трымаў гадзіннік у руцэ Лаўрэн.— Ад чыстага сэрца табе даю. Не крадзены ён, не бойся. Дзеду майму Цімоху палкоўнік Кісялёў падараваў. З пажару дзед палкоўніка вынес, як у салдатчыне быў.

— Схавай,— узяўся за вёдры Бацюта.

— Не крыўдзі мяне, Андрэй. Дальбог, не крыўдзі.

Твар у Лапыцькі зморшчыўся, здавалася, вось-вось Лаўрэн заплача.

— Ды зразумей ты,— зноў паставіў вёдры на снег Бацюта.— Не магу я ў цябе ўзяць. Не магу. Які я бальшавік пасля гэтага буду? Не за золата мы рэвалюцыю ўзнімалі.

— Ты ж мне карову даў,— не сунімаўся Лаўрэн.

— Не я даў, а рэўком.

— Тады я табе і рэўкому дам.

— Ты — як малое дзіця. Заладзіў: дам, дам... Добра. Калі такі багаты, нясі гадзіннік у рэўком. Ахвяруй яго на карысць сусветнай рэвалюцыі. Мы ўсё як трэба аформім. Паперу табе з пячаткай дадзім.

— Дзе ж гэты ваш рэўком? — павесялеў Лапыцька.

— У маёнтку сёння збіраемся. Пасля абеду пойдзем.

Бацюта ўзяў вёдры і шырокімі крокамі, не азіраючыся, пашыбаваў на свой двор.

Праз якое паўгадзіны зайшлі да яго Дзіна і Мішка Сырамалот з сынам на руках.

— Ну, як мой хрэснік пажывае? — адгарнуў ражок цёплай коўдры, якой быў захутаны малы, глянуў на дзіцячы тварык Бацюта.— Бач ты яго — спіць.

— А што яму яшчэ рабіць? Наеўся і спіць,— з гордасцю сказала Дзіна.

— Мог бы пакрычаць, паспяваць. Голас жа трэба развіваць хлопцу.

— Яшчэ накрычыцца,— спахмурнела Дзіна.— Жыць жа няма дзе.

Тут Мішка кашлянуў у кулак, прыгладзіў даланёй валасы, глянуў на Бацюту.

— Як бы нам, Андрэй, куток які дзе-небудзь агораць? У яе бацькі, у цесця майго, жыць мы не хочам. У Арэхаўку, да мяне, ехаць збіраліся. Ды не хочацца з Чмялёў зрывацца.

— А рэўком цябе і не адпусціць у Арэхаўку. Наводшыбе жыць не дадзім,— сказаў Бацюта.

— Тады можа ў маёнтку пакойчык адпусціце?

— Адпусцім, Міхал. А пакуль там разруха і халадэча, спыняйцеся з малым у нас.

— Ой, ды што вы! — зачырванелася Дзіна.— Ён жа плача ноччу. Спаць вам не дасць.

Яна прыгарнула свайго хлопчыка да грудзей, і ён, нібы пачуўшы словы маці, заплакаў тоненька і бездапаможна.

— Вось бачыце,— сказала Дзіна.

Але Тэкля ўзяла ў яе з рук малога, строга звяла бровы.

— Будзеце жыць у нас. Нам з Андрэем дужа ахвота такую музыку паслухаць.

Пасля абеду сабраліся каля Бацютавай хаты рэўкомаўцы і рушылі ў маёнтак. Разам з Бацютам пайшлі Павел Крыванос, Яўхім Сцепанюга, Мішка Сырамалот, Пятрок Заяц. На ўскраіне вёскі дагнаў іх Лаўрэн Лапыцька.

— А ты куды, дзядзька? — здзівіўся Мішка.

Лаўрэн нічога не адказаў, толькі шматзначна паглядзеў на Бацюту. Той незадаволена прыкусіў вус.

Мішка нёс чырвоны сцяг, ішоў горда, глядзеў толькі ўперад.

— Як мы хадзілі страляць пад Бярозу, Чыжэвіч нёс сцяг,— успомніў Яўхім Сцепанюга.

— Добрага бальшавіка мы страцілі,— спахмурнеў Бацюта, і нейкі час усе ішлі моўчкі.

А сонца між тым прарвалася праз тоўшчу снегавых хмар і сваімі няяркімі, па-зімоваму халоднымі промнямі асвяціла лес і поле. Здалося, тысяча іскраў успыхнула наўкола. На снег было балюча глядзець — так зіхацеў ён, блішчаў, нясцерпна пераліваўся кожным сваім крышталікам. Толькі калі ўвайшлі ў лес, у хваёвы паўзмрок, змаглі глядзець на поўныя вочы. Але доўга яшчэ ў вачах скакалі яркія залатыя бліскаўкі.

Лес вёў сваю цягучую песню, глуха шаптаў аб нечым. Ніколі не зразумець людзям адвечную гамонку ціхіх лясных абшараў. Ёсць у ёй і сум, і радасць, і скарга, і няясная надзея.

Бацюта задумліва ішоў па лясной дарозе, засунуўшы рукі ў кішэні ватоўкі, цалкам аддаўшыся таму разважнаму, крыху летуценнаму настрою, які бывае заўжды, калі з шырокага, прадзьмутага ветрам поля трапляеш у лес. Ён адчуваў, як стаміўся апошнім часам. Здаецца, спыніўся б зараз дзе-небудзь у зацішным месцы, разам з хлопцамі расклаў цяпельца і пасядзеў каля яго, заплюшчыўшы вочы, слухаючы шапаценне агню. Але столькі пільных спраў наперадзе, што пра цяпельца нават боязна падумаць.

У маёнтку іх ужо чакалі. З дзесятак парабкаў стаялі на двары, курылі, гаманілі між сабою, глядзелі, як набліжаюцца да іх рэўкомаўцы на чале з Андрэем Бацютам.

Бацюта падышоў, павітаўся. Адказалі дружна.

— Таварышы батракі,— адразу пасур'ёзнеў Бацюта.— Калі няма графа — а я спадзяюся, што ён ужо ніколі не вернецца,— дык, значыць, гаспадары ўсяго гэтага дабра — вы.

Ён абвёў рукою двор, гаспадарчыя пабудовы, сад і гароды. З усіх бакоў веяла на людзей запушчанасцю, разрухай, пахла спарахнелым дрэвам і цвіллю. Здавалася, жыццё надоўга, калі не назаўсёды, пакінула гэты калісьці пыхлівы маёнтак, які помніў феерверкі і гарматныя салюты ў дзень нараджэння графа, катанні на ўпрыгожаных кветкамі і свечкамі лодках. «Дабро яно дабро,— падумалі ўсе.— Але ці так лёгка будзе пакарыстацца ім?»

Пэўна, толькі адзін Андрэй Бацюта быў у гэты міг аптымістам.

— Гэта будзе наш, народны маёнтак,— бадзёра сказаў ён, каб адагнаць ад людскіх душ нявер'е і расслабленасць.— Мы падатром нос графу. Мы будзем гаспадарыць так, як яму і не снілася.

— Дроў няма,— сказаў пячнік Аркадзь Пісаронак.— Сцены сырыя. Хутка гніць пачнуць.

— Глянь,— павярнуўся да яго Бацюта,— вакол нас — лес. Народны лес. А ў лесе — дровы. Я і сам яшчэ добра не ведаю, як мы гаспадарыць будзем. Можа да дзяржавы гэты маёнтак адыдзе. А можа стане ўласнасцю арцелі або кааператыву. Галоўнае, што ён ужо не графскі, а народны. У самы бліжэйшы час, як толькі стане на ногі павятовая Савецкая ўлада, мы, я ўпэўнены, надумаемся, як тут

трэба гаспадарку весці. Жыццё нас навучыць. А зараз, хлопцы, зойдзем у які-небудзь пакой. Паталкаваць трэба.

У гаворку ўмяшаўся конюх Галагут. Ён пашкроб няголеную худую шчаку рукою, узняў на Бацюту стомленыя, выцвілыя вочы.

— Вот ты тут — як бы начальнік. Гаворыш, камандуеш. А я тут служу конюхам. Быў у графа, а цяпер, вядома, не супраць быць і пры Саветах конюхам. Бо яшчэ дзед мой Анціп дужа коней шанаваў. Конь — ён, можа, разумнейшы за якога чалавека. У мяне тут на стайні жарэбчык Рафаіл быў. Рафаілам яго граф назваў. Дык гэты Рафаіл...

— Карацей гавары,— перабіў яго раптам Мішка Сырамалот.— Чаго, як баба каля печы, круцішся ўзад-уперад?

Галагут спакойна паглядзеў на Мішку, зноў пашкроб шчаку:

— Не хочаш пра Рафаіла, не трэба.

І павярнуўся да Бацюты:

— Дык вось што я хачу табе сказаць. Конюхам я і пры Саветах жадаю быць, бо люблю коней, і дзяцей у мяне шасцёра. Я буду рабіць. А хто ж грошы мне плаціць будзе?

Ён строга пазіраў на Бацюту, нібы чакаў, што той зараз палезе ў кішэню, дастане адтуль грошы і аддасць яму. Ніхто яму не адказаў, і таму Галагут зноў спытаўся:

— Хто гаспадаром будзе? Раней граф быў і ён плаціў. А цяпер хто будзе плаціць? Зноў жа трэба, каб нейкі чалавек быў.

— Дзяржава будзе плаціць,— трохі няўпэўнена сказаў Бацюта.

— Эге-ге, мілок мой. Дзяржава вялікая. Дзяржава — мільён люду. Што ж, усе яны прыйдуць грошы мне плаціць? Бачу, ты і сам яшчэ не ведаеш.

— Чаго прычапіўся да чалавека? — ускіпеў Мішка Сырамалот.— Грошы табе, грошы... А пры камуніі, можа, бясплатна працаваць будуць і бясплатна карміць.

— Ты пра заўтра гаворыш,— спахмурнеў Галагут,— а мае дзеці сёння есці хочуць, плачуць.

Ён павярнуўся і пайшоў па двары, падмінаючы шорсткі снег чорнымі буркамі. Бацюта глядзеў яму ўслед, грыз жоўты вус.

У будынак павёў усіх Аркадзь Пісаронак. Як пячнік, ведаў ён тут цяплейшыя мясціны, бо амаль усе вокны былі выбіты, дзверы пазрываны з петляў, і вецер удзень і ўночы лётаў па пустых пакоях.

— У мяне там печачка ёсць,— хваліўся Пісаронак,— з бляхі сам яе зрабіў. І дровы сухія ёсць.

Падняліся на другі паверх, пайшлі па калідоры. Сцены былі скляваны кулямі. Падлога ў некаторых месцах пакарабацілася, устала дыбарам. Нясмачна, прэсна пахла застаялым дымам і старой тынкоўкай.

Пісаронак завярнуў на драўляную лесвіцу з паламанымі парэнчамі. Зайшлі яшчэ ў адзін, бакавы, калідорчык.

— Тут,— сказаў Пісаронак і палез у кішэнь па клю-

чы. Але раптам твар ягоны здзіўлена выцягнуўся. Ён таропка схаваў назад ключ, бо дзверы ў пакой былі адчынены.

— Сам жа замыкаў,— павярнуўся да рэўкомаўцаў збянтэжаны пячнік.

— Значыць, дрэнна замыкаў,— рашуча піхнуў рукою дзверы Мішка Сырамалот.

Увайшлі ў пакой і на падлозе, на кучы бярозавых дроў, убачылі незнаёмага чалавека, які ці быў мёртвы, ці моцна спаў. Ён ляжаў, скруціўшыся абаранкам, наставіўшы каўнер паліто, падклаўшы пад галаву шапку.

— Эй ты,— нагнуўся, патармасіў яго за плячо Пісаронак.— А ну ўставай! Станцыя Беразайка!

Магутны храп пачуўся ў адказ. Незнаёмец, разамлелы паблізу цёплай печкі, толькі цмокнуў губамі і ямчэй уладкаваў галаву на сукаватай бярозавай плашцы.

— Давай я яго разбуджу.

Мішка Сырамалот прысеў, заклаў у рот чатыры пальцы і прарэзліва, залівіста свіснуў над самым вухам у незнаёмца. Той узвіўся, як апечаны. Сядзеў на падлозе, лыпаў мутнымі, шалёнымі ад перапуду вачамі. На шчацэ ад сукаватай плашкі выціснуўся доўгі чырвоны пісяг.

— Ён, здаецца, п'яны,— зірнуў на незнаёмца, а потым пачаў аглядаць свой пакойчык — ці не прапала што? — Пісаронак.

— Хто такі? — строга спытаўся Бацюта.

Незнаёмец падняўся на ногі, стаяў, злёгку пахістваючыся. Ад яго патыхала цяжкім самагонным перагарам. Твар быў бледны, змарнелы.

— Пэўна, адзін са стражнікаў, што стаялі тут,— здагадаўся Пісаронак.— Яны разбегліся, а гэты не паспеў, напіўся.

Незнаёмец згодна кіўнуў галавой, хрыпла сказаў:

— Яны пайшлі за Шмарлоўскім. А я не захацеў ісці. Я схаваўся, бо не хачу ні з кім ваяваць.

— Хто такі? — зноў спытаўся Бацюта.

— Васіль Русецкі. Мінскі мешчанін. А зараз — ніхто. А вы хто такія?

— Бач ты — ён яшчэ нас дапытвае,— Мішка Сырамалот грозна глянуў на Русецкага.— Сам, нябось, немчуры верна служыў.

— Трэба яго ў флігель адвесці, а там і разабрацца, што ён за чалавек,— прапанаваў Павел Крыванос.

Усе згадзіліся. Пакуль Мішка адводзіў Русецкага ў флігель, прымасціўшыся, як хто змог, сядзелі ля печкі, грэліся.

Бацюта наставіў рукі над чырвонаю бляхай печкі. Лаўрэн Лапыцька неадрыўна глядзеў на яго, Бацюта адчуваў спіною гэты пагляд, і было яму не па сабе.

— Вось так,— сказаў Бацюта.— А калі так, дык слова я даю таварышу Лапыцьку.

Усе здзіўлена глянулі на Лаўрэна. Пра што ён скажа?

І чаму менавіта ён павінен гаварыць? Ды ці ўмее ён наогул гаварыць?

Лаўрэн злёгку пачырванеў, дастаў з-за пазухі свой мяшэчак, а з мяшэчка залаты гадзіннік. Рэўкомаўцы, акрамя Бацюты, аж раты разявілі. Ну й Лапыцька!

— Ахвярую, грамадзяне, вось гэты гадзіннік,— урачыста сказаў Лаўрэн.— Вось гэты самы брыгет. Наслухаліся мы з вамі сёння пра нашы бядоты, пра голад і холад, і я хачу, каб грошы, што можна будзе ўзяць за гэты гадзіннік, пайшлі на народныя патрэбы. Бацюта Андрэй,— ён глядзеў на Бацюту,— пра гэта ўжо ведае. І яшчэ я хачу сказаць, што раблю гэта ад чыстага сэрца, ад маёй удзячнасці, бо і мне рэўком памагаў.

— А не шкада, дзядзька? — спытаў Мішка Сырамалот. Ён узяў у рукі гадзіннік, круціў яго туды-сюды, прыкладваў да вуха, вадзіў пазногцем вялікага пальца па накрыўцы і па шкле.

— Не слухай... Ён не ходзіць,— сказаў Лаўрэн.— І ніколі не хадзіў... Я яго ў падпеччы хаваў. У пяску... Не шкада мне яго, Міша. Навошта ён мне? Ніколі золата ў мяне не было і не трэба. Хай для ўсёй грамады будзе.

— Ну, не ведаў, што ты там яго хаваеш,— засмяяўся Мішка.— Спёр бы!

Але ўсе астатнія былі на дзіва сур'ёзныя. Павел Крыванос, а затым Пятрок Заяц і Яўхім Сцепанюга таксама доўга разглядвалі гадзіннік, прыцмоквалі языкамі. Бацюта падышоў да Лаўрэна, моцна паціснуў яму руку.

— Бярэм, таварыш Лапыцька, твой пралетарска-бядняцкі дарунак. Дзякуй табе. На першым часе, пакуль акрыяем, будзе чым народу плаціць за работу. Але рэўком дасць табе распіску...

Лаўрэн замахаў рукамі.

— Што ты гаворыш, Андрэй? Навошта мне тая твая распіска?

— Так паложана,— падтрымаў Бацюту Сцепанюга.

— А ну вас, хлопцы,— не здаваўся Лаўрэн.

Бацюта азірнуўся па баках, падышоў да сцяны, садраў з яе шматок шпалераў. Потым дастаў з кішэні хімічны аловак, памачыў яго аб язык, пачаў пісаць:

«Мы, Чмялёўскі савецкі рэўком, узялі ў селяніна-пралетара Лапыцькі Лаўрэна Сцяпанавіча залаты гадзіннік фірмы «Брэгет». Кошт гэтага гадзінніка пакуль невядомы. Але ўсе тыя грошы, якія будзе ён каштаваць, мы абавязуемся вярнуць селяніну-пралетару Лапыцьку Лаўрэну Сцяпанавічу пасля першага савецкага ўраджаю, гэта значыць у жніўні тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года. У чым і распісваемся.

Бацюта Андрэй Арыстафанаў.
Сцепанюга Яўхім Андрэеў.
Заяц Пётр Цімохаў.
Крыванос Павел Пракопаў.
Сырамалот Міхал Дзянісаў.

Напісана дзевятага снежня адна тысяча дзевяцьсот васемнаццатага года па новым стылі, які ўвёў таварыш Ульянаў-Ленін».

На двары сустрэлі яны Дзіну з малым на руках. Відаць, шукала іх.

— Чаго ты тут? — адразу падбег да жонкі Мішка.— Дзіця яшчэ не застудзіла? У хаце сядзець трэба, а не швэндацца па холадзе.

Але Дзіна ўсміхнулася:

— Па табе мы дужа засумавалі, Міша.

Сырамалот ад радасці аж язык прыкусіў. Узяў малога на рукі, спытаўся лагодным голасам:

— І Андрэйка па мне сумуе?

— І ён,— адказала Дзіна.— Не думай, што малеча. Скажу «тата» — адразу вочкамі пачынае вадзіць і смяяцца.

Рушылі назад у Чмялі. Настрой ва ўсіх быў прыўзняты, крочылася спорна.

Ехалі казакі
Са службы дадому,—

заспяваў раптам Мішка тонкім пранізлівым голасам і напачатку нават сам пабаяўся сваёй смеласці.

Падманілі Галю,
Павезлі з сабою,—

нястройна, але гучна падхапілі ўсе. Дзіна здзіўлена паглядзела на мужчын.

Едзьма, Галя, з намі,
З намі, казакамі.
Лепей табе будзе,
Як у роднай мамы.

Песня ляцела ў лясныя нетры, будзіла звонкую цішыню. Яшчэ дзяды іхніх дзядоў гэтую песню спявалі. Былі ў ёй воля і пакута, туга аб незваротна страчаным шчасці, было ў ёй нешта такое, што толькі аднойчы ў жыцці можа прысніцца ў залатым юначым сне, каб потым назаўсёды знікнуць, стаць вячэрняй расой, шолахам лісця, мігценнем далёкай зоркі.

Бацюта нёс малога, Мішка ішоў са сцягам, Дзіна глядзела на іх, глядзела на Крываноса, Зайца, Сцепанюгу, Лапыцьку, і такімі роднымі здаваліся яны ёй, такімі прыгожымі. І не ведала яна, што вунь за той павароткай, за старым спарахнелым карчом, што нагадвае раззлаванага мядзведзя, чакае іх і песню бяда, вялікая страшная бяда.

— Рукі ўгору! — прагучала раптам, як стрэл, як удар грому. Чалавек дзесяць верхавых гарцавала па лясной дарозе, і ўсе яны цэліліся ў рэўкомаўцаў са стрэльбаў і рэвальвераў. Храплі коні, звінела жалеза, чуліся смех і салёны мат.

— А ну вышэй! — на рыжым жарабку ўрэзаўся ў невялічкі гурт рэўкомаўцаў дзябёлы чарнавусы коннік і стрэліў з рэвальвера ўверх.

Заплакаў Дзінін сынок.

— Вазьмі дзіця, Дзіна,— сказаў Бацюта і аддаў ёй хлопчыка.

Твар у Бацюты быў бледны, насуплены.

Дзіна, адчуваючы, як млеюць рукі і ногі, узяла сына, прыгарнула да сябе. Ён аж заходзіўся ад плачу.

— Сынок... Сынок! — шаптала яму Дзіна і ціхенька гушкала і цалавала цёплы чырвоненькі лобік і ўвесь час не адрывала вачэй ад узброеных коннікаў, што, як здані, выраслі на лясной дарозе. Паміж іх пазнала яна Шмарлоўскага, бацьку і сына Гаранкоў, запольцаўскага мельніка Аўдзея Кардымона і — яна аж задыхнулася, аж ледзь не выпусціла з рук сына — Антона. Ён сядзеў на кані, і ў ягонай руцэ таксама быў рэвальвер.

— Спяваеце? — засмяяўся Шмарлоўскі і яшчэ раз стрэліў.— Весела вам? Думалі, што мы так і пойдзем, пабяжым за немцамі... Што ўсё будзе ваша...

Яго твар пабурэў, перасмыкнуўся ад гневу, ноздры затрапяталі, вочы заблішчалі.

— Гэта наша зямля! — закрычаў ён і шырока махнуў вакол сябе рэвальверам, нібы страшнае кола акрэсліў.— Наша! Не аддадзім яе! А вы... Вы болей не будзеце спяваць. На калені! — Ён ліхаманкава, нервова прыкусіў губу, зноў стрэліў.— На калені!

— Мішка, дай мне сцяг,— сказаў Бацюта.

З журбою і адчаем глядзелі на яго Мішкавы вочы.

Бацюта моцна абшчапіў рукамі цёплае шурпатае дрэўка, набраў у грудзі паболей паветра, адчуў, як пад нагою хруснула, мякка ўціснулася ў снег яловая шышка, і выйшаў наперад.

# XVI

Трымаючыся за шчаку, плёўся Антон ад свірна. Яшчэ гула ў скронях кроў, тахкала сэрца, балелі рукі, але ўжо холад, няўмольны холад, замарожваў душу. Бойка з бацькам была той апошняй рысай, пераступіўшы якую адразу змяніўся ён сам. Назад, ва ўчарашняе жыццё, шляхоў не было. Але куды ісці? Што рабіць?

— Радзімовіч! — паклікалі яго.

Ён узняў галаву, убачыў непадалёку Шмарлоўскага, таго самага Шмарлоўскага, што, страціўшы прытомнасць, ляжаў нядаўна каля ягоных ног.

Шмарлоўскі сядзеў на рыжым жарабку, яшчэ аднаго каня, засядланага і зацуглянага, трымаў на повадзе. Правае калена ў Шмарлоўскага было абкручана прасцінай.

— Бачыў, як хавалі доктара? — спытаўся Шмарлоўскі, пад'ехаўшы бліжэй.

— Не. А хіба пахавалі ўжо?

— Закапалі,— цяжка махнуў рукою Шмарлоўскі.— Завалілі мёрзлай глінаю — не ўстане.

Ён гаварыў жорсткія, балючыя словы і глядзеў у вочы Антону. Глядзеў смела, як бы з выклікам.

— Ведаеш, хто яго забіў? — спытаўся Шмарлоўскі і спыніўся на кані ўпрытык з Антонам.

— Не ведаю.

— Бацюта. Лясны бальшавік. Так сам доктар перад смерцю сказаў.

— Каму сказаў? — схапіўся Антон рукою за халоднае слізкае стрэмя.

— Пракаповічу. А вунь і ён едзе.

Прымчаўся Пракаповіч на цёмным ад поту кані. Ззаду да сядла былі прыкручаны нейкія клункі.

— Хто забіў доктара? — спытаўся ў яго Шмарлоўскі.

— Бацюта,— не міргнуўшы вокам, адказаў Пракаповіч.— Ён гэтаму Бацюту лякарства не даў і ў лес не хацеў ісці.

Антон стаяў, сціскаў рукою слізкае стрэмя. Шмарлоўскі з Пракаповічам глядзелі на яго.

— І цябе заб'юць,— сказаў Шмарлоўскі.— Прыйдуць і заб'юць. Бальшавікі не любяць тых, хто не так, як яны, думае. Ты ж малады хлопец. Усё жыццё наперадзе. Хочаш жыць і вольным казаком быць? Тады сядай вось на гэтага каня і паедзем адсюль. Паедзем, пакуль не позна.

— Дык, значыць, сам Лутошкін так перад смерцю сказаў? — глянуў Антон на Пракаповіча.

— Так, як я з табой гавару, так і мне сказаў,— не адвёў вачэй убок Пракаповіч.

Антон узяў з рукі ў Шмарлоўскага повад, ускочыў у сядло, і яны паехалі. Дужа рэдка даводзілася раней Антону ездзіць у сядле, але ён не звяртаў на гэта ніякай увагі — ведаў, што праз дзень-другі прызвычаіцца. Галоўнае — адчуваць ход каня, зліваццa з ім сваім целам.

Калі выехалі з Чмялёў і праязджалі каля могілак, Антон сказаў Шмарлоўскаму:

— Пачакайце тут. Я на доктараву магілу гляну.

Пракаповіч незадаволена хмыкнуў, але Шмарлоўскі згадзіўся.

З таго часу, як пахавалі дзеда Ігната і як адзначалі па ім сарачыны, не быў Антон на чмялёўскіх могілках. Ён заўсёды баяўся нябожчыкаў. Але доктара Антон не баяўся.

Вось і свежы грудок жаўтапёсу. Снег з магілы акуратна змецены — відаць, Агапка прыходзіла. Высокі сасновы крыж, у рудых падцёках смалы, у зіхценні срэбных сняжынак, вартуе цішыню.

«Ці ведаеш ты, Ляксеевіч, што я прыйшоў да цябе? — думаў Антон.— Ці бачыш? Усё б аддаў, каб цябе з сырой зямлі вызваліць. Прабач, што не магу».

Слёзы нясцерпна падступілі да вачэй, але неймаверным намаганнем волі ён патушыў іх, сказаў у думках: «Бывай, Ляксеевіч». І пайшоў да тых, што чакалі яго на дарозе.

Яны называлі сябе паўстанцамі. Іхняя група злучылася з атрадам бацькі Сляпіцы. Бацькам Сляпіцам быў важны белатвары, чарнавусы чалавек, які да рэвалюцыі слу-

жыў стрэлачнікам на чыгунцы. Ён уласнаручна расстрэльваў захопленых у палон чырвонаармейцаў і камбедчыкаў. Кожную ахвяру запісваў у спецыяльную кніжачку, якую насіў у мяшэчку разам з бутэлечкай атруты.

У невялікай лясной вёсачцы спыніліся на начлег. Пракаповіч разам з чалавекам з атрада Сляпіцы, высачэзным белавалосым хлопцам па прозвішчу Бажок, вынюхаў, што не ўсе жыхары падаліся ў лес, што некаторыя, асабліва старыя, нямоглыя, рашылі перачакаць бяду дома. У адну з такіх хат і накіраваліся Пракаповіч з Бажком.

Пракаповіч грозна пастукаў, счакаў трохі і пачаў бухаць у дзверы прыкладам і нагою. Адчыніла спалоханая сівенькая бабуля. Ад перапуду ў яе адняло мову, яна ўсё хацела нешта сказаць, але толькі бязгучна варушыла сухімі белымі губамі.

— Гаварыць да ста гадоў не навучылася,— весела сказаў ёй Пракаповіч і рашуча ўвайшоў у хату. Хата была маленькая, дужа бедная, але чыста прыбраная. Насупраць нізка пасаджанага сляпога акна былі наведзены кросны, але, відаць па ўсім, за іх ніхто ўжо даўно не садзіўся. У куце, пад абразамі, квола гарэла маленькая жоўтая свечачка. Відаць, старая толькі што малілася.

Пракаповіч шумна сеў на акуратна засланы ложак, падаткнуў сабе пад бок падушку. Абвёў учэпістым позіркам хату, заўважыў, што на печы нехта ляжыць — тырчаць худыя ногі, абутыя ў стаптаныя лапці.

— Хто там у цябе? — грозна спытаў старую Пракаповіч.

Яна ўжо трошкі ачомалася. Адказала, стоячы перад Пракаповічам:

— Там стары мой ляжыць. Занядужаў... Кашляе...

— Кашляе,— крыва ўсміхнуўся Пракаповіч,— ляжыць на чарэні і кашляе. А тут у снезе, у холадзе бадзяешся, кроў сваю маладую праліваеш. А стары пень ляжыць сабе на печы і кашляе.— Вось што,— глянуў ён на старую,— мы з таварышам хочам есці. Хутчэй нясі хлеб, сала, яйкі. Усё, што ёсць. І каб гарэлка была. Чуеш?

У старой пачаў калаціць маршчыністую шчаку нервовы цік. Яна падперла шчаку рукою, разгублена і ціха сказала Пракаповічу:

— Дык нічога ж у нас няма... Ні крошачкі...

— А мне якая справа? — рэзка ўзняўся з ложка Пракаповіч і, як гара, устаў над старою.— Мы хочам есці. Прагаладаліся. Зразумела? Ведаю: схавала недзе яду, а мне вочы заліваеш. А ну — жыва! І каб гарэлка была! А то толькі пер'е з цябе паляціць.

Старая, уздрыгваючы худымі вузкімі плячамі, выйшла з хаты. Пракаповіч падміргнуў Бажку і пацягнуў старога за нагу:

— А ну злазь!

Дзядок як не кубарам зваліўся з печы. Быў ён невялічкі, шчуплы, на галаве серабрыўся рэдзенькі сівы пушок.

Ён, відаць, не спаў, чуў усю размову, якая перад гэтым адбывалася ў хаце, і таму вочы былі насцярожаныя і журботныя. Порткі ў яго былі падпяразаны тоўстай вяроўчынай і ледзьве трымаліся.

— Спіш? — пагардліва-іранічна павёў брывом Пракаповіч.— А хто дарагіх гасцей сустракаць будзе?

Дзядок стаяў, маўчаў.

— Сыны ж у цябе ёсць, напэўна? — насядаў Пракаповіч.— Пахаваліся дзе-небудзь, а можа з камісарамі знюхаліся?

— Чатыры ў мяне сыны,— раптам ціха сказаў дзядок, і вочы заблішчалі.— Каб яны былі тут сёння, ты б са мной так не размаўляў, сабака.

— Ого! — здзівіўся Пракаповіч і аж на крок адступіў ад старога.— Ого, як ты заспяваў, стары бязмен. Ты мяне яшчэ сабакам абзываць будзеш?

Ён лёгка вялікім сваім кулаком стукнуў старога ў грудзі, і той адляцеў, як пушынка, спіною паваліўся на кросны.

— Там і сядзі,— паківаў, як маламу, пальцам Пракаповіч, а сам падышоў да куфра, што стаяў у запечку, з трэскам адчыніў яго.

— Ідзі, праверым іхнія транты,— паклікаў ён Бажка.

Удвух яны пачалі капацца ў адзежы, выкідваць усё непатрэбнае на падлогу.

— Боты,— запусціў руку глыбей Пракаповіч. Дастаў пару звязаных лыкам за вушкі новых ялавых ботаў, сеў на ложак, скінуў з ног свае, пачаў абувацца. Але боты не лезлі, былі малыя. Пракаповіч раздражнёна плюнуў, аддаў боты Бажку.

— Ты бяры. У цябе нага меншая.

Увайшла ў хату старая, убачыла мужа, што, раскінуўшы рукі, напаўсядзеў-напаўляжаў каля кроснаў, убачыла раскіданае па хаце адзенне, загаласіла.

— Ціха! — закрычаў Пракаповіч і падбег да яе.— Стаў на стол, што прынесла. Што тут? Хлеб, сала, цыбуля, мёд... А гарэлка? Дзе гарэлка? Што я табе сказаў, старая курыца? Калі не знойдзеш гарэлкі, то твайго каханага,— ён кіўнуў галавой на дзядка,— сёння ж адправім у рай.

Старая з плачам выйшла з хаты, а дзядок, памкнуўшыся ўстаць, так і застаўся ў ранейшым становішчы, ціха сказаў:

— Каб мае сыны былі дома, яны б табе галаву растаўклі, гадзюка.

— Яшчэ пагаворым пра тваіх сыноў. Вось толькі перакусім з дарогі,— сеўшы за стол, сказаў Пракаповіч.

**Марознай ноччу Антон Радзімовіч у халодным здранцвенні сядзеў у вялізным гумне, прыхінуўшыся да сцяны, абгробшыся з усіх бакоў саломаю. Яна была шорсткая, калючая, у цемры ён часам натыкаўся шчакою на вострыя саломінкі.**

Некалькі людзей бацькі Сляпіцы начавалі разам з ім. Хацелі былі раскласці ў гумне вогнішча, але пабаяліся, што гумно можа загарэцца, і тады не будзе дзе прыхіліць ноччу галаву. Ніхто не гаварыў ні слова. Страшэнная змора цяжкім каменем навалілася на ўсіх. Ды не толькі змора — ведаў Антон — гняла невясёлых скалелых ваякаў. Страшней былі няўпэўненасць, адчай, трывога за свой заўтрашні дзень.

Каня Антонавага перад гэтым прыстрэлілі, бо зламаў у балоце нагу. Невялічкай іскрынкай радасці было тое, што перад гэтым на фурманцы, якая ляжала перакуленая ля дарогі, знайшоў Антон цёплыя аўчынныя рукавіцы. Пэўна, забіла возчыка, труп забрала пахавальная каманда, а рукавіцы засталіся ляжаць, не заўважаныя нікім. Антон узяў іх, сунуў у мяккую цёплую аўчыну скалелыя рукі.

Сярод ночы, калі ўсіх змарыў трывожны сон, разарвала густую халодную цішыню бязладная страляніна, рэзка выбухнулі ручныя бомбы, засакатаў кулямёт.

— Бальшавікі ў вёсцы! — спуджана закрычалі наўкола. Начная вёска адразу ж ператварылася ў мурашнік, у які раптоўна ўсунулі гарачую галавешку. Усе ўцякалі хто куды, кожны ратаваўся як мог.

Антон выскачыў з гумна, пабег па хрусткім снезе. Снег за ноч пакрыўся тонкай скарынкай лёду, і пры кожным кроку лёд гэты гучна лопаўся, трашчаў. Здавалася, беглі ўсе па бітым шкле.

Антон ледзь не наступіў на забітага бацьку Сляпіцу. Той ляжаў, уткнуўшыся тварам у снег. Куля прастрэліла яму галаву. Адно вока ў Сляпіцы было расплюшчана — здавалася, ён па-змоўніцку, хітра і насмешліва, падміргвае ўсім. Ноч ад зыркага снегу, ад пажараў, што ўспыхнулі ў вёсцы, была светлая-светлая. Далёка было відна наўкол.

Антон бачыў, як гародамі бягуць людзі бацькі Сляпіцы на поплаў, некаторыя падаюць — хто сутаргава курчыцца, а большасць пластом застаецца ляжаць на снезе.

Ён таксама бег на поплаў, туды, дзе блішчала закутая лёдам рэчачка, дзе сінеўся невысокі алешнік. Ногі грузлі ў шорсткім снезе, і раптам падумалася, што гэта родная зямля хапае яго, свайго неразумнага сына, за ногі, хоча спыніць, хоча, каб расплаціўся ён за ўсе свае грахі перад ёю.

Антон ужо не бег — сіл не было,— а цяжка ішоў, хапаючы ротам пякучае марознае паветра. Ён ужо амаль не баяўся смерці, ён глядзеў наўкола: на залітую прывідным белым святлом снежную раўніну, на бязмежнае халоднае неба, на якім трымцелі-пераліваліся залатыя пылінкі зорак, на чорны алешнік, на стагі, што стаялі, засыпаныя сіняватым снегам. І ён думаў...

Ён думаў: «Тут дадзена жыць. Тут. Вось на гэтай зямлі. Магчыма, ёсць лепшыя землі. Няхай... Я радзіўся, і я памру толькі на гэтай зямлі... На сваёй зямлі...» Нікчэм-

насць сваіх пакут, дробязнасць сваіх парыванняў адчуў ён, глянуўшы ў твар гэтай снежнай ночы, гэтай магічнай белай сілы, перад якой схілялі ў маўчанні галовы яшчэ ягоныя прадзеды.

Антон выйшаў на палянку, што была між алешніку, і адразу ўбачыў стажок. І яшчэ ён убачыў Пракаповіча, які бег, куляючыся, да гэтага стажка, без шапкі, без вінтоўкі, адзінокі і злы. Ён бачыў, як зашываецца ў сена Пракаповіч, як скубе яго рукамі, як галавою ўсвідроўваецца ў стажок. А ўжо ззаду, злева і справа, з усіх бакоў, няўмольна насоўвалася сцяна рашучых крокаў і ўзбуджаных галасоў, сцяна нянавісці і адплаты.

Мужыкі з вінтоўкамі і сякерамі, з косамі і віламі, некаторыя конныя, абкружылі Антона, выцягнулі са стажка Пракаповіча.

— Ён,— паказаў на Пракаповіча цяжкой чорнай рукою высокі светлабароды мужчына.— Ён Тодараву Кацярыну забіў, ён рабаваў, з людзей здзекаваўся.

Ужо моўчкі перакінулі сырамятныя конскія лейцы цераз ніжні сук тоўстай высачэзнай алешыны, ужо цягнулі да алешыны Пракаповіча, які брыкаўся, адбіваўся кулакамі, кусаўся. Пракаповіча падвалаклі да алешыны, накінулі на шыю пятлю.

— Мужыкі, не трэба! Браточкі, не трэба! — закрычаў высокім пранізлівым голасам Пракаповіч.— Не трэба! Пашкадуйце! Жыць хачу!

— Ты сваё аджыў. Не паложана табе болей жыць,— сказаў светлабароды мужчына.

— Жыць! — крычаў і плакаў Пракаповіч.— Мужыкі, пашкадуйце!

Але няўмольныя вочы глядзелі на яго. У іх быў ягоны прысуд, канец ягонай надзеі і пакуты. Тады ён закрычаў, паказваючы на Антона:

— І гэтага вешайце са мною побач! На адзін сук! Чаму я паміраю, а ён павінен жыць? Чаму я паміраю?..

Пятля зашмаргнулася на шыі, жалезным холадам здавіла яе. Выкаціліся крывавыя вочы, пена забялелася на губах.

— Цягні і гэтага! — грозна крыкнулі з натоўпу.

Няўмольныя моцныя рукі схапілі Антона за плечы. Ён адчуў, як пахіснулася, паплыла з-пад ног зямля.

— Гэтага не трэба, хлопцы,— ўзняў угору руку светлабароды.— Гэты вялікай шкоды яшчэ не зрабіў. А мы з вамі, хлопцы, не каты, каб вешаць усіх. Адпусціце яго.

Антона выпусцілі з рук, адышліся ад яго на некалькі крокаў. Ён стаяў у самым цэнтры натоўпу і адчуваў, што вось-вось упадзе на снег.

— Не трэба яго вешаць, хлопцы,— падышоў да Антона светлабароды.— Давайце яго адпусцім, а на памяць мужыцкі падарунак дадзім.

Ён грозна глянуў на Антона, загадаў, паказаўшы рукою на снег:

— Бяры ў кішэню.

Антон часта і перарывіста дыхаў.

— Ну! — крыкнуў светлабароды.

Антон цяжка сагнуўся, узяў у кішэнь са снегу жменю конскіх каўцюхоў.

— Ідзі! — загадалі яму, і ён пайшоў ад гэтых людзей, з гэтай палянкі, не адчуваючы ні ног, ні рук, як мёртвы.

З паўгадзіны ішоў ён так па глыбокім снезе, па лесе і па балоце. Ён не ведаў, куды ідзе. Ішоў, і ўсё. Страшная крывавая ноч жыла ў памяці і — ён ведаў гэта — да скону будзе жыць у ёй.

— Стой! — пачулася за спіною.— Стой!

Антон азірнуўся. Некалькі верхавых даганялі яго. Коні іхнія не беглі, а цяжка ішлі па снежным цаліку, правальваючыся ледзь не па жывот. Верхавыя білі іх нагамі, бярозавымі дубцамі, ды ўсё дарэмна.

У пярэднім Антон пазнаў Шмарлоўскага. Твар спалоханы, ніжняя губа дробненька дрыжыць.

— Зварочвай на Чмялі. Здавацца паедзем,— паныла сказаў ён Антону.

Ягоныя спадарожнікі таксама былі невясёлыя. Гаранкі, бацька і сын, стараліся не глядзець на Антона.

— На чым жа я паеду? — спытаўся ў Шмарлоўскага Антон.

— Бяры Пракаповічавага каня. Сам Пракаповіч ужо на дрэве вісіць. Конь яму не спатрэбіцца.

Антон з цяжкасцю ўзабраўся на каня. Паехалі, стараючыся выбіцца на якую-небудзь дарогу. Але ўсюды — снег, змрок, холад.

— Доктара Пракаповіч забіў. Бутэлькай па галаве пляснуў,— як бы незнарок сказаў, пад'ехаўшы да Антона, Шмарлоўскі і адразу ж павярнуў каня ўбок.

Антон уздрыгнуў, ухапіўся рукою за густую конскую грыву. Вось яно што! Ах вы, бандыты, забойцы! Хіба можна было верыць вам хоць на макавае зярнятка? Сляпы ж ён быў дагэтуль. Сляпы і дурны.

І вось выехалі яны на чмялёўскую дарогу, і вось Шмарлоўскі, трасучы рэвальверам, крычыць:

— На калені!

Значыць, не здавацца ехаў. Хітраваў. Чакаў свайго часу. Убачыў бяззбройных людзей, і адразу прачнуўся ў ім крывавы звер.

А на дарозе, збіўшыся ў цесны гурт, стаяць Бацюта, Дзіна з дзіцем, Мішка Сырамалот. Іхнія вочы, здаецца, праколваюць Антонаву душу.

Антон выхапіў з кішэні рэвальвер, стрэліў у Шмарлоўскага, раз, другі, потым — у старэйшага Гаранка. Шмарлоўскі цяжка споўз пад ногі свайго каня. Антон жа памчаўся па лясной дарозе ў бок Чмялёў.

— Разбягайцеся, хлопцы! — крыкнуў Андрэй Бацюта. Ні ў кога, акрамя яго, не было зброі. Ён трымаў левай рукою сцяг, а з правай рукі страляў і страляў у ненавіс-

ныя жорсткія твары, у шэрыя мітуслівыя постаці, якія з усіх бакоў падступалі да яго. Ён быццам не чуў, як прашываюць яго бандыцкія кулі, як гарачая кроў залівае грудзі. Ён быццам не адчуваў болю, што нясцерпна празваў усё ягонае моцнае цела.

Антон дамчаўся ўжо амаль да ўскрайку лесу, як раптам конь ягоны цяжка рухнуў. Антон вылецеў з сядла, балюча стукнуўся правым плячом аб зямлю. На хвіліну, здаецца, страціў прытомнасць. Але адразу ж усхапіўся, глянуў на каня. Вялікая рваная дзірка была ў каня на шыі. Ручаём лілася на снег чорная густая кроў.

З вёскі ўжо спяшалася чалавек дваццаць узброеных людзей на чале з Першаковым.

— Там Бацюту забіваюць...— знясіленай рукою паказаў Антон у бок лесу, а сам сеў на снег, прысланіўшыся спіною да тоўстага шурпатага камля елкі. На нейкае імгненне як бы здранцвеў. Але неўзабаве падняўся, цяжка пайшоў ускраінай лесу.

Раптам нешта пругкае, шорсткае, імклівае ўдарыла яго ў спіну, учапілася ў каўнер ватоўкі. Ён упаў на выцягнутыя рукі, шчакой крануўся снегу, і яно ўпала разам з ім, па-кацінаму вуркочучы, раздзіраючы ватоўку, каб дабрацца да жывога цела.

«Рысь»,— здагадаўся Антон. Гэта і сапраўды была рысь — ваяўнічая лясная кошка, вагою пад два пуды, з густой палева-рыжай поўсцю, з дужымі тоўстымі лапамі, з вострымі натапыранымі вушамі, якія заканчваліся светлымі кутасікамі. Голад выгнаў яе з лясных нетраў, і, раззлаваная шматдзённым няўдалым паляваннем, звар'яцелая ад страляніны, што грукацела ў лесе, яна зрабіла тое, на што ніколі б не адважылася раней,— скокнула са сваёй засады, са старой змрочнай елкі на чалавека. Дужа знясіленым, аслабелым выглядаў чалавек.

Рысь хацела ўпіцца зубамі і кіпцюрамі ў кволую шыю, яна і скокнула з елкі з такім разлікам, але ў самы апошні момант ёй перашкодзіла, прытармазіла яе скачок доўгая пругкая яловая галіна. Галіна гэтая падкінула яе, нібы мячык, уверх. Чалавек на ляснай сцяжынцы паспеў зрабіць лішні крок наперад, і рысь прамахнулася — замест безабароннай чалавечай шыі ўсадзіла свае сталёвыя кіпцюры ў цвёрды, збялелы ад поту каўнер ватоўкі.

Чалавек упаў у снег, пачаў хаваць, утульваць галаву ў каўнер. Ягоная ватоўка так востра пахла дымам, жалезам, порахам. Гэтыя ненавісныя пагрозлівыя пахі нібы апяклі рысь. Яна з усёй сваёй дзікай сілаю ўпівалася, угрызалася ў ватоўку, а сама ўвесь час чакала — вось-вось паверне чалавек назад галаву, гляне, і тады яна ўдарам жалезнай лапы ў адно імгненне выдзера яму вочы, асляпіць. Так яна палявала на зайцоў, казуль, маладых ласёў.

Антон абліваўся гарачым потам. Заплюшчыўшы вочы, закрыўшы твар рукамі, ён цяжка ўзняўся з зямлі, стаяў, прыгнуўшыся, і не ведаў, што рабіць. Адна думка, што

яго будзе жэрці гэтая агідзіна, ірваць на кавалкі цела, пераварочвала ўсё нутро. У кішэні быў рэвальвер, але як дастаць яго, як стрэліць, не бачачы, куды страляеш?

Ён, хістаючыся, падышоў з рыссю на плячах да елкі і ўсім цяжарам свайго цела наваліўся, упаў на ствол спіною. Рысіныя лапы аслабелі, абвялі. Тады ён, намацаўшы дулам рэвальвера драпежніка, стрэліў. Расшчапіліся рысіныя зубы, і ўся яна, такая моцная, пругкая, зрабілася — як мяшок травы. Ён з агідаю, з дрыжыкамі ў кожным мускуле скінуў ношу з плячэй. Рысь хакала, вілася на снезе каля ягоных ног. Ён стрэліў у разяўленую пашчу. Потым крутануў барабан рэвальвера. Там заставаўся адзін патрон. Заплюшчыўшы вочы, Антон расшпіліў на грудзях ватоўку, расшпіліў спатнелую кашулю і, нібы ўдарам кулака свечку патушыў, стрэліў сабе ў сэрца.

А ў вёску, правальваючыся па калена ў шорсткім снезе, неслі на насілках, сплеценых з яловага лапніку, цяжкапараненага Бацюту. Плакаў Мішка Сырамалот і ўсё не мог, як ні стараўся, выняць з рукі ў Бацюты рэвальвер. Бацютавы пальцы нібы прыраслі да зброі. Пачаў кружыцца, падаць з шэрага неба снег, і тады Дзіна прыкрыла Бацюту прастрэленым бандыцкаю куляю сцягам.

Снег мацнеў, гусцеў. Купка людзей у полі як бы растварылася ў каламутным снежным акіяне.

І за сотні вёрст адсюль на ўсход, недзе каля Смаленска, снег біўся ў вокны вагона, у якім ехаў Кузьма Радзімовіч. Прадстаўнікі Белнацкома ехалі ў Смаленск, каб разам з усім працоўным народам абвяшчаць Беларускую Савецкую Рэспубліку. Кузьма бачыў, як стаіць каля акна, углядаючыся ў снежную завіруху, Зміцер Жылуновіч і нешта шэпча.

У вагон увайшоў вясёлы сінявокі салдат, сеў насупраць Кузьмы і з вялізнага трафейнага нямецкага ранца дастаў не хлеб, не кацялок, не якую-небудзь вайсковую амуніцыю, а цымбалы, жоўценькія, прыгожыя, з бліскучымі струнамі самагуды. У Кузьмы аж дух перахапіла.

Салдат лёгка ўдарыў палачкамі па струнах і зайграў «Крыжачок».

— Адкуль ты? — толькі і спытаўся ў яго Кузьма.

— З-пад Слуцка,— усміхнуўшыся, адказаў той, правёўшы рукою па русай чупрыне, пахваліўся: — З сабою іх усю вайну насіў. Я шмат што ўмею іграць.

І зайграў «Марсельезу».

Ляцеў насустрач цягніку калючы, пранізлівы снег, звонка ляскаталі колы, калаціўся, рыпеў стары драўляны вагон, па тварах людзей прабягалі то цені, то плямы святла, а вясёлы русавалосы салдат, прыкусіўшы губу, злёгку адкінуўшыся назад, прыжмурыўшы шчаслівыя вочы, іграў на цымбалах «Марсельезу».

